*Рыгор Барадулін*

# К С Т Ы

Выданне чацвёртае, дапоўненае

Мінск
Рымска-Каталіцкая парафія
святога Сымона і святой Алены
2013

УДК 821. 161. 3-1
ББК 84 (4Беи) -5
Б24

Укладальнікі:
*Ксёндз Уладыслаў Завальнюк* –
кандыдат гістарычных навук, магістр тэалогіі;
*Ала Сакалоўская* –
кандыдат філалагічных навук, дацэнт

Рэдактар *Ала Сакалоўская*

Навуковы кансультант ксёндз *Уладыслаў Завальнюк*

**Барадулін Рыгор**
Б24 **Ксты:** – Рыгор Барадулін. – 4-е дапоўн. выд. – Мн.: Рым.-Катал. парафія св. Сымона і св. Алены, 2013. – 528 с., [8] л. іл.

ISBN 978-985-6652-50-2.

Падзяка Усявышняму і Маме, спроба наблізіцца да сэнсу Вечнае Кнігі, жаданне пачуць душу людскую і сваю – у кнізе «Ксты».

**УДК 821. 161. 3-1**
**ББК 84 (4Беи) -5**

ISBN 978-985-6652-50-2

# *Ад укладальнікаў*

## «КАБ РУНЕЛА ДУША»

Кожны чалавек звяртаецца да Бога. Адзін у думках, другі словамі малітвы просіць здароўя для дзіцяці альбо па-свойму вядзе размову з Усявышнім. Вельмі вялікая колькасць людзей просіць ласкі Божай у цяжкія хвіліны жыццёвых выпрабаванняў – моляцца хто як умее. Зусім няверуючага чалавека няма на ўсёй зямлі, а непрактыкуючых, апушчаных, загубленых духоўна – мноства.

Звяртаюцца людзі да Бога на роднай мове, бывае, на чужой. На чужой мове моляцца многія людзі ў Беларусі – так склалася, і людзі невінаватыя. Госпад разумее і чуе ўсіх, нават думкі.

«Ксты» – кніга вялікага беларускага паэта, народнага паэта РЫГОРА БАРАДУЛІНА. Гэта ўзор духоўнай паэзіі. Паэт імкнецца наблізіцца да Усявышняга, паразважаць над пытаннямі вечнага і зямнога. Кожны чалавек рана ці позна задумваецца над імі. Але адказу няма. Бо гэта Таямніца.

Кніга вучыць любіць бліжняга, спагадаць яму. «Каб на зямлі жыццю цяплей было» – не рабі другому зла, бо яно вернецца табе тым жа.

«Не пераплывеш нікога злосцю,
Перамога чыніцца мілосцю».

Рабі дабро – і Госпад за гэта аддзячыць табе.

«Хай жа зло цябе не пераможа,
Ты дабром яго перамажы».

У наш жорсткі час, калі людзі развучыліся любіць, шкадаваць, дараваць, спагадаць, быць міласэрнымі; калі пануе бездухоўнасць, уседазволенасць; калі пусцеюць храмы, а пасля і сэрцы чарсцвеюць; калі пакланяюцца не Усявышняму, а мамоне; калі забываюцца асноўныя хрысціянскія запаведзі,– кніга «Ксты» вельмі важная, патрэбная, каб задумацца, зазірнуць у душу. Кожны, хто яе прачытае, адродзіцца духам, бо яна – чыстая крыніца духоўнасці. Толькі дух, вера могуць узняць над прадоннем чалавека, нацыю.

«Беларусь адродзіцца вераю».

Напісаў «Ксты» вялікі майстра слова. Рыгор Барадулін – чарадзей мовы. Яго мова – гэта цэлы свет, новы, непаўторны, яшчэ неспазнаны. Добра ведаючы будову беларускага слова, ён ставарае свае, новыя словы, якія арганічна ўпісваюцца ў мову. І здаецца, што гэтае слова было, толькі ты яго не ведаў, бо чалавек жа не можа ведаць усе словы.

«Сонцакрылы жаўранак кахання»...

Сонцакрылы – якая прыгажосць! І чаму я не мог так сказаць, гэта ж так проста! Не мог, бо я – не паэт, і не бачу свет так, як паэт. Паэтам трэба нарадзіцца. На жаль, адыходзяць тыя майстры слова, якія мову беларускую вучылі не па падручніках, а беларуская літаратура для іх пачыналася з матчынай песні.

Якое дзіця зараз засынае пад беларускую калыханку?

Мова Рыгора Барадуліна можа быць узорам і для верніка, і для святара.

Святар прамаўляе да людзей, і яго мова павінна быць зразумелай, выразнай, прыгожай, яркай, поўнай жывой веры і любові да Бога і бліжняга. Толькі такія словы дойдуць да душы вернікаў.

Кнігу «Ксты» можна аднесці да духоўнай літаратуры. Паэт у сваіх вершах звяртаецца да Усявышняга і да кожнага чалавека. Ахрышчаны ў каталіцтва рымскага абраду, а потым

стаўшы каталікам усходняга абраду, Рыгор Барадулін у сваёй паэзіі па-над канфесіямі. Ён нясе людзям агульныя пастулаты Хрысціянства, якія і агульначалавечыя.

Духоўная літаратура бывае рознай: кананічныя тэксты, Святое Пісанне – Біблія, малітвы, літургічныя кнігі – гэта адно, другое – жыцці святых, апісанне абрадаў, святаў, традыцый, хрысціянская духоўная паэзія.

У першым выпадку тэксты зацвярджаюцца Ватыканам, Касцёлам, Царквой, іх мова павінна быць кананічнай. У другім – мова мусіць быць жывая, вобразная, яркая. Менавіта такая мова кнігі «Ксты».

Арыгінальная назва кнігі. Слова «КСТЫ» – шматзначнае. Гэта і хрост (хрышчэнне), і крыжы, і пальцы, якія складваюцца, каб пераксціцца (паражагнацца). Той жа корань у словах *ксціць, кшчоны, хрышчоны, ахрышчаны*. Гэтае слова паходзіць з усходнеславянскага ХРЕСТЪ, якое потым змянілася ў КРЕСТ

На Віцебшчыне, Вушаччыне кажуць не паражагнайся, а пераксціся, пераксціць. Гэта азначае паблаславіць у дарогу, у войска, паблаславіць маладажонаў, хворага, нябожчыка... Пад Полацкам ёсць вёска, якая называецца Ксты.

Ідэя кнігі – разуменне кожным чалавекам, што ён нясе свой крыж (крест), што ахрышчаны носіць на сабе знак прыналежнасці да Езуса Хрыста, да вялікай хрысціянскай сям'і і да вечнага неба – збаўлення. «Хто паверыць і пpыме хрост, той будзе збаўлены» *Мк. 16,16.* «У гэтым знаку пераможаш!» – аб'віўся Езус Хрыстус Канстанціну Вялікаму, паказваючы на знак Святога Крыжа.

«Як стаў помніць сябе, – расказвае паэт, – заўсёды ксціўся, паўтараў за мамай «Ойча наш».

У хаце на куце жыў Бог. Іконка была ахінута ручніком, умаяна летам жывымі кветкамі, зімой – папяровымі, а ў сэрцы папяровых былі з засушанага цьмяну (бессмяротніка).

З нічога мама прыдумляла нешта смачнейшае на святы. Усе святы шанаваліся, святкаваліся. У нядзелю нічога не рэзалася, не секлася, не прыбівалася, не габлявалася, не капалася, не шылася, не пралася.

У мяне быў свой інтарэс, каб не супалі праваслаўнае і каталіцкае Вялічка. Бо калі мяне трэба было хрысціць – ішла «культурная рэвалюцыя», святарам падпальвалі бароды, трактарамі сцягвалі крыжы з храмаў, разбіралі сцены святыняў і будавалі сабе дамы і хлявы, абразамі палілі печкі.

Асабліва перажывала бабуля Маланння, што ўнук расце нехрысцем. Праездам быў ксёндз. Вырашылі ахрысціць хоць у ксяндза. Маткай хроснай была Феліцыя Антонаўна Міклашэўская, хросным бацькам – Качан».

Потым, калі прыязджаў праваслаўны святар, бабуля хацела перахрысціць унука, але мама не згадзілася, і праваслаўны духоўнік сказаў, што хрост важны і ўдзяляецца толькі адзін раз у жыцці кожнага чалавека. Так і святкаваў Рыгор два Вялікадні.

«...Ты несла мяне да ксяндза,
Гнанага бязбожнай уладай.
Касцёлам трывожным было
Вушацкае наша неба.
... І пасланы лёсам святар
Святлом Святога Крыжа
Блаславіў мяне на дарогу ў Рым
Да трону Святога Пятра».

Вельмі хацелася б, каб наша сумесная праца па выданні кніг такога кшталту не спынялася з боку вельмі паважанага беларускага паэта, а працягвалася з усё большымі духоўнымі поспехамі. Ёсць задума, каб Рыгор Барадулін напісаў і выпусціў зборнік духоўных вершаў для дзяцей нашай Беларусі.

За гэта Госпад узнагародзіць моцным здароўем і сілай з вышыняў.

Добра было б, каб і іншыя пісьменнікі зрабілі выбарку сваіх вершаў і твораў на духоўную, рэлігійную і выхаваўча-культурную тэму як для дарослых, так і для дзяцей. Гэта дапаможа больш яскрава адкрыць і ўбачыць яшчэ адзін аспект велічы чалавечага духу і прыгажосць душы таго ці іншага паэта, веліч яго сэрца. Абудзіць надзею на лепшае заўтра, бо дух, як і паэзія, заўсёды малады і не ведае межаў.

Пра веліч і дыяпазон таленту Рыгора Барадуліна сведчыць і тое, што яго перакладаюць на розныя мовы свету.

Праз яго паэзію Беларусь адкрываецца іншым народам і дзяржавам і, у сваю чаргу, узбагачаецца культурнымі набыткамі свету.

Больш за 100 зборнікаў арыгінальнай паэзіі, перакладаў з іншых моваў і на іншыя мовы – такі творчы плён Рыгора Барадуліна. Таму можна сказаць, што ў яго асобе мы маем непаўторную з’яву як у беларускай, так і ў сусветнай культуры.

Вялікі дзякуй табе, дарагі браце Рыгор, за твае вершы. Хай ласка Божая сыдзе на цябе і адорыць здароўем, шчасцем, дасць моц і сілу на новыя творы. Яны вельмі патрэбныя ўсім нам, нашай Бацькаўшчыне і народам свету.

Кніга Рыгора Барадуліна «Ксты» ў 2006 годзе вылучана мною на Нобелеўскую прэмію.

*Ксёндз Уладыслаў Завальнюк*

# «ОДУМ ЦІХА ЎКЛЕНЧЫЦЬ ВЫШЫНІ Ў НЕАБВЕЧАРЭЛЫМ ПАРЫВАННІ...»

Сапраўдныя вершы пішуцца на нябёсах. Іх боскасць, веліч, узнёсласць нельга перадаць словамі. Іх можна адчуць толькі сэрцам. Таму выкажу тыя думкі, якія мне падказвае сэрца.

Як узнікла ідэя сабраць вершы ў адну кнігу? Гэта цяжка патлумачыць. Можа, і яе падказалі нябёсы? Калі сказала Рыгору пра сваю задуму, ён быў вельмі ўсцешаны, бо такая кніга была марай яго жыцця.

І пачалася праца, якую блаславіў вялебны ксёндз-пробашч Уладыслаў Завальнюк – вялікі руплівец не толькі на святарскай ніве, але і на ніве беларушчыны.

Працавалася і лёгка, і цяжка. Лёгка таму, што высокая паэзія дае чалавеку моц і сілу, – і ты жывеш у яе чароўным свеце. Цяжка, бо я павінна была выбіраць з цудоўнага лепшае.

З маладосці захапляюся вершамі Рыгора Барадуліна, з таго часу, як мой знакаміты сваяк Уладзімір Караткевіч пазнаёміў нас.

Я чакала кожны верш паэта, і кожны раз ён адкрываў для мяне новы свет. Я закахалася ў крывіцкія азёры і лясы, сонца і неба. Не праўда, што сонца і неба ўсюды аднолькавыя. Для кожнага чалавека сонца свеціць па-свойму. «У кожнай радзімы свой смак і прысмак». Рыгоравы неба і сонца бачылі і мае дзяды. Ужо потым, у пачатку XX стагоддзя, жыццёвыя пуцявіны прывялі іх у Менск.

Рыгор Барадулін – паэт унікальны, ён піша, як дыхае. Пра яго віртуознасць як майстра слова сказана шмат. У свядомасці некаторых ён таленавіты версіфікатар. І гэта праўда, але не ўся. Майстэрства слова ў яго спалучаецца з вялікай духоўнасцю, і духоўны пачатак пераважае.

На працягу жыцця шкала каштоўнасцяў паэта вагалася. Ён ніколі не быў іконай. Гэта жывы чалавек, які любіць, ненавідзіць, памыляецца, смяецца, плача.

Ён непарыўна звязаны з жыццём, з часам. Чытач знаходзіць у яго вершах свае думкі, свае мары, свае спадзяванні.

Яго паэзія – чараўніца. Чароўнасць яе ў тым, што яна закранае патаемныя струны душы кожнага чалавека, і не важна, любіць ён паэта ці ненавідзіць. У гэтым сіла сапраўднай паэзіі, бо яна – для ўсіх і заўсёды, яна не мае прошлага часу, яна – «на ўскрайку Вечнасці».

У кожнага свой Барадулін.

Мой Барадулін – талерантны і непрымірымы, мудры і наіўны, пяшчотны і жорсткі.

Мой Барадулін ніколі не здраджвае праўдзе, сумленню, людзям.

Жыццёвая мудрасць прыводзіць паэта да ідэяў, ідэалаў Хрысціянства.

Гэтая кніга этапная ў жыцці творцы. У ёй сабраныя вершы, напісаныя на мяжы XX–XXI стагоддзяў. З іх толькі чацвёртая частка была надрукаваная. Чацвёртае выданне зборніка дапоўнена новымі вершамі 2010–2013 гадоў.

Не ведаю, ці ёсць яшчэ ў нас такі паэт, які б так глыбока ўвабраў у сябе гэтыя ідэі і ідэалы і ўвасобіў іх у сваёй творчасці.

Кніга «Ксты» – гэта кніга-малітва, кніга-роздум, кніга-споведзь, кніга-пакаянне. Гэта гімн Богу і Маме.

«На гэтым свеце жыву
Віною перад Богам
І перад мамаю».

Для паэта Бог і Мама – непадзельныя. Непадзельныя мама і сам паэт.

«Мама! Я выйшаў з цябе, а пасля
Ты ўвайшла ў мяне, і жыцімеш,
Покуль носіць мяне зямля».

У паэце жыве «кожнае слова маміна». У кожным яго вершы – мама, ад якой ён пачуў родную мову, родныя песні; мама, якая «вачыма, святымі ад слёз, у Бога выпрасіла мой лёс»; мама, якая «боль на душу ўзяла, сподзеў тужэй у тугу спавіла, маркотай завесіла зыбку».

Любоў мамы Куліны падарыла Беларусі непаўторнага паэта.

«З мяне, як камяні з зямлі,
Вушацкія выходзяць словы».

Мне вельмі хацелася пабываць у родных мясцінах творцы. І маё жаданне споўнілася.

Сонечным сакавіцкім днём разам з пробашчам кс. Уладыславам мы паехалі на радзіму Рыгора – Вушачу, пра якую паэт пісаў:

«Мне адступаць няма куды –
За мной Вушача.
Яна за мной, яна ўва мне,
Я ў ёй – таксама».

Мы бачым старыя маміны дрэвы, ходзім па мамінай зямлі, над намі нябёсы, якія «думаюць аблокамі», сонца мамы Куліны. Мамінай хаты няма, шкада, але ёсць вершы «з застрэшша мамінае хаты».

Ксёндз-пробашч асвяціў дом, які пастаўлены на месцы старога, а ў вёсцы Бычкі – Сядзібу-музей Васіля Быкава. Наведалі вушацкія клады і пакланіліся Маме.

...У Беларусі, як і ўсюды і заўсёды, шлях паэта нялёгкі. Ён мусіць быць прарокам, несці людзям словы праўды і дабра, не спадзеючыся на іх ласку і ўдзячнасць.

«Сам жа мусіш свой несці крыж,
Узысці на сваю Галгофу».

І ён нясе свой крыж, ідзе, адзін, па крыжовай дарозе, наканавай яму лёсам.

Моцы і шчасця табе, дарагі мой дружа.

Я шчаслівая, што больш за сорак гадоў ты і твая паэзія ёсць у маім жыцці.

Я нізка схіляю галаву перад табою – Чалавекам, Грамадзянінам, сапраўды Народным Паэтам, – імя якога РЫГОР БАРАДУЛІН.

*Ала Сакалоўская*

## 28 ЧЭРВЕНЯ 2004 ГОДА

Гэта лёсам пасланая
Ласка Тварца,
За якую душа
Вечна кленчыць гатова.
Ў Вечным Горадзе
З вуснаў Святога Айца,
Як з нябёсаў,
Пачуць беларускае слова.

Шмат забудзецца,
Счэзне, зніцее, міне.
А да скону запомніцца
Абавязкова –
Папа Рымскі
Добраслаўляе мяне.
І ў Яго як свая
Беларуская мова.

*1 верасня 2006 г.*

# ТРЫПЦІХ ЧЫРВОНАГА КАСЦЁЛА

*Айцу Уладыславу Завальнюку*

## I

## ЧЫРВОНЫ КАСЦЁЛ

З Чырвоным касцёлам на «ты»
Вятры,
Што лятуць з Бэтлеему.
І рупіць прачыстаму небу
Дзяліць з ім святло мілаты.

Гасподзь яго верніцы ў сон
Паслаў,
Як абраз летуценны.
Імёны Сымона й Алены
Вяльмуе прарочысты кон.

Бажэе ў вяках небадол.
І душы жагнае трывога.
У цемначы тлуму людскога
Світае Чырвоны касцёл...

II

## НЕ ЗГІНАЮЧЫСЯ...

Нарог нашай памяці
Мусіць араць
Аблогу зніклівасці
Ў высілках лютых.
Каб прывіднай радасці
Ўслед пазіраць,
Прыходзім у стомлены свет
У пакутах.

Ля зорак спагадлівых
Грэецца лёс,
Для душ нашых звіць
Намагаецца путы.
Крыжовы шлях,
Што пракладваў Хрыстос,
Нанова для кожнага
Значаць пакуты.

І кожны зможа
Сябе знайсці,
Мець сподзеў,
Што Госпадам будзе пачуты,
Калі ён здолее
Ў гэтым жыцці
Прайсці, не згінаючыся,
Праз пакуты...

III

## НЯБЁСЫ ВЕРЫ

Нябёсы веры
Трымаюць свет.
Знявер'е горбіцца валунамі.
Зямныя дні,
Як вясновы цвет,
Спадаюць,
Каб паўтарыцца снамі.

Нябёсы веры
У вышыню
Кіруюць годна
Думкі й пагляды.
І зорным зернем
Поўніць сяўню
Світанню руплівому рады.

Вачэе мудрасць.
І слепне зло.
У хаце споведнай –
Насцеж дзверы.
І апранаюць душу ў святло –
Каб не азябла –
Нябёсы веры...

У бажбе,
У шчырай мальбе
Да Цябе
Косці зводзяцца самі.
У неба грукаюся
Не кастамі —
словамі ціхай малітвы.
Пачуй мяне,
Божа Вялікі...

Рыгор Барадулін

***

Ойча наш, што ў нябёсах,
Хай свяціцца Імя Твае
І ў зорах, і ў лёсах.
Хай прыйдзе Валадарства Твае,
Як спатоля,
Хай Твая ўсёўладарная
Збудзецца воля
Як на небе,
Гэтак і на зямлі.
Хлеб наш надзённы пашлі,
Жыццядар, сёння нам.
І даруй нам нашы даўгі,
Як даруем і мы даўжнікам.
Адгарадзі ад нас
Спакуслівыя лугі.
І ў смутны час,
І ў цёмныя дні
Нас ад нячысціка аслані.
Не зрушыцца Валадарства Твае.
І рушаць рухава
Ад Твайго цвярдога парога
І сіла, і слава
Твае мілаты і лагоды,
Айца і Сына і Духа Святога
Цяпер і заўсёды.
І на вячніны вячнін. Амін.

***

Багародзіца, Вечнадзева Марыя,
Мы ўсе перад Табою малыя.
Дабраслаўленая між усіх маладзіц,
Не пярэч, каб
Перад ценем ценю Твайго
Мы ўпалі ніц.
Дабраслаўлены плод Твайго ўлоння.
Над ім мы ўзводзім
Шатрамі свае далоні.
Ты, ўсяго жывога краса і пакраса,
У імя Вечнаіснага Бога
Нарадзіла душ нашых Спаса.
Пад міласць Тваю прыбягаем.
Злітуйся над нашым краем –
Хай пасвяцца душы нашыя
На нябесных пашах.
Багародзіца Дзева,
Не адкінь у цярпеннях
Малітваў нашых.
Дабраслаўленая, адзіна чыстая,
Уратуй ад бедаў,
Дай моцы нам выстаяць.
Каб агонь жыцця нашага
Не пагас,
Багародзіца Прасвятая,
Душою нашчая,
Уратуй нас.

**

Веру ў адзінага Бога Айца,
Усёўладара, Шчодрадаўцу дабра,
Тварца ненасытнай зямлі,
І неба спадчыннага,
І ўсяго бачнага й нябачнага.
Веру несупынна
Ў адзінага Бога Ісуса Хрыста,
Адзінароднага Божага Сына,
У кожны кіў Ягонага кста.
Сын Божы народжаны над усімі намі,
Над усімі вякамі:
Святло ад Святла,
Праўдзівы Бог ад праўдзівага Бога,
Каб цёмную сілу зла
Сіла богапаслужлівасці перамагла.
Без Яго не было б нічога.
Ён, каб вызваліць нас з грахоў,
З чыстага неба
На дол затаптаны сышоў.
І смела прыняў тленнае цела
Ад Духа Святога і Дзевы Марыі
І чалавекам стаўся,
Каб пераняць пакуты людскія.
Гэта за нас пры Понціі Пілаце
Аддаўся ў рукі зямное ўладзе.
І быў укрыжаваны,
І канаў, і быў пахаваны.
І на трэці дзень уваскрос
У згодзе з Пісаннем.
І ўзышоў на неба Хрыстос
Нябачным ззяннем.

І сядзіць праваруч ад Айца.
І прыйдзе зноў у славе нязмерклай
Судзіць жывых і змерлых,
І Валадарству Ягонаму не будзе канца.
Веру ў Духа Святога,
Што сыходзіць ад самога Бога,
Каму нароўні з Айцом і Сынам
Пакланяемся, не лічачы рокаў.
І славім належным чынам,
І які вяшчаў праз прарокаў.
Веру, а значыць, жыву,
У Кефальную й Апостальскую Царкву.
Веру, і тым жыву,
Веру, і тым існýю,
У Богам дадзеную,
А значыць, святую
Беларусь праўкрасную самую.
Перад ёю,
Як перад Мамаю,
Хілю галаву,
Верны паклону
Да скону.
Спавядаю адзіна кшчэнне
Як ад грахоў збаўленне.
Ані на кога не ў крыўдзе,
Чакаю, як лепшых часін,
Уваскрошання змерлых
І жыцця тога веку,
Што прыйдзе. Амін.

***

Госпадзе, не забудзься ўранні,
Узгадай увечары,
Памяні словамі туманоў
Смяротна заснулых у спадзяванні
Уваскрошання да жыцця вечнага
Нашых братоў і бацькоў,
І ўсіх, якія волю Айчыны
Мечамі праведнымі прывячалі,
Якія і ў злыя часіны
Заставаліся крывічамі,
За кім зачыніліся зямныя дзверы,
Якія жыццё сваё скончылі
Ў пабожнасці й веры.
Даруй ім волю й няволю віны,
Якой правініліся перад Табою яны
Словам, думкаю, справаю,
Абвянчаныя з ганьбай і з славаю,
Бо яны былі толькі людзьмі.
Валадару, іх да сябе прымі.
Дай ім і нам Тваю Гасподу,
І ўдзел у добрых дзеях Тваіх,
І жыцця Твайго бясконцага
І невыказнага насалоду,
Бо Ты ёсць шчасце й жыццё,
Ўваскрошанне ды спакой
Тваіх змерлых слугаў.
Ты, Хрысце Божа наш,
Слых самы бяссонны той,
Які ўсё пачуў, паслухаў.
І мы, адганяючы сквапную скруху,

Славу ўзносім Табе,
І Айцу Твайму нескончатнаму,
І жыццядатнаму Святому Духу
З нагоды дагоды цяпер і заўсёды
І на вечных вякоў зачын. Амін.

***

Усёчуйны, пачуй
Кайны наш лямант і плач.
Тым, хто нас ненавідзіць і крыўдзіць,
Чалавекалюбча, прабач.
Тых, хто шчодрыць дабро,
Узвяліч дары.
Братам і крэўнікам нашым
Правіны даруй
І вечнае жыццё падары.
Наведай нямоглых у чорныя дні.
Ацалі іх і моцу вярні.
Тых, хто ў моры,
Не пакінь у горы.
З тымі, хто ў падарожжах,
Будзь і ў клопатах Божых.
Тым, хто слугуе роднаму краю,
Хто нашую мову мілуе,
Пакажы сцяжынку да раю,
Даруй і праграшынку малую.
Тых, хто просіць нас
Памаліцца шчыра за іх,
Памілуй, бо маеш
Вялікую літасць да ўсіх.

Памяні, Госпадзе,
Нашых бацькоў ды братоў,
Што адышлі ў Твой край,
Ад святла аблічча Твайго спагатоў
Спакой ім, спачылым, дай.
Памяні, Госпадзе, нашых братоў,
Што й сёння
Ва ўчарашняга дня ў палоне.
Вызвалі ад кайданоў
І душы іхныя, і далоні,
Каб мелі галаву на плячах,
А не неслі, як горб, за плячамі.
Каб зоры займаліся ў смелых вачах,
Каб пачуваліся вольнымі крывічамі.
Памяні, Госпадзе,
Ўсіх дабраплодных і дабрачынных
У Тваіх святынях адчыненых.
Выслухай просьбы іхныя аб збаўленні,
Імем Тваім асвечаныя,
І дай ім жыццё вечнае.
Памяні, Госпадзе, нас,
Рабоў Тваіх грэшных, рахманых,
Тут, на задуманай Табою зямлі,
І святлом Свае мудрасці прасвятлі
Розум наш, што ўвечарэў у заганах.
І скіруй на сцежкі святарныя
Запаветаў Тваіх
Малітвамі Прачыстае Багародзіцы –
Нашае Валадарыні
І Прыснадзевы Марыі і Ўсіх Святых.
Будзем ісці да Цябе
І ў радасці і ў журбе,

З песнямі і з плачом,
Покуль будзе сябе называць
Крывічом
Паслухмянец Твой хоць адзін. Амін.

***

Устаўшы з пасцелі, як з дамавіны,
Дзякую Табе, Госпадзе Трыадзіны,
Што Ты, Даўца дабрыні й церплівосці,
На мяне, лянотнага й грэшнага,
Не ўтаіў ні гневу, ні злосці
І за мае беззаконствы
Мяне не прывёў да згубнасці,
А падняў па Сваёй людалюбнасці
Мяне, што ў бе́спамяці спачываў,
Каб я малітваю ранішняй
Уладзе Тваёй слаў славу слаў.
Прасвятлі вочы духу майго ў чысціні,
Вусны мае адчыні
Кожнаму Богаўслаўнаму гуку.
Дай пазнаць мне Тваю навуку,
Дай славіць у песнях
Тваё ўсесвятое Імя, ды не глуха,
Айца і Сына і Святога Духа,
Пакуль цякуць бяссонныя воды,
Пакуль ідуць дажджы з аблачын,
Цяпер і заўсёды
І на вечны няспын. Амін.

***

Святы Анёле,
Заступніку Боскае волі,
Ахоўца мае зямное няволі,
І ў цішы, і ў гамане
Не адыходзь ад мяне,
Адвядзі ад душы мае стому,
Не дай духу злому
Смяротным целам маім
Завалодаць самохаць,
Не дай мой клёк запалохаць.
Дай моцы сіле маёй,
Зняможанай а слабой,
Боль незаслужаны патушы,
Застацца самым сабой
Дазволь мне, ахоўца мае душы.
На шлях збаўлення мяне скіруй,
Калі дзе паддаўся мане, даруй.
Як чым зграшыў мінулай начы,
Гэтага дня заступіся,
Дапамажы спакусу перамагчы.
Каб груган зайздрослівасці
Ў душы маёй гняздо не савіў.
Каб Госпада я не ўгнявіў.
Каб верны быў я
Крывіцкай святой старане,
Мове матчынай –
Як найраднейшай балючай радні.
Анёле, маліся да Госпада,
Каб зрабіў мяне
Слугою Свае дабрыні.
Каб палымнеў, а не палынеў
Твой напамін. Амін.

*1996*

## АДГАЛОССЕ

Трыкірый –
Тры свечкі святла
Айца й Сына й Духа Святога.
Тры полымі вера звяла
У полымя сэрца Бога.

Трысвечча.
Трохкутнік.
Трысцё.
Трысцен.
Трыадзінства.
Трыпутнік.
Спрадвечча.
Прадонне.
Жыццё.
І раскрыжаваны Пакутнік.

## СЛЕДАМ ЭКЛЕЗІЯСТА

***

Усё – пачатак тла, і лоўля дзьмушак,
І млоснасць духу – ўсё лухта лухты.
Спадаюць дні, як ягады ў гарнушак,
І мы – як з дрэва існасці лісты.

Ёсць марны дол – карэе ў ім карэнне,
Ёсць неба мары – ў ім шумяць вярхі.
І кожны долю сам сваю сустрэне,
І знойдуць самі кожнага грахі.

Мука́ пакут прасееццa праз сітца
Ад халадоў знямоглай глухаты.
І ў вырай будзе зноў душа прасіцца.
Усё – лухта лухты. І ўсё з лухты.

***

Узыходзіць сонца, каб зайсці,
І заходзіць узысці нанова.
Што было, паўторыцца ў жыцці,
Бо жыццё – няспыннасці аснова.

І нікуды сонцу не ўцячы,
Не даверыць клопат свой нікому.
Прыцемкі – паслугачы начы –
Гоняць стому з пасвішчаў дадому.

Крэсівам святла па крамяні
Веры б'е ад цемры абаронца.
Мільгацяць у колах прамяні.
Узыходзіць і заходзіць сонца.

***

Вецер да поўдня ідзе
І пераходзіць да поўначы,
Студзячы ўсмешку вадзе,
Грудзі абсягавы поўнячы.

Хмары, як ветразі, пне,
Голас вяртаючы пошчаку.

У незабітай труне
Вусны казыча нябожчыку.

Б’ецца над поплавам сноў
Белаю весткаю чаіца.
І на кругі свае зноў
Вецер з пакорай вяртаецца.

***

Пра былое памяці няма,
Як і пра наступнае не будзе.
Снегам замяце свой след зіма,
Голас свой вясна схавае ў гудзе.

Клёк свой ашчаджае нездарма
Памяць, не падлеглая аблудзе.
Памяць кажа пра сябе сама,
Покуль не заблытаецца ў хлудзе.

Забыццё пасунецца саўма
Па сусветнай перамерзлай грудзе.
Кожны век, пазбыўшыся ярма,
Пра намеры добрыя забудзе.

***

Бачаннем не насыціцца вока,
Слуханнем не напоўніцца вуха.
Весялосць спее белааблока,
Чарнахмара збіраецца скруха.

Вока ценіцца цемрай зайздроснай,
Вуха глушыцца чуткай і плёткай.
Сонца ў радасці маткаю хроснай,
Цемра ў смутка багатаю цёткай.

Бачыць хочацца за даляглядам,
Чуць жадаецца за цішынёю.
Гэта вочы чые з зорападам
З неба сыплюцца сіняй маною?

***

Болей мудрасці – болей смутку,
Памнажаюць веды тугу.
Круціць час туману самакрутку,
Завітаўшы на луг на бягу.

Луг пазнання, багаццем дужы,
Багавейна цвіў і цвіце.
Матылькамі шчырыя душы
Ловіць сэнс на глухой вярсце.

Смак адчуць прыправы гаркавай
Кожны хоча, дзе толькі льга.
На зацятым лузе атавай
Узыходзіць мудра туга.

***

Адпускай свой хлеб па ўдзячных водах,
Каб яго знайшлі па сплыве дзён.
Памятай бяды галодны подых.
Цешся, покуль жорны круціць млён.

Млён не любіць гнуцца, бо трывалы.
Сківіцы цяжкія ў камянёў.
Між таком і полем інтэрвалы,
Як правалы ў памяці агнёў.

Сніцца рунь праросламу зярнятку.
На таку свой лоб не кволіць цэп.
Сноп засватаў ніву. І спачатку
Пачынае шлях нязводны хлеб.

***

Хто вецер назірае,
Таму не йсці з сяўнёю.
Ягонай даланёю
Не тхне ралля сырая.

Ён думкай засявае
Магчымую прастору,
Дзе правяла разору
Прапаўшчына сівая.

Ён чуе звон вясёлы
Высокага калосся.
І толькі адгалоссе
Зрэдчас кранае долы.

***

Таму не жаць, хто сочыць за аблокамі.
Таго не ведаюць аблокі самі,
Ці ападуць дажджыстымі abломкамі,
Ці праплывуць рагатымі ласямі.

Бо летуценнік прывіднымі мерамі
Свой ураджай нязжаты вымярае.
Так і нябёсы важаць дзень асверамі,
А важыва яму да небакраю.

І жаўранак жадання над аблогамі
Дрыжыць, як на галінцы ліст зялёны.
Ды жнец упарта сочыць за аблокамі,
Бо без яго ўраджай сажнуць ягоны.

***

Род праходзіць, і прыходзіць род,
А зямля трываліцца навекі.
Чуе на рацэ жыцця чарот,
Як кладзецца снег журбы на вейкі.

У зямлі на цвёрдай далані
Рэчышчы – працягам ліній лёсу.
Як гаркотай дол ні палыні,
Па глыбінях смягнуць вусны плёсу.

Каб пайсці ў зямлю, прыйшлі з зямлі
Ды пачулі зябкі голас зорак.
Золак не праспаць зарок далі,
Хай падушкай мулкаю – пагорак.

***

Вокам спакойным пасі прыгажосць,
Доўга мірыся з абразаю.
Шчыра прымай весялосць, ягамосць, –
Срэбра за ўсё адказвае.

Срэбра пазычыла свету зямля,
Каб, белацелае, звычліва,
Браўшы пачатак свой ад мазаля,
Гнула, змушала, ўзвялічвала.

Срэбра пільнуе і сон твой, і скон,
І недаканчанай фразаю
Глушыць, і скрушыць, і радуе звон –
Срэбра за ўсё адказвае.

***

Усё адбылося з праху,
І вернецца ў прах усё.
Усё падуладнае страху –
І меч, і серп, і кассё.

Нязменнае толькі тое,
Што Бог для Сябе стварыў.
І суджана сухастою
Карэннямі чуць абрыў.

Сваю не абыдзеш плаху,
Як вечна б ты жыць ні праг.
Усё адбылося з праху.
Дык значыць – нятленны прах.

***

Усе цякуць у мора рэкі,
А мора не перапаўняецца.
Стараюцца грахі й агрэхі,
А ўпартасць не перапыняецца.

Цякуць, каб паўтарыць маленства
І зноў памкнуцца ў свет рачулкамі,
З шаленства ўпасці ў паслушэнства,
Змірыцца з рэчышчамі мулкімі.

І помняць рэкі пра вытокі,
Цякуць сабе адной сябрынаю.
Ды не стрымаюць гнеў высокі
І навальніцамі абрынуцца.

***

«Вось гэта новае!» – пачуеш крык
Дапытніка ў даверлівым настроі.
А новаму згубіўся нават лік,
Яно – даўно забытае старое.

Сурочанае вокам забыццё
Трымае свет сваёй уладай цьмянай.
І ўсё забытае, як адкрыццё,
Вяртаецца авечкаю рахманай.

Бягуць вятры з вятрамі на размін,
І цешыць цішу гамана зямная.
І чалавек – забыты напамін,
Які жыццю пра смерць напамінае.

***

Каменю ніколі не разбіцца.
Вечныя адны дума́ й турма.
І крывому роўным не зрабіцца,
І лічыць дарма, чаго няма.

Крывадушнасць да пары трывае.
І раўніну выгарбіць курган.
Страціць хітрасць ісціна крывая.
І крумкач накрумкае ўраган.

На няма няма й суда людскога.
Памяць тое, што было, пасе.
Гэта *ў ёсць з няма* вядзе дарога,
Па якой знікаем, зрэшты, ўсе.

***

На вуліцу замкнуцца дзверы,
Бяссонныя заціхнуць жорны,
І спевамі замоўкнуць дшчэры,
Асядзе пыл, ачахне, зорны.

І чалавек прывыкне рана
Ўставаць ад пеўневага крыку,
І будзе поле неўзарана
Вясною ўспамінаць матыку.

Дух угняце, прыгорбіць плечы
Жуда – дагодлівая кляча.
І толькі голас чалавечы,
Пачуўшы пеўнеў крык, заплача.

***

Папярхнецца грымотамі спёка,
Аблачына заплача суха.
Не насыціцца бачаннем вока,
Не напоўніцца слуханнем вуха.

Цэлы век палюеш, рыбачыш,
Толькі лядам робіцца пушча.
У рацэ спадзяванняў бачыш,
Як акручвае вір хітрушча.

Лепшы лёс сам сабе вяшчуеш,
Глухнеш у нерасчутым гудзе,
Слухаеш сябе – і чуеш
Толькі водгук таго, што будзе.

***

Смерць бярэ мудраца й недарэку,
І нікога не вылучае,
І нікому чужога веку,
Як ліхвярка, не пазычае.

Не адрозніць зямля таксама,
Бедны розумам ці багаты.
Пазяхае спрасоння яма –
І хапае вечнае хаты.

Ды ў магілу не хочацца крозам –
Не па іх прасцяк-недашкрэба.
І наноў выбірае розум,
З кім яму пакутаваць трэба.

***

І стане нястрашны страх,
І пашы прыбудзе статку,
І прахам зробіцца прах,
Бо прахам ён быў спачатку.

Абух разаб’ецца ў пух,
Валун зарунее мохам.
Не будзе самотнец дух,
Часова дадзены Богам.

Прысняцца зярняты кулю́,
І перадыхне знямога.
І вернецца прах у зямлю,
І вернецца дух да Бога.

***

У радасці ненажэрца,
Юнак, покуль шал не сціх,
Хадзі па шляхах свайго сэрца,
Па бачанні воч сваіх.

Вадзіцьме цябе адвага
Ў грахі да чужой ляхі,
І ўрэшце пакажа развага
На праведныя шляхі.

Адчуеш на раздарожжы,
Бо будзеш яшчэ пулят,
І старасці зірк варожы,
І сталасці ціхі пагляд.

***

Жанчына на тое й сніцца,
Каб разгаўляліся сны.
І сэрца яе – пляніца,
І рукі яе – кайданы.

Не хоча трапляць сініца
З-за дробнага зерня ў пятлю.
Прынадай вабіць пляніца,
З нябёсаў бярэ на зямлю.

Жанчына – мярэжа густая,
Што ведае водмелі й дны.
Каб іх жадаць пераcталі,
Не куліся б кайданы.

***

Людзей да тлуму ў гэтым жыцці.
Спалі хоць усю лучыну –
Мужчыну з тысячы можна знайсці,
Але не знайсці жанчыну.

Развееш хмары, прагоніш змрок,
Саб'еш на дарогу сцяжыну,
Прыслепіш зрок і прытоміш крок,
Шукаючы тую жанчыну,

Якой душу даверыць бы мог,
Якой бы паверыў да скону.
Касе і той прыесца мурог,
Палын нагоніць аскому.

***

Бог не скажа пра свой намер,
Чалавек свае думкі тоіць.
Што было, тое ёсць і цяпер,
І што будзе, было ўсё тое.

І вада лёд перажыве,
Неба – хмару, будзённасць – мару.
Закарціць у рыжай траве,
Як каню, пакачацца пажару.

Даланю навярэдзіць кассё.
І лаўца дагоніць здабыча.
І наноў паўторыцца ўсё.
І мінулае Бог пакліча.

***

Не прасі заставацца ўдачу,
Не малі затрымацца хвалю.
Сэрца мудрых – у доме плачу,
Неразумных – у доме балю.

Чалавек нараджаецца з плачу,
Хісткі дол з плачом пакідае.
Цешыцца маладосць: я трачу!
Старасць цішыцца: я – скупая...

Узляціць малітва высока.
Абначуе спагада ў храме.
Боль зямны знікне ў помірг вока,
Плач нябесны ўпадзе дажджамі.

***

Як Бог да цябе не аслеп
І лёгка анёл твой лётае,
Еш свой з весялосцю хлеб,
Пі ў радасці сэрца віно свае.

Ды помні: ёсць хлеб тугі,
І ты прышануй асабліва яго.
Ударыць віно ў берагі
Карца твайго пахаплівага.

Твая задрыжыць віна
На небе халоднай іскрынкаю.
І прагнуцьмеш кроплі віна,
Яшчэ дрыжучы над скарынкаю.

***

Настрой з весялосцю жані,
Пакуль твая доўжыцца рата.
І помні пра цёмныя дні.
Іх будзе ў цябе багата.

Маршчынамі на ілбе
Накрэсліцца памяць слабая.
І доля забудзе цябе –
І некага ўпадабае.

Счарнеюць колеры ўсе,
Насунецца ціша з узвышшаў.
Бо цемра раўніва пасе
Усіх, хто з цемрадзі выйшаў.

***

І пераважыць сілу знямога,
З пакутай шаля – з уцехай шалю.
У мнагамудрасці смутку многа:
Чым болей ведаў – тым болей жалю.

Страх чуе ў цемрадзі кожны закутак,
І смеласць – кожны звіў над прадоннем.
І галаву падстаўляе смутак
Сонным улонням, ціхім далоням.

Звон у званіцы ў вольным палоне,
І вецер здасца яму праpокам.
Не ведае заўтра, што будзе сёння,
Каб не сурочыць свой лёс няўрокам.

***

Напіцца небу з рукі даць.
Твае не ведаюць дні,
Пара камяні раскідваць,
Пара збіраць камяні.

Правінамі маладымі
Усцелюць шлях камяні.
Твой камень ніхто не падыме
Ні ў злосці, ні ў дабрыні.

Магчыма, нябачны Дарадца
Падзеліцца зорнай журбой.
Адыходзячы, будзеш старацца
Сабраць камяні за сабой.

# СЛЕДАМ ПРЫПАВЕСЦЯЎ САЛАМОНАВЫХ

***

Страх Гасподні – мудрасці пачатак.
Вешчы страх ва ўсім жывым жыве,
Ад смалы хмялеючы па шатах,
Ад спякоты млеючы ў траве.

Як пастух, пільнуе, каб у шкоду
Думкі нашыя не забрылі,
Сеючы нябесную лагоду
На ўзаранай ім жа аралллі.

У малітве зводзячы далоні,
Свой спакой шукаючы ў вірах,
Зазірнуць дазволіўшы ў прадонне,
І ў апошні шлях праводзіць страх.

***

Сябе не шукай у хлуддзі́,
На іншых не звальвай віну ўсю.
Дарогаю добрых ідзі
І сцежак праведнікаў пільнуйся.

Дарога добрых вядзе
Ў пакутнікі, ў пілігрымы,
Святую ў бядзе, ў жудзе,
Яе не ўсцілаюць кілімы.

І сцежкі праведнікаў здаўна
Не збіты на жвір ступакамі.
Бо іх табе лёс даў на
Бяседу з небам, з вякамі.

***

Прыемна гусці ў канюшыне чмялю,
Касцу – зачынаць пракосы.
Прамудрасцю Бог заснаваў зямлю
І розумам сцвердзіў нябёсы.

Прамудрасць муруе, разьбярыць, жне.
За хмарамі розум блукае.
І перапёлкаю ў збажыне
Хаваецца вестка благая.

Да ісціны голай хоча дайсці
След нецярпення босы:
Зямля трымае нябёсы, а ці
Зямлю трымаюць нябёсы?

***

Праб'ецца трава з-пад лаўжоў глухіх,
Не згубіцца ў патарочча.
Не будзь мудрацом у вачах сваіх –
Што скажуць чужыя вочы?

Яны глядзяць на цябе калючэй,
Куды б ні ўцякаў далёка.
Ды бачыць глыбей ад усіх вачэй
Адно Ўсёбачнае вока.

Ваду дапытнасці пі з вясла,
Пыліся ў людскім абозе.
І аддаляйся халодна ад зла,
І шчыра Госпада бойся!

***

Хоць сплывае багацця дым,
Як рука яго ні трымае,
Сну вачам не давай сваім
І вейкам сваім жа – драмання.

Свой дачасна свет не імглі,
Не прыспешвай свой сон сцюдзёны.
Наляжышся яшчэ ў зямлі,
На зямлі дбай пра хлеб штодзённы.

Тамака жаль цябе не кране.
Не ўбрыкне золак белакапыты.
І наўрад ці ў сцюдзёным сне
Ты прыснішся сабе, забыты.

***

І была прамудрасць пры Гаспадары
І тады ўжо, як Ён з сутоння
Угрунтоўваў аблокі ўгары,
Мацаваў крыніцы прадоння.

У прамудрасці шмат было
Цеплыні, мілосці, спагады.
І Гаспадар не хмурыў чало,
І яшчэ не прачнуліся звады.

Свет святлом пачынаўся з тла,
І хмялеў ён яснагалова.
І спачатку прамудрасць была –
І яна прамовіла Слова.

***

Сэрца ведае гора свае душы,
І ў ягоную радасць не ўмяшацца чужому.
Як гнеў ні тушы, як страх ні глушы, –
Адгукнецца, душэўны, нябеснаму грому.

Толькі сэрцу й даверыцца можа душа,
Разгавецца бядой, падзяліцца дакорам
Тым, што яблыкам выпаў з далоні каша
На зямлю, дзе начуе здарожаны сорам.

Радасць туліць шчаку да рукі цішыні,
Ад самой дабрыні атрымаўшы заруку.
Сэрцу хочацца быць, як у крэўнай радні,
У душы на паслугах да апошняга груку.

***

У вясну вадаспадам абрынуцца хоча раўчак.
Прагне рунь вымлець у непарушшы.
Чыстыя ўсе шляхі чалавека ў яго вачах,
Але Госпад узважвае душы.

А спакуса не спіць, і грузнее душа ад грахоў.
Знічкі мрояў падаюць з перапуду.
І шукае душа ад падступнай будзённасці схоў,
Верачы дабравокаму цуду.

На вагу заклапочаны Госпад душу пакладзе,
Ад людскае знявагі цяжкую.
І які ёй вырак спадзе на Страшным Судзе,
З ім душа на зямлі давякуе.

***

Страх ступае па сэрцы, як мядзведзь па ламу.
Страшна абразе ўбачыць позірк пашаны.
Ліхадзей шукае толькі зла, і таму
Будзе жорсткі анёл да яго пасланы.

Будзе жорсткі анёл праводзіць яго да труны,
Каб не ашукаўся раптам анёл ласкавы.
Дрэва цярпення, абдзёртае да карыны,
Ліст апошні асыпле на балючыя травы.

Будзе жорсткі анёл перакідвацца груганом.
Загусцее святло, і цемрыва парадзее.
Бур'яном старым ды сырым палыном
Зарастуць халады, як сляды ліхадзея.

***

Сонцу кланяецца каравай.
Змрок не любіць самаадрачэння.
Ісціну купі й не прадавай
Розуму, прамудрасці й вучэння.

Ды не кожны ісціну купіць
Зможа, старгаваўшы ў дзень базарны,
З рэдкага купца вясёла кпіць
Будзе блазен, думкамі няхмарны.

Лес гадоў сплаўляюць асначы.
Быстрыняміргае вокам ласым.
Ісціну купляючы, сачы,
Каб тавар не падмянілі часам.

***

Ластаўка ласкаю гнёзды ўе.
Рэчка раіцца з берагамі.
Хто шануе вусны свае,
Той душу сваю зберагае.

У шырока разяўлены рот,
Як у комін вецер зімовы,
Улятае ўсялякі зброд,
Ад якога ўцякаюць словы.

Рызыка нырае на дно
Без развагі ды без вагання.
Вусны можна будзіць адно
На малітву і на каханне.

***

Не глядзі, як віно чырванее,
Лепш адчуй, як ты сам счырванеў ад віна.
Галаву тваю возьме пад паху завея,
Белы хмель будзе сцежку шукаць давідна.

Чырванее віно за ўтуманены розум,
За расхрыстаны гнеў, за нахабісты крок.
Бо павінна віно заставацца цвярозым,
Каб смялейшае права было на папрок.

Клёк ваюе задзірыста з хмелем зацятым,
Ды ніколі не скончыцца гэта вайна.
Хмель прымаецца буднем, шануецца святам.
І віно ад віны, і віна ад віна.

***

Перавысіць не пніся высі,
Прагна не перасыцься сытой.
Заўтрашнім днём не хваліся,
Бо не ведаеш, што народзіць той.

Ён народзіць радасць ці гора,
Твой магчымы, заўтрашні дзень.
Лыжку мёду давала ўчора,
Абяцала ж даць – берасцень.

І кіруючы ў сон свой човен,
Сённяшняму падзякуй дню,
Каб сустрэў ты самотніцу сховін –
Не апошнюю цішыню.

***

Пажадай працы ворага спору,
Хай пацешыць і злыдня плён.
Хто пакоціць камень угору,
Да таго ж і вернецца ён.

Ціха подласць ідзе па новы
Спадкаемкаю дабрыні.
З неба валяцца на галовы
Злыдняў іхныя ж камяні.

Пры дзяльбе за ціхую долю
Папрасі пашумець траву.
Камень злосці хай стыне доле.
Памятай пра сваю галаву!

***

Ідзі ў нябыт як не сваёй хадой,
Не спознішся паспець туды ніколі.
Зямля не насычаецца вадой,
Агонь не кажа, хоць згары: даволі!

Галодная і плодная зямля,
Як каня, піць папросіць і ў залеву.
Не дацягнуцца да яе валля
Нябёсамі запыленаму гневу.

Душа сваю не выдасць глыбіню.
Аблічча не ўтаіць ласкавых рысак.
Не надакучыць полымя агню.
І, што любіў агонь, прамоўчыць прысак.

***

Хоць спадзе з абрысаў імгла,
Ды спасцігнуць ніхто не ўмее
І на небе дарогі арла,
На скале – высцяжы́ны змея.

Вышынёю арол жыве,
Вывівастасцю – змей пачатку.
І цікаўнасць у рукаве,
Як вавёрку, трымае адгадку.

І даецца нам назусім
Таямніца вечара й рання.
Можа, й ёсць у гэтым усім
Сэнс нязмушанага бытавання.

***

Каб след твой не перапаўзлі вужы
І здані твой сон не сурочылі,
Не перасоўвай даўняй мяжы
І не хадзі на межы сірочыя.

Мяжа тумáну. Світання мяжа.
Мяжа дабра й трываласці.
Ад быльняжынкі аж да глыжа
Апошняга прошласць трымалася.

І з незагойных бацькоўскіх магіл
Уздымецца ён, і ўшчынную
Акрые палі сірочыя пыл
Пакрыўджанаю аблачынаю.

***

Да багацця бяжыш, чалавеча,
І не думаеш ты, нябога,
Што цябе даганяе галеча,
А яна не пакіне нічога.

І ў яе зайздросныя вочы,
І ў яе хапучыя рукі.
Ёй таксама не спіцца ўночы,
І прайшла яна ўсе навукі,

Як дарыць лахманы на плечы,
Абдзіраць па-скупечы на ліпку.
Пачакай. Не ўцякай ад галечы –
Паскачы пад ейную скрыпку.

***

Рака жыцця не прывыкла паказваць броды.
Яна несупынная ў паваротах сваіх.
І помыслы ў сэрцы людскім – глыбокія воды,
Ды чалавек разумны вычарэпвае іх.

Чарэпаць поўным каўшом не стамляецца коўшаль.
І зоры начуюць у цёмных водах на дне.
У водах адстойваецца марудных вякоў жаль,
І туманом таемным на дапытлівасць тхне.

Руплівасць не слухаецца пакорнай дагоды.
І сонца спасцігу ўзыходзіць з-пад вей.
Мялець не думаюць небародныя воды.
Чарэпае чалавек глыбей.

***

Лыжка драмаць не павінна ў дармовым супе.
Падабацца хадыку не мусіць слата.
Разам з зернем таўчы таўкачом у ступе
Дурня – не аддзеліцца ад яго лухта.

Бо дурных не аруць, не сеюць –
нараджаюцца самі,
Каб не сумна на свеце было мудрацам.
Як ні задзіраюцца сані насамі –
Не зрабіцца ніколі коламі палазам.

А калі й лухта – гэта тая мякіна,
Што дамешваюць часам у праснакі?
Можа, ўсё ж памыляецца хітрая кпіна,
Дзівакоў залічваючы ў прасцякі?

***

Нічога не забываецца ў злапомлівым свеце.
Цэп на таку прысягае ўмалоту ілбом.
Хто разбурае свой дом, таму накануецца вецер.
І неразумны ў мудрага сэрца будзе рабом.

Спагадца старцоў і вандроўнікаў,
вецер-бяздомнік
Не прызнае ні вокнаў глухіх, ні дзвярэй.
Без дому свайго бяскрыла блукае паломнік,
А ў выраі смутку вядзе ўжо самота рэй.

І поўняцца збожжам розуму старанныя гумны,
І думка не ходзіць пешкі – яна слыве.
Пазірае са страхам на мудраца неразумны.
У сэрцы вецер. Вецер у галаве.

***

У шчасці розныя, роўныя ўсе ў бядзе,
Хоць кожны жыве на сваёй планетцы.
Не радуйся, калі вораг твой упадзе,
І сэрца не весялі, калі ён спатыкнецца.

Бо нехта лічыць ворагам і цябе,
І нейчая злосць за табой цікуе таксама.
І нейчая зайздрасць стажок твае долі скубе.
І не сціскае пашчу бяссонная яма.

Век шчасця зямнога кароткі, як летні сон,
Ды ён хоць аднойчы павінен сасніцца.
Хто сябра, хто вораг – не разбірае скон,
Усе перад ім аднолькава падаюць ніцма.

***

Не мяняй свой куток на прастору чужую,
У прасторы чужой птушка гнёзды не ўе.
Пі ваду са свайго вадазбору і тую,
Што цячэ дамавіта са студні твае.

І прагоніць вада і засмагу, і стому,
І ў чужыне па краі бацькоўскім тугу.
Кожны яблык сваю захавае аскому.
Як нікому, падзякуй таму ланцугу,

Што трымае цябе верадам невыводным,
Прывязаўшы да родных мясцінаў душу.
І напоіць вада тваю рызыку й одум.
Перадасць таямніцу спарыш спарышу.

# СЛЕДАМ АПОСТАЛА ПАЎЛА

***

Не верце ні лёсткам, ні брэху,
Шануйце душу ў праваце.
І мёртвымі будзьце для грэху,
Жывымі – для Бога, ў Хрысце.

Нячыстыя думкі і цела
Рыхтуюць цямніцу душы.
Зняверцу распуста ўсыцела –
І горне, і шэпча: грашы!

Завершыць труна прастакута
Крывыя дарогі жыцця.
Душа да пакуты прыкута,
Заложніца веры – дзіця.

***

І сашчэпіць нячысцік зеўры,
І ўтравее сцяжына зла.
Дык адкіньма ўбок справы цемры,
Апранемся ў зброю святла.

Справы цемры – цёмныя справы.
Хто бярэцца за іх – таму
Напаткаецца лёс каравы
І маною ўцемніць думу́.

На святле крамянее голле,
На святло спадзяецца тло.
Як начлежнік цяпельца ў полі,
Свет хавае ў вачах святло.

***

Азёры ніяк не развесці вінамі –
Слабое віно любое.
Нікому нічога не будзьце віннымі,
Апроч узаемнай любові.

Дзяліцеся ласкі нячэрствай скібкаю,
Вы – госці ў гэтым застоллі.
І ваша жыццё, як лучына скіпкая,
Не ўгрэе нябеснай столі.

Прыйшлі, каб пайсці са сваёй таемнасцю.
Рухавы туман растане.
Дык хоць самі сябе ўзаемнасцю
Сагрэйце на развітанне.

***

Потым прыходзіць туга-парадніца,
Астывае запал гарачы.
Радуйцеся з тымі, хто радуецца,
І плачце з тымі, хто плача.

Хмарнасцю і весялосць закрэсліцца,
І куццёю зробіцца груца.
Надзея – роспачы хрэсніца –
Да блакіту будзе гарнуцца.

Ветру дадзена поле выблукаць,
Плугу сказана гнаць разоры.
Небу плакаць – вачэй не выплакаць.
І праз хмары смяюцца зоры.

***

Дараг цень свой кожнаму дрэву,
Покуль ствол яго не струхнеў.
Упірлівасцю на дзень гневу
Сам сабе ты збіраеш гнеў.

І абрынецца гнеў Гасподні
Ля апошняй тваё вярсты.
Будзе страх, як убор іспoдні,
Палатнець на табе, як ты.

Загарыцца лісток барвяны
Недзе ля нахмураных хмар.
І за гнеў, табой назбіраны,
Атрымаеш, як сам ліхвяр.

***

Покуль пчол рупатлівых гуд не астыг,
Паўнавока смяяцца сотам.
Бог у непаслушэнстве замкнуў усіх,
Каб усіх памілаваць потым.

Паслушэнства ад подслуху неба йдзе.
Напачатку трэба самому
Пакіпець у бядзе, астыць у вадзе
І з чужыны прыбіцца дадому.

І на момант забыцца на вечны лёх
І на мох над глухой плітою,
І пачуць, як душу адмыкае Бог,
Напаўняючы мілатою.

***

Хоць прысак у прыцемку не атух,
Халаднавата вуголлям галодным.
У незнаёмай мове моліцца дух,
Але застаецца розум халодным.

Халаднавата сэрцу ў мове чужой,
Нібыта ў неасвечаным храме,
Што поўніцца неабжытай імжой
І неўсвядомленымі дарамі.

Малітва на матчынай мове адна
Госпаду, зорам і ніцым лозам –
Усім зразумела будзе да дна,
І ўсцешыць, і разварушыць розум.

***

Спрадвечнасць не вымяраюць гадамі.
На небе трава забыцця не расце.
Бо, як паміраюць усе ў Адаме,
Ажываюць гэтак усе ў Хрысце.

За грэх, што пайшоў ад Адама й Евы,
Нясе пакуту зямная плоць.
І як мяняюць убор свой дрэвы,
Мяняе паству Сваю Гасподзь.

І адпаведна кожнаму ў чару –
Рабу й анёлу – нальецца ўшчэрць
На тым Судзе, што вызначыць кару.
Апошні вораг знішчыцца – смерць.

***

Святло аж лілося ў Тварца з вачэй,
Ён свет тварыў, маладзілася праца.
Гарэлі іскрынкі святла зырчэй,
Ляцелі, каб зоркамі ў небе стацца.

І зоркі, як пчолы ў вуллі, загулі,
Аж зазвінелі далёкія высі.
І Бог загадаў ім свяціць зямлі,
Сабраў у сузор'і, каб не разбрыліся.

І светлага клопату ўсім стае,
І часу – любой праявіцца праяве.
У кожнага неба сузор'і свае,
Бо зорка ад зоркі розніцца ў славе.

***

Кожны лёсу дагадзіць стараецца –
Хто душой, хто праўдай, хто маной.
Ну а лёс штовечара, штораніцы
Надзяляе кожнага віной.

І віна ўвасобіцца, ўвабліччыцца
У людзей, у птушак, у звяроў.
Кожнаму ягоны грэх залічыцца:
За ваду – вадой, крывёй – за кроў.

Даўца лёсу за змірэнне ўлежнае
Выстудзіць лянотніка ў вятрах.
Аддавайце кожнаму належнае
Адпаведна: мыта, гонар, страх.

***

І калі аб крэмень спатыкнецца крэсіва,
Дык і вогнішча наесць валлё.
Бо калі рашчына святая, дык і месіва,
І калі корань свят, дык і галлё.

У дзяжы душы хлеб надзённы замесіцца –
На дарогу будуць праснакі.
Бо дарогу, як ад сонца да месяца,
Ад святла да тхла б'юць хадакі.

Без людзей жыццё – галлё бязлістае,
Ліст не ўвесь суравеі змялі.
І святому галлю цяжка выстаяць,
Кораню не згубіцца ў зямлі.

***

Каму салодка і ў палыне –
За тым кульгае нуда старая.
Хто скупа сее – той скупа жне,
Хто шчодра сее – шчодра збірае.

Аддай усё, што ёсць у цябе:
Раллі – суботы, гоням – нядзелі.
Старайся раніцай у сяўбе,
Хай рунню рупнасць умаладзее.

Світанка певень свой цень здзяўбе,
Зляціць маркота зязюляй шэрай.
Паўторыць шчодрасць сама сябе,
І шчыры колас нальецца верай.

***

Не ўзірайся на свет варожа
На мяжы віднаты й імжы.
Хай жа зло цябе не пераможа,
Ты дабром яго перамажы.

Яд сцішаюць ядзейшым ядам,
Лом пускае трухлядзь на злом.
І нутро ўледзяніць паглядам
Зло, якое адолееш злом.

Роспач кружыць, як тая каня,
Што адводзіць страх ад гнязда.
Не баіцца дабро знікання.
Не мутнее ў крыніцы вада.

***

І адплыве ад берага спагады,
Да берага душы прыстаўшы, човен.
І будзе смутак на ўспамін багаты,
Вярнуўшыся з нябесных перамовін.

На дне чаўна заб'ецца рыба страху
З вачыма, як у маладжавых зорак.
І стане ранічна зямному гмаху,
І недзе займецца лагодай золак.

Луг памяне атаваю пакошу,
Парaскашуецца прадвесне ў спеве.
Нясіце, як сваю, чужую ношу,
Няхай не зойдзе сонца ў вашым гневе.

***

Адна ў небыццё і ў быццё дарога.
Усе мы жывем пад прыглядам Божым.
Бо мы не прынеслі на свет нічога
І вынесці, значыць, нічога не можам.

Не ўсыціць чэрава ненажэрца.
Вачэй не засціць зайздросным совам.
Не срэбра шчырае, шчырае слова –
Галоўны скарб наш у свеце часовым.

А вынесці можам на развітанне
За ўсё, што было да душы, да смаку,
За доўгаспрыянне і спачуванне
Мы вынесці можам жыццю падзяку.

***

Калоссе араллю скасоўвае,
Маланка змоўклы кут высвечвае.
Бо ўсё відочнае – часовае,
А невідочнае ўсё – вечнае.

У светлыні няма характару,
І цемя ў цяжкай цемры кволае.
І нельга вызначыць каратамі
Каменне жорнаў крутаколае.

І мройліва аднойчы ўроіцца,
Што небам нам паслана ў спадчыну,
Асвечана Святою Тройцаю,
Бо ходзім верай, а не бачаннем.

***

Да дня бяжыць прывітаць дзяннік
Пад самы ганак сцежка крывая.
Трэба, каб земляроб-працавік
Першы пакаштаваў караваю.

Ён вешаў сявеньку – радню кулю –
На рог маладзіку-светласею
І на заснежаную араллю
Вадзіў басанож надзею.

Надзеяй жыве земляроб, хлебараб,
У рабстве надзённага хлеба.
І Бога не просіць, з рабства каб
На волю выпусціў. Сведкаю неба.

***

Валоў ацішаюць ярмом і пашамі.
Касмата дажджы прарастаюць травою.
Хадзіце роўна нагамі вашымі,
Каб не спанталычылася крывое,

А каб направілася пашанаю,
Каб светла хацела цягнуцца ў вышыні.
Паклаўшы пад бок аблачыну зляжаную,
Сніць гром, што бяжыць па роўнай сцяжыне.

Раўняюць гарбаты загон баронамі.
Рабіна гронамі спёку трымае.
З абсягамі рэха як роўнае з роўнымі.
Нядоўга смяецца дарога крывая.

***

У зацьменне свядомасці
Сонца йдзе паступова.
Бо куды невядома йсці –
Разгубілася слова.

Лжэпрарокі хімерныя,
Сатана натуральны.
Лжэпрарокам паверылі,
Сатане патуралі.

І ад праўды адвернуцца,
Каб вярнуцца да казак.
І душа-аднаверніца
Споўніць свой абавязак.

***

Пакіне адчаю жаццё
Іржавы іржэўнік ад сутак.
Прылашчы цяплей жыццё,
Каб смутак не множыў смутак.

Блакіт падапруць стажкі,
Дзе звянуць і зёлкі, і травы.
У смутку хатуль цяжкі,
У радасці мех дзіравы.

Пустая стыне павець,
Няцесна восені ў клеці.
І нельга душу сагрэць
У гэтым халодным свеце.

***

Самоту ўзаруць домыслу лемяшы.
Хай рызыка вас выпрабоўвае.
Надзею майце, як якар душы,
Каб не захлынулі вас хвалі жыццёвыя.

Вяжыце на руме трывання плыты,
Каб з прорвы нявер'я выплысці.
Карэц нябеснае мілаты
Прыміце ў пакорлівай сціпласці.

Пакуль ваш позірк не прывялі
У цемнач сцяжыны рупныя,
Жывіце, як першы раз на зямлі,
Шануючы час, бо дні падступныя.

***

Не схаваць берагі асацэ.
Глухне храм без малебна.
Не можа вока сказаць руцэ:
– Ты мне не патрэбна.

На тое й вока, каб мераць даль,
Рука – каб рукацца.
Набягае калючай слязою жаль.
Мазалём плоціць праца.

Прызнае меліну́ глыбіня.
Сцюжай грэбуе спёка.
Ад парушыння, ад наслання
Даланя засланяе вока.

***

Пражэрліваму ашчэру
Свой голад не давярайце.
Збіраючыся на вячэру,
Адно аднаго чакайце.

Свой голад не ашукае
Галодная ваша вера,
Адно гамана людская
Расквокчацца, як цяцера.

У хатцы, а не ў палацы
Смялее жабрачая лера.
І можа апошняй стацца
Маўклівістая вячэра.

*1992–1993*

# БЭТЛЕЕМАМ СТАНЕ СЭРЦА...

***

Каля Господняй Дамавіны –
Укленчыць і апасці ніц,
Як ліст,
Што адляцець павінны
Пад блаславенне бліскавіц.

Пліта халодная, як розум,
Паразумеецца з душой.
Спакой абдасць такім марозам,
Што ў гэтым свеце ўспомніш той.

Чый Бог адзін за ўсіх хварэе?
Смяецца з нашых звадаў лёс.
Бо ў старасці мы ўсе –
Яўрэі,
Як малады Ісус Хрыстос.

***

Ён ступаў па маладой зямлі,
Выратоўца, босаю нагою.
Дома доўга тлеюць вугалі,
Домам пахне родны дым ізгою.

Ён пакінуў босыя сляды
На спякотных камянях і ў чыстых
Душах.

І дагэтуль цень худы
К вечару расце.
І пыл не выстыг.

Каб людскому не згарэць галлю,
З ласкі Боскай
Мусіць свет да скону
Найсвятую ўсёй зямлі
Зямлю
Уздымаць над прахам,
Як ікону!

## СЦЯНА ПЛАЧУ

Сцяна не адгароджвае.
Яна
Названа прышласцю
Сцяною Плачу.
Як покуць,
Свету цэламу відна.
Тут кожны думае:
Свой сум растрачу –
І зробіцца нявіннаю віна.

А за Сцяною ці чуваць Яму
І наш нямотны плач,
І наша гора.
Трымаюць сцены хату і турму.
Адзін Гасподзь –
Надзейная апора
Ўсяму, што Ім задумана, ўсяму.

Паразбуралі нашы храмы ўсе.
І, мабыць, гэта перад развітаннем
Слёз ціхіх хмары ветрам прынясе,
І мы жывой Сцяною Плачу станем,
Каб затупіцца даць аб нас касе.

Стах страх.
Маўчыць таемнасць, як сцяна.

У небасхілу зацякла спіна...

## НАД ГАЛІЛЕЙСКІМ МОРАМ

Затрапятаўся, быццам Дабравесце,
Над Галілейскім морам галубок.
І ветру зажадалася прывесці
З маруднай рыбай сеткі трапяткія.
І ён бруёк блакітны павалок.
І дол сухі
Успомніў дотык кія.

Лянотаю зялёнай пальма млее.
Тут мусіў змаладзіцца свет стары.
І стала хроснай маткай Галілея.
І Капернаум чуе крок Хрыстовы.
І не змаўкае Слова на Гары.

Як наша каня,
Просіць піць прастора.

# ЕРУСАЛІМ

*Міхаілу Фарфелю*

Млечны Шлях, як радасны кілім,
Любяць развінуць нябёсы поначы,
Каб душа, йдучы ў Ерусалім,
Не блудзіла ў цемры,
Бога помнячы.

Колеры світання й палыну,
Колеры няспыннасці й нязменнасці
Апранаюць міг у даўніну,
Важаць час
Празрыстымі бязменамі.

Як на мулкіх зорах,
Горад лёг
На пагорках, дзе начуе раніца.
Блізка лог,
Дзе ўсіх збірацьме Бог
Судным Днём,
Што ўсім апошнім станецца.

А вядуць не ўсе дарогі ў Рым,
У Ерусалім
Ідуць нястомнікі.
На магільніку, як дым, сівым,
Скалянелі камяні-паломнікі.

Тут да Бога блізка, як нідзе,
Аж чуваць,
Як Немінучасць дыхае.
З Вока яснага сляза ўпадзе –
Стане Бэтлеемам сэрца ціхае.

***

Страх свой не абтрасеш, як прах.
Цяжка смерці зірнуць у вочы.
На Галгофу далёкі шлях,
Нечаканы,
Як сон сірочы.

У самым жа сабе згарыш,
Сам наблізіш сваю катастрофу,
Сам жа мусіш свой несці крыж,
Узысці на сваю Галгофу.

І праступяць у людзях,
У тлях
Цудадзейнасць,
Вар’яцтва,
Калецтва.

Да Галгофы кароткі шлях –
Даўжынёй на ўсё чалавецтва...

***

Прыгадваю гарыстыя Бычкі
У горадзе, абраным Панам Богам.
І кланяюся ранішнім дарогам,
Што пабягуць дадому нацянькі,
Дзе слова Быкава прапахла стогам,
Дзе п’е паўдзён яшчэ ў ракі з рукі,
Дзе цешацца разлогам скразнякі,
Затокай – вадзянік, мядзведзь – мярлогам.

Тут Еўфрасінні Полацкай чало
Зайшло ў імглу, а з Полацка вяло
Святло святое да Ерусаліма.
Радзімы без апостала няма.
Свой боль, свой сум, свой подых нездарма
Апосталу даверыла Радзіма.

## ІЯРДАН

Ад ценю дрэў зялёны Іярдан,
Напоўнены нябеснаю лагодай,
Цячэ ў душу Господняю Гасподай,
Пустэльнасці апеpазаўшы стан.

Густой вадой Хрысціцель Іяан
Хрысціў Хрыста, і леціў ахалодай
Ад ценю дрэў зялёны Іярдан,
Напоўнены нябеснаю лагодай.

Не пагасіўшы соль Хрыстовых ран,
Імкнецца свет умыць і ўцерці згодай
Ад ценю дрэў зялёны Іярдан,
Напоўнены нябеснаю лагодай.

***

Камяняр крута камень куе.
У рашучым настроі зубіла,
Быццам сіла,
Што старасць згубіла,
Зноў правы заявіла свае.

Іскры прагнуць паветра глыток.
Спёка
Рот разяўляе шырока.
Быццам выбіў ён словы прарока,
Паважае сябе малаток.

Апранае Ерусалім
Камяняр,
Як закладнік знямогі.
І ў канцы яго мулкай дарогі
Замаўчыць
Толькі камень над ім.

# СВЯТАРНАЕ СВЯТЛО

## ТРЫПУТНІК

I
Ерусалім – хаціна Саламона.
Страха накрыта
Сонечнай саломаю.
Акропленае праведнасці лона
Слязой,
Як з мора Мёртвага,
Салёнаю.

II
Ад ускоту аж да закоту
Сонцу хапае сілы
Трымаць спякоту
І настрой свой прыўзняты,
Як бы цыбатацене паўдзён ні рос.
Ерусалімскія схілы –
Як тыя непад'ярэмныя асляняты.
І мроіцца ўяве нядрэмнае,
Што на неаб'езджаным недзе
У горад уедзе
Ісус Хрыстос.

III
Раскрыжаваныя рукі –
Нібы
Разнятыя для палёту крылы.
І голас архангельскае трубы
З крыніцы смагі нап'ецца сілы...

І ўбачыш такое ў сабе самым,
Што пабаішся пасвіць вачыма...

Аднойчы ўвайшоўшы ў Ерусалім,
Не зможаш
Выйсці з Ерусаліма...

## МАНАСТЫР ЛАТРУН

Тут сам сябе саромеецца крок.
Халодных сцен халодная ахова.
Пятнаццаць год маўчаць
Далі зарок
Манахі,
Каб ачысцілася слова.

З манахамі маўчаць
Віна, бяда,
Трывога ды гарластыя навіны.
Гавораць моўчкі позіркі, хада.
Кранае цішу ўсмех
Ды ўсхліп нявінны.

І толькі манастырскае віно
Прыняць зарок не хоча
Надта хмуры.
Адно
За ўсіх смялей шуміць яно,
Вяшчуючы народзіны й хаўтуры.

## І ДАГЭТУЛЬ...

Тут жыў рыбак Сымон.
І камяні
Як быццам і дагэтуль
Пахнуць цінай.
Было,
Чакалі сеткі глыбіні,
Аблокамі навісшы над хацінай.

І мора Галілейскае ўраджай
Не выпускала з хвалістых засекаў,
І рыбакі пачулі праз адчай:
– Я вас зраблю  лаўцамі чалавекаў...

Назваў Сымона Пётрам Бог жывы,
Каб збыўся каменем Царквы Ягонай.
І, гаспадар гарачай галавы,
Апостал не спяшаўся
Стаць іконай.

Ён завагаўся, морам ідучы,
І пеўнеў крык пачуў,
Каб адрачыся.
І ў вернасці да скону кленучыся,
Ад брамы раю атрымаў ключы.

## ВЫХАД

І праявіцца будзе час праяве,
А цеста закісліць няма калі.
І ўцёкам з рабства
Сам Гасподзь спрыяе,
І ў ценяў за плячыма хатулі.

Дык на вадзе ўчыняй муку няволі,
І цеста прэснае, як дні твае,
Кладзі на плечы –
Сонца агнявое
Хай праснакі пячы не прыстае.

І вёў Майсей...
І пёк пясок, як прысак...
Не скажуць ні дажджы, ні маразы:
У праснакоў саленаваты прысмак
Ад поту
Ці ад радаснай слязы...

***

Чым Бог бліжэйшы да зямлі,
Тым Ён нябеснейшы...
І тут, відаць,
Прывычна дзіва здзейсніўшы,
Уборы, што з блакіту,
Лёгка скіне – і,
Нябачны, ўбачыцца
Сляпым і жабракам.
Як выдых, выйдзе
З ветрасценнай скініі,
За Сынаў боль
Даруючы цвікам...

*1993*

*Як у сцюдзёную раку,*
*Памалу ў Біблію заходжу,*
*Бо веру, што душу злагоджу,*
*І, думаю, бяду ўраку.*

*Плыве ўладарыста рака,*
*Развітваецца з берагамі.*
*І змарнаваных дзён пергамент*
*Жаўцее ў крылах ветрака.*

*Ніякавее парахня,*
*У прах ператварыўшы порах.*
*Глушэе боль,*
*Маўчыць брахня,*
*І страх не варухнецца ў норах.*

*Свяжэе потых сівярка,*
*Чужэе цесната людская.*
*Душу спакоем абмывае,*
*Як свет, глыбокая рака.*

*Я выйшаў насустрач чужынцу,*
*і ён пракляў мяне ідаламі сваімі.*
*Псальм 150:6*

Чужыя ідалы халодныя –
Аж сцюжаю душу шкрабе.
Чужыя ідалы галодныя –
Усё ядуць як не ў сябе.

Чужыя ідалы ядвабныя,
Дзе ў вабнасці стаіўся яд.
Чужыя ідалы, як вапнаю,
Пабеляць здрадай шэры сад.

На гонях родных
Рунь рунейшая.
Свой страх тужэй ратугу ўе.
Хай у радне,
Таму й раднейшыя
Бываюць ідалы свае...

*Усюды ходзяць бязбожныя, калі*
*нікчэмнасць з сыноў чалавечых узвысілася.*
*Псальм 11:9*

На ўсё стае бязбожных,
Бо яны
Жывуць, каб толькі
Жыць валадарамі
І д'яблавымі цешыцца дарамі,
Пакуль у пугу верацъ табуны.

На ўсё стае бязбожных,
Бо яны
Стараюцца сябе зрабіць багамі.
І ў Божым храме
Хам крычыць у хаме,
Павагу й зайздрасць
Мае да маны.

На ўсё стае бязбожных,
Бо без іх,
Відаць, было б і небу сумнавата.
І ціхі кат за брата лічыць ката.
І вечны грэх
На ўсё глядзіць, як мніх.

На ўсё стае бязбожных,
Бо праз іх
Нікчэмнасць узвышаецца пыхліва.
І пустазеліцца людская ніва,
А не ўцячы ёй
Ад сярпоў тупых.

*Вусны ўзносяць да неба – а іхны*
*язык па зямлі валачэцца.*
*Псальм 72:9*

У вуснаў ёсць дамова з языком.
Пра гэта змоўчыць цішыня нямая.
Язык трымацца мусіць пад замком,
А неспасціжны ключ душа трымае.

Бо вусны – вусце думкі,
Што сама
На выйсце просіць у душы дазволу.
На думку кратаў і замкоў няма.
Бянтэжыць думка ерась і крамолу.

Душа – гняздоўе
Прыцемку й святла.
Хто ўзважыць,
Што ў душы пераважае?
Не раз палону тлен пераджыла
Душа.
Яна й твая табе чужая.

Часовыя,
Не ведаем, калі
Душа пакіне нас,
Як думка высі.
Але язык не вінен па зямлі,
Як пуга пастухова, валачыся...

*Бо не ад усходу і не ад захаду*
*і не ад пустыні ўзвышэнне...*
*Псальм 74:7*

Не ўзвышэнне сябе самога,
А ўзвышэнне з самога сябе –
Непадсільная перамога
У нясконччанай барацьбе.

Не ў дагоду
Сцежка з усходу,
А ў халодную ноч вядзе.
Захад захады робіць,
Выгоду
Выглядае сабе кагадзе.

І спякотны вецер з пустыні
Не асушыць слёзы з вачэй.
Дол нагрэецца ды астыне.
Разбаліцца боль балючэй.

Над забытасцю, над імшою,
Над прадоннем цёмнай маны,
Над спустыненаю душою
Мусіць голас узвысіць
Нямы.

Мелкія ў суцяшэння кішэні,
Хто не клаў у іх, той дастае.
Узвышаймася.
Бо на ўзвышэнне
Вышыні ў нябёсаў стае!

*Я зрабіўся як сыч у руінах...*
*Псальм 101:7*

Руйнуе нявечнае час –
Усё, што з граніту ці з гліны.
Руйнуе сівыя руіны,
Трымае нібы напаказ.

І людзі,
І птушкі, й звяры –
Жывыя руіны руінаў.
Пакінуў іх Бог для ўспамінаў
Пра страчаны рай да пары.

Высока сябе несучы,
Сплываюць вякі ды аблокі.
І страх,
Быццам сыч вірлавокі,
Турбуе руіны начы.

*Сонца ведае свой захад.*
*Псальм 103:19*

Дні на зямлі твае
Як дзень адзін.
Калі ён скончыцца –
Ніхто не скажа.
Ты знікнеш –
Не заўважыцца прапажа.
Рацэ няўцям,
Як шмат растала льдзін.

Твой цень апошні
Цемра ахіне.
І ўжо не зразумееш,
Дзе ты, хто ты,
І ад цябе ў маўклівай старане
Адступяцца надзённыя турботы.

Пакуль твой дзень,
Старайся ўсё паспець,
Бо дарабляць не вернешся,
Магчыма.
Пакуль заход
Яшчэ не хоча цьмець,
Кон пазірае добрымі вачыма.

І сонца –
Служка боскай мілаты –
Стараецца шчырэй
Разліць лагоду.
Яно свой захад ведае,
А ты
Не ведаеш ні заходу, ні ўсходу.

*Каб пачуць стогны вязняў...*
*Псальм 101:21*

Вязні – як вузялкі
На вяроўцы пакуты.
Не парвецца ў ратужнай вяроўкі
Цярпенне.
Будуць небам
Нявінныя стогны пачуты.
Душы праведных
Знойдуць сцяжыну збавення.

Шыю катаву,
Як маладая каханка,
Абаўе непаслабна
Вяроўка старая.
Стануць цені ахвяраў
Ля вечнага ганка.
Хто нявінных гнясе,
Тога Бог пакарае.

Стогны вязняў
Да сэрца прымае цямніца.
Ды ў няволі каменнай
Каменная воля.
Стогну вязняў
І здрада, і ўлада баіцца.
Ў нетутэйшага дрэва
Згінаецца голле.

*Ці на неба ўзыду – Ты там;*
*ці сыду ў апраметную – і там Ты.*
*Псальм 138:8*

Ты са мною
І ў радасці, і ў бядзе,
І ў сумятні́ віратлівай,
І ў цярплівай маркоце.
Тваё павадырства
Па свеце вядзе,
Ты крылле, як ластаўцы,
Даеш душы́ на адлёце.

Ты са мной,
Каб не быў я ў самоце нідзе.
Ласка Твая маладая
Ад знянацкай надзеі.
Кара Твая відушчая ведае,
Дзе
Жыве дабрыня,
Дзе ліха лішаць ліхадзеі.

Я да скону ў палоне Тваім,
І пасля
Папрашуся застацца
У вечным палоне душою.

Я з Табою,
Пакуль мяне носіць зямля.
І калі перастану быць,
Застануся з Табою.

*Праўда пойдзе перад Ім*
*і на дарогу паставіць свае ступакі.*
*Псальм 84:14*

Праўда ўперадзе
Не павадыркаю ходзіць.
На дарогу стаўляе свае ступакі,
Па якой перад ёю ступалі вякі.
Праўда тое, што неба схавала,
Знаходзіць.

Хоць з наўпростай дарогі
Смяецца крывая,
Праўда ходзіць
Наўпростай дарогай здаўна.
Як і мы,
Праўда ходзіць пад Богам,
Яна,
Як і мы за яе,
За нясхібнасць трывае.

Праўда йдзе па зямлі,
Дзе сумёціцца смецце,
Дзе за ёй неадступна
Цікуе мана.
Не прывыкла сябе
Вінаваціць віна.
Верыць ноч,
Што яе апраўдае дасвецце.

*Хто з плачу нясе насенне,*
*вернецца з радасцю,*
*несучы снапы свае.*
*Псальм 125:6*

Зерне плачу рунее,
Каб спела
Зазвінець смелаю збажыной.
Толькі тое,
Што доўга зімела,
Не нацешыцца доўга вясной.

І на памяці поля снапамі
Засмяецца ўраджай,
Як багач.
Покуль густа снягі не напалі,
След вятроў даганяціме плач.

І савецьме дакука савою,
Што аблётала гнёзды не ўсе.
Маладзіцаю перад сабою
Радасць
Лёгка снапы панясе.

*Узнаві нас, Божа ратунку нашага,*
*і спыні абурэнне Сваё намі.*
*Псальм 84:5*

Усынаві наноў
Блудных Сваіх сыноў,
Узнаві нас, спыні
Сваё абурэнне намі
І вярні тыя дні
Нам і нашай зямлі,
Калі
Мы сабою былі.

Мы зараслі
Лясамі хлусні.
Пачуй нас і пакарчуй
Пакоры нашае пні.
Схілі спагады аблокі
І нашыя крокі
Да прорвы спыні.

Аслані
Даланёй дабрыні,
Абарані
Нашыя карані,
Ахіні
Плашчом вышыні.

Хай спрахне наш страх,
Хай затоне ў вірах
Палон і праклён чужы.

Зняверлівых
Ад нас адмяжуй.
Памяркоўнасць нашую
На крыжы
Укрыжуй!

*Нахілі, Госпадзе, вуха Сваё,*
*і пачуй мяне...*
*Псальм 85:1*

Дзякую, Ўсявышні, Табе
За кожную лішнюю хвілю,
За кожную зморшчыну на ілбе,
За сілу й за бяссілле,
За дзірван і за араллю,
За пустку й за пушчу,
За тую зямлю,
Дзе люблю й не люблю,
І дзе я вочы заплюшчу.
Дзякую за цемру й святло,
За маміны вочы,
За ўсё, што было
І што не было,
Дзякую, Ойча...

*Ты паставіў зямлю на цвёрдых асновах...*
*Безданню, як вопраткаю, накрыў Ты яе...*
*Псальм 103:5–6*

Зімой завірухі ідуць у попрадкі,
Матаюць ніткі дажджу
Навальніцы,
Каб толькі ты
Не была без вопраткі,
Каб не згарэць табе
І не застудзіцца.
Якімі ткачамі бездань сатканая,
Пашыта краўцамі якімі?
Ахінала цябе ахінае з пашанаю,
Покуль трывогу час не пакіне.

Цябе –
Пылінку няіснасці кволую –
З далані свае не здзьмухне
Магута.
Бясконцасць цябе спавівала
Голую.
Вырасцеш –
Будзеш калісьці пачута.

*Ісціна ўзнікне з зямлі, і праўда*
*прыхіліцца з неба...*
*Псальм 84:12*

Не на тушчай –
На нашчай зямлі
Так, як асака разучая,
Ісціна –
Парабчанка разутая –
Галаруч нясе вугалі.
Зоркамі вугалі былі,
Ды зрабіліся зоркі
Знічкамі.

Буры
Дрэва жыцця не знішчылі.
Задрамаў туман у быллі.
З вугалёў выдзімаць святло –
Гэта ўмецтва
Зямное й нябеснае.
У міжзор'і
Праўда ў журбе снуе,
Хмарачы небасхілу чало.

Праўда да зямлі прыпадзе,
Бо на хмары не абаперціся,
Ісціне і пра смерці ўсе,
І пра жы́цці распавядзе.

*На горах воды стаяць.*
*Псальм 103:6*

Зацякаюць ногі ў вады.
Знадакучыць стаяць на стромах,
І тады,
Ашукаўшы брады,
Расцячэцца па сцежках знаёмых.

І паверыць вада вадзе,
Выбегшы
З-пад крыса аблокаў,
І сябе павядзе,
Дападзе
Да таемных сваіх вытокаў.

Там,
Дзе небава стома стаіць,
Вечны Позірк паставіў воды.
Горам
Смутак свой не стаіць,
Горам
Гоіцца боль лагоды.

*Няхай прынясуць горы мір людзям*
*і пагоркі праўду...*
*Псальм 71:3*

Горы ўгарбелі, мір несучы,
Праўдзе пагоркі падставілі спіну.
Людзі чакаюць лепшай пары.
Гоняць плыты прамянёў асначы,

Ім ні супыну няма,
Ні спачыну,
У асначы падаліся вятры.

Несці нялёгка
Праўду і мір.
Горамі вырасці мараць
Пагоркі.
Як жа пагоркам
З маленства ўцячы?
Аж закіпае ад зайздрасці вір,
Робіцца ветах ад рэўнасці
Горкі.
Людзі й не думаюць дапамагчы.

*Хай у далоні пляскаюць рэкі...*
*Псальм 97:8*

На даланях у рэкаў
Няма віны,
Рэкі нічога нікому не вінны.
На даланях у рэкаў чаўны,
На даланях у чаўноў
Дамавіны.
Дамавіны ў далонях
Няволяць час,
У рэкаў з далоняў
Сплываюць аблокі.
З далоняў поймаў,
Адбыўшы папас,
Узлятае смутак глыбокі.

І калі ганец прынясе
Дасвеццю радасныя навіны,
У далоні пляскаць усе
Будуць
Не таму, што павінны.

*Няўжо не ўрымсцяцца беззаконнікі,*
*якія народ мой ядуць, быццам хлеб?*
*Псальм 13:4*

Прыхадні разяваюць галодны рот,
Раскашуецца распуста й песта.
Як жытні хлеб,
Усе ядуць мой народ,
А ў дзяжы падыходзіць
Вясёлае цеста.

І з цеста пячэцца трывалы хлеб,
Якому на абрусах вельмавацца.
Снапы малоціць чужацкі цэп.
Хлеб спажывае халодная праца.

Ды чужакоў аднойчы змяце
Вецер цярпення маўклівы,
Бо дужы.
І ўзыдзе
Наш каравай на куце,
Асвеціць сасмяглыя нашыя душы.

*Бо ў смерці няма пра Цябе*
*памятання: у магіле хто*
*Цябе славіць будзе?*
*Псальм 6:6*

Слаўлю Цябе
І жыву я Табой,
Госпад,
А смерці гэта няміла.
Толькі не можа
Вечны спакой
Даць мне сырая магіла.

Твой неспакой
Не пакіне мяне,
Ён у душы не загіне.
Твой неспакой
Цішыню прыхіне,
Жыціме ў мёртвай даліне.

І дамавіны глухая турма
Страхам душу не стрымае.
Будзе душа мая
Славіць сама
Госпада,
Нават нямая.

*Высахла ад маркоты вока маё,*
*пастарэла яно праз маіх ворагаў.*
*Псальм 6:8*

Бачыць далей маладое вока,
Вока старое глядзіць глыбей.
Ранняя вестка, як тая сарока,
З лесу хутчэй ляціць да дзвярэй.

Позняя вестка, як тая варона,
Глуха чарнее на голым суку.
Поўніцца вока старое бяссонна
Смуткам,
Як поўня на скразняку.

Высахнуць цяжка воку,
Як мору.
Толькі калі высыхае яно,
Здасца прадонным
Галоднаму гору,
Ціхаму небу пакажацца дно.

*Вычарпалася ў скрусе жыццё маё,*
*і леты мае ў стагнотах...*
*Псальм 30:11*

Прыгоршчамі маладзіка й веташка
І даланёю поўні
Вычэрпвае дні мае скрухі рука,
Дапаўшы да апошняе схоўні.

Вычэрпвае,
Як з чаўна ваду,
Вычэрпвае й дно вышкрабае.
Я следам за ценямі дзён іду.
Вярнуць іх надзея слабая.

Спяшаюцца цені,
Знікаюць яны,
Не ведаючы ляноты.
І застаюцца са мною адны
Скруха мая ды стагноты.

*Дзень дню перадае слова, і ноч*
*ночы адкрывае веды.*
*Псальм 18:3*

Ноч з галавы,
А дзень жыве з вачэй.
Ноч грэшна бавіць час,
А дзень пацешна.
Ноч думае,
А дзень сабе хутчэй
Стараецца ўсё выгаварыць
Спешна.

Дзень перадаць
Наступніку свайму
Спяшае недамоўленае слова.
Сэнс грэецца ля зорак
І таму
На долы абніжаецца часова.

Як ні шапчы,
Як крычма ні крычы, –
Сэнс рэдка адгукаецца на словы.
І веды ноч перадае начы,
А ў ведаў зірк
Прыхмарана суровы.

Як не сляпы,
Той зірк убачыш ты.
Калі й сляпы,
Адчуеш зірк душою.
Відушчым зробішся ад віднаты,
І станецца сваім табе чужое.

*Ненавіджу шаноўцаў*
*марных ідалаў...*
*Псальм 30:7*

Шаноўцы марных ідалаў,
Яны
Шануюць больш сябе
Ды свой дастатак.
І гневу халастыя перуны
Абрынуць любяць
На астатні статак.
На тых,
Што не паспелі дапаўзці,
Каб з ідалавых жалабоў
Напіцца.
У масць лыч да лыча,
Поўсць да паўсці.
Хвалу ўздаюць
Лявіца ды правіца.
Растануць ідалы,
Як тая мга,
І зменяць хваласпеў на момант
Плачы.
І ўжо да новых ідалаў чарга
Цягнуцца будзе,
Быццам хвост сабачы.

*Не схавай ад мяне аблічча*
*Свайго...*
*Псальм 26:9*

Бачу вочы Твае,
Хоць Цябе я не бачыў ніколі.
Чую голас Твой вышні,
Хоць ніколі не чуў я Цябе.
Гэтак вязень сляпы
Бачыць вочы забытае волі,
Гэтак чуецца голас знядзелены
Немай мальбе.

А Табою малюся,
А Табою смялею й баюся,
А Табою дазволены жыць,
Паміраю й жыву,
А Табой паддаюся,
А не паддаюся спакусе,
А са страхам і верай
На плаху Тваю
Я кладу галаву.

Чуць ды бачыць Цябе –
І зашмат, і замала.
Гэта ласка нябесная –
Слухаць Тваю цішыню.
Ты задумаў мяне
Мудра а дасканала.
Я пахібіў Твой плён,
І сябе я за гэта віню.

*Калі я пайду далінай*
*смяротнага ценю...*
*Псальм 22:4*

Са мной паміраціме
Цень мой жывы.
І цень мой
Нябожчыкам стане таксама.
Зачыніцца глуха нябесная брама,
Не ўбачу ў даліне
Ні хмар, ні травы.

Паселіцца вечная ноч уваччу.
Сваё адхвалююся,
Адлетуценю.
У змрочнай даліне
Смяротнага ценю
Я з ценем сваім развітацца хачу.

Бо цень быў
Напарнікам мне і віжом,
Сачыў, віжаваў,
Дзе б ні жыў пры святле я.
У зябкай даліне
І цень мой скалее,
Не выпырхне ні вераб'ём,
Ні стрыжом.

На сцежцы стаптанай
І на ярыне
Кунежна слядам
І нястрымна трымценню.

І покуль жывы, давяраюся ценю,
Бо ценіцца цень
І дрыжыць за мяне.

*Яліны – пад жытло буслам...*
*Псальм 103:17*

Яліны –
Зялёныя скініі,
Прыстанак прысталых крокаў.
Нябёсы на стрэхі ім скінулі
Буслоў,
Як акраўкі аблокаў.

Сціха́ адхінаюцца клёкатам
І цішаю клямчацца дзверы.
Зямным і нябесным клопатам
Буслы
У ялін у даверы.

І позірку ўроіцца смелае:
Прыняўшы дасвецця палоны,
Стаіць,
Ад чакання здранцвелая,
Яліна,
Як бусел зялёны...

*З улоння дзянніцы падобнае*
*да расы Тваё нараджэнне.*
*Псальм 109:3*

І за расу, і за слязу нічога
Чысцейшага няма.
Раса сама
Нагорнецца на вока Пана Бога,
Не разбурыўшы воблік абраза.
І на зямлі, далёкая ад бруду,
Раса зайздросціць
Зерню на сяўбе.
Падлеглая паўторанаму цуду,
Расінка
Сонца носіць у сабе.

Раса й краса
З нічога не ўзнікае.
Лёс крочыць пеша.
Воз сябе вязе.
І радасць,
Як рачулка гаваркая,
Смяецца і ў расінцы,
І ў слязе.

Вераадступніка чакае згуба.
Самапрысуд –
Як брытва ў два лязы.
Пяшчоціцца ў расінцы
Сонцу люба,
І ўтульна роспачы
На дне слязы.

*Пастаў над імі бязбожнага,*
*і д’ябал хай стане праваруч яго.*
*Псальм 108:6*

Над тымі,
Што назваліся людзямі
І рохкаюць галодна ля карыта,
Пастаў бязбожнага,
Няхай яны
Плывуць ракою забыцця ладдзямі,
Няхай спяшаюцца парнакапыта
Падставіць хілы хіб пад бізуны.

І праваруч ад самаўладца-хама
Самога д’ябла ў чорным ахінале
Пастаў,
Няхай пасведчыць чарадзе
І светласць хама,
І сваю таксама.
Каб дзякуй і за кратамі казалі
Бязбожніку,
Што ў шчасце іх вядзе.

А тое шчасце –
Мешанка густая
І рэдкая.
А тое шчасце ў спрыце,
У звадах за харчы перамагчы,
Абы не хутка ўбачыць
Дно ў карыце.
А дасць мароз,
Як адарваць лычы?

*Пройдзе над ім вецер, і няма яго,*
*і мейсца ягонае ўжо не пазнае яго.*
*Псальм 102:16*

Век чалавечы –
Як снег на галінцы,
Дзень чалавечы –
Як помах крыла.
Толькі за зёлкай
Паспеў нахіліцца –
Выпрастаць спіну
Труна памагла.

Кожнаму хочацца
Ліха аб'ехаць.
Лёс залагодзіць,
Чым нельга і льга.
Раніца хмар наахапчыць
На вехаць.
Пачырванее за вечар смуга.

Дол прыхарошыцца
Травамі гожа.
Сподзеў і страх –
Чалавеку свае.
Вецер дыхне – і няма,
І яго ўжо
Мейсца ягонае не пазнае.

*А тыя, што нас паланілі,*
*песняў ад нас патрабавалі,*
*а нашыя прыгнятальнікі –*
*весялосці...*
*Псальм 136:3*

Заваёўнікам трэба песняў
Ад нас,
Прыгнятальнікам – весялосці.
Толькі песня, яна –
Не вясельны кутас,
Каб дрыжэць у застольнае млосці.

Песня вольная
Вольную мае душу,
Не пяецца ў няволі ніколі.
Прастагнаць заваёўнікам
Можа імшу,
Зачасаць на магіле ім колле.

Весялосць захлынецца ад смеху,
Калі
Прыгнятальнік навек захлынецца.
І ўздыхнецца з палёгкаю
Роднай зямлі –
Аж ад радасці дол скаланецца.

*Як бацька даруе сынам,*
*так даруе Госпад тым,*
*хто баіцца Яго.*
*Псальм 102:13*

Светлая боязь душу ахінае.
Строме зайздросціць адхон.
Падае ніцма
Радасць зямная.
Марнасцю робіцца плён.

Страх
Перад Імем Тваім неназваным
Існай дарогай вядзе.
Грэх,
Што хацеў бы назвацiся панам,
Чэзне, як дым на вадзе.

А ці ў палацы,
А ці ў палатцы
Кайна хілю галаву.
Госпад!
Дазволь мне Цябе баяцца.
Покуль баюся – жыву.

*Не сплю і сяджу,*
*як адзінокая птушка на даху.*
*Псальм 101:8*

Адзінокая птушка на даху –
Дах вартуе,
Ці дах яе
І трымае, й бароніць
Ад страху.
Птушка прыцемкаў
Сумна пяе.

Адзінокая птушка на даху –
Ад падумкі той аднае,
Што крылу не стае размаху,
У пляніцу сябе аддае.

Адзінокая птушка на даху –
Забываецца песні свае.
За халодную апранаху
Вечару свой цень прадае.

*Уздыманне рук маіх –*
*як ахвяра вячэрняя.*
*Псальм 140:2*

Вячэрнюю ахвяру прыношу –
Ўздымаю рукі свае,
Яны
Трымаюць яшчэ сырую пакошу
З лугоў раскайнасці і віны.

Вячэрнюю прыношу ахвяру –
Узношу рукі свае.
Яны
Трымаюць, як ношу,
Цёмную хмару
Неўсвядомленае маны.

Не плоцячы вечнаму смутку
Мыты,
Прашу спагады ў наступнага дня.
Малюся,
Самым сабою забыты.
А можа, ўспомніць мяне
Вышыня?

*І просяць хлеба з руінаў сваіх...*
*Псальм 108:10*

Жабраваць па сваіх руінах –
Тое,
Што сябраваць з дварамі.
У забыўлівых прыпамінах
Кленчыць неіснуючай браме.

Жабраваць па сваіх руінах –
Тое,
Што сябраваць з вірамі.
Па абра́зах ісці й па кпінах
І гавець у разбураным храме.

Вандраваць па сваіх руінах –
Тое,
Што сябраваць з вятрамі,
Што нясуць на далёкіх спінах
Прах дзяржаваў
З рабамі й царамі...

*Дні чалавечыя – як трава...*
*Псальм 102:15*

А веку таго –
Ад касы да касы.
Таму так спяшаецца раскашавацца
Надзея ў руні на каласы,
Надзея ў рэха на галасы.
Траве застаецца адно –
Хваляваецца.

Травой зарастуць
І разлогі й лугі.
Адскочыць атава
Спаткацца з касою.
Як восень, пажоўкне
Трава ад тугі.
Успыхнуць зялёнааблочна
Стагі.
Загарыцца расе
Паўтарыцца красою.

*Хай памножацца смуткі ў тых,*
*што цякуць да бога чужога...*
*Псальм 15:4*

Пілнавацiся кожны мусіць
Роднага Бога,
Пілнавацiся кожны мусіць
Роднай зямлі.
Не цяплее душа
Ля цяпельца чужога,
Каласіцца туга
На чужой аралліі.

Толькі ў роднага Бога
І шчырасць, і ласка.
Родны Бог – родны бацька,
Бог чужы – як айчым.
Дома суха і ў багне,
На чужыне й на ўзгор'і гразка.
Некалькі ў ваднаго
Не бывае айчын.

*Каб не заснуў я сном смерці...*
*Псальм 12:4*

А сон жыцця –
Кароткі, як жыццё.
Сон у жыцця –
Трывожны, клапатлівы.
І чалавек – капрызнае дзіцё –
Ў кароткім сне
Спакойны ды шчаслівы.

У смерці сон
Даўжэйшы за яе,
Сон беспрабудны,
Цёмны, страхавіты.
Ніколі ён назад не аддае,
Хто зябкай павітухаю спавіты.

І, кватарант жыцця,
Пакуль жыве,
Ён ад жыцця
У сон жывы ўцякае,
Каб спадабацца
Смерці-удаве.
І спіць жыццё.
А іншы сон чакае.

*Дабрашчасны, хто возьме і заб’е*
*немаўлятак тваіх аб камень!*
*Псальм 136:10*

Хай сабе ён і ворагаў –
Чэрап дзіцячы.
Ён – маленькае неба,
Дзе небасхіл няпэўны
Трымаецца на радасным плачы,
Чэрап будучага пастуха
Ці царэўны.

Хай жа камень праклёну
Мяккай падушкай стане
З летуценнага пер’я
Залётнае аблачыны.
Хай аб наканаванні
Дзіця папярэдзяць здані,
Хай здымуць камень з сэрца
У змрочнай прычыны!

*Народ, якога я не ведаў,*
*служыць мне...*
*Псальм 17:44*

Там,
Дзе панішчаны гаспадары,
Пасуцца выслужнікі табунамі.
Ім лёгка чужых
Называць панамі,
Аднолькава ім
Ці ў хляве, ці ў двары.

Ім роднага бацьку
Замяніць айчым,
Якога палюбяць
За скібку хлеба.
Па звычцы
Яшчэ патурбуе патрэба
Назвацца народам.
Але якім?

*Чалавек падобны дыханню...*
*Псальм 143:4*

Бог уздыхнуў
Над стварэннем слабым.
Бог уздыхнуў –
І ўдыхнуў дыханне.
Дым, як туман,
І туман, як дым,
Папераблыталіся ў тое ранне.
Першая недзе звінела аброць.
Конь неаб'езджаны
Цешыўся з волі.
І, чалавека пакінуўшы доле,
Сумна
Падаўся ў неба Гасподзь...

*1997–1998*

## НОЙ

І першы крумкач вылятаў з каўчэгу
Зірнуць, ці паменеў патоп,
А пасля
Галубка, бялейшая пер’ем ад снегу,
Ляцела глядзець,
Ці падсохла зямля.

Усё, што крыляла, паўзло, капыцела,
Бы ў хісткай калысцы,
Ў каўчэгу жыло.
Душа пакідаць не спяшалася цела.
Усмешка да часу таіла святло.

І Ной быў падпаскам
У Бога самога
Ці першым царом у дзяржаве жыцця,
Дзе крыўдзіць ніхто
Не жадаў анікога
І гад быў рахманы, як тое дзіця.

Трымаўся каўчэг
На хрыбціне ў патопа.
Драмала дабро
Ля нявіннага зла.
Яшчэ маладая была Еўропа
І Азія смуглай яшчэ не была.

Абсяг захлынуўся
Ў нахлыне і ў гуле,
І хваля вучылася глыбы глушыць.

Усё дапатопнае воды глынулі,
Каб пасляпатопнаму
Зноўку грашыць.

Калі з зялёнай галінкай алівы
Галубка вярнулася ў цесны каўчэг,
Смялеў Ной маўклівы,
Святлеў свет цярплівы
І час не спыняў свой маўклівы бег.

## СОРАК ГОД

І вадзіў сорак год Майсей
Па пустэльні народ свой цярпліва.
І загадваў змроку: лысей,
Прыручыўшы за дзівам дзіва.

На чарэнь пустэльні расой
Ападала з нябёсаў манна.
Спавіваў вінаградны лазой
Смяглы прыпар тугу старанна.

Перапёлкі густой чарадой
На вячэру самі ляцелі.
І расло пад цяжкой ступой
Ад нясцерпнае стомы зелле.

І Майсей у скале скупой
Посахам высякаў крыніцу.
Дым ахвярны, як той спакой,
Мусіў Богу прыемна віцца.

І ў Егіпет хацеў не раз
Знецярпелы народ вярнуцца.
Рабскія ланцугі якраз
Не даюць душы развінуцца.

І Майсей сорак год блукаў,
Каб знявер'е ступіла кіпці,
Каб апошні ў пустэльні сканаў
Той, хто помніў рабства ў Егіпце.

## КАЙНАСЦЬ

Ціхі Авель авечак пас,
Каін, брат яго, земляробіў.
Кожны Богу свой дар прыпас
І паклонам зямным аздобіў.

Бог прыняў ад Авеля дар,
Авеля прыхінуў,
А ў брата
Не прыняў дар Усёўладар.
Каін і запытаў вінавата:

– Мой чаму не прыняты дар?
Я прынёс, што зямля ўрадзіла.
– Калі чыніш дабро, дык твар, –
Бог сказаў, – не ўнурай паныла.

Як не чыніш дабро, у дзвярох
Грэх ляжыць,
Да яго цябе цягне.

Каін крыўду змагчы не змог
І завяз у помслівай багне.

Цёплым полем браты ішлі,
І ляжаў там закляты камень.
Каін камень падняў з зямлі,
І забіў свайго брата Каін.

Бог пытае:
– Дзе брат твой знік?
– Я не ведаю, – Каін кажа. –
Хіба ж брату я вартаўнік?
Гэта ўжо не мая прапажа.

Бог сказаў:
– Чую голас крыві,
Што з зямлі да Мяне гукае.
Валацугай цяпер жыві
І выгнаннікам з небакраю.

І дасюль на месяцы ўсе
Бачаць цень чалавека гарбаты.
Гэта брата заплеччу нясе
Каін,
Богам навек пракляты.

Мусіць ён да скrandчэння дзён,
Хілы раб свайго сэрца злога,
Несці братазабойчы праклён,
Бо прылашчыў крыўду на Бога.

## СПАКУСА

У сад Эдэмскі пасяліў Гасподзь
Адама голага й заўважыў ціха:
– Усё тваё.
Адно не падыходзь
Да дрэва ведання дабра і ліха.

З Адамам Ева голая была.
Слоў сораму не вымаўлялі вусны.
Цяпла ставала і было святла.
Але аднекуль выпаўз
Гад спакусны.

І надкусілі яблык сакаўны –
І сплыў туман з вачэй,
Не стала казкі.
І ўбачылі, што голыя яны.
Сплялі з лістоў фігoвых папяразкі.

Бог выкляў гада, загадаў яму ж
Пыл тлусты есці і хадзіць на бруху.
І Еву вырак:
– Панам будзе муж.
У скрусе нараджацьмеш,
Слухаць скруху.

– Жывіцца будзеш палявой травой, –
Сказаў Адаму, –
І карміцца з працы.
З зямлі ты ўзяты, станеш зноў зямлёй.
Ты пыл і пылам мусіш паўтарацца.

Бог выгнаў грэшнікаў з Эдэму вон,
Адзеў іх у адзежу скураную.
І кожны чалавек да скону дзён
Хітруе, спакушаецца, раўнуе.

Дык хто наслаў спакусу,
Гад ці Бог?
Хто Еву хітрым надзяліў імпэтам?
Калі б Адам спакусу перамог,
Ці мы былі б цяпер
На свеце гэтым?

## ПАЛОМНІЦА

Паломніца зорка над імі ішла,
Вяла каралёў пакланіцца.
А зорка была з незямнога святла,
Як зерне з Гасподняй сяўніцы.

Яна ў Бэтлеем каралёў прывяла.
І ў яслях Дзіцятка ляжала.
Хвала суцішала дыханне вала.
Спакора каня падкавала.

Хацелі пакінуць сябе валуны.
І ў цемры не гнулася выя.
У яслях світаў Нараджэнец зямны,
Над Сынам вачэла Марыя.

І скарбы паклалі Яму каралі –
І золота, й міру, й кадзіла.
І, ўкленчыўшы,
Іншай дарогай пайшлі.
Там іншая зорка хадзіла.

Укленчыць Дзіцятку прыйшлі пастухі,
Прапахлыя сонцам, вятрамі.
І ціха стаялі зямныя грахі.
І чуткі слязу выціралі.

Лес цёмны людскі
Зарастаў і хлудзеў.
І зоркі ўзгараліся й гаслі.
Цярпліва спагадлівы Бацька
Глядзеў
На свет змаладзелы,
На яслі...

## ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА

Хто прадасць Яго,
Ведаў Хрыстос,
Ведаў, і за якую плату.
Ведаў, што нецярпелася кату,
Што спяшаўся здзейсніцца лёс.

– І адзін з вас здрадзіць Мяне, –
Ён сказаў.
І вучні маўчалі.
Адказаў:
– Хто са Мной мачае
Ў місе зараз руку ўцямне.

– Ці не я, Раббі? –
Юда спытаў.
– Ты.
Пасля паламіў букатку:
– Ешце Цела Мае даастатку,
Піце кроў,
Што за ўсіх аддаў.

Недзе заскавытаў скавыш.
І закончылася вячэра.
Маладая мужнела вера.
Выйшаў з хаты
Свой несці крыж...

## ПРОСЬБА

На ўсіх хапала сляпых цвікоў
І не хапіла відушчага жалю.
Апоплеч Хрыста
З абодвух бакоў
Двух разбойнікаў укрыжавалі.

І, лёсаўкі кідаючы,
Хутчэй
Вопратку падзялілі жаўнеры.
І аблачынка ў Хрыста з вачэй
Піла слязіны балючай веры.

І падавалі воцат Яму,
Каб смагу прагнаў,
І кпілі:
Усіх ратаваў Ён,
Тады чаму
Сябе ўратаваць
Не ў Ягонай сіле?

Адзін з разбойнікаў
І папрасіў Яго,
Дабываючы сваю прыжыццёвую кару:
– Як прыйдзеш да Гаспадарства Свайго,
Успомні мяне, Спадару.

І пачуў:
– Кажу табе сапраўды,
Сёння будзеш са Мной у ра́ю.
Абыякава йшлі гады,
Гналі перад сабою людскую зграю.

Змяркаўся ціха ў разбойніка зрок.
Свае аблогі імгла займала.
Да пекла шлях –
З крумкачыны крок,
Да раю –
Жыцця зямнога замала...

## ПЕРАМОГА

Не стылі доўга на крыжы цвікі.
Ісуса пахавалі на гародзе,
Каб узышоў у чалавечым родзе
Нанова дух Ягоны на вякі.

І спавілі Яго, як немаўля.
І прывалілі каменем пячору.
І грузна камень лёг на грудзі гору,
Якім запаланілася зямля.

Калі да ўсходу сонца да труны
Прыйшлі Марыя Магдалена й Маці,
З сабою ўзяўшы пахнасці ды масці,
Труну пустую ўбачылі яны.

І камень адкаціўшы ад дзвярэй,
На ім сядзеў анёл.
Як бліскавіца,
Ён быў.
Дарма шукалі маладзіцы
Ісуса, не шкадуючы вачэй.

Анёл сказаў ім:
– Уваскрос Хрыстос!
Ідзеце й вучням
Гэта ўсё скажэце.

І паспяшалася світанне ў свеце.
І небу дзячліва ўсміхнуўся лёс.

Дабро квітнела й камянела зло,
Як камень той,
Што глух каля пячоры.
Душа жадала звыкнуць да пакоры.
Жыццё сляпую смерць
Перамагло!

## НАКАНАВАННЕ

І рукі ўмыў Пілат,
Калі не змог
Адмыць віну
За свой прысуд крывавы.
Відаць, натое клапаціўся Бог,
Каб не звяліся на зямлі варавы.

Каб выбіраць
Людской галдзе было б
Спаміж жыццезагубцам і Месіяй.
Каб небасхіл хмурыніў жалем лоб,
Каб даравання ўсе вякі прасілі.

І лямант «укрыжуй!» укажанеў.
Нябёсы нылі зорнымі цвікамі.
Спалохаўся сябе самога гнеў.
І цені ад зняверцаў уцякалі.

І пугі, як маланкі, абвілі
Хрыстова цела
І шчырэлі люта.
І свой халодны позірк адвялі
І марная гардыня, і пакута.

Вятох падумаў:
Хоць я і вішу,
Ды зменіць маладзік маё цярпенне.
А не адмые ад крыві душу
Ніводнае зямное пакаленне.

## ЗРАЧЭНЕЦ

Свет змаладзелы не хацеў старэць.
Губляў з ахапка вецер сцюжу шчодра.
Хацеў спазнацца неспазнаным Пётра.
Цяпельца тлелася сябе сагрэць.

Агонь усхліпваў, ціха стыгнуў дол.
На Пётру паслугачка й паказала:
– З Ісусам гэны быў, яго пазнала.
– Не я! – і азірнуўся навакол.

– З Ім быў, – сказаў нявольнік святара,
Якому Пётраў меч адскепіў вуха.
– З Ім быў не я! –
Пярэчыў Пётра глуха
І з двору выйшаў,
Як з свайго нутра.

– А ці не ты ж у садзе з Ім сядзеў? –
Другі нявольнік запытаў сувора.
– Не я! – ўпіраўся Пётра.
Гэта ўчора
Хацела заўтрашні злагодзіць гнеў.

І запяяў знянацкі певень тут.
І Пётру ўчуліся Хрыстовы словы:
«Мяне зрачэшся тройчы», й, безназовы,
Пайшоў зрачэнец сцежкаю пакут.

Каб новы дзень будзіць
І весціць скон,

Світальны голас пеўню быў пасланы.
Яшчэ Спадар нябесны ў знак пашаны
Даў права ў хлеве мець высокі трон.

А Юда знік,
Каб дух яго не ўзнік,
Куды і певень голас не даносіць.
Бог чуе тых,
Хто даравання просіць.
І Пётра ўжо вякам губляе лік.

## ВЫРАТАВАННЕ

Старалася чутка ўперадзе бегчы.
Гром здзіўлены заікаўся на ўзгрыме.
Абнізіўся долу Сын Чалавечы,
Каб есці ды піці віно з усімі.

Адзін фарысей папрасіў з ім пад'есці.
Ісус і ўвайшоў у дом фарысея.
І ўзлёг Ён,
А чутка бегала дзесьці,
І вочы віны пакаянна раселі.

І ў дом фарысея грэшніцу чутка
Паслала з паўнюткай судзінай міра.
І, стаўшы ў нагах Ісуса ціхутка,
Як хмарка, слязьмі пралілася шчыра.

Малілі вочы.
Маўчалі словы.
Бязгрэшныя думкі святло выкрасалі.
Слязьмі яна мыла ногі Хрыстовы,
Выцірала ціхімі валасамі.

А мірам масціла, а цалавала
Яму ступакі ды крыўды глытала.
Глядзеў фарысей, але не ўтрывала
Здзіўленне ягонае й запытала:

– Ці ведаеш, хто да Цябе дакрануцца
Пасмеў?
А Збаўца спытаў:
– Сымоне,
Ты даў хоць вады Мне,
Спамог разуцца?
Ці Я ў гасцях у цябе,
Ці ў палоне?...

Яна не шкадавала нічога,
Грахі свае на ланцугу трымала.
Хто многа любіў – даруецца многа,
Хто мала любіў – даруецца мала.

Яе ўратавала ейная вера, –
Сказаў Ісус.
І ў сэрцы з Ісусам
Пайшла.
І сталася ў свеце няшэра.
І неба рунела зорным абрусам.

## ЯЗЭП

Язэп быў сынам старасці ягонае,
І Якаў кволіў меншуна шчасліва.
Хітон пуляты справіў,
Каб будзённае
Не захлынала шэрасцю памкліва.

Братам Язэп з наіўнасцю малечаю
Сон распавёў:
«І мы снапы вязалі.
І ўстаў мой сноп,
І вашы моўчкі ўкленчылі
Майму...»
І ўжо браты не мелі жалю.

І ўзненавідзелі з лютосцю шчыраю
Язэпа-сненніка,
І замаўчалі.
І ў подумках глыбока я́му вырылі,
І чвартавалі сцятымі вачамі.

...Язэп з братамі
Пасвіў статак збродлівы.
І кінулі браты Язэпа ў яму.
Прэч падаліся цені безбародыя.
І ява за сябе прымала ўяву.

І селі есці хлеб.
Ды тут пабачылі,
Што караван спыніўся з Геліяду.
А верблюды вязуць гасцінцы смачныя.
І тут прадаць надумаў Юда здраду.

Далі купцы за брата дваццаць срэбнікаў
І да Эгіпту павялі Язэпа.
І дакараў Рувін братоў-бяскрэўнікаў.
Ад сораму, здалося, неба слепла.

Братапрадаўцы казляня зарэзалі
І ў кроў хітон Язэпаў занурылі.
Палілі слёзы
Бацьку шчокі чэзлыя.
І вера прымярала смутку крылле.

Не думалі,
Што брат аддзячыць ласкаю
За гнеў,
Калі Язэпа прадавалі.
Цвіце на лузе лёсу згода краскаю.
Хапае клопату нябеснай жалі.

Ад першадзён
Пярэчыць зайздрасць злагадзе.
Вякі глядзяць вачыма недачэпаў,
Ці воблака змяркаецца на захадзе,
Ці крывянееецца хітон Язэпаў?...

*2001*

## ПЕСНЯ ПЕРШАЯ

Хай мяне абцалуе ён
Цалаваннем вуснаў сваіх!
Бо пешчы твае хмялейшыя за віно.
Ад пахучасці масцяў тваіх
Твайго ймя дасконны палон.
Як міра, разлітае
Нябёсам на дно, яно.
За нявытхнутае, аблачыністае
І кахаюць цябе дзяўчыністыя.
Памкні мяне, пабежымо за табой.
Кароль павёў мяне да сваіх харомаў.
Будзьма радавацца і цешыцца
Сэрцаў нашых салодкаму грому,
Небаўзносячыся хвалой.
Бо за віно, якое забыць сябе не дае,
Мацнейшыя пешчы твае.
Годныя цябе кахаюць,
Аж у журбе засыхаюць.
Дочкі Ерусалімскія, я чарнявая,
Але прыгожая, гожая,
Як кідарскія буданы,
Як заслоны Саламонавы.
Я ж не з чужой стараны,
Жарсць мяне запалоніла
У спякотлівыя палоны.
Не дзівіцеся, што чарнявая,
Гэта сонца мяне асмуглявіла.
Угневаліся на мяне матулі маёй сыны
І паставілі мяне, беспрытульную, яны
І ўдзень і ўначы
Вінагараднікі сцерагчы.

Пільнавала ад святла й да святла,
Свайго ж вінагарадніка не ўсцерагла.
Скажы мне, душы маёй паняты,
Дзе пасвіш ты,
Дзе ў паўдзён твой спачывае ўздых?
Чаго мне быць валачомнай датклівіцай
Каля статкаў аднаклапатліўцаў тваіх?
Як не ведаеш гэтага, найпаглядзістая з жанок,
Дык ідзі сабе па слядах авец наўдагад
І ля пастухоўскіх стомленых буданоў
Пасві сваіх казлянят.
Жарабіцы сваёй у фараонавай калясніцы
Спадобіў цябе я, мая каханая,
Аздобіў шанаю.
Шчокі твае ў падвешках
Раскашуюцца ў кунежлівай харашбе,
Шыя твая ў каралях, зашаптаных хвалебнамі.
Залатыя падвешкі мы знядзелім табе
З зіхацінкамі срэбнымі.
Покуль цар за сталом сваім цараваў,
Нард мой свой пах выдаваў.
Міровы пучок – каханы мой – у мяне
Хай ля грудзей маіх супачне.
Як гронка кіпера, каханы мой у мяне
У Енгедскіх вінаградніках,
Дзе заплаканай лазе балазе ў гамане.
О ты чароўная,
З зоркай раніцы роўная,
Мая каханая,
Ты шчыміш на сэрцы маім жаданай ранаю.
Ты адзіная,
Як рэчка ў радасці ціхаплынная.

Глядзяць у маю душу вочы твае галубіныя.
О ты чароўны, каханы мой, і адзіны.
І ўзложжа нашае – зялёная зеляніна.
Стрэхі нашых дамоў –
Кедраў кроністыя абрысы.
Столі нашыя – станістыя кіпарысы.

## ПЕСНЯ ДРУГАЯ

Я ружа шаронская, лілея далінаў,
Як лілея між церняў.
Між дзяўчыністымі мая адзіная,
Як яблыня спаміж лясінаў.
Спаміж маладзёнаў і мой адзіны.
Люблю сядзець пад аслонаю ейнага ценю.
І ейная садавіна салодкая майму паднябенню.
Ён прывёў мяне ў дом застолля,
Дзе, нямоцячы наваколле,
Балявала сама ягамосць весялосць.
І сцяг ягоны нада мною – мілосць.
Пасіліце мяне віном, яблыкамі падкрамяніце.
Доля мая такая,
Ад мілосці я знемагаю.
На лявіцы ягонай галава мая,
А правіца бяссонная мяне абдымае.
Заклінаю вас, дочкі Ерусалімскія,
Сарнамі й палявымі ланямі,
Не будзіце маю каханую,
Не трывожце адхлання.
Голас каханага! Вось ён ідзе мой самы.
Скача па горах, па ўзгорках гайсае.

Мой сябра падобны да сарны
Ці да маладога аленя.
Ён – маё трапяткое ўтрапенне.
Вось ён стаіць у нас за сцяною хаты,
Зазірае ў акно,
Ценіцца мільгатліва праз краты.
Каханы пачаў казаць мне:
Устань, каханая,
Жарсцю маёй пагуканая, выйдзі!
Пабач сама: вось мінула зіма,
Дождж прайшоў, перастаў, прыстаў.
Краскі вытачыліся з зямлі паказацца вясне,
Час спеву прыспеў, і голас горліцы
Чуецца ў наскай старане.
Разняволілі смоквы пупышкі свае.
І лаза вінаградная квеціцца
І пахучасцю сябе выдае.
Устань, каханая,
Жарсцю маёй пагуканая, выйдзі!
Галубка мая,
У растрэшчыне скалы пад дахам аброву!
Пакажы воблік свой,
Дай мне ўчуць голас твой несуровы.
Бо голас салодкі твой
Западае ў душу глыбока,
І воблік паглядны твой прынадны для вока.
Лавеце лісіц, лісянятак лавеце,
Што хочуць вынішчыць вінаграднікі,
А вінаграднікі нашыя ў квеце.
Як званіцы звон,
Каханы мой мне належыць,
Пасвіць спаміж лілеяў ён

І там жа начлежыць.
Покуль дзень ахалодаю дыхае
І цені ўцякаюць ціхія,
Вярніся, будзь як сарна
Ці як алень малады
На растрэшчынах горнай грады.

## ПЕСНЯ ТРЭЦЯЯ

На ложку сваім я ўначы шукала
Таго, каго мая душа пакахала,
Павяснелая ад святла.
Але яго не знайшла.
Устану ж я ды пакружляю
Па месце, па вуліцах, па таргох,
Пашукаю таго, каго мая душа пакахала,
Павяснелая ад святла.
Блукала, гукала, шукала,
Але яго не знайшла.
Пераўстрэлі мяне вартаўнікі,
Што места абходзілі нацямкі.
Я запытала: ці не бачылі вы яго,
Каго мая душа пакахала,
Павяснелая ад святла?
Адно ад іх адышла, як адразу знайшла
Таго, каго мая душа пакахала,
Павяснелая ад святла.
Ухапілася за яго й не адпускала,
Покуль у хаціну маці сваёй не прывяла,
Да пакою тае, што мяне зачала.

Заклінаю вас, дочкі Ерусалімскія,
Сарнамі й палявымі ланямі,
Не будзіце маю каханую,
Не трывожце адхлання.
Хто гэтая, што ўзыходзіць з пустэльні,
Як слупамі дыму, ахмараная
Мірам а фіміямам,
А ўсялякімі зеллямі мíраварніка?
Вось узложжа ягонае – Саламонава:
Шэсцьдзесят дужасілаў наўкол,
Самых дужых Ізраелевых –
Аж ад іх угінаецца дол.
Усе  трымаюць па мечу,
А ў бітвах дасведчаныя.
У кожнага з іх
Меч ля сцягна дзеля жахаў начных.
Ношавае ўзложжа
Зрабіў сабе цар Саламон
З дрэваў лібанскіх гожа.
Стоўбчыкі ягоных гонкіх рэбраў са срэбра,
З золата зрабіў узлакоцце,
Седзішча з пурпуру зыркага,
Як сонейка на закоце.
Вонутры яго прыбралі няўрымсліва
Дочкі Ерусалімскія.
Выйдзіце й гляньце, дочкі Сіёнскія,
На цара Саламона,
Як небатварыць яго карона.
Укаранавала яго каронаю
Маці ягоная
У дзень вяселля ягонага
І ў дзень радасці сэрца ягонага.

## ПЕСНЯ ЧАЦВЁРТАЯ

О ты чароўная, каханая, мая адзіная,
Вочы твае галубіныя зоркамі
Пад хмурыністымі тваімі кудзёркамі.
Валасы твае – як козаў чародка,
Што з гары Галаадскае скоўзваюцца таропка.
Зубы твае – як авец астрыжаных статак,
Што выходзіць з купельні.
А ў кожнай авечкі двойца ягнятак,
А бясплоднай між іх няма-такі.
Вусны твае – як стужка пунсовая,
Зразумелая сэрцу мова твая.
Як палавінкі яблыка гранатавага –
Шчокі твае пад кудзёркамі,
А яны нягоркія.
Шыя твая – як стоўп Давідаў,
Збудаваны пад зброю.
Тысяча шчытоў вісіць на ім,
Як на апірышчы небасхілаў.
А ўсе шчыты дужасілаў.
Два саскі твае, сойчыкі, –
Як двайняткі сарначкі маладое,
Што пасвяцца спаміж лілеяў спакою.
Покуль дзень ахалодаю дыхае
І цені ўцякаюць ціхія,
Пайду я на гору тую,
Дзе шчырае міра душу ратуе,
І на ўзгорак, дзе раскошыста фіміяму.
Каханая мая, ты чароўная самая,
І няма на табе ні адзінюткага пляма.
Са мною з Лібану, маладая княгіня,

Са мною рушайся з Лібану,
Спяшайся з вяршыні Аману,
З вярхоўя Сэніру й Гэрмону,
З лагвоў ільвіных, з гораў леапардавых,
Са мною, сонца й поўнаты вартая!
А паланіла ты сэрца маё,
Без цябе яно гіне,
Сястра мая, маладая княгіня,
Адным узбліскам вачэй сваіх,
Адным узбліскам караляў,
Што шыю тваю абралі.
О як люба мне кунега твая,
Сястра мая, маладая княгіня.
Як багаталепшая яна за віно
І пахучасць масцяў у ранняй расе,
За водары ўсе ў веснавым нахлыне.
Мёд пяшчотаў, як з сотаў,
Капае з вуснаў тваіх і не стыне,
Маладая княгіня.
Мёд з малаком пад тваім языком
І пахучасць шатаў тваіх расхваляваных –
Як пахучасць з Лібану!
Замкнёны сад, дзе важка кожнай галіне,
Сястра мая, маладая княгіня –
На ключ узятая студня, запячатаваная крыніца,
Смага прагне з яе напіцца.
Твае расаднікі – гранатавы сад,
Што песціць пагляд
Садавінаю, пахвалы найвышэйшай вартаю,
Дзе суседзяцца кіпры з нардамі,
Дзе не выстудзілі свой давер
Нард і шапран, цынамон і аер

З усялякімі пахучымі дрэвамі,
Дзе міра й алой п’яняць
Духмяністымі павевамі.
Крыніца садовая, студня водаў жывых,
Дзе не гасне променя ўспых
І вадабег несціханы з Лібану.
З поўначы, ветру, займіся
Ды з поўдня натніся,
На сад мой павей –
І духмені ягоныя разгавей.
Хай у свой сад прыйдзе мой каханы
І есць садавіну салодкую рассмакавана.

## ПЕСНЯ ПЯТАЯ

Прыйшоў я ў сад свой у задуменні,
Як ва ўспаміне,
Сястра мая, маладая княгіня.
Набраў міра свайго з сваімі духменямі.
Наеўся з сотаў сваіх мёду, а ў насалоду,
Напіўся з сваім малаком віна, а дап’яна.
Бярэце дары, сябры пагуканыя,
Піце й сыцьцеся, укаханыя.
Я сплю, а сэрца маё чуняе, гоніць сон;
Во голас майго каханага, гукае ён:
«Адчыні мне, сястра мая, мая каханая,
Мая галубка, мая беззаганная,
Бо галава мая ўся ў расе,
У начное валозе сукры ўсе».
Скінула я хітон з плячэй сваіх,
Як жа маю ізноў надзець?

Ногі вымыла на паглядзь,
Як жа мне пэцкаць іх?
Каханы руку сваю працягнуў праз шчалугу́
І ў нутры маім развярэдзіў тугу.
І ўстала рахмана я, каб адамкнуць каханаму.
І з рук маіх міра краплiста спадала,
І з кстоў маіх міра на клямку замка сцякала.
Адамкнула каханаму, а мой каханы
Павярнуўся й счэз нечакана.
Душа мая сябе не пазнала,
Калі казаў ён. Яго я шукала,
Ішла за голасам наўздагон
І не знаходзіла, яго гукала,
Ды не адгукаўся ён.
Пераўстрэлі мяне вартаўнікі,
Што места абходзілі нацямкі,
Збілі, зранілі, кіямі пеставалі,
Не маючы жалю.
Ахінала з мяне знялі
Тыя, што сцены меставыя вартавалі,
І пакінулі на зямлі.
Заклінаю вас, дочкі Ерусалімскія,
Калі далёка ці блізка
Сустрэнеце майго каханага,
Што яму скажаце па весялосці?
Што я знемаглася з мілосці.
Твой каханы за іншых ляпейшы чым,
Найпраўкраснейшая з жанчын?
Чым каханы за іншых ляпейшы якраз,
Што ты так заклінаеш нас?
Мой каханы белы й румяны,
Ад дзесяцёх тысячаў іншых

Ляпейшы ён, бо чаканы.
Галава ягоная – шчырае золата,
Што сонцам мілуецца ўсё лета.
Хвалююцца ягоныя сукры няўзнач,
Чорныя, як крумкач.
Вочы ягоныя – як галубы
Пры загонах водаў,
Што купаюцца ў малацэ, ацененыя лагодай.
Шчокі ягоныя – духмяны кветнік уцехі,
Пахучых расцінаў лехі.
Ягоныя вусны – лілеі,
На якіх разліваецца міра й само хмялее.
Рукі ягоныя – круглякі залатыя,
Не абшурпачаныя ганьбамі ды абразамі,
Круглякі з усаджанымі тапазамі.
Жывот ягоны – як выдаўбень са слановае косці,
Абкладзены сапфірамі млосці.
Галёнкі ягоныя – слупы мармуровыя,
Пастаўленыя на залатых подах.
Не зрушыць іх і ўраганны подых.
Выгляд ягоны падабраў падабенькі ў Лібана,
Вусны ягоныя – соладзь,
І ўвесь ён поўніцца любатой.
Гэта й ёсць сябра мой, дочкі Ерусалімскія!

## ПЕСНЯ ШОСТАЯ

Куды пайшоў твой каханы,
Найпраўкраснейшая з жанчын?
Куды ён падаўся, ахінуты журбою,
Мы пашукаем яго з табою.

У сад свой пайшоў мой каханы,
У кветнікі духмяныя,
Каб пасвіць у садох і лілеі
Збіраць, покуль ліст не засох, не спазніцца.
Я належу каханаму, як званіца звону,
А каханы – мне, як званіцы звон,
Бо смутак знадзеяў,
Пасвіць ён спаміж лілеяў.
Чароўная ты, як Фірца, мая каханая,
Любая, як Ерусалім, грозная сваімі чарамі,
Як паводка палкоў са штандарамі.
Ухілі ад мяне вочы свае –
Пестуны вясны,–
Бо хвалююць мяне яны.
Валасы твае – як козаў чародка,
Што з Галаада скоўзваюцца таропка.
Зубы твае – як авец астрыжаных статак,
Што выходзіць з купельні.
А ў кожнай авечкі двойца ягнятак,
А бясплоднай між іх няма-такі.
Як палавінкі яблыка гранатавага –
Шчокі твае пад кудзёркамі,
А яны нягоркія.
Ёсць шэсцьдзесят царыцаў
І восемдзесят належных наложніцаў,
І дзяўчынная безліч множыцца.
Ды адзіная яна, галубка мая беззаганная,
Адзіная ў матулі яна адна,
Адрозная ў нарадзівіцы сваёй яна.
Пабачылі яе дзяўчыністыя –
І ўзвысілі аблачыніста.

Царыцы й наложніцы ўбачылі
І, ўслаўляючы яе, сябе зыначылі.
Хто гэта зіхоткая, як дзянніца,
Праўкрасная, як поўната,
Што ў нябёсы пяшчотай патонута,
Светлая, як сонца,
Што грэе жыццёвае ўлонца,
Грозная сваімі чарамі,
Як паводка палкоў са штандарамі.
Я спусцілася ў сад, дзе лушчэлі ляшчыны,
Падзівіцца з зеляніны даліны,
Паглядзець, ці распусцілася лаза вінагарадная,
Ці ўзрадавана
Гранатовыя яблыні расцвілі і калі?
Не ведаю, як дамкнула мяне
Душа мая цуду ў дагоду
Да калясніцаў славутаў майго народу.

## ПЕСНЯ СЁМАЯ

Азірніся, азірніся ты, Суламіта,
Азірніся – дай успомніць прыгажосць забытую.
Што ваш позірк гэтак пасвіць Суламіту,
Манаімскі карагод яна нібыта?
Ногі гожыя твае абутыя ў сандалы,
Панавітая дачка пяшчоты й шалу.
Сцёгнаў тваіх круглавітасць –
Гэта цупкія каралі,
Якія рукі кудзейніка ўмелага выкруглялі.
Жывот твой – круглая чара,

У якой не пакажа ніколі дно
Пахучае ды п’янкое віно.
Чарэва тваё – спякотны сумёт пшаніцы,
Аздоблены лілеямі ніцымі.
Два саскі твае, два сойчыкі, – як казляняткі,
Пудлівай сарны блізняткі.
Шыя твая – як слуп са слановае косці,
Велічны ў сваёй высакосці.
Вочы твае – азерцы Гэшбонскія,
У якіх глыбініцца брама рашучая Батрабіму,
Смуткам захмарыць яе немагчыма.
Нос твой – вежа Лібанская,
Што павярнулася, каб паказацца Дамаску.
Галава твая на табе – як Карміл,
Валасы на тваёй галаве –
Пурпур, дзе полымя агніста жыве,
Каб світаў небасхіл.
І цар на троне
У сукраў тваіх у палоне.
Якая зграбная ты, якая прывабная,
Якая ты гожая сваёй ахарошаю.
Падобны да пальмы стан гэты гонкі,
І грудзі твае – як вінаградныя гронкі.
Падумаў: я ўзлезці на пальму павінны
І ўчупіцца ёй у галіны.
І грудзі твае будуць гронкамі вінаграду,
І пах ад ноздраў тваіх,
Як ад яблыкаў, на прынаду.
Вусны твае –
Як адменнейшае віно,
І цячэ яно да сябра майго спакусна,
Стомленыя салодзячы вусны.

Як звону званіца,
Належу я сябру вернаму,
І да мяне жаданне ягонае звернута.
Хадзі, мой каханы, пойдзем у поле,
Абначуем на волі ў сёлах вясёлых.
Раннім раннем пойдзем у вінаграднікі, глянем,
Ці распусцілася лаза вінаградная,
Ці лопнулі пупышкі палахлівыя,
Ці цветам радуюць яблыні гранатовыя.
Там кунежыць цябе гатова я.
Мандрагоры ўжо не ўтрымалі свой пах маладым,
І ля кожнае брамы ўсялякія харашэюць плады,
Новыя а старыя, а іх нямала,
Гэта я табе, каханы мой, захавала.

## ПЕСНЯ ВОСЬМАЯ

О калі б ты быў мне за брата,
Якога маці мая сваімі грудзьмі сасіла,
Я б, сустрэўшы цябе на вуліцы, невінавата
Цалавала б і да сэрца туліла,
І мяне б не папракалі зацята.
Павяла б я цябе,
Прывяла б да матулі маёй у дом,
Я паіла б цябе пахучым віном,
Яблыкаў маіх гранатовым сокам,
Каб п’янеў няўрокам.
На лявіцы ягонай галава мая,
А правіца бяссоная мяне абдымае.
Заклінаю вас, дочкі Ерусалімскія,
Не будзіце, не турбуйце каханую,

Самой лагодай прыспаную.
Хто гэта ад пустэльні ўзыходзіць,
З небам высока раячыся,
На свайго каханага ўзіраючыся?
Пад яблыняй я цябе разбудзіла:
Там цябе маці твая нарадзіла,
Там цябе нарадзіўца твая нарадзіла на дзіва.
Пакладзі мяне на сэрца сваё, як пячаць,
На руку сваю пакладзі – прыручаць,
Бо моцная, як смерць, мілосць,
Лютая, як апрамецце, зайздросць.
Стрэлы ў мілосці – агнявітыя стрэлы,
Яна – тое полымя,
Што перашкоды нідзе не сустрэла.
Вялікія воды загасіць не могуць
Мілосці тае,
І рэкі не заліюць яе.
Калі б хто даваў за мілосць
Багацце ўсё, што ў доме ягоным ёсць,
З рашучасцю ўпартаю
Ён адрынуты быў бы з пагардаю.
Сястра ў нас малая,
Яна яшчэ саскоў не мае.
Што рабіцімем з нашай сястрою,
Калі будуць сватацца да яе не парою?
Калі б яна была сцяна,
Дык, не шкадуючы ні дзён, ні працы,
Пабудавалі б мы на ёй
Са срэбра палацы.
Калі б яна была дзверы –
Кедровымі дошкамі абшалявалі б яе да меры.
Я – сцяна, і ў мяне саскі, як вежы,

Таму ў вачох ягоных буду поўнатаю хацежы.
Вінагараднік меў Саламон у Ваал-Гамоне,
Ён здаваў вінаградні к гэты вартаўнікам.
І кожны з вартаўнікоў тады
Меў даваць тысячу срэбнікаў за плады.
А мой вінаграднік у мяне пры сабе.
Тысяча хай табе, Саламоне,
А дзвесце – ім, што праз гады
І ў яснадзень і ў сутонне сцерагуць плады.
Жыхарка садоў!
Сябры цешацца з голасу твайго,
Дай і мне паслухаць яго.
Барздзі, мой каханы, мой сон бясхмарны,
Будзь падобны да сарны
Ці да маладога аленя,
Бяжы наперадзе свайго ценю
Па горах са́мых бальзамавых.

*2001*

# *Босая зорка*

*Кленчу Твайму*
*Сэрцам чутаму ценю*

***

Гасподзь! Затрымацца дазволь
На гэтай грэшнай зямлі.
Зрабі ласкавейшы мой боль.
Душы раўнавагу пашлі.

Праз ноч,
Што жыццём наракл і,
Я йшоў на Тваё святло.
Гублялася сцежка ў быллі,
Ды ў сэрцы світанне жыло.

Гасподзь! Прагані мой страх,
Што следам ідзе за мной.
Я, з праху зямнога прах,
Вінюся зямной віной.

Пачую Цябе і глухі.
Аддзячыць хачу стакроць.
Правіны мае і грахі
Даруй, літасцівы Гасподзь...

***

Ойча праведны, памажы
Быць пакорным Тваім іспытам.
Адвядзі мяне ад мяжы
Між жыццём і спаміж нябытам.

Павядзі мяне па жыцці,
Па трыпутніку і ажыне,
Памажы мне сцежку знайсці,
Што не кіне мяне на чужыне.

Памажы мне застацца сабой,
Быць з душою сваёй у згодзе,
Жыць і радасцю, і журбой
У Тваёй трывалай Гасподзе.

Колькі дзён Ты мне ні дасі –
Буду ўдзячны і заўтра й сёння,
На зямлі й на небясі
Шчыра ўкленчу святой іконе.

***

Божа, паспагадай усім –
І магутнаму, і слабому,
І відушчаму, і сляпому,
Каб у згодзе жылося ім.

Божа, паспагадай усім,
Каб вайной не йшоў
Брат на брата,
Каб ржавела сякера ў ката,
Каб вячэраю пахнуў дым.

Божа, паспагадай усім,
Каб цяплелі пагляды людскія,
Каб у старца не кралі кія,
Нічыіх не кралі радзім.

Да любові, да чысціні,
Да святла, да святога ўлоння,
Усявышні, і заўтра і сёння
Заблуканыя душы вярні!

## ГОД ЦІ...

З сямі тых дзён,
Што Госпад свет тварыў,
Дзень кожны доўжыўся
Год ці стагоддзе.
І свет,
Нібыта ўзбегшы на абрыў,
Крычаў сабе самому:
Глухнуць годзе!
І свет наважыўся дагнаць свой цень
І зразумець
У ранішняй прыгодзе:
Дзень Судны,
Першы і апошні дзень,
Ён будзе доўжыцца
Год ці стагоддзі?

## РАПТАМ БЫ...

Раптам бы
Закахаўся Хрыстос.
Што б тады сталася
З небам і долам?
Трэба было б адвярнуцца анёлам,
Каб не сурочыць расчуленых слёз.

Мусіла быцца якою яна,
Каб не прагнала
Думку пра сына
І ў аблачын на пялюшкі прасіла
Трошкі кужэльнага палатна?

Чуў,
Як ад жарсці заходзіўся дол.
Неба цяплела здагадкай пачутай.
Пэўна, на шлюб
Толькі з босай пакутай
І атрымаў Ён ад Бацькі дазвол...

## ДАСВЕЦЦЕ

Я – імглінка,
Што дзёрзкага права не мае
Праляцець недалёка ад Тваіх ступакоў.
А душа мая – паланянка зямная –
Прагне позірк даткнуць
Да ружанца вякоў.

Зорнавокі ружанец,
Пэўна, толькі анёлы
Маюць права адчуць цішынёй чысціні.
Смутак па вышыні
Ад нястрымнасці кволы.
Цені думак Тваіх –
Гэта нашыя дні.

Дзякуй, Госпад,
За светлацені, якія
Прагай лашчым, па-людску сябе завем.
Летуценні – падлёткі лёткія, трапяткія.
Іх злавіць намагаемся –
Тым і жывем.

## ХТО?

Хто старэйшы, думка ці слова,
Хто шчырэйшы з іх?
Даць адказ,
Можа, зможа чорнагаловы
Змрок спрадвечча, што доўга гас,
Покуль вёў са святлом змаганне.
Смутак слова гукаў,
І гук
Узышоў на нябеснай паляне.
Слова выпала ў Бога з рук.

Думка ўспыхнула невыпадкова
І святлу дадала святла.
Бог спачатку задумаў Слова.
Сведкай гэтаму думка была.

*4 сакавіка 1997 г.*

## ВАРАВА

Натоўп, гарачы на расправу,
На помач не падасць і кста,
Сцяною стане за Вараву
І падпіхне на крыж Хрыста.

Натоўпу боль чужы нясвежы,
Для цёмнай злосці мала джал.
Хацежы замінаюць межы.
Руйнуе ўсё аслеплы шал.

Чым болей глотак – болей права.
З грахамі доўга едзе воз.
У кожным з нас жыве Варава,
І рэдкім госцем –
Пан Хрыстос.

## У ГЕФСІМАНСКІМ САДЗЕ

Каб дзе антонаўка, каб сапяжанка.
У Гефсіманскім садзе сталасць дрэў.
Смуга й зямля –
Як цёплая ляжанка,
Каб смутак плечы сцёртыя сагрэў.
На тое сад і гадаваў
Садоўнік,
Каб тут аземіў думку
Бог жывы,
Каб і паломнік –
Смутку паслядоўнік –
Пачуў літанне смяглае травы.

У Гефсіманскім наквець адшумела,
А ў садзе
Недзе каля Ціханят
Антонаўкі ды сапяжанкі смела
У кулачках трымаюць
Страх зярнят...

*2 снежня 1995 г.*

## БЛАСЛАВЁНЫ СПАДМАН

*Вушацкае паданне*

Хрыста ўкрыжоўвалі,
І цыган
Прапанаваў і сваю паслугу.
І кінуў на дол
Неразлучную пугу,
І ўзяў цвікі для пякучых ран.

І вочы заплюшчыла цішыня.
Цыган прыставіў цвік
І з размаху
На даланю пасадзіў авадня
Замест цвіка –
Насуперак страху.

І абараніў хоць адну руку,
Хрыстову руку ад болю зямнога.
І валачомнаму жабраку
Не папрасілася ў Бога нічога.

І ў свет падаўся самотны цыган,
Непрытулены,
Як апостал, босы.
І гэта быў
Самы шчыры спадман,
Які на вякі блаславілі нябёсы.

## КРЫВІЦКАЕ ПАДАННЕ

Бог ішоў,
А баба жыта жала.
І звярнуўся Бог да маладзіцы,
Каб яна дарогу паказала
І дала сасмягламу напіцца.

– Я не маю часу,
А дарогу
Знойдзеш сам, –
Праз зубы працадзіла.
І вады пашкадавала Богу.
І з сярпом схілілася паныла.

Бог ідзе далей.
Мужык спяшае
Дакасіць з расой траву густую.
Кінуў працу.
Бога запрашае
Адпачыць.
Папаскаю частуе.
З-пад куста
З цяньку бярэ біклагу,
Квасу ўкоптур налівае Богу,
Падарожцу дзякуе за ўвагу
І вядзе й паказвае дарогу.

Адпачыўшы, паспытаўшы квасу,
Бог і падзяліў ашчадна долі:
Мужыку
На ўсё хапае часу,
Бабе
Не хапацьме – аніколі!

## ЯК ПА СУХОМУ...

Дзень, як сын дачаканы, падрос.
Ціша стому вярнула дадому.
І ступаў малады Хрыстос
Па вадзе, як па сухому.

Тыя, што над вадой
І ў вадзе,
Ўсе нямелі ў нябесным здзіве,
Ведалі,
Гэта Сейбіт ідзе
Сеяць душы
На горкай ніве.

Досвітак загараўся і гас.
І рабіліся блізкімі далі.
Хвалі ўрэшце дагналі час
І Хрыстовы сляды захавалі.

Ростань выкне вініць успамін.
У сустрэчы сцежка крывая.

Калі Госпаду верыш, як Сын,
Дык цябе і вада трымае...

*24 лютага 2007 г.,*
*рэанімацыя*

## МАЦІ БОЖАЯ БУДСЛАЎСКАЯ

Маці Божая Будслаўская святая,
Будзь у славе навечна і ў небе  і доле.
Ў нашых душах пакорных Твой вобраз світае.
Да Цябе пуцявін не забудзем ніколі.

Захлынала наш край за навалай навала.
Провідам са святла Ты нам ясніла вочы.
Ты Гасподняю ласкаю нас ахінала,
Даравала нам дзень, ратавала ад ночы.

Ад пагляду Твайго ўсё жыве навакола.
Прыпадае пакайна правіна з мальбою.
Да парогу Айца пойдзем схіленачола,
Маці Божая Будслаўская, за Табою.

*14 ліпеня 2006 г.*

## НЕ ТУТ

Дзверы вечнай начы
Вісяць на круках,
Чарнакрыла распятых,
Глюгатых.
Ходзяць цені грэшнікаў на руках
Па зачараваных кратах.
У катлах закіпае смала
З сосен смутку,
Падсочаных жалем.
Ператомленая імгла
Не дае сустрэцца скрыжалям...

*25 лістапада 2005 г.*

## ПЕРАД ВЫХАДАМ З ЕГІПТУ

*З Геворга Эміна*

– Майсею!
Дакуль развінацьмем пакутаў сувой,
І ярмом фараонавым надрываць нутро,
І бальзамавацьмем хлуснёй сваёй
Нязмыўнае, ганьбай прапекленае таўро?
– Як не звар'яцеем,
Дык сорак гадоў якраз.
Калі не заб'юць
І ў ярме не звалімся мы.

– Што потым,
Прароча?

І быў адказ:

– За сорак гадоў
Прывыкнеце да турмы...

## СЫН НЯБЁС

О любасны Хрыстос,
Свет у Табе ўваскрос.
Тваіх вачэй святло
З бясконцасці прыйшло.

Укрыжаваны лёс
Злічыў сузор'і слёз.
І сонцам дабрыні
Абнашчыліся дні.

Душы гаючы боль,
Зямлі святая соль,
Ты нам жыццё прынёс,
Хрыстосе, Сын нябёс.

## НЯМА КАЛІ

Няма калі Богу хварэць –
Адзін на такую гасподу.
Бадай, аратай-гаспадар
Яго зразумее дагоду.

Няма калі Богу старэць,
Бо чорт маладзее з гадамі.
Світанак – ахвярны святар –
Разбудзіць ды паспагадае.

Няма калі дбаць пра сябе
Ды выгадаць нешта ў дзяльбе –
Абы перапала тварыне
Жывое Яго мілаты.

Хай Богу хоць сон залаты
Прысніцца ў нябеснай адрыне...

*9 снежня 1995 г.*

## ДА МАЦІ БОЖАЙ ЧАНСТАХОЎСКАЙ

Маці Божая з Чанстахова!
Б'е чалом Табе вешчае слова.
Ты – нябёсаў душа святая.
Позірк Твой над зямлёй світае.

Небачолая Чорная Панна!
Нам баліць Твая кожная рана.
Ласкай, што зберагла ў пакутах,
Край бароніш ад зграяў лютых.

З намі ў радасці Ты і ў скрусе.
Панна! Паспагадай Беларусі.
Каб былі мы ў палоне волі.
Каб не здрадзілі Богу ніколі...

*14 верасня 2005 г.*

## КАЙНА ЎДЗЯЧНЫ...

Я вымольваю ў Бога дні,
Я выпрошваю ў Бога хвіліны.
Божа праведны, Божа адзіны,
За грахі не дужа віні.
Я ў грахах,
Як елка ў суках.
Мне іх не абчасаць самому.
Кайна ўдзячны я
Духу Святому
За няпэўнасць быцця,
За страх.

Божа, як хапае Цябе
Просьбы чуць ад свету жывога?
Бо жыццё –
Гэта й ёсць трывога.
Мусім жыць
Не ў хвальбе – ў мальбе.

Адасню я зямны свой сон.
Ці пакіну хоць цень нявінны?
Божа праведны, Божа адзіны,
Дай яшчэ мне
Хоць жменьку дзён...

## ЯК ДУМКА...

Палілі царкву.
І драўляны Хрыстос
З гарышча ўцякаў
З вяроўкай на шыі.
Агонь даганяў, як зняверaны лёс,
І храм
Ані гром, ані дождж не тушылі.

І рухнула
Абяззвоненая царква.
Хрыстос дагараў
На паваленым плоце.
І аддальвалася абгарэлая галава,
Як думка,
Далей ад ліповае плоці...

*1 студзеня 2003 г.*

# ЧЫМ ДАЛЕЙ...

Чым далей,
Тым бліжэй да Цябе
Думкамі і душою хінуся.
Рукі, зведзеныя ў мальбе,
Хочуць процістаяць спакусе.

Чым далей,
Тым далей ад сябе,
Ад шчаслівага й маладога.
Рукі
Рупяцца ў даўняй сяўбе –
Густа ўсходзіць
Адна трывога.

І, прымаючы спёку й золь,
Жарсць цярноўніка й цноту
Вішні,
Я прашу:
Затрымацца дазволь
Мне на гэтай зямлі,
Усявышні...

## ДОШКА ВЫРАТАВАННЯ

*Jezus Chrystus jest jedyną deską*
*ratunku dla dzisiejszego Świata.*
*Ян Павал II*

Хай празарлівая воля нябёс
Душам пашле дараванне.
Ў небе ўрагану
Ўваскрослы Хрыстос –
Дошка выратавання.

Госпад дазволіў на дошцы плысці,
Маючы ветразем веру.
Дно не дастаць у прадонным жыцці
Ломкім шастом намеру.

Сцежкаю думкі, дарогай хады,
Ветрам дыхання жывога
Вечныя нашы й зямныя гады
Рушаць да Пана Бога.

Крыжам аслонены, свенціцца лёс
Радасцю райскага рання.
Ў моры адчаю
Светлы Хрыстос –
Зорка выратавання.

## СЛАВА!

Слава ў нябёсах і на зямлі!
Слава бясконца!
Нас мілатою Сваёй наталі,
Сэрца Госпадняга сонца.
З цемрадзі роспачнай выведзі нас,
Ойча Адзіны.
Покуль агонь у вачах не пагас,
Дай нам ступіць на сцяжыны

Тыя, якія вядуць да Цябе
На пакаянне.
Дай нам убачыць, верным мальбе,
Вечнай надзеі світанне.

*9 лістапада 2003 г.*

## МАЛЮ

Ойча Святы, Недасяжны, Адзіны,
Дзякуй за гнеў і за ласку Тваю.
Згроб я грахі свае ўсе і правіны
І перад карай жаданай стаю.
Кшчоны паганец,
Я кайнасць спатоміў –
Кленчыў нябёсам, кунежыў зямлю.
Што падабенства Тваё аскароміў,
Ойча, даруй мне, пахіла малю.

Ойча спагадлівы,
Ойча суровы,
Колісь пачутым быць сподзеў таю.
Покуль мяне не зракаюцца словы,
Дзякаваць буду за ўвагу Тваю...

## КЛЕНЧУ

Кленчу Твайму сэрцам чутаму ценю
Радасцю незлічоных вякоў.
Уцалаваць сляды летуценю
Небатыкальных Тваіх ступакоў.

Ойча,
Твайго беспачатку Айчына
Днее сузор’евым каласком.
Думаць дазволь пра Цябе аблачынна,
Ў цемры зацепліцца хоць вугальком.

Да пакаяннасці сцежка цяжкая,
Ды са спагадай лёгка ісці.
Выказаць дзякуй слова шукаю,
Тым і трымаюся ў гэтым жыцці.

## ЗЫЧЭННІ

Госпад!
Дазволь пажадаць Табе
Крыніцы моцы,
Сумёты спакою,
Бо ўсе толькі просяць Цябе
У мальбе
Перашалелаю талакою.

Ты ў свеце Адзін,
Ды Цябе стае
На ўсё, што стала,
І ўсё, што стане.
Мы клопаты дробязныя свае
З Табою дзелім,
Нябесны Васпане.

Дазволіўшы, каб жыццё жыло,
Ты вырак сам сябе на пакуты.
Штодзень свой цень
Даганяе святло
І душы лятуць у вырай прачуты.

Нечалавечае працы цяжар
За людзьмі
Перагне небасхілаплеча.
Пачуй,
Жыцця й забыцця Валадар,
Зычэнні здароўя й бясконцавечча!

## АСЛАНЯЕ...

Ахоўца, заступнік,
Высокі анёле,
І сёння й ніколі,
І доле і ў высі
Ад зла затулі,
Ахавай ад нядолі
І перад цемраю заступіся.
Ты ценю не маеш,
Ды клопат крылаты
Ды цень твайго ценю
Мяне асланяе.
Чалом за твае
Ласкай кутыя краты,
З якіх вызваляцца
Душа не жадае...

## МЯНО

Вечны Бог!
Дазволь мне затрымацца.
Літасцівы!
Пацярпі мяне.
У прысталай долі
Я ў прымацтве.
Толькі й існы я ў
Сваім мяне.

А маё мяно не перунамі –
Цішай трызніла,
Яно даўно
Абрасло, як мохам,
Цёмнаснамі,
Бо ў мяне –
Няноскае майно.

Божа!
Дол, саследжаны кладамі,
Усцілае лістам
Гамана.
Да жыцця
Я прывыкаў гадамі.
Дай мне час
Адвыкнуць ад мяна.

*18 ліпеня 1995 г.*

***

Дзякуй Госпаду за дазвол
Папрысутнічаць на бяседзе,
Дзе на ўсіх засцілаўся стол,
Дзе прыткнуўся я
Збоку недзе.

Дзякуй Госпаду за дазвол
Слова мовіць на той бяседзе,
Дзе стагнаў ад рогату дол,
Сум яшчэ не прасіўся ў суседзі.

Дзякуй Госпаду за дазвол
Затрымацца на той бяседзе,
Дзе трымаўся,
Як плот за кол,
Змрок за зорку ў капытным следзе.

Час усё скапыці́ў наўкол.
Свет цямнець навучыўся ў медзі.
І прыходзіць канец бяседзе.

Дзякуй Госпаду за дазвол!

*1994*

## КАСЦЁЛ

Тут сон свой мроіць стомлены анёл,
Світае зрок нястомнае пашаны.
Апора духу, дом Святейшай Панны –
Нябёсамі асвечаны касцёл.
Каля яго бажэе ўсё наўкол.
І рабаваны быў, і руйнаваны.
Ды рунню веры цень укрыжаваны
Скароміў душ знявераных падзол.

Ідуць смялей і нашае маленне,
І свечкі ў пілігрымку да святла.
І ластаўкамі зоры пад скляпенне
Лятуць – і адступаецца дакука.
Касцёл, каб свет не засціла імгла,
Да Бога цягнецца праменнарука.

*21 снежня 2001 г.*

## МАГЧЫМА, ПАБАЧЫЦЬ ЗДОЛЕЮ...

Як жа Табе, Божа цярплівы,
Здакучыў я просьбамі
Бесперастаннымі.
За кожны каласок
З Твае нівы,
За кожны зорчын
Помірг драмлівы
На калені
Думкамі й сэрцам стану я.
Прыму ад Цябе
Ці жар, ці жарству я,
Азябла заручаны з доляю.
Адыду –
Па зямлі без сябе засумую.
Ды з вачэй Тваіх
Іскрынку жывую,
Магчыма, пабачыць здолею...

## ДАРАДЦА ВЫСОКІ

Дарадца высокі, святы Езафаце,
Зірні на спаганены край,
Адчуй сябе ў кожнай душы,
Як на свяце,
Зняверaных не дакарай.

У любасць да бліжніх
У моцныя латы
Адданцаў сваіх апрані.
Малітваю шчырай жывуць уніяты,
Бароняць свае карані.

Здымі з крывічоў багавейных пракляцце,
Хай зоры адлічваюць час.
Заступнік пакутны, святы Езафаце,
Напомні нябёсам пра нас.

*1998*

## УНІЯЦКІЯ АБРАЗЫ

*Архімандрыту Сяргею Гаеку*

Уніяцкія абразы –
Сведкі светлыя цвёрдай веры
На крывіцкай вечнай зямлі.
Ані вогнішчы, ні сякеры
Вас са свету зжыць не змаглі.
Вы на дне прачыстай слязы
Ацалелі  ў верніцкім воку.
Ласкай яснячы шлях Прароку,
Чулі,
Як, апёкшы далоні
Аб балючыя вугалі,
З храмаў беглі прэч маразы.
... Ажываць вам у кожным паклоне,
Уніяцкія абразы...

*1 кастрычніка 2006 г.*

## БЕРАСЦЕЙСКАЯ ВУНІЯ

Каб народ набожны не зняверыўся
Перад раздарожжам дзвюх дарог,
Вернасць з вернасцю
Сышліся ў Берасці
У вадну, якую ўбачыў Бог.

І сышліся ціха два ў вадно палі
Каласіцца вераю бацькоў.
Свечкі ў Рыме і ў Канстанцінопалі
Засвіталі ў позірках вякоў.

Кленчыць цень крыжа перад іконаю.
Горбяцца зняверу валуны.
І звіняць са дна душы свянцонае
Берасцейскай вуніі званы.

## ДАРОГА ЯСНАЯ

У свеце жыў, нібыта ў пуні, я,
Не разумеючы нічога.
Але пралегла ў сэрцы Вунія –
Дарога ясная да Бога.

І гэтаю дарогай шчыраю
Памкнуліся мае памкненні,
Як птушкі на радзіму з выраю,
Нібыта ў вырай летуценні.

Душа, як рыцарскімі латамі,
Затуленая ад заганаў.
Святло ўзышло над уніятамі,
Калі Гасподзь на грэшных глянуў.

Жыццёвы дол усланы цернямі.
Усе пагляды ў неба ўзняты.
Пакорнікамі багавернымі
У свет прыходзяць уніяты.

## УНІЯЦКАЕ СЭРЦА

*Айцу Андрусю Абламейку*

Уніяцкае сэрца люляе надзею,
Спавівае лагоду малітвай штодня.
Не саб'ецца з дарогі ў людскую завею,
Бо ў яго апякункай
Сама вышыня.

Уніяцкае сэрца ратуе з адчаю,
Ад спакусы адводзіць,
Як дым ад агню.
Ніцай цемры знявер'я святло пазычае,
Не зважае на зло, кволячы дабрыню.

Горкадумны палын засяляе аблогу,
Летуценна аблокі ідуць пехатой.
Уніяцкае сэрца заўдзячнае Богу,
Што Гасподзь яго поўніць
Сваёй мілатой.

*16 красавіка 2005 г.*

***

Унія – ў душы рунеюць зоры.
Стала блізка захаду і ўсходу.
Тчэцца дзень
З асвечанай пакоры.
Слова славіць боскую лагоду.

Унія яднае і гуртуе,
Ачужэлых
Робіць зноў братамі.
Верай у Тварца душу гартуе.
Да святога алтара вяртае.

І зямля крывіцкая звыкае
Бачыць прыхадняў,
Як сны благія.
І трывацьме Вунія вякамі,
Як трывае ў Полацку Сафія...

***

Перапляліся промні і вужы,
Перапляліся радасць і дакука.
Спагадныя ўніяцкія крыжы
Паганства асланілі светларука.

У вечнасці й імгнення на мяжы
Дазорцамі змяркання і світання
Згадзіліся ўніяцкія крыжы
Чакаць,
Калі ён, Судны Дзень, настане.

Туляўся вінавата цень чужы,
Каса з травой сцюдзёна гаварыла.
Выгнанцамі ўніяцкія крыжы
У высях паўтарыліся раскрыла.

## ПАЧУЙ...

Дамінічка шэпча «Ойча наш» –
Вечнасці пакорыцца ўніятка.
Божа,
Ты пачуй сваё ягнятка,
Просьбу незапыленую ўваж.

У турме жыцця
Душа ў яе,
Звонкая, як ранняя крынічка.
З даланятак
Кволая каплічка
Чысцінёй да неба дастае.

Слова беларускае знава
Міласцівіць, першаадкрывае.
Дамінічка –
Краска лугавая.

Не шумі, будзённая трава...

*2003*

## У ЧАРЗЕ

Час – праўнук Вечнасці.
І ўсё жывое
Ў чарзе стаіць,
Каб павітацца з ім.
І смутак –
Нечаканы пілігрым –
Паразвінаў забытыя сувоі,
Дзе ўсё, што будзе,
На пачатку дзён
Рукой халоднаю
Накрэсліў кон...

*8 ліпеня 2006 г.*

## ПАМЯЦІ АЙЦА ЯНА МАТУСЕВІЧА

Пайшоў ад нас пакутнік уніят,
У гэтым свеце гнаны, непрызнаны.
Ён, варты ўвагі нашай і пашаны,
Быў позірку спагадліваму рад.
Займаў з лагодай свой зямны пасад,
Гаіў аблудных душ глухія раны.
У служкі ласкі боскае абраны,
Глядзеў, каб зелянеў людскосці сад.

Ён быў асвечаны ў начы будзённай
Агнём нябесным Уніі святой.
Атожылак рабіўся дужай кронай.

Смялей шумела вернасці дуброва.
Але спагада стала сіратой.
І замаўчала слова святарова...

*1998*

## ІСЦІМЕ...

*Айцу Аляксандру Надсану*

Ажно маладзеюць сцены старыя,
Лягчэе з адвечнай скрухай кулёк.
Трымае Сына
Дзева Марыя,
А ў Немаўляці ў руцэ –
Васілёк.

У ціхай свячыцы святая праца,
Што свенціць свет
Незямным святлом.
Святло разгарыцца,
Каб мог спрачацца
Наш дух вячысты
З вачыстым злом.

Полымнакрыла б'ецца трывога
Нікім не спалоханым матыльком.
Душа беларуская йсціме
Да Бога
З нябеснаю свечкаю –
З васільком.

*Лондан, 1998*

## РЫЗЫКУЮ

Злом нявечаны, любосцю пешчаны,
Гадаваны цнотай і абразаю,
Гэты свет
Мне Богам запавешчаны,
За яго, пакуль жыву, адказваю.

Не набыў я на́быцці для спадчыны,
І не маю куфра кутавекага.
Гэты свет,
Вачмі маімі ўбачаны,
Рызыкую пакідаць на некага.
Як запалкі ад малога некалі,
Ад мяне памалу ўсё прымаецца.
Страшна разлучыць з маёй апекаю
Гэты свет,
Што за мяне трымаецца...

*3 сакавіка 1996 г.*

## МАЛЕННЕ ЗА БЕЛАРУСЬ

Божа, пашлі Беларусі
Ласку з Тваімі вачамі,
Сэрцы суцеш у скрусе,
Злітуйся над крывічамі.

Знікнуць, Святы, не дай нам
Ад рукатворнага жаху,
Верацьмем вечным тайнам
Руху Твайго і шляху.

Божа, вярні дадому
Блудныя душы з выгнання.
Поперак духу злому
Воля Гасподняя стане.

Хай беларус беларуса
Будзе любіць як брата.
Светлая Імем Ісуса
Наша крывіцкая хата.

Божа, на ўсіх раздарожжах
Нас ад напасцяў варожых
Твой зберажэ напамін.
Амін.

*1992*

***

Святло ўзнялі далоні ў цвіках
Над беспрабуднасцю шэраю.
Перамагае праўда ў вяках.
Цярпенне трываліцца вераю.

У шчырых сэрцах жыве Хрыстос.
Цень клопату ўдзяку мерае.
Сваімі сцежкамі ходзіць лёс.
Надзея трымаецца вераю.

Нябёсы грэе анёльскі смех.
Дух сы́ціцца Тайнай Вячэраю.
Адрамантаваны Ноеў каўчэг.
Жыццё паўторыцца вераю...

*9 красавіка 2012 г.*

# *На ўскрайку вечнасці*

*На гэты свет з’явіцца крывічамі*
*Нябёсы дазвалялі,*
*А не ўсім...*

# З ГОДНАСЦЮ

*Але Сакалоўскай*

Шляхетная душа
Заручана з касцёлам
І вернасць веры
З годнасцю нясе.
Лёс едзе моўчкі
І хапае колам
Знямогі,
Каб забыцца аб красе.

Воз лёсу не сыходзіць з каляіны.
Душа спакойна ўпобачкі ідзе.
Пасланка іншых зор,
Свой грэх нявінны
Не хоча davяраць зямной бядзе.

Зямля – вязніца,
Дзе душа пакуты
Адбыць павінна,
Каб вярнуцца зноў
Да ясных зор,
Дзе кожны ўздых пачуты
І навальніц,
І ўтуманелых сноў...

*8 студзеня 2005 г.*

## ТЧЭЦЦА...

Зрэбны, шарачковы, ільняны,
Тчэцца лёс людскі
На зорных кроснах.
Чаўнакі,
Як мройныя чаўны,
Мчацца рэкамі настрояў розных.

Зрэбны, ён не срэбны.
Канаплі
На знясіленых хапае гонях.
Гэта коней на зямлі звялі –
І падаўся ў неба босы конюх.

Шарачковы –
Колераў няшмат,
Быццам вугаль з дымам,
Чорны з шэрым.
Ранішніх пратолінак пагляд.
Страх і смеласць,
Недавер з даверам.

Ільняны –
Ён лён, як сіні сон,
Што прысніўся на зямлі нябёсам.
Цёмная пакута й светлы плён –
Ільняным здавён спавіты лёсам.

Зрэбны, шарачковы, ільняны –
Тчэцца лёс
На кроснах даўніны...

## АДДЗЯКА

*Зянону*

Месія не прыходзіць з Галілеі –
На гэтым і стаяў Ерусалім.
А ён ішоў туды,
Дзе здрада тлее,
Дзе людзі – ворагі сабе самім.

Каб не памерці,
Зерне памірае.
Каб адцяніць святло,
Лютуе змрок.
З часін патопу ў ціхіх –
Хата з краю.
За схібны крок
Адказвае Прарок.

Ішоў на смерць,
А ўсе чакалі цудаў.
Ішоў перад шалёнай гаманой.
За ўсе пакуты
Пацалунак юдаў
Яму і быў аддзякаю зямной.

***

Лёс да кожнага прыходзіць босы,
Як Хрыстос,
Каб бядзілі кожнага турботы,
Як абуць свой лёс у лапці, ў боты.
А яму не занасіць калёсы.
Боссю – каб нячутна! –
Ходзіць лёс.

Ты, нявольнік, вольны выбраць путы,
Пасталы змяніць на кірзачы.
Грукай збітым, як парог, абцасам.
Смелы і ў руцэ з кавалкам ласым,
Помні заўсягды пра лёс разуты,
Ногі босаму не адтапчы!

*1992*

## КАБ РУНЕЛА ДУША...

Каб рунела душа,
Кожны крыж свой нясе
Ад народзін да скону.
Усявышні сказаў
Не стамляцца красе,
Свету даўшы ікону.

На балючым крыжы
Нам нябёсы ўзняло
Рук Хрыстовых раскрылле.
Аступілася зло,
Ды ўваскросла святло.
Ройна на небасхіле.

Вучаць лётаць крыжы
Крумкача і арла.
Дол чакае, вядома,
Каб на крыж,
Развітаўшыся з намі,
Магла
Абаперціся стома.

*27 верасня 2003 г.*

## ЯШЧЭ НІХТО...

Баліць усім.
А кожнаму па-свойму.
Калі баліць,
Дык кожны сам не свой.
Ці кідаецца
Роспачы ў абдоймы,
Ці грэе вір гарачай галавой.
Каму ўсяго –
Каму галечы ўволю.
Каго чакае трон –
Каго астрог.
Але з жывых
Ніхто ўцячы ад болю,
Як ад Даўца жыцця,
Яшчэ не змог.

## ПАРУШЫНКА

Зямля –
Парушынка ў Гасподнім воку.
І колькі трывацьме Гасподзь яе,
Не дадзена ведаць ані праpоку,
Ані вячніне,
Якой трывання стае.
А мы парушынку варушым, нявечым,
Каб Збаўцу яшчэ непамысней было,
Каб пра сябе нагадаць хоць нечым,
Перш чым глыне нас немае тло.

І з недасяжнага нам далёку
Нябачнасць бачыць,
Як час бяжыць,
Як парушынка ў балючым Воку
Дрыжыць...

## ВЕШЧАЕ

*На пачатку было Слова, і*
*Слова было ў Бога, і*
*Слова было Бог.*
*Дабравесце паводле святога Яна 1.1.*

Сапраўды было
Усяісным Богам
Вешчае Слова.
Словам абнашчылася
Святло.
Змрок невыпадкова
Нанова
Зацвярдзеў падступным парогам
Тым,
За якім
Сам сябе грэе сподзеву дым.

Словам прыходзіць да нас
Духатворца абавязкова.
Усявышні дае нам дазвол
Імкнуцца
Бачыць і чуць Слова
Гэтак,
Як бачыць Яго небадол.

Першым словам сваім
Вітаем свет гэты,
Подыхам Гасподнім сагрэты.
Апошнім словам, глухім,
Развітваемся са светам,
Верачы,
Вечнае Слова жыве
Там...

## ЯК СЯСТРУ...

А душа,
Покуль зноў зямная,
І не ўспомніць, які ўжо раз
Свет знаёмы запамінае,
Дзе сябе пазычае час.

За начлег у часовым целе
Часу доўг душа аддае.
І куды б зоркі ні паляцелі,
Не забудуць паклікаць яе.

У нябёсаў свае падворкі.
Лёс ладзьбуе свой воз стары.
І душу пасылаюць зоркі
На зямлю,
Як сястру да сястры.

## ВОЧЫ

А з прышласці ў прошласць
Праз нас, праз вякі
Глядзяць
Недасяжныя вочы Хрыстовы,
Нібыта пытаючы досведна:
Хто вы –
Ці людзі, мае сваякі,
Ці ваўкі?
І зоркі згараць,
Дасмыляць смалякі,
Замоўкнуць
І зноў разгаворацца словы,
Ды будуць глыбініцца
Вочы Хрыстовы,
Нябесна ратуючы нас і вякі.

## КАБ НЕ ЗГАС...

Гэты свет –
Урачысты храм,
Дзе святарыць жыццё маладое, –
Усявышні даверыў нам
З долам смутку
І небам спакою.

Каб праверыць няпэўных нас
На адданасць высокай веры,
Каб у нас
Той промень не згас,
Што світаў Патайнай Вячэры...

***

Богу ў вочы глядзець
І душою
Па Ягоных сцяжынах ісці.
Жыць удзячна ў імгненным жыцці,
Не сварыцца са злосцю чужою.

Богу ў вочы глядзець
І душою
Размаўляць з Усявышнім Тварцом.
Піць бяду і нагбом, і карцом.
Ані срэбрам не быць, ні іржою.

Богу ў вочы глядзець
І душою
Кожны рух чысціні паўтараць.
Голасу дабрыні патураць.
Як парчой, ахінацца імшою.

Богу ў вочы глядзець
І душою
Ніцма падаці ў ногі Айцу.
І жывому жадаць, і мярцу
Боскае мілаты і спакою...

## ДАЦЬ ВЫРАСЦІ...

Нялёгкая праца,
Нялёгкаадольная праца –
Страх у сабе знябыць.
Бога не трэба баяцца –
Бога трэба любіць.

Бога на ўсіх хапае,
Толькі б хапіла ў нас
Удзячнага небакраю,
Адкуль вяртаецца час,

Каб на нязмушаных пашах
Напасвіць сябе святлом,
Даць вырасці ў душах нашых
Спагадзе,
Што стане жытлом.

Жывем,
Каб урэшце спытацца,
Скрышыўшы журбы ледзяшы,
Утульна Богу ў палацы,
А ці ў пакайнай душы?

***

Ад нас перахаваць дарогі
Любіць Бог
То снегам, то лісцём зрудзелым,
То травою.
Каб кожны пратаптаць
Наноў дарогу мог
Альбо ўзгадаць сваю,
Як даўнюю трывогу.

Урэшце ў небыццё
Вядуць дарогі ўсе.
Мядзведзь пацехі прэч
Нясе калоду мёду.
Як збродлівых цялят,
Дарогі час пасе.
Ну а цялятам што –
Каб толькі ўбіцца ў шкоду!

## ВЕДАЎ...

Ведаў Бог,
Які нам свет дарыць,
Каб маглі мы ўсе
Яго нявечыць,
Тужыцца скарыць і разбурыць
Ці, прасцей сказаць,
Ачалавечыць.

Лічым, што за намі
Час бяжыць,
І ад цьмянай радасці
Нямеем.
А не цямім,
Як на свеце жыць,
А сябе зжываць са свету
Ўмеем...

## БО ЁСЦЬ ПРЫСУД...

Няўжо бясконца незлічоны Бог
Жыве і ў мудрацу, і ў недарэку
І патурае мілаце і здзеку,
Глядзіць,
Як б'юцца за зямны пірог
Ягоныя тварыны
І Тварца
Не помняць за памыснаю парою.
Як дарасці ўдаецца да істца,
Не разумеюць Божага настрою,
Бо ёсць Прысуд пачатку і канца.
Ён ахінуты хмараю сырою.

## ПАДНЯВОЛЬНІЦА

Лёс кроіць бохан скупымі акрайцамі.
Жыццё,
Выкрадаючы ў вечнасці дні,
Прыземіць клапотамі ўпарта стараецца
Душу –
Паднявольніцу вышыні.

*2003*

## ТРЫМАЕ...

Нас на зямлі за ўсё мацней
Трымае смутак развітання.
І хвалявання верабей
Чырыкаць нам не перастане,
Пакуль бяжым, пакуль дрыжым,
Што больш не ўбачым гэты ветах.
І радасць чэзне ў запаветах,
Свет ціха робіцца чужым.

Відаць, і ў космасе Зямлю
Трымае смутак той жа самы.
І сорамна прасіцца ў храмы
Пагрэцца голаму галлю...

## ПТУШКІ

Гэта з Богавай далані
Крошкі шчырага хлеба ўпалі
Птушкам ласкі і дабрыні,
Каб яны ксцілі вечныя далі.

У пакутах душы людзей
Ксціла рук Хрыстовых раскрылле.
Цемра, як цяпер ні люцей, –
Пажынацімеш чарнабылле

У засмучанай вышыні
Аблачынак нявінных пер'е.
Птушкі ласкі і дабрыні
Студзяць боль ад цвікоў знявер'я...

## ДАЗВОЛІЎ

Госпад дазволіў нам гаварыць,
Дзякаваць і крыўдаваць,
Але
Мусіма думкі свае варыць
Разважліва ў тым катле,
Які трывае ў нас на плячох,
Каб неразважлівых не было.
Мала для слова зямных дарог –
Нябёсы ў сваё запрашаюць жытло.

Словы гаркоты й салодкай маны,
Свой з намі адбыўшы час,
Адыходзяць у сны даўніны,
Каб і там дачакацца нас.

## АСКЕПАК

Ганчар нябесны, рупны ў хараства,
Адчуць майстрам параіў
Крылы за спіною.
Красой адзінай чалавек жыве –
Аскепак космасу
І сон бяды зямное.

І тораць дзіва сонца, і вятры,
І чалавек –
Чаляднік клопату жывога.
Пакуль слывуць майстры і штукары,
Датуль спакойна за зямлю
На сэрцы ў Бога...

## ШЛЯХАМ ЗЕРНЯ

Ці шляхам зерня ў свет
Прыйшоў Хрыстос.
Ці зерне
Шлях Хрыстовы паўтарыла.
Хлеб духу й хлеб штодня
Святая сіла
Багаславіла іменем нябёс.

Духоўны хлеб
З надзённым – сваякі,
Як луста араллі і луста хмары.
Маўчаць душы абложныя абшары,
Дзе змрок глядзіць
У сонца з-пад рукі.

*8 красавіка 1996 г.*

## СМАК

Лепшага смаку няма, чым жыць,
Як імянінніка,
Дзень вітаць,
Сена пражытага варушыць,
Радавацца,
Што далёка відаць.

Тое, што зблізку,
Бачыць цьмяней,
Гэтак жа, як недахопы свае,
І на сустрэчу выходзіць раней
З той,
Што на ростань руку падае.

Скеміць,
Што долю ўжо не прыручы́ць,
Сцяміць,
Што сам непрабудна стары.
І пачынаць ціха рэшту лічыць
І ў капшуку,
І ў календары...

## ПУСЦІ

Стопчацца сцежка ў гэтым жыцці.
Кладка сплыве па рэчцы.
Бога здарожанага пусці
Ў хату душы пагрэцца.

Іншая сцежка вядзе ціхама́
Да ранішняга парога.
Іншая кладка кладзецца сама
Цераз віры былога.
Будзеш цягнуцца, як ліст,
Да святла.
Злятацьмеш,
Як з вока павечка.
Толькі б сцежка твая не ўцякла,
Кладку тваю
Не сагнала б рэчка.

***

Я жыў,
Калі яшчэ наўкола
Усё жыло –
І луг, і стаў.
Спеў полаза
І скогат кола
Яшчэ пачуў,
Яшчэ застаў.

Хоць полаз гнуты-перагнуты
Нос задзіраў,
А з кола рух,
Забыўшыся на ўсе пакуты,
Ірваўся ў рукі завірух...

*5 снежня 1995 г.*

## ЯК ТОЙ АГОНЬ...

Як той агонь,
Заснулы ў макавым зярнятку,
Што спаліць жарсцю
Ці ачысціць светлатой,
У сэрцы кожным
Беларусь жыве спачатку
Двайніцай ніцаю Заступніцы святой.

Як спаліць –
Прысак застанецца летуценны,
Што хоць на міг які
Адбеліць чарнату,
Асвенціць верай,
Каб наступныя калены
Чужак не пяўся пакасіць, як асіту.

Агонь ахвярную такую мае жменю,
Якая голай будзе, колькі ні дары.
Агонь – сваяк гарачы каменю й агменю.
Агонь ніколі не праспіць
Сваёй пары.

## УСЁ ЖЫЦЦЁ

Усё жыццё чакаць сябе такога,
Якога некалі прыдумаў сам.
Сваю журбу пазычыўшы лясам,
Не бачыць, як спяшаецца дарога.

Усё жыццё гукаць сябе былога,
Які аднойчы ўжо адчуў свой страх,
Ды, спанталычыўшыся на вятрах,
Пайшоў туды, дзе грэлася знямога.

Усё жыццё шукаць сябе самога,
Які згубіўся недзе ў небыцці.
І, ўцяміўшы, чаму маўчыць аблога,
За небакрай,
Як сам туман, ісці...

## ХОЦЬ ЦІХА

*Каго не цягне азірнуцца.*
*Эўджэніё Мантале*

Ты – тое дрэва,
Што баліць
Любой галінкай спілаванай.
Не дай сябе ні адбяліць,
Ні ўхутаць чуласцю ўзлаванай.

Ад гнёздаў,
Што чаканне ўе,
З ахвотаю галіны гнуцца.

З табой турботы ўсе твае.
Зірнуць лягчэй,
Чым азірнуцца.

Як ні ўцякай –
Твая віна
Атожылкам расце на ўзбоччы.
Душа відушчая,
Яна
Хоць ціха азірнуцца хоча...

## НЕ ВЕРЫШ

Канец жыцця
Пачатак паўтарае:
Які прыйшоў –
Такі й ты адыходзіш.
Табе адна маркота патурае.
Каўшу з гаркотаю
Не скажаш: годзе ж!
Час б'ецца,
Як падлётак-недаперыш,
З гняздзечка выпаўшы
На недакосы.
Што ты знікаеш,
Сам сабе не верыш,
Няпэўны, як туман,
Як вецер, босы...

*24 верасня 1995 г.*

***

Глухою, неразбуджанаю пушчаю
Спакусы атачаюць на зямлі.
Душа ўзнікае зоркаю відушчаю.
Грахі дымяць чарней, чым вугалі.

Каб вераломнасцю не аскароміцца,
Каб ад балота здрады адысці,
Павінна помніць пост душа-паломніца
І светлай да Ўсявышняга ісці...

*12 лютага 2013 г.*

## ПОЗІРК

Нязмерклым позіркам ікон
Глядзіць на нас Прысуд халодны.
А ў позірку дакор і кон
І прага выбеліць палотны
Зямных шляхоў.

На іх вякі,
Што будуць, што былі аднойчы,
Нібы сухія васількі,
Ляжаць,
Нябесны сум не тоячы.

Не змерыць зорнаю вярстой
Жыццё.
І зверыць час няма чым.

А можа, гэта позірк той,
Які чакаем,
Ды не бачым?

## РАБСТВА

*Той – раб пыхлівасці,*
*той – стаў рабом народу,*
*няўдзячлівага й ветранага зброду...*
*Амадыс Камен*

Хто першы з іх на белы свет
Прыйшоў – свабода ці няволя?
На цаліку чый першы след
Аднойчы ўбачыла спатоля?

Няволя з норавам крутым
Прывабліваць давер’е ўмее.
Ды ўміг сплыве ружовы дым
І з чарнахмар’я зыркнуць змеі.

Свабода – кволае дзіця.
Усім кіруе перамога.
Жывыя ўсе – рабы жыцця.
І кожны – раб сябе самога.

*8 жніўня 2006 г.*

## УСЁ...

Таго не хапае,
Таго няма.
Жыццё праходзіць у мітушэнні.
А доля – скнара,
Яна дарма
Не пакладзе нічога ў кішэні.

І чалавек хапае, грабе,
І колькі ні ўхопіць –
Яму ўсё мала.
І цягне, як коўдру,
Туман на сябе,
І зорку пасе,
Каб яна не драмала.

Адно для трывогі
Багата прычын –
Не можа злічыць
Усіх сваіх схованак.
І ўрэшце на немінучы спачын
Адвозіць яго
Безвясельны човен...

*3 жніўня 2006 г.*

## З ГЛІНЫ

З гліны жывучай
Нябесны Ганчар
Рупна ляпіў чалавечкаў.
Смела сырых
Пасылаў іх у сквар
Загартавацца спрадвечна.

Потым выцягваў,
Студзіў і на звон
Пераправяраў палі́ву.
Надтрэснутых Ён
Не выкідваў вон
І не пярэчыў здзіву.

Добра ў душы
На лёс свой зямны
Кожнаму накіпела.
Званочкамі светла
Звіняць адны,
Іншыя ныюць сцямнела...

## КАПЛІЦА

Вада на тое й тоіцца, каб ліцца,
Рыпіць ля крушні скруха:
Сон не руш...
Узгадвае пра капішча капліца –
Начлег часовы пералётных душ.

Душы хутчэй бы з зорамі пыліцца,
Ды глухне шлях ад зманнай гаманы.
І keміць, як халодны грэх,
Капліца:
Цяжэйшы пыл нябесны ці зямны?..

Мычыць у небе зорная цяліца.
Цямнее крыж,
Як воран-чарнакрыл.
І крылаў дачакаецца капліца,
Каб паляцець і ёй за небасхіл...

## КОН

Вакно адчыніць.
Выйсці ў космас начы.
І Млечным Шляхам
Падацца кудысьці.
Свой страх
І мілосць сваю перамагчы,
На гэтай зямлі
Не знайшоўшы выйсця.

Пайсці, каб забыцца
Свой смутак тут.
Пайсці, каб застацца
Незагоеным успамінам.
Самому прыспешыць
Свой Страшны Суд.
Пайсці, каб застацца
Ўсявышняму вінным.

## КАТ ЦІ АХВЯРА

Забойца – толькі выканаўца волі,
Ды так і не дазнаецца чыёй.
Не даражыць жывой вадой – крывёй.
Чужая кроў не змые грэх ніколі.

Забойца – зброя гневу ці адплаты.
Ці зброя міласэрнасці, ці зла.
Ахвяра ці забойца вінаваты,
Не скажа голас змроку, ні святла.

Кат ці ахвяра,
Хто бліжэйшы Богу,
Хто варты больш Ягонай мілаты?

Святла баяцца цёмныя краты.
Арлы да сонца ведаюць дарогу.

*13 ліпеня 1996 г.*

## ЗАВОЗНІК

Завознік на млыне,
А млын завецца часам.
Стаю ў даўгім завозе.
Млыну не да мяне.
Пасуся самапасам,
Паверыўшы дарозе.
Ляжаць мае мяхі,
Дзе чэзнуць дзён зярняты
З далоні Пана Бога.

Млынар, амаль глухі
Ад гулу, ў будні й святы
Бярэ з мяха любога

І засыпае ў кош
Бурштын зямлі шурпаты.
Скрыгочуць камяні.
І памінальны коўш
Не ад апошняй раты
Хмялее ў цішыні...

***

З гадамі,
Як і да жыцця,
Да смерці ціха прывыкаем.
Спачатку да чужой,
Хаця
Свая не за зялёным гаем.

Мы прывыкаем,
Ці яна
Нас прывучае, прыручае.
Самотна ёй.
Яна адна,
Дарма што памагатых зграя.

Мы ўсе –
Самотнікі ў жыцці.
І нас самотніца збірае,
Каб множылі самоту,
Ці
Сустрэчай грэецца старая?

## СВЯТАСЦЬ

Здаецца падчас, што й паганскіх багоў
Як першапраходцаў, як чорнарабочых
Госпад паслаў да зямных берагоў,
Да працы зусім незямное ахвочых.

Яны пабылі – дрэвы ды камяні,
Вятры з перунамі – багамі.
І слову служылі, й глухой цішыні
І першае святасці дапамагалі.

Ад дрэў радавод багоў нават пні
Сякера веры секла з размаху.
Але дагэтуль іх карані
Варушацца ў цемры нашага страху...

## НЕ

Вада з вадою не зліваецца,
Ліецца кожная сама.
Бяда бядою даганяецца,
Спяшаюцца, дзе іх няма.

Выгодзе веснавой выгодзячы,
Вада ўцякае ў халады.
Бяда, з вады сухой выходзячы,
Губляе мокрыя сляды.

Бяда да шчасця хітра лашчыцца,
Бядзе сябе самой шкада.
Калі вадзе жывой заплачацца,
Не ўчуе мёртвая вада...

## ДОЎЖЫЦЦА

Дзень скарацеў,
Як і цень мой зямны.
Ноч падаўжэла, як вечная тая,
Што земляробаў самотна вітае
Позіркам,
Дзе не чуваць гаманы.
Б'ецца на цурачкі сподзеў,
Як збан.
Роспач глядзіць, як змяя-верацея
З зябкай замовы, дзе боль карацее.
Доўжыцца,
Доўжыцца,
Доўжыцца зман...

*8 лістапада 1996 г.*

## КАМУ НАЛЕЖАЦЬ АБЛОКІ?

Каму належаць аблокі?
Адкажа крыло сарокі,
Што пер'ем мяняцца смела
З аблокамі захацела.

Каму належаць аблокі?
Адкажа блакіт далёкі,
Што водзіць за рукі аблокі,
Як тых унукаў на ўрокі.

Каму належаць аблокі?
Адкажуць нячутныя крокі,
Што зябнуць у зорнай знямозе
Слядамі на Млечнай Дарозе.

Як неслухі, збеглыя з дому,
Аблокі належаць
Нікому!

*23 сакавіка 1996 г.*

## НА ГАРАДСКІХ ХУТАРАХ

Нібыта з вайны –
Біты друз, каміны.
Дзічэюць сады.
Дзічэюць сабакі
І выюць на Месяц.
Забылі яны
З гаспадарскай рукі прысмакі.

А горад кепліва
Наступ вядзе
На двары, на ціхія стрэхі.
Дарогу ўступаючы лебядзе,
Плечы ўгінаюць лехі.

Гаспадарамі пакінутыя
На гарадскіх хутарах,
Сабакі пілнуюць паганскі страх...

*26 снежня 2005 г.*

## АД КАГО?

Зоркай каганец цямрэчы плечы
Прапячэ,
Згарэўшы да канца.
Зорцы недасяжнай быць дарэчы.
Цені грэюцца ад каганца.

Ад каго ж святлей?
Бо, як суседзі,
Дзеляцца яны сваім святлом.
Ці ад зоркі той,
Што ў небе недзе,
Ці ад каганца,
Што над сталом?
Гэта знічкаў залатое смецце,
Гаснучы, спытаецца тады,
Ад каго ж цямней
На белым свеце –
Ад сляпой нуды
Ці ад бяды?

*2 верасня 1995 г.*

## ХОЛАДНА...

Расстацца з нябёсамі,
Каб растаць на зямлі...
Сняжынкі цьмеюцца
Белай сажаю.

Цяжкое тваё пытанне
*Калі*
На шалях маўчання
Нябыт узважвае.

Растаць на зямлі,
Каб падняцца наноў
У нябёсы
І начаваць аблачынамі...
Сняжынкі сыплюцца
З праветраных кажухоў,
Вывернутых
Палапленымі аўчынамі.

Спаміж нябёсамі і зямлёй
Холадна быць імглой...

## КРЫГАСЛОЎ

На крызе слова думка плыве
Па вірлівай пратоцы дапытлівасці,
Каб на роўнядзь развагі выплысці
І на выспе прыспанай роспачы,
Якой здаецца,
Што й яна аблачынкай плыве,
Ашукаўшы бяспамяццця ноч,
Прайсці басанож
Па траве,
Зялёнай ад кпінаў
І зацятых усмешак,

І ўрэшце сесці на ўзмежак
Роздумнага спакою.
Ды ніца схіліцца,
Не заўважаючы тло,
Каб шалёнага адкрыцця бліскавіца
Трапяткою рукою
Халоднаму сэрцу
Пераксціла чало.

*28 лютага 2003 г.*

## ПРА ШТО ДУМАЕ КАМЕНЬ

Неба кідае думкі не на абразу,
Ды ад жаху згарэць у зямной мітусні
Камянеюць нябесныя думкі адразу,
Перакідваючыся ў камяні.

І, задумаўшыся, не варухнуцца вякамі
Камяні –
Незразуметыя мысляры.
Іх маланкі гарачымі грэюць рукамі,
І напрошваецца туман у сябры.

Ім спакою стае, як лагоднага моху.
Толькі более іхнай маўклівай радні.

На зямлі, што як падчарка небава,
Могуць
Вольна думаць
Бадай што адны камяні...

## САМАСУЦЕХА

Не на паперы пішам – на вадзе.
І не пяром, а нашых думак ценем.
Свой марны плён
Хіба што самі цэнім.
Вада спадзе – і плён з сабой звядзе.

З вярыг у грэхі ці наадварот
Нястрымны шлях.
А волак – той прамежак,
Які завем жыццём і ў цёмных межах
Імкліва адбываем свой чарод.

Як і пісьмёны, нас знясе вада
Да той ракі, дзе не начуюць зоры,
Дзе знебыцеюць крыўды і дакоры.
Чаўна на ўсіх
Харону не шкада...

*1999*

## УЗАЕМНАСЦЬ

Вяршыні падвышаюць вышыню,
А вышыня вяршыням ценіць чолы.
Ноч хоча смутак свой пазычыць дню,
А ўжо смяецца досвітак вясёлы.
Гарыцца нецярпліваму агню
Сагрэць абражаныя сцюжай долы.
Вяршыні падвышаюць вышыню,
А вышыня вяршыням ценіць чолы.

***

Нагам вязка,
Рукам носка,
На плячох вязка,
У вачох казка,
На душы боска, –
Сябе ўспамінае
Зніклая вёска.

*5 сакавіка 2006 г.*

## БЫЛА...

Раней займаецца світанне,
Ноч трызніць цёмнай варажбой.
Цябе чакае развітанне
З усімі
І з самым сабой.

Як запытацца ў развітання,
Чаго спяшаецца й куды.
Яно не стане,
Толькі стане
Табе гаркотней ад жуды.

Рыпіць сцюдзёна дуб-старэча,
Бяльміста пяліцца дупло.
Была вясноваю сустрэча
З жыццём.
Ды сцежкі замяло...

*19 лютага 1996 г.*

## НА РУЧНІКАХ...

*Памяці Алеся Траяноўскага*

На ручніках маўклівую труну,
Як скарб апошні,
Давяраюць долу.
У скрухі не спытаўшыся дазволу,
Гукае сподзеў вечную вясну.

Хаваюць боль і роспач ад сябе
Цяжкія вочы,
Згорбленыя спіны.
Заплеччу ціха шэпчуцца ўспаміны.
Зярняты слёз пакорацца сяўбе.

Старэе зябка цішыня вякоў.
Душа шукае,
Дзе не спіць аблога.
І шырыцца да Госпада дарога
Са сцежак вышываных –
З ручнікоў...

*18 сакавіка 2005 г.*

## НЯБАЧНЫ...

Не магу
Ад сябе адагнаць тугу –
Сваячку бедаў і ведаў.
А тут яшчэ
Сабака суседаў
На ланцугу
Ёкатам зябкім якоча,
Тугой са мной
Падзяліцца хоча.
А мне і сваёй даволі.
Смялей, суседзе, брашы.
Можа, зробіцца
Весялей на душы.

Нябачны ланцуг у волі...

*8 кастрычніка 2006 г.*

## НЕВЯДОМА...

Вырвацца нельга
З прыгону жыцця.
Роспач і стома
Ў душы як дома.
Хочацца мёртвым зайздросціць,
Хаця,
Як ім жывецца там,
Невядома.

Ці ўсе раскашуюцца,
Як паны?
Злом ці дабром
Поўны скрыні й прыскрынкі?
Думы цяжкія там,
Як валуны?
Клопаты лёгкія,
Як аблачынкі?

Кожны аднойчы
Дазнаецца сам,
Як гэта ўсё
Там...

*19 сакавіка 2008 г.*

## ШЧЫРЭЮЦЬ...

Шчырэюць дзеткі,
Каб хутчэй бацькі
Збіраліся ў адвечную краіну.
А ўнукі –
Як апошнія цвікі, якімі забіваюць дамавіну...

*23 чэрвеня 2006 г.*

## СІВЕЕ...

У астарэлым маміным садзе
Без мамы зябка і горка.
Сцежку перамяла
Пялёсткавая завея.
На вачах
У замроенага адвячорка
Маладзюткі туман сівее...

*19 мая 2006 г.*

## ПРЫЗІМАК

Два апошнія яблыкі
На галодным суку
На дол у адчаі
Драўлянымі пазіраюць вачамі.
Кожны баіцца зваліцца.

Усё, як у садзе людскім, –
Хто за кім?

*1 лютага 2006 г.*

## ВОРАГІ

*І ворагі чалавеку хатнія ягоныя...*
*Дабравесце ад Мацвея 10:36*

Чалавек –
Ён вораг сам сабе.
А без ворагаў ён сіраціна.
Сваякі – як сінякі на лбе.
Хатнія – калючыя, як кпіна.

Не прыкідваючыся ні на міг
Дабрадзеямі па абавязку,
Хатнія хутчэй сябе саміх
Запрашаюць на бяседу ў казку.

Хатнія,
Пачуюцца яны
Дрэвамі далёкімі ў карэнні.

Адыходзяць крэўнікі,
Як сны.
Хто іх, дзе, калі
І як сустрэне?..

*1 жніўня 2006 г.*

## АПОРА

*Пятру Васючэнку*

Ад сэнсу маючы ключы,
З мілосцю мудрасць спалучалі
Шляхетнейшыя палачане,
Харобрайшыя крывічы.

Аблогу цемры аручы,
Карчы валілі без адхлання
Разважлівыя палачане,
Даверлівыя крывічы.

...Насуперак чужой начы
Вы наша нашчыце світанне,
Галіністыя палачане,
Рэліктавыя крывічы...

*16 верасня 2006*

## ЛЁТАЕ...

Грому дбаць пра страх
Няма калі.
Цэдзіць цішу
Рэха гулкаротае.
Валачэцца важка па зямлі,
Хто ў аблоках
Лёгкакрыла лётае...

*27 мая 2006 г.*

## НЕ КУПІЎ ЯШЧЭ

Я, пэўна, не купіў яшчэ
Сваю апошнюю кашулю.
І рэшта дзён маіх цячэ,
Як адшумелы дождж па шуле.

Па шуле,
Па глухой спіне
Варотаў –
Сонных ветрагонаў,
Адкуль ліне ці сыпане
Апошні дождж
На згон загонаў.
Загонаў,
Дзе растуць ляны
Мне на апошнюю кашулю.
Ды чуў,
Што рост у іх ляны –
Яны,
Няйнакш, мой сум пачулі.

## ПЕРАЧЫТВАЮ...

Столь у мамінай хаце
Ў самотных сучках,
Як неба ў прыцьмелых зорках,
Яшчэ нада мной высока.
Столь, як паэму лесу,
Чытаць па габляваных радках
Не стамляецца вока.

З якіх баравін,
З узлескаў якіх радкі,
Каго запытаць
І якой парою,
Калі ты і сам падсочаны
На беразе высокай ракі,
І жывіцы ўжо не стае
І твайму настрою...

Перачытваю паэму паволі,
Бо не за гарамі той дзень,
Калі
Мой клопат
Згубіць свой след на зямлі.
І ў самай нізкай апошняй столі
Ані сучка ўжо не ўбачу болей...

*26 ліпеня 2006 г.*

# НА ЎСКРАЙКУ ВЕЧНАСЦІ

## ТРЫПЦІХ

*Памяці Васіля Быкава*

I

Талент – гэта праклён
Паласатага д’ябла.
Намагаецца плён,
Каб душа не азябла.

Талент – гэта палон,
Не ўцякаюць з якога.
Б’ецца ў краты вакон
Маладзік крутарога.

Талент – гэта амбон,
Дзе хацела б вініцца
За бязмозгліцу дзён
Старасць – смерці двайніца.

Талент – ранішні сон,
І яго прачынацца
Не прыспешвае кон,
Покуль рупіцца праца...

II

Людства –
Рэха светлай даўніны.
Літасць –
Стомленая лютасць змроку.
Цяжка чуцца ціхаму прароку
На гандлёвішчы глухой маны.

Хоць прарок
Даваў сабе зарок
Абыходзіць вір знявер'я бокам,
Цяжка
На зямлю сысці прарокам.
Грэх ступае следам
Крок у крок.

Людства –
Памяць маладой віны.
Літасць –
Спадкаемніца папроку.
І чуваць далёкаму далёку
Патаемнай кайнасці званы.

III
Душою не крывілі крывічы,
Бо крэўнасць з небадолам адчувалі.
І валуны, спыніўшыся на ўзваллі,
Нікуды не спяшаліся ўцячы.
Пярун – вястун вясны –
Аб валуны
Вайстрыў маланак вы́вістыя стрэлы.
Лясун, і аўдавелы, й астарэлы,
Сніў сон,
Як восеньскі туман, ляны.

На ўскрайку вечнасці
Крывіцкі край
Абжыты быў паганскімі багамі.
І гурбы снегу белымі стагамі
Пагрэцца запрашалі зорны грай.

Прагаліны сарок
Зарокам зім
Ратаяў ратных гоняў прывячалі.
На гэты свет з’явіцца крывічамі
Нябёсы дазвалялі,
А не ўсім...

*2004*

## ДОСЫЦЬ!

Мы самім сабе як успаміны,
Бо жыццё – салодкая гаркота.
З намі ад пачатку да канчыны
Наша беспрытульная самота.

Першым крыкам гэты свет вітаем
І на той маўкліва адыходзім.
Нам здаецца, што за небакраем
Смутак незямносцю залагодзім.

Наш прыход і адыход нікога
Не расчуліць, ані патурбуе.
Можа, толькі ганак Пана Бога
Нашых сценяў ціхі крок пачуе.

Мы – чаўны надзей і дамавіны.
Нам з грахамі мулка размінуцца.
Толькі немаўлячы сон нявінны
Зможа да нябёсаў дакрануцца.

Досыць павукамі павучыцца
Ды са збытнікамі абдымацца.
Нам у вольных дрэваў павучыцца,
Як за родную зямлю трымацца...

## НЯХАЙ ЖА!

Янка Купала – гэта мы.
Мы, якімі павінны былі быць, ды не збыліся.
Мы, якімі мусіма стаць.
Бог аднойчы злітаваўся над намі, беларусамі,
І паслаў нам Янку Купалу,
Надзяліўшы яго
Лёсам, блізкім да Сына Свайго Ўлюбёнага.
Хто верыў, а хто камянямі кідаў.
Хто йшоў следам, а хто прадаваў яго.
І ўкрыжавалі на Галгофе часу.
І ўваскрос у кожным шчырым беларусу.
Янкам Купалам бачым.
Янкам Купалам верым.
Янкам Купалам вяртаем Беларусь у Беларусь.
Будзем слухаць Янку Купалу.
Пачуйма Янку Купалу.
   Марыў Купала пра гордае шэсце
   Праўды,
   А перад усім,
   *З цэлым народам гутарку весці*
   Думаў,
   Але не з глухім!
Хай жа сэрца нашае не аглухне!
Дык прысягнем следам за Янкам Купалам:
Жыве Беларусь!

***

...Ён цяжка нёс
Крыж,
Быццам цень адзервянелы птаха.
І цень хацеў
Узняцца да нябёс,
Ды носьбіта
Чакала моўчкі плаха.
Свет разумеў
Сябе самога блага.
І перакрэсліў
Смерцю смерць Хрыстос.

Мы – вечны лён,
І нашых дзён траста
Адвеецца вятрамі паступова.
Душа
Вернападданніцай Хрыста
Паўторыцца нанова, як абнова.
Да вечнасці прыслухаецца слова.
І загусцее ў сотах сноў сыта.

Мы станем ценямі аднойчы ўсе
І ў неба ўзняцца
Подумна захочам,
І, верныя зняверанай красе,
Багаславімся позіркам прарочым.
Лёс усміхнецца кожнаму,
Як вотчым.
І ўрэшце крыж свой
Кожны панясе...

## АДЗІН

Няма да каго прыхінуцца душою,
Нікога наўкол няма.
Душа свая часам здаецца чужою,
Не чуе сябе сама.

Спадаюць дні, быццам з дрэва суччa.
Сплываюць ільдзіны дзён і гадзін.
Адзін прыходзіш на свет калючы
І адыходзіш – адзін.

## SALVĀVI ANIMAM MEAM

Ратоўца й вартаўнік душы
Сваёй
На цёмнай той мяжы,
Дзе звада
Вадзіцца са здрадаю,
Не веру я віжу й вужу,
То каменем,
То пухам падаю
І ўсё над прорваю кружу.

Хачу я,
Пратурыўшы жаль,
Паразумеўшыся амаль
З нябеснымі й зямнымі мытнямі,
Вяртаючыся з кірмашу,
Сказаць услед за старажытнымі:
Я ўратаваў сваю душу.

## І НАНОЎ

Адпусціць душу на пакаянне
Я хацеў бы, бо сядзіць яна
У маіх правінах, як у яме
Даўгавой,
Дзе ні краёў, ні дна.

Множу, покуль дуж, свае даўгі я,
Багацею гэтаю казной.
А даўгі марудныя, даўгія,
Быццам цені восені пазной.

З нéбыці, як з недасяжнай явы,
Свой душа згадае першы след.
Выбавіцца з вымушанай ямы
І наноў народзіцца на свет...

*10 ліпеня 1996 г.*

## ПРАГНУЦЬ...

Вякі – галодныя ваўкі,
Дні – перазяблыя сініцы,
Бяруць у голада з рукі
Усё з капкана і з пляніцы.
Дапасці хочуць наўпрасткі
Напіцца з вечнае крыніцы
Вякі – галодныя ваўкі,
Дні – перазяблыя сініцы.

*28 мая 2006 г.*

## ДЗЕ МОЖНА...

Хоць ёсць куток,
Дзе і памерці можна,
Пайсці спакойна
Да сваёй радні,
Люляць тугу
Даверыўшы вяльможна
Глухім галінам –
Зданям цішыні.

А на галіны
Прылятуць вясною
З паганскай пракавечнасці
Лісты.
І па рацэ
Світальнага настрою
Сны паплывуць,
Як позні плыты.

А расчытаць лісты
Паможа зорка,
Што развітальна
Ўзыдзе нада мной.
Палын, як успамін,
Запахне горка.
Маўчанне
Папярхнецца гаманой...

*21 мая 2006 г.*

## ПРАШЭННЕ

Калі я адыду, пастаўце мне
Валун сівы і крыж на валуне.
Засведчыць крыж,
Што адышоў з імшой
Паганец кшчоны,
Уніят душой.

Крумкач, як чорны плач,
На валуне
Спачне і, значыць,
Памяне мяне.

І стрыж, як крыж здранцвелы,
Прамільгне,
Цень студзячы ў труне
На самым дне.

Калі я замаўчу, пастаўце мне
Валун сівы і крыж на валуне...

*27 ліпеня 1995 г.*

# НА ДНЕ ПРАДОННЯ

Каля глухіх, зажураных вазоў,
Што запыніліся
На дне прадоння,
Ад першажаўранкаў да маразоў
Бяссонне ходзіць
З кайстраю рудою.

Вязе ўспамін на млын
Палын змалоць,
А на хаду заснуць
Спрабуюць колы.
Жыццё ёсць сон,
Які сасніў Гасподзь,
А нам яго распавялі
Анёлы...

*9 сакавіка 2005 г.*

## МЫ ЎСЕ

Мы ўсе жывем пад зоркамі матуль.
І гэты свет
Сагрэлі нам матулі.
Сны нашы –
Дабравеснікі адтуль,
Дзе злыбяду матулі прыгарнулі,
Прыспалі,
Каб не кратала сыноў
Пасланніца эпохі лесуноў.

У неба зорнае зірні ўначы,
Дык гэта ж – ніва,
На якой матулі,
Рупліва жыта цёмнае жнучы,
Абначавалі,
Прысмерку не ўчулі.
Вязалі долі нашае снапы,
А кожны сноп на зерне не скупы.

Мы позіркам чыім
На свет глядзім?
Хто ясніць нашай роспачы аблокі?
Пад зоркамі матуль
Нам відна ўсім.
Свет без сузор'я роднага бязвокі.
Зямное мітусні пусты хатуль
Напоўнім чым
Пад зоркамі матуль?

***

Вушача –
Гэта той вушак,
Які трымае тыя дзверы,
Што ў свет расчынены
Для веры.
Вушача –
Як вада ў вушах,
Калі з ракі жыцця
На бераг
Раптоўна выкіне,
Каб змог
У хвалях клопату набеглых
Шукаць сляды
На той парог,
Што ў хату запрашае,
Дзе
Начуе сон.
Вада гудзе,
Шуміць вада ў вушах журбы.
І ў шума голас не слабы.

## ТАМ

Не адлучаўся я зусім
З вушацкай хаты анікуды.
Дратоў з'інелых перагуды
Мой цягнуць сум
З далёкіх зім.

І дні спяшаюцца ўпадбеж
Вярнуцца ў цішыню нязлую.
Там толькі,
Дзе душа начуе
І прачынаецца,
Жывеш...

## ВЯЛІЧКА

Па велікоднае яечка
Да хроснай маткі ўранні йшоў.
І чуўся светлы спеў званоў.
І мне зайздросціла мястэчка.

З абрабаванага касцёла,
Як з недалёкай даўніны,
Званілі зніклыя званы.
Дзень пачынаўся ясначола.

У Божы свет ішло Вялічка –
Святое свята ўдзячных слёз.
Хрыстос ускрос!
Хрыстос ускрос!
Свяціла промнямі крынічка.

У згадках ксцілася Вушача.
Світала з забыцця імша.
Яшчэ дасюль мая душа
Па радасці шчымліва плача...

## ДА ЎСХОДУ СОНЦА

На хутары Верасовачка
У Чысты Чэцвер
Мама мяне будзіла
Памыцца бягучай вадой з крыніцы,
Што шчабятала ў валуна за спіной.
Памыцца, каб змыць
Пыл яшчэ негусты наіўных грахоў.
А за пагоркамі згорбленымі
У Ваўчэнскім возеры,
З якога ўцякала
З уначэлай вадою рэчка Крывуха,
Дзяцей сваіх купаў пан груган,
Каб іхная чарната блішчэла.
На Святое Вялічка да ўсходу сонца
Твар абмыць і прасы́рыць вочы
Стаяла з вадою міса,
А ў вадзе ляжала яечка чырвонае,
Каб, як сонейка, аблічча свяцілася.

Да ўсходу сонца памыцца,
Каб з сонцам разам
Клапаціцца ўвесь белы дзень
Не толькі з чыстай душою...

## МОЙ РОД

Мой даўні род
Пачатак свой вядзе
Ад крывічоў з паганскімі вачыма,
Што кленчылі
Зямлі, агню, вадзе.
Я думаю,
Яшчэ раней, магчыма.
Пачаўся ён,
Калі свой першы сон
Прысніў аціхлы прашчур у пячоры.
І дзіду ваяру закляў заклён,
Якую атрымаў ад непакоры.

Як сваякі, паганскія багі
Жылі спаконна з продкамі маімі.
Рака часін змяняла берагі,
Каб зноў вярнуцца ў іх
У новым імі.

На кроснах крозаў
Ткала палатно,
Каб ахінуць мой род
Рупліўка-доля.
Ад мудрых зор я ведаю адно,
Што не звядзецца род мой аніколі.

Ён вечны, як і вечная зямля
Крывіцкая
І да мяне, й пасля...

*23 верасня 2006 г.*

## НА СХІЛЕ

Як мне, малому, хацелася ў свет!
Як мне хацелася вырвацца з хаты!
Я задзіраў галаву, каб хвастаты
Бачыць хоць след
Незнаёмых камет.

Бачыў святло я, ды не разумеў,
Што пакідаюць неба каметы,
Не даляцеўшы да пэўнае мэты.
Што іх дапальвае,
Ласка ці гнеў?

Хутка і я ўжо гады дапалю,
Не падступіўшыся да небакраю.
І галаву сваю не задзіраю –
Болей хілю,
Каб запомніць зямлю...

## НА СЁМУХУ

На Сёмуху мама на свет прыйшла,
На ўгодную Богу Тройцу.
Свет даў у пасаг
Маме локаць святла,
І лёс падшукаў закройцу.
Закройца глянуў:
Дый на хвартух
Пасагу ўсяго не хапае.

З-пад шустрых нажніцаў
Ластавак-шчабятух
Хусцінка выйшла скупая.
Хусцінка, выкраеная са святла,
І грэла, й свяціла ў змроку.
Да Сёмухі з ёй гаспадыня пайшла,
Каб выцерці вочы Прароку...

***

З маленства ў наш сад
Заляцела сініца
Пра белыя папярэдзіць сляды.
Спяшаюся перад ёй павініцца
За тыя пляніцы,
За тыя гады,

Калі мне сініцу
Хацелася ў рукі.
Азяблы не думае пра жураўля.
Спасцігнуць не мог
Птушкалоўнай навукі.
Сагрэўся б, здаецца,
Схапіўшы гіля...

Мне ставіла потым
Такія пляніцы,
Зярнятак такіх насыпала
Жыццё,

Каб думаў
На крылы й на песню
Забыцца,
Каб за набыццё
Палічыў небыццё.

Сініца з маленства –
Мы, значыць, жывыя.
Хай зябнуць пляніцы й зярняты,
А мы,
Калі завіруха, як скруха,
Завые,
Сляды хоць сагрэем
На ганку ў зімы...

*16 кастрычніка 1995 г.*

## ШТО ЗАБЛУКАЛА...

Уранні мама кажа мне:
– Сынок падласенькі ў Лысоні
Знайшоўся...
Бачыцца спрасоння
Цень круталобы на сцяне.
Было, здаецца, гэта сёння –
Снег і малодзіва,
На дне
Мядзянай конаўкі ільдзінкі,
І смех каляднае сцяжынкі,
Што заблукала ў снежыне...

*30 снежня 1996 г.*

## І НАВАТ У СНАХ...

І нават у снах,
Як той заяц ваўкамі,
Паўсюдна
Аточаны я чужакамі.

Халодныя ўсмешкі,
Прачулыя кпіны,
Ад нашага скарбу
Сагнутыя спіны.

Галодная хцівасць,
Н962родныя словы.
Зашыцца, схавацца,
Ўцячы я гатовы

Да птушак, звяроў
У бары ці дубровы.
Хоць там
Не пачую
Чужацкае мовы!

***

Не апраўдаў тваіх надзей,
Не ашчадзіў твайго даверу.
Цяпер і сам сабе не веру –
Свой між знявераных людзей.

Спяшаецца за годам год.
Жыццё як даўгавая яма.
І следам за табою, мама,
Ніцее наш старэнны род...

*19 красавіка 2012 г.*

## ПЛЕЧНЫ ШЛЯХ

Ёсць Млечны Шлях
І – Плечны Шлях:
У космасе бяды
Матулі
Зярняты неслі ў хатулях
І немаўлят.
І шлях той гнулі
Адчай сляпы, відушчы страх
І ўсемагутная хвароба.
Шлях Млечны –
Вечны зорны прах.
Шлях Плечны
Няньчыць хлебароба.

*1993*

## БОЖАНЬКА

– Божанька! –
Мама на вуснах сваіх
Кунежыла ймя святое.

Божанька бачыўся мне
То шчодрым сяўцом
З лазовай сявенькай,
То хадаком сівенькім
У белай даўгой кашулі,
Падперазанай нетутэйшай пашанай
Паясом з кутасамі.
Ні гарачай жарствы,
Ні травы разучай
Не баяліся ногі босыя.
У руцэ хадака наўяў
Як не спяваў відушчы посах,
Вядома, з вушацкай ляшчыніны.
І перад посахам і хадаком
Свет увесь быў расчынены.
А змрок
Дрыжэў пад нябачным замком,
Як зарок...

***

– Відаць, я з лёдам разам пайду, –
Адчула мама адлегу.
І праганяла песняй бяду,
І сум, як малога, пялегавала.

Яшчэ далёка было да дня,
І лёду было багата.
І песня была
Пра зару й каня,
Пра свата была,
Пра свята.

Завея згубіла ў полі ймя,
Падкова здрадзіла полазу.

...Гарыць зара без полымя,
І плача конь без голасу...

***

Маме я не ўсё гаварыў,
Часта клікаў ману на падмогу.
І застаўся адзін,
Як абрыў,
Што ўдзічэў ад глухога глогу.
Лёс
Апошні адчай падарыў –
Гаварыць шчыра толькі
Богу.

*1992*

## ЧАКАЕ...

За мной цікавалі і грэх, і брэх.
Сяброў і дарог мне было ўсё мала.
Сябе даганяў я,
Спазняўся, бег.
А мама мяне чакала.

Мой сум саладзее,
Гарчэе смех.
Сяброў забірае дарога глухая.
Сябе не дагнаў я,
Прыстаў мой спех.
А мама мяне чакае...

## НАПАВЕР

З цёплых рук Сваіх
Творца Ўсёісны
У бяссоныя рукі маме
Перадаў і маю душу.
Мама, калі сваё адкунежыла
І маю душу даверыла мне,
Пажадала,
Каб зносу ёй не было.
Са сподзевам раптам пачуць
Нашу
І дасюль жахаюся,
Што я даношваю
Дадзеную мне напавер душу.

***

Над магілай мамінай гарыць
Вішня,
Быццам восеньская зорка.
Палынам ад успамінаў горка.
Рупіць валунам загаварыць.

***

Ад хутара майго каб след які,
Як ад пачутай Вавілонскай вежы.
Ад баразны гракі,
З руі ваўкі
Пакінулі маіх прысненняў межы.
І валуноў радзімыя знакі́
Унеўзнаку сышлі
З іржышча, з аралльі.

Там пуп зямлі, дзе адразалі пуп.
Там неба небаў,
Дзе зара гавела.
І посная куцця з абдзёртых круп
У місе дастывала аўдавела.
І бацькаву далонь,
Як свежы йзруб,
Прасвечвала святло,
Што за вакном жыло.

Апошні я, ў
Кім ты жывеш яшчэ,
У верасоў пазычыўшы найменне.

Пад крылы соў
Страх хлапчука ўцячэ.
І цемя цемры ахіне карэнне.
Каб захаваў,
Валока валачэ
Мне студню, й дзеразу,
І маміну слязу...

*13 кастрычніка 1995 г.*

## НАШЧА

Туман пакут скроні часу выбеліў.
Кайнасць запозненая замаўчала.
Мама –
Мая небадарная Біблія,
Якая мяне да жыцця прыручала.
Грахоў неадольных
Прадонная яміна
Разяўлена, як галодная пашча.

Жыве ўва мне
Кожнае слова маміна.
Бібліі ўдзячны,
Малюся нашча...

*6 студзеня 2004 г.*

## АМАЛЬ

Амаль вясковец,
Местачковец цьмяны,
Я ціха паўтараю долю бульбы,
Што не адкажа,
Хто яе ў хатуль бы
Хацеў бы ўзяць ці з голаду,
Ці з шаны.

Я па гароду ў горадзе нудзьгую,
Па гораду смуткую ўжо ў гародзе.
Мяне паклалі ў торбу дарагую,
А мне б у мех,
Каб трэсла на падводзе!

## ТАБЕ

А мне зусім не ў галаве,
Хто з нас каго пераЖыве,
Мой верны кот Міроне.
Што мае быць – не праміне,
Сядзіш ты на плячы ў мяне,
Як цар на хісткім троне.

Нам варыцца ў вадным катле.
Ты чорны, як адчай, але
З бялюткім падбародкам.
Ты любіш слухаць цішыню.
Лепш за мяне пяеш курню
Нахабнахвостым коткам.

Ты ў марцаванні не слабак.
Ты цвеліш, як і я, сабак
І не бяжыш наўцёкі.
Табе на славу напляваць,
Абы свой кус упаляваць,
Мой лірык соннавокі.

Нам сырадою не стае.
І ўсе галовы гнем свае
Ніжэй над плыткім сподкам.
Хто здоўжыць век – тае лухты, –
Я з белай барадой ці ты
З бялюткім падбародкам.

## ВЫСОКА...

І сад пасівеў, ссівярэў і аглох.
У маміным садзе
Мне ўсё пахне Мамай.
І яблык апошні
Высока трымае Бог
Для ейнай душы, як для птушкі
Самотнай самай...

## СЦЕРАЖЫ...

І сабака брэша па-зямляцку,
Брэх адтуль, з маленства, з той зямлі,
Дзе пчалой у залатым вуллі
Сонейка ўсміхнулася знянацку.

Ад душы брашы, старайся, браце.
За жыццё абрыд мне брэх чужы.
Адбрашуся сам, ты сцеражы
Сон мой, недаснёны ў роднай хаце...

## ХАЛАДНЕЕ...

Паміраць сабірайся, а жыта сей –
Крывічы спрадвеку казалі.
Гэты свет мне ўжо
Робіцца як музей
З экспанатамі ў кожнай зале.
З экспанатамі шчодрых страт,
З экспанатамі сквапных набыткаў.
Град прайшоўся
Па могілках град.
Зман
Туман сівавусы выткаў.

Долу годна ўкленчыўшы,
Вышыня
Давярае свой сон забаве.
Халаднее забытна
Музей штодня.
І зачыніцца неўзабаве...

*27 мая 2006 г.*

## АЙЧЫНА ДУМКІ

Айчына думкі.
Ува мне яна
Паўсюль, дзе быў
І дзе яшчэ не буду.
Здарожаная думка мне звідна
І дацямна
Укленчыць раіць цуду.

Цуд непачуты на зямлі расце,
Якая й называецца Айчынай.
Таксама на здарожанай вярсце
Сустрэцца мусяць
Вынікі з прычынай.

Айчына думкі
Ахіне мяне,
Як роднага,
Здарожанай маркотай.
Малечы плач,
Што спаў у палыне,
На вушка нешта
Смеху скажа ўпотай...

*1998*

## ВУШАЧА ПЕРАД СОНЕЧНЫМ ЗАЦЬМЕННЕМ

Забываецца, каіцца,
Зыбаецца, змяркаецца
Тое добрае, тое благое,
Што сплыло, як вясло.
Нерашучасць дагэтуль вагаецца,
Ахінаецца ўсё імгою.
Ледзь сябе ўспамінае тхло.
У жыцці ёсць адно набыццё –
Забыццё, забыццё, забыццё...

## ВУШАЦКІЯ ПРЫСМЕРКІ

У зябкае неба сачу з-пад рукі,
І матчына хата пільнуе з-пад даху,
Калі яна выпусціць зор каташкі –
Галінка вярбовая
Млечнага Шляху.

*1998*

## СУСТРЭЧА

Сустракаемся ў ранішнім маміным садзе.
Мірон вяртаецца са спаткання начнога.
Надкусвае травіну, паказваючы мне, якой
І ад чаго трэба лечыцца.
І гэтулькі кеплівасці ў каціным паглядзе,
Што ў травах я ўжо не цямлю нічога,
Што не чую сілы зямлі гаманкой.
Дык ці варта было чалавечыцца?

## КРАІНА БЕЛЫХ СТРЭХ

Спачні пад снегам, брукаванка.
Бетонам зух-прагрэс пабег.
Шаноўная шаша-шляхцянка,
Вядзі ў краіну белых стрэх!
Там рондаль клопату лудзіцца.
Не помняць пра свае гады
І маладая маладзіца,
І верабейка малады.

*12 лістапада 1995 г.*

## СВЯЦЕЙШАЯ ПАННА

*З польскае*

Сьвяцейшая Панна з Вушацкай іконы,
Усіх ахінае Твой клопат штодзённы.
Дай моцы нам, Матка,
Дай, Матка, параду,
Як маем змагчы і падступнасць, і здраду.
Май ласку Сваёй не пазбавіць апекі,
Заступніцай будзь нам цяпер і навекі.
Не дай нашым душам убогім загінуць,
Дазволь на зямлі гэтай цені пакінуць.
З малечых гадоў Ты нас, грэшных, трывала
І з д'яблавай пашчы не раз вырывала.
У смутках Цябе мы гукаем, святую,
Твая мілата бачыць нас і ратуе.

Як дзячыць Табе, мы не ведаем самі,
І нашчацца нашыя вочы слязамі.
Марыё! Вушачы, дзе Ты цудатворыш,
Ты дорыш святло, цішынёю гаворыш.
Грахі нашы – як незагойныя раны.
Маліся за нас, будзь нам Маткаю, Панна.

## ПРЫХАДЖАНЕ

*Памяці маткі хроснай*
*Феліцыі Антонаўны*
*Міклашэўскай*

У апаганены касцёл
Прыйшлі зялёныя паганцы –
Дзядоўнік, крапіва, асот.
І не падумалі вагацца –
Так і ўраслі ў свянцоны дол.
І множацца сабе штогод –
Ці прыхаджане, ці прыгнанцы.

Храм стыне з босай галавой
Пад чарапіцаю хмурынак.
Мітрэнга ў марнасці муроў
Знайшла апуджаны прыпынак.
Зарос трывогаю спакой.
Ірдзеюць, як Хрыстова кроў,
На сценах гронкі арабінак.

*23 ліпеня 1996 г.*

## ПАСМУТКУЕМ З ТАБОЮ

Пасмуткуем, самота, з табою.
Ты адна,
Я таксама адзін.
І вясна не сагнала вадою
З нашых сэрцаў падталых ільдзін.

Перазяблых нябёсаў палотны
Дабяліла лагода без нас.
Той адзін не заўсёды самотны,
Хто сустрэне самоту хоць раз.

Адляцелі няшчырыя словы
Веснаваць на чужой старане.
Я ў цябе незлічона чарговы,
Ты адна разумееш мяне.

Надап'е рэчку згоды спякота –
І залевай яе не даліць.
Не спяшайся спяшацца,
Самота.
Без цябе з кім чаканне дзяліць?

*1998*

## ФОТАЗДЫМАК

Падобныя ў нас вочы й насы,
І ў позірках поўна трывогі.
І дзве мае маладыя касы –
Як чорныя дзве дарогі.

Вачмі гавару я з тваімі вачмі.
А я ж набылася з людзьмі.
А я ж нажылася, як палыну напілася.
Дзве дарогі...
Мая ўжо ў гэтым жыцці
Скончылася. А табе яшчэ
Колькі, сынок, ісці?..

## СЛЯДЫ

Нанова вясною кожнаю
Здзіўляецца свет малады.
Раллёю,
Лядам,
Пакошаю
Вядуць на магільнік сляды.

Стаптаным слядам не хочацца
З зялёнай сцежкі сысці.
І краскі, й травінкі точацца
Пабыць у гэтым жыцці.

Туманіста крачацца качачцы.
Цямнее голас вады.
Нібыта слядоў не бачачы,
Пакуль што
Іду не туды...

***

Як туман пасівелы,
Прачнуўся
І клічу голасна:
Мама.

Ёй адгукацца
Не выпадае.
Старым
Не паспагадае раніца,
Бо маладая...

*14 лістапада 2012 г.*

## ЗАДАЖДЖЫЛА...

Бясхмарныя леты,
Дзе вы?
Гукае ўспаміны ганак.
Шуміць пшаніца залевы
Пад спевы сярпоў маланак.
Не хоча імжа густая
Скарыцца сонцавым стрэлам.
І раніцу певень вітае
Голасам адсырэлым...

*7 жніўня 2006 г.*

## МЕНЕЙ...

Малечыя гады,
Яны паўсюль з табою.
Сябры тваёй жуды,
Твайго сівога болю.

Для смутку дзён стае.
Шляхі ў спакой хлудзеюць.
Старэеш, а твае
Ўспаміны маладзеюць.

Лёс сцішвае ганца
Усіх тваіх памкненняў.

Чым меней да канца,
Тым да пачатку меней...

*9 чэрвеня 2006 г.*

## СПАЧУВАЕ

Кожны дзень,
Як дрэва ўспаміну,
Мае свой пень
І сваю вершаліну.
У зварушлівай вершаліне
Гнеў раз’юшаны стыне.
Ля пня
Ў пацярусе
Спачувае крыўдлівай скрусе
Прысталая цішыня...

*21 студзеня 2006 г.*

## ПАКІДАЕ...

Паклалі ў шчыры пясок шчыруху.
І галасістая баравіна
На гэты момант як анямела.
Сарока скінуць хацела пуху,
Бо дужа мулкая дамавіна.
Хмурынка цьмела,
Ды слёз не мела.
Радня па бацьку на гэтым свеце
Апошняя
Мяне пакідае.
Даўно няма ўжо радні па маме.
Бяроза светла плача па леце.
Расце імжа,
Як іржа, рудая.
Жуда, як роднага, мяне абдымае...

*1998*

## КАЛЯДНЫ ВЕРШ

У ноч калядную збяры
Усіх здарожаных, халодных,
Усіх забытых і галодных
І раздары свае дары –
Усё, што даў табе Гасподзь,
Каб ты апошнім
Мог дзяліцца,
Бо ўдачы гладкая цяліца
Пасецца, каб аддаць стакроць.

Прасі на кут сваіх Дзядоў
Абнашчыцца куццёю поснай,
Каб не шукаць гадзінай познай
У небе памяці слядоў.
Як вогнішча, разварушы
Тугу,
Што пазірае нема.

І ціха вока Бэтлеема
Узыдзе ў поцемках душы.

*7 студзеня 1996 г.*

## ДОЛЯ

*Мамінае паданне*

Здарожаны Бог ішоў палыном,
З сабою ўзяўшы зямную стому.
Бачыць,
А баба белым блінам
Выцірае срачку малому.

А ў тыя часіны ад самай зямлі
На кожнай цыбатай сцяблінe
Багатыя каласы раслі
І па чарназёме, й па гліне.

І ў жменю сціснуў сцяблiну Бог,
І ўгору павёў рукою.
І долу за коласам колас лёг,
І неспакойна стала спакою.

І голас прарэзаўся з нематы,
І сілу ўзгадала бяссілле.
З наўколля ўсяго сабакі й каты
Завылі ды загаласілі.

Абабегчы кожны ўзгорак і лог
Рэху хапіла хвілінаў.
І злітаваўся над жывацінамі Бог,
І колас апошні пакінуў.

Не зважыць той колас бясконцасць сама –
Не стане зорных бязменаў.
На сцябліне, дзе былі каласы, нездарма
Засталося дванаццаць каленаў.

Ці спіць цішыня,
Ці прачнецца гром, –
Не мусім забыцца ніколі,
Што мы на гэтым свеце жывём
На сабачай
І на кацінай долі...

## БАЛАДА ЖВІРУ

*Вазьмі, маці, пяску жменю,*
*Пасей, маці, на каменю...*
*З народнае песні*

Не вярнуўся сын з паходу –
Доля выпала цяжкая.
Маці ўсё яго чакае
І старэе год ад году.

Пост адчаю з прыпамінам
Прыхавана разгаўляе.
І са смуткам размаўляе,
Як з сваім апошнім сынам.

Неяк веснавой парою
Сын вярнуўся,
Бо прысніўся,
І сказаў, што ён жаніўся
З несваёй зямлёй сырою.

А былі вятры сватамі.
Шлюб давала вечарніца.
Наліла віна крыніца
Пад плакучымі кустамі.

Просіць сын у ціхай скрусе:
– Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю.
Я касіць пясок вярнуся...

І пасеяла, й туліла
Ад суроку, ад сухменю.
Палівала жвіру жменю –
З жвіру вырасла магіла.

Маці злую долю просіць
Не мінаць яе парога,
Хай і ёй
Пяску цяжкога
На магілу сын накосіць...

## НЕБА НАД МАМІНАЙ ХАТАЙ

Дагарэла нейчая душа –
Знічка рассыпаецца імкліва...
Не ўтрымаўшы зорнага каўша,
Зорнае млынар рассыпаў мліва...
Павуціння зорнага імжа...
Зорнага іржышча рабацінне...
Куфра змроку зорная іржа...
Зорнай лесапільні пілавінне...

*9 жніўня 1996 г.*

## СТВАРЫ!

Паэт!
Ствары сабе Радзіму,
Дзе пахнуць снамі мурагі,
Каб ад слабога ўздыху дыму
Шугала полымя тугі.

Па незабытным, непазбытным
Тугой
Кругі свае заверш,
Каб першастрахам першабытным
І кожны гук дрыжэў за верш.

Верш,
Дзе жыве твая Радзіма,
Дзе рэчка чуе берагі.
А ты ўтрапёнымі вачыма
Глядзі на бераг свой другі.

## НЕПРЫЧАКАНЫ...

Дзён менш і менш,
І любы́ з іх лю́бы,
Узгаднай птушкай
Шчабеча ў быллі.
Агні і воды
І медныя трубы
І небыльніцы й былі
Былі.
А можа, іх
Не было й не будзе.
І ты спадзяваннем адным
Жывеш,
Што зможа на схіле
Выбіцца ў людзі,
Як сын твой непрычаканы,
Верш...

*2 ліпеня 2006 г.*

## АБНАЧАВАЛА

Звінела радасць вясёла, смела,
Ды звон выяўны зрабіўся гулам.
І ўсё наўкола як анямела,
І дзень надзённы
Стаў днём мінулым.

І лесавое, і лугавое –
Усё забрала смутку адрына.
Хмурына вісне над галавою,
Абначавала ў душы хмурына.

Святла ды ценяў перапялёссе
У цеснай цемры знікла агулам.
І што збылося, што не збылося, –
Быць засталося
Толькі ў мінулым.

## НАПЯРЭДАДНІ

З усяе маёй негустой радні
Словы маміны
І засталіся жывымі.
І таму-такі напярэдадні
Развітання
Я гутару з імі.

І яны адны
Разумеюць мяне,
І яны таксама
Адны засталіся.
Іх адных, незабытых,
Нябыт абміне.
Можа, ўспомняць яны
І мяне калісьці...

## ДУША САБРАЛАСЯ ДАМОЎ

Душа сабралася дамоў,
Ды ўсё-ткі затрымацца мусіць.
Душа трымацца хоча,
Мусіць,
Сваіх нязмушаных дамоў.

Пакуль не спраўдзіць іх усе,
Сябе ў адвечнасць
Не ўзнясе...

## У ВОГНІШЧЫ ДЗЁН

У свет я прыйшоў басанож,
Па зорах ішоў пехатою,
Вуголле астыла,
Ды ўсё ж
Жарынка пад кожнай пятою

Дагэтуль пячэцца яшчэ.
Відаць,
Я дастаўся з паднеб'я –
Мне зорамі грудзі пячэ,
Хоць скабы тырчаць
З-пад ізрэб'я,

Ізрэб'я сусветнай смугі.
Ці я прыблукаў
З пададэння,
Дзе цемра
Чарней ад тугі,
Каб позірк яснеў
Ад малення.

Упёршыся ў прышласць
Чалом,
У вогнішчы дзён дагараю.
Жыву я між тлом і святлом
У хаце каля небакраю.

## СУРОЧАНЫ...

*Так за справу вазьмуся,*
*аж туга запяе...*
*Хафіз*

Я за справу бяруся,
А туга не пяе.
На цвяленне спакусе
Аддае дні мае.

Марыў горы зварочваць,
А звярнуў галаву.
Чысцінёю сурочаны,
Толькі ў мроях жыву.

Чысціня асцярожная,
Ціхая чысціня
Нада мною, здарожаным,
Да апошняга дня.

*6 жнíўня 2006 г.*

## ВЯРТАЮЦЦА...

Дасвецце заспанае.
Бор сівабровы.
На ўскрайку перазяблай дарогі
Штось палазам талкуюць падковы.
Вяртаюцца сані з маленства.
З незабытай трывогі...

*22 снежня 2005 г.*

## ЯК ЖАР...

Спадчынных мясцін
Наіў і здзіў
Прытулілі далечы й высі.
Не вярнуць сябе таго,
Што быў,
Не вярнуць таго,
Чым жыў калісьці.

І, як жар у печы качарга,
Развярэджвае ўспамін
Туга...

*24 жніўня 2006 г.*

## ЗНОЎ

І чую,
Як маркота плача,
Пакуль маркоўнік не прычах.
І адчуваю,
Як Вушача
Змяркаецца ў маіх вачах.
І як не вырвецца з сяродкі
Душа –
Яе гукнулі продкі.

## НЕ СТАЕ...

І на цёплай чужыне цеплыні не стае.
Успамінам сябе грэю і дакараю.
Думкі й словы мае –
Аблачыны з бацькоўскага краю,
Што плывуць да мяне
І на яве, і ў сне...

***

Добра там,
Дзе нас няма, –
Нездарма казалі.
Ну, а там,
Дзе мы ёсць,
Толькі зайздрасць,
Толькі злосць,
Яміны ды ўзваллі.
Покуль мы
Не там, а тут,
Жахі няньчыць
Кожны кут...

*15 лістапада 2012 г.*

## КАБ ПАСПЕЎ...

Нябёсы мастаку, як ліхвяры,
Час пазычаюць,
Каб паспеў адбыцца,
А не абы адбыць наканаванне.
Тут, на зямлі, штодня
Ісці з гары
Туды,
Дзе неўміручая крыніца
Вясёла зазвініць на развітанне.

Па незямных мастах
Свой цень мастак
У сваты пасылае да надзеі,
Каб доўг вярнуць свой
З гакам і не позна.
Бяроза радасці на веснавых лістах
Калыша цішыню і маладзее.

Ад прымакоў у Вечнасці завозна.

*2 студзеня 2006 г.*

***

Глядзі, каб цень цябе не перарос,
Тады пачнеш свайму зайздросціць ценю.
І будзеш рад імгненню, як адценню,
Што адцяняе беспрытульны лёс.
Касец часовы, рупішся пра ўкос.

А цень твой дадзена скасіць здарэнню.
Карэнне ценяў верыць паўтарэнню.
Трымценне растрасае зорны воз.

За ўсімі ўслед бясследна цень ступае,
Цень і цябе, й сябе пераЖыве.
На дрэве крык смалою замаўкае.
Галосіць боль расою на траве.
Змяя з сваёй кашулі выпаўзае,
Як рух з рукі, што спала ў рукаве...

*13 студзеня 1996 г.*

## ПРЫЦЕМКАВАЕ

Калі сцямнеецца ў душы і ў хаце,
Прыходзяць вершы, як пазныя госці,
І маняцца застацца на начлег.
Я іх прашу:
Мой сум закалыхайце,
Маёй жа мне пазычце весялосці,
Якою грэўся яблыневы снег...

Саджу на чысты кут і нетаропка
За чаркай звечарэлага ўспаміну,
Як дома колісь, з імі гаманю.
Парой гаворку перапыніць кропка.
Сказ нецярпліва выпрастае спіну.
І рупіць рыфме ўкрыўдзіць цішыню...

## ДУША ВЯРТАЕЦЦА ДАДОМУ

Непадуладная нікому,
З захмарнай вераю на ўзноў,
Душа вяртаецца дадому
Да першавоч,
Да першасноў.

Яна й мяне з сабою кліча
Ў сваё чарговае жытло
Адсюль,
Дзе ліха сыталыча
Трымценню рохкаць пачало.

З сабой бярэ,
Каб там ласкава
Дазволіць мне ў зямлю пайсці –
Цягнуцца ў неба каласкамі
Ці слухаць вецер у трысці...

## КОЦЯ-БРАЦЕ

Вокам яшчэ не патухлым
Зірнуў на мяне,
Перш чымся яго патушыць,
Міроне!
Магу паскардзіцца
Толькі сваёй віне,
Што я зрабіўся самотнікам
Сёння...

Ты пайшоў,
Каб спяваць Васілю курню
Па-вушацку стрымана й прачула.
Коця-браце,
Адведай усю радню,
Што ў вушацкай зямлі заснула.

Там твой цёзка Мірон,
Што на хутары пасвіў кароў,
Бацькаў Вурдаль,
Маміна Каця.
А мяне ты пакінуў
Без успомненых вечароў,
Дзе сон з каптура
Мякка скакаў на палаці...

Зніякавеласць найшла, нібыта
Запрошаная самой зімой...

Дзякуй за тое, што быў ты,
Апошні спагадца мой!

*2003*

## ПЕРАСЯЛЯЮЦЦА

Як ціхія хутары,
З нядаўняе даўніны
І крэўнікі, і сябры
Перасяляюцца ў сны.
І там яны – гаспадары
І самі сабе паны.

Згадаўшы былы настрой
У той незямной старане,
Дарогай журбы старой
Прыходзяць наведаць мяне.

За горам, як за гарой,
Чакаю сустрэчы ў сне...

## НЕ НА ГЭТЫМ...

Яно вядома, не на гэтым свеце
Усёй раднёй сустрэнемся – на тым,
Дзе дым – як сон,
А сон – як сіні дым.
Пазнаемся па той былой прыкмеце,
Што засталася ад залётных зім,
Ад перазяблых, яблыневых вёсен,
Якія заблудзіліся ў гадах
Зязюлямі ў знявераных садах.
Гады сплылі,
Нібы чаўны без вёсел.
З харомiны жыцця зваліўся дах.

І ўдзячныя мы будзем новай долі,
Якая не разлучыць нас ніколі...

*8 лістапада 1998 г.*

## ЯК АСОТ...

Як трывучы асот,
Я ў зямлю сваю так урос
І калюча, й балюча,
Каб не дацца вырваць прыблудам.
Як мароз,
Я пяшчоту сваю таю.
Аблачына ўздымае, як круча,
Свеціць цудам
Над брудам,
Над хлудам...

*24 ліпеня 1996 г.*

***

Як і Бога,
Нябожчыкаў па марнаце
Не памінайце –
Яны, магчыма,
Адказ на пытанне,
Дзе смутак расце,
Шукаюць з заплюшчанымі вачыма.

Яны намагаюцца ўрэшце знайсці
Той корань зла й памысносці,
Які ім
Не адшукаўся ў гэтым жыцці,
Прыкінуўшыся жабрачым кіем.

Нябожчыкі,
Вольныя, як жаўрукі,
У гэтым свеце пакінулі імі
Свае,
Каб шукаць было нам з рукі
Адказ,
Калі ўслед падамося за імі.

## ЯК МАМА НЕКАЛІ...

Халодныя храмы Еўропы,
Настылыя пліты падлогі,
Скляпення праветраны лёх.
Тут вернікі наперахопы,
Тут, пэўна што, босыя ногі
Застудзіць даверлівы Бог.

Адсюль прагуканым гукам
Да Бога лацвей дапасці,
Упёршыся ў неба ілбом.
Смог
Тушчым ахвярным тукам
Хавае машынныя жарсці.
Маўчыць жаўручысты бом.

Старэюць храмы Еўропы,
І восенню
Ледзь не на копы
Лічыць пачынаюць вякі,
Як мама некалі агуркі...

## МАРКОТА

Абнывае нябесная столь,
Зношваецца падлога зямная.
Ды ні ў спякоту,
Ні ў золь
Ніколі не затухае боль,
Які
Маркоту маміну ўспамінае.

Доля гарнулася да святла,
Не задзімаючы зорку-ўсхліпку.
Мама
Боль на душу ўзяла,
Сподзеў тужэй у тугу спавіла,
Маркотай завесіла зыбку.
Мяне калыхала ды ўпотай
Усміхалася
Разам з маркотай.

## ПРАДАЙ!

У птаства час збіраць галлё,
У людства час збіраць каменне.
Час звіць гняздо, напхаць валлё,
Час не згубіць сваё найменне.

Маўчу. Прысадамі іду.
А над зялёнай гаманою,
Як наклікаючы бяду,
Варона вісне нада мною.

І чую я, сівы хадай,
І цямлю, што яна гарлае :
– Ты шапку мне, спадар, прадай!
Ужо яна табе малая.

Хай шапка носіцца яшчэ.
І я ў гасцях, і ты не дома.

І ўжо галінку валачэ
Варона знекуль пакрыёма...

*2 чэрвеня 1996 г.*

## БЕЛАРУСЬ – ТЫ МОЙ СОН ВЕЛІКОДНЫ

Беларусь – ты мой сон велікодны,
Сон, што сніцца анёлам вясной.
Зрок і слых мой табою галодны,
Дух жыве мой табою адной.

Гэта ведае неба ды Мама –
Без цябе не бывае мяне.
І душа жыць не можа без храма,
Цяжка ёй у чужой старане.

Адусюль да цябе я імкнуся
Быць у шчасці з табой і ў бядзе.
Чысцінёю тваёй прычашчуся,
Сорам твой на мяне хай падзе.

*10 чэрвеня 2000 г.*

## ТЫМ ДАЎЖЭЙ...

Дні без Мамы –
Яны не твае,
Іх табе напавер дае
Шчодры Бог,
Каб ты перад Мамай
Малітваю шчыраю самай
Пакаяцца мог
За ўсе грахі ды правіны,
Што цягнуць душу на дно.
Ды адно
Ты зразумець павінны –
Чым болей тваіх
Грахоў і правінаў,
Тым даўжэй цябе на зямлі
Бог пакінуў.
Не заікайся і кайся.
Не кажы, што няма калі.
Колькі трывання,
Прасі даравання.
Малі...

## МАМЕ

Небасхіл нахмарвае лоб.
Навальніцы ўсхадзіцца
Ахвоты мала.
Дзевяноста сёння было б,
Год трыццаты пайшоў,
Як цябе не стала.

Косіць час
Хісткіх дзён траву
І стагуе стагі ў тым
Сцюдзёным зарэччы.
Я тваімі гадамі жыву.
Засталося колькі
Да нашай сустрэчы?

*10 чэрвеня 1999 г.*

## ПАКЛОН

Б’ю чалом вам
Да самае чорнай зямлі,
Спаконвечныя дрэвы,
Бо зялёнымі вуснамі моліцеся,
Слязамі жоўтымі плачаце,
Перазяблымі кстамі жагнаецеся
Над самотнай магілай
Мамы...

## ХОЦЬ НЕШТА...

Маміны вочы слухалі неба.
Маміны рукі чыталі луг.
Маміны ногі гадавалі дарогу,
Каб, па ёй ідучы няспешна,
Мог прачуць я і скеміць
Хоць нешта...

*17 мая 2005 г.*

## СТАРЭЕ ДЗЕНЬ

Душа прагоркне ў палыне.
Сон абначуе за барамі.
А голас мамін будзе мне
Гучаць,
Нібы малітва ў храме.

Маўчыць, як цень, мой страх.
І вір
Смяецца сінімі губамі.
Старэе дзень.
І рыдаль жвір
Не сыпле ў рот бяззубай яме.

Яшчэ пярун сябе кляне.
І рана зачыняецца браме.
А голас мамін ува мне
Гучыць,
Як у забытым храме...

*3 лютага 1997 г.*

***

Усё паўтараецца на зямлі,
Руплівасць корміць
Галодную стому.
Няўтульнае самае –
Гэта калі
Ты больш не патрэбны
Сабе самому...

*26 верасня 2012 г.*

## ЖЫВУ...

Толькі ў сне я жыву цяпер,
Там бяда бядзе спачувае,
Там радня мая ўся жывая,
Незнявераны мой давер.
Шкадаванню там мейсца ёсць,
Там няблага ў застоллі грэцца,
Там вяртаюцца, каб сустрэцца,
І маленства, і маладосць.
Пасівелыя груганы
Там мяняюць пер’е на цені,
Што забылі свае найменні,
Каб прыходзіць маўкліва ў сны...

***

Там мой цень, худы і малады.
Там мой сон, бясхмарны, бестурботны.
У зімовых шапках халады
Перабельваюць снягоў палотны.
Там мой першы смех і першы плач,
Роспач першая і першы сподзеў.
Там я так і не сказаў прабач
Смутнай маме,
Калі ў свет выходзіў.
Там сядзяць на покуце Дзяды.
Там чакаюць добрыя нагоды.
Толькі й тым жывуць мае гады,
Каб туды вярнуцца
Назаўсёды!

## ТУДЫ ВЯРНУЦЦА...

Туды вярнуцца,
Дзе снам нямулка,
Дзе высакосна цёплым залевам,
Дзе спіну не разгінае вулка,
Дзе вуж дагэтуль
Жыве пад хлевам.

Пад неба
Над мамінай хатай выйсці,
У жаўталісці
Згубіўшы крокі.
Бо, як сказаў Караткевіч
Калісьці:
Зямля чакае
І вечар яшчэ далёкі...

*1 верасня 1996 г.*

## ВЕЧНЫ

Ірве стаеннік павады,
На волю скача.
Мне адступаць няма куды –
За мной Вушача.
Яна за мной, яна ўва мне,
Я ў ёй – таксама.
Я вечны ў роднай старане,
Як слова Мама...

## СВЯТАМ СВЯНЦОНАЕ

Схілілася нада мной святое,
Святам свянцонае
Маміна слова.
Недзе над Вечаллем,
Над Палатою
Сонца ўзыходзіла светлагалова.

Потым
Душу агарнула журбою
Ды варажбою
Купалава слова,
І наказала застацца сабою,
Каб беларусам –
Абавязкова!

Каб не пакінула
Наская сіла,
Іскры красала
Старанна падкова.
Маміна слова
Мяне пераксціла,
Багаславіла
Купалава слова.

## Я ПОКУЛЬ ТУТ...

Я там жыву,
Дзе Радаўніца плача,
Дзе смех у стог хавае галаву,
Дзе на вірах часін усіх
Вушача
Трымаецца як можа на плыву.
Я там жыву...

Я там іду,
Дзе ходзіць родны голас,
Ашукваючы сынаву бяду,
Дзе, як смычок,
На снезе йграе полаз,
Лясун аб ветах чэша бараду.
Я там іду...

Я там спачну,
Дзе, бы ў мядзведжым вуху,
І Перуну зацішна, й палыну,
Дзе ўжо не будзе болей
Цесна духу
Майму,
Абжыўшы свежую труну.
Я там спачну...

Я покуль тут
Нявогляддзю шчырую,
У цемрадзі й святла здымаю кут,
Стараюся не думаць пра сырую,
Што быццам здыме
Стог зямных пакут.
Я покуль тут...

## МАЛІТВА МАТЧЫНА

Гаючыя словы малітвы Матчынай,
Якія Ён шаптаў перад сном,
Ісус паўтараў на крыжы,
Як на няўлоўнай мяжы
Між чорнай ноччу і белым днём,
Світаннем святое крыві пазначанай.
І ў кожным з нас нерастрачанай спадчынай
Жывуць, ратуючы нашыя дні,
Вяртаючы душы да вышыні,
Балючыя словы малітвы матчынай.

*10 мая 2005 г.*

## КАБ НЕ ЎКРЫЎДЗІЎ...

Бога і Маму ў душы нашу,
Ступаю па грэшнай зямлі асцярожна,
Каб толькі не здрыгануць душу,
Звышняга й Маму не патрывожыць.

Богам Адзіным душа жыве.
Мама душу дабрыні навучае.
Там, па завоблачнай мураве,
Ходзіць журба з мамінымі вачамі.

Зычу хоць подых вясны ледзяшу,
Ясачку яснага досвітку скрусе.
Бога і Маму ў душы нашу.
Каб аніхто іх не ўкрыўдзіў,
Малюся...

# *Нябёсы думаюць аблокамі*

*У маміных,*
*Поўных нябёсаў вачах*
*Спяшаліся паспавядацца аблокі*

## МАЛЮСЯ...

Малюся,
Каб дазволіў Бог
Яшчэ па свеце патуляцца,
З усіх дарог,
З усіх трывог
Прыйсці ў сябе...
І затрымацца...

## НА ПАЧАТКУ...

На пачатку Слова было –
І смялела, й смылела, й балела,
Запрашала ў душу святло
І ляцела ў свет вогнястрэла.
Аддзяляла ад страху тло.
Слова мела сваё жытло.
Слова думала небагалова.
Мне на згадку яно было,
Маміна Слова...

## ДВА СОНЦЫ

Покуль жывая маці,
Сонца днюе й начуе ў хаце.

Маці не стала –
Сонца зайшло.
Човен спакою
Згубіў вясло.

Маці дый сонца
Сябе саміх
Дапальваюць штоміг...

## ТОЛЬКІ

Босая сцежка да храма
Ногі грахамі мые.
Родная толькі мама.
Родныя ўсе –
Чужыя.

## ПОМНІ!

І гаворачы з быдлаю,
Помні пра Біблію.
І мроячы мрою светлую,
Помні пра апраметную.
Рупячыся ў кляцьбе,
Помні і пра сябе.

*30 верасня 1995 г.*

## ЦІШЫНЯ

І Бог задумаўся ў цішыні,
Схаваўшы за пазухай неспакой.
І неба ад зямной мітусні
Засланіла Яго вышынёй.

## А НЕКІМ...

Да каго прыгарнуцца,
З кім падзяліцца журбою,
Страхам сваім чалавечым?
Адысці, каб вярнуцца,
Але не сабою,
А некім... ці нечым...

***

Вечнасць на імгненне не зважае.
Кожны сам сабе – былы сусед.
І свая душа – радня чужая.
Чалавек – забыты часам след.

## МАЦІ І ХЛЕБ

Вада з балота можа стаць святой.
Растуць спаконна дрэвы на іконы.
І пацалунак безграхоўны той,
Якім цалуем маці й хлеб надзённы.

***

А ці бязглуздзеем, а ці старэем –
Таго і робім, што надзею грэем.
Ды нам за ўсё сваё жыццё няўзмогу
Сагрэць сваю апошнюю дарогу.

***

Зірнуўшы ўслед гадам,
Чакаеш свой прысуд.
Пакуль ты йшчэ не там
І ўжо амаль не тут.

***

Адчуй на згон свайго веку хоць,
Што ты ў гэтым свеце госць выпадковы,
І адпаведна сябе паводзь.

***

З маленства вяртаюцца вечары
Памаркоціцца разам, паспець развітацца,
Пагрэць рукавіцы на каптуры.

***

Шануе аралля хмурынку праліўную.
Не памяць вечная, а забыццё.
Слугач нябыту – час над вечнасцю пануе.

***

А людства будзе жыць, бо кожны з нас
Па-свойму рысы Бога паўтарае.
Бог шматаблічны,
Аблачысты час.

***

У кожнай з іх свайня – кумы, падкумкі,
Улада глоткі, ўлада кулака.
А на раднnetwork бяднее ўлада думкі.

***

Яго і ў снах мы, і ў падумках бачым,
Куток, што пэвен дачакацца нас,
Дзе першы смех наш папярхнуўся плачам.

***

Чалавецтва – адзін чалавек,
Якога
Паўтарае ў незлічоных абліччах
Люстэрка ілюзіёну зямнога.

***

Неба зняверцаў карае сурова –
Як ад мёртвага дрэва кара,
Ад душы адстае наканаваная мова.

***

Несупынна б’ецца крыніца,
А смутку здаецца, што ўжо жыццў
Засталося на раз напіцца.

***

Ніколі вечарам не стане ранак.
Навошта Богу гэтулькі людзей,
Няўдзячных, неабачных, неўзараных?

***

З вякоў душу шкрабе журба глухая.
Канчына свету ў кожнага ў сабе,
І толькі свет адзін канца не мае.

***

З буграватага яйка шышкі сасновай
Вылупілася ну якраз ельчанятка –
Суседзі жывуць не толькі зялёнай размовай.

***

Неба смяецца –
І пырскамі сонечнымі
Смех звініць.
Неба журыцца –
І цішыня
Заплюшчвае вочы ...

## СПАРЫНА

Стамілася мая дарога...
Але каго спытаць
Калі...
Я ўжо як камень, у якога
Уся радня даўно ў зямлі...

*23 ліпеня 1995 г.*

## А СКОРА...

Сумнее вынік
Розных клінік,
Самота сунецца ў чаўне.
Яшчэ спяшаецца гадзіннік,
А скора адставаць пачне.

## І ЎГАВАРЫ

Каб душа не збіралася ўпрочкі,
Залагодзь яе і ўгавары
Пацярпець яшчэ трошкі,
Дачакацца пары.
Як расчуліцца – паспагадае.
Шчыра просьбу сваю паўтары.
Бо душа маладая,
Ты, як вецер, стары...

## КРОМ

Як навалачкі на падушках старых,
Праношваюцца на небе хмары.
З абломкаў хмараў сырых
Узводзяцца новыя храмы.
З аблокаў аглухлых крыг
Разводдзе бярэ ахвяры.
На вёрсты мераюць крык,
Цярпенне важаць на грамы...

*15 жніўня 1996 г.*

## КОЖНЫ

Як і не еду – думкамі іду
Па брукаванцы, што вядзе дахаты.
Казыча рэха ветру бараду,
А кожны камень,
Як Сакрат, лабаты...

*3 ліпеня 1996 г.*

***

Штодзень –
Як з Боскае Кнігі верш.
Калі адчуеш, што ўжо дажываеш,
Зразумееш нарэшце,
Што ты жывеш.

## ЦІ ЁСЦЬ?..

Цікаўнасць,
Трымаючы ўсё на прыкмеце,
Пытаецца ў вечара з-за спіны,
Ці ёсць у пані Вечнасці дзеці.
Як ёсць,
Дык якія і хто яны?

## НА СЛЫХ

Хлуд худ.
Груд крут.
Кут кут.
Люд лют.

***

Свой выгін ведае вулка ў сяле.
Свой выган чуе каровіна пыца.
Боль хоча не помніць сябе,
Але
Ён доўга не можа на ёкат забыцца.

## СПЯШАЛІСЯ...

Здаецца, нядаўна быў час той далёкі.
Спакойна закот раздаваўся ў плячах.
У маміных,
Поўных нябёсаў вачах
Спяшаліся паспавядацца аблокі...

## НЕ ЎПЕРШЫНЮ

Я смутак свой паслаў у сваты
Сасватаць хоць бы цішыню
І зразумеў не ўпершыню:
Агню без цемры цемнавата,
Не цёмна цемры без агню...

*9 жніўня 1996 г.*

## ПЫТАННЕ ДА СЯБЕ

Як шашаль, смутак у душу закраўся,
І снег нялёгкі лёг на галаву.
Калі я жыў:
Тады, калі збіраўся
Жыць,
Ці цяпер, калі яшчэ жыву?

## КАБ САГРЭЦЦА...

Світанне і змярканне
Хмураць бровы.
Аб лоб нябёс
Пытанне хмарай трэцца:
Ці гэта людзі –
Маладыя дровы,
Якія Вечнасць паліць,
Каб сагрэцца?

## ПРОСЬБА

Просьба кружыць чуйнай чайкай,
Паўтарае з ласкай:
Ты мяне забайкай байкай,
Казкаю заказкай...

## ШТО?

Што вячней – ці неба, ці зямля?
Не адкажа дзень, ні цень чмяля.
Думай, покуль можна, бо пасля
Зможа ўсіх сцюдзёная зямля.

## АДКРЫЦЦЁ

Чужых глытаць нясмачна дужа,
А вось сваіх зусім цікава.
Так думала ўдава уда́ва,
Пакуль перастраўляла мужа.

## ЧАЎНОК

Чаўнок даткаў абрус азёрны
І датыкае чаратовы шлях.
Акрайваецца бохан хмары чорны.
Акрайца цёплага
Разліўся мяккі смак...

*26 ліпеня 1996 г.*

## ЛІХВЯР

Час – непрабудны ліхвяр –
Свайго не пілнуецца плота.
Багаты, як сам пажар,
А бедны, як адзінота.

## ПАРАЗУМЕННЕ

Сабакі бяздомныя хінуцца да жабракоў.
Сабака скалечаны разумее калеку.
Сабакі –
Нашчадкі наіўных ваўкоў,
Якія паверылі чалавеку...

## НА ЗЛОМЕ

Разгубленасці аблачынка ценькая
Ў атлумленага веку
Сплыла з чала.
Думка развітваецца з летуценнямі –
Перавагу над словам
Лічба ўзяла...

## FATUM

Пясок у касцях.
У жылах стома.
Як ні добра ў гасцях –
Паміраць трэба дома.

## ЯШЧЭ...

Яшчэ цікава памаўчаць з самым сабою.
Яшчэ
Рака ўспамінаў цёплаю журбою
Цячэ...

## ЧУЖЫ

Я пасівеў, як гэтыя аблокі,
Што пасвіліся ў роднай старане.
Стаю такі чужы, такі далёкі,
Што ўжо мой цень не пазнае мяне...

***

Ці дрэва,
Гледзячы на цень, расце,
Ці ценькі цень
Бучнее з дрэвам разам?
Ці верыць стома
Маладой вярсце,
Ці ўпартая хвала –
Радня абразам?
Аж прыгарбелі
Ад пытанняў гэтых
Навюткі маладзік
І ўцьмелы ветах.

## МЯРКУЮ

Хто светлы душой быў у гэтым жыцці,
Хто з му́кі сваёй пёк аладкі –
Той будзе, мяркую, на небе пасці
Хмурынак гусіныя статкі.

## І САСТАРЭЎШЫ...

Хлусня – кабеціна сторукая.
Паклёп гарцуе юнаком.
Стукач, і састарэўшы, стукае
Хоць у халодны дол кійком...

## АД БОГА

Улада ад Бога, і ўладзе
Лупіць можна шчыра ў ладкі,
З сваёй слепатой у ладзе
Вялічыць кволыя ўладкі.

Ды мусіць з вачэй павязка
Апасці, як чорная хмара:
Ад Бога шчырая ласка,
Ад Бога і ўлада,
Як кара...

*13 ліпеня 1996 г.*

## МЕНШ АХВОТЫ

Хаця даўно ўзімелі леты,
І знадакучыў сам сабе ты,
І ўжо збіраецца ў адлёты
Тваёй пяшчоты херувім, –
Ды чым далей, тым менш ахвоты
Развітвацца з сабой самым.

***

У шчасця цярпення хапае,
А нам яго не стае.
І нецярпліўцам доля благая
Прапануе шчасліва
Абдымкі свае...

## СНЯДАННЕ

Усход заліўся чырвоным брэхам.
Адстала куслівай цемры гайня.
У сне пацягваецца цішыня.
Галодны досвітак
Снедае рэхам.

***

У кожным спіць пакрыўджаны мядзведзь,
Ды злосць і гнеў не дасягаюць мэты.
І можна толькі проста звар'яцець,
А можна геніяльна –
Як паэты.

## І ПОМНІЦЬ

У крылляў ночы марны ўзмах.
Журба ў вачох замілавання.
І помніць у нябёсы шлях
Душа – закладніца світання.

## СЯБЕ...

У кожнага клопату ногі свае.
Свае і ў кожнай пяшчоты рукі.
Самоце нашай хапае дакукі.
І кожнаму з нас сябе не стае...

## ЭЛЕГІЯ

У восеньскім садзе далёка, й шырока,
І так непрытульна для ўсіх вятроў.
У восеньскім садзе смяецца сарока
Марозным смехам бярозавых дроў...

## НЕ ЗАСТАЕЦЦА...

Ты косіш час ці час цябе грабе,
Працуеш на закрасу й на акрасу?
Ты ўбачыш, што не застаецца часу,
Каб лёс твой
Хоць успомніў пра цябе.

## ГОЛА...

Дрэву перасаджанаму гола
У чужой маркоце й цішыні.
Хай галіны й зашумяць вясёла,
Сумна дол свой
Помняць карані...

## ПЕРАД АПОШНІМ

Ты жывеш,
Пакуль шалёным птахам
У тваёй душы
На ўсё размашша
Б’ецца страх
Перад апошнім страхам,
За якім відаць
Адно бясстрашша...

## ІМПАРТ

Так, мы, беларусы, – еўрапейцы.
Што ж не скінем нетутэйшы хлуд?
Ці суседскія шануем лейцы
І, лічы што, імпартны хамут?

## ДАЛОНЬ

Сярэднявеччу пакладзеная на скронь,
Камянее ў ласкавым прымусе
Вільня –
Крылатая думкай далонь
Стольнай, дойліднай Беларусі.

## ПЕРАД ЗЯЛЁНАЙ ЗАЛЕВАЙ

Сонна ў чоўне. Вяслуе рыбак.
Неба цьмеецца諸 поснай лампадаю.
На галінку халодную падае,
Быццам зорка звуглелая,
Шпак...

## ПОМІРГ

Снег яшчэ льга ацаніць на караты,
Адлега клы́мае клым-паклым.
Коміны –
Вясковыя дымакраты –
Сонцу ў вочы пускаюць дым...

***

Сарока навіны нясе на хвасце.
Кумпяк
Раскашуецца ў тлустым дыме.
Расце маладзік,
І туман расце,
І вішні цвітуць
Пры любым рэжыме.

*1995*

## КАЛЯХАТНЯЕ

З-пад агалелага галля
Зноў восень гляне сіратою,
Напамінаючы пра тое,
Што за расстаннаю ракою
Чакае родная зямля
І рэха вечна маладое...

*2 кастрычніка 2006 г.*

## СКРОЗЬ

Ці човен Харону, як поснік, смалі,
Ці сыць пякельны агонь, як скаромнік.
Чалавек і ў космасе, і на зямлі
Самотны а безабаронны,
Як помнік.

## НЕ ДАСЦЬ АДКАЗУ...

Жыцця надтрэснутую вазу
Заменіць цэлаю зямля,
Але не дасць табе адказу,
Нашто жывеш
І што пасля.

## ВЕРНАСЦЬ

Зносіцца світка начы давідна.
Зробіцца золлю спякота.
Вернай табе застанецца адна,
І аўдавеўшы,
Самота.

## ПРЫМРОЕНА...

След ад падковы гукала гаць.
Змрок нешта сабе мармытаў:
...цяпер бы...
Змарыліся цені свае калыхаць
Журботныя вербы.

## ЗАСТАЦЦА...

Пражыць сваё ў жыцці –
Адказнае мастацтва:
Адкуль прыйшоў –
Пайсці,
А на зямлі – застацца.

## МУСІЦЬ...

Покуль зорка яго гарыць,
Покуль зорка яму дарадца,
Кожны мусіць свой цень паўтарыць,
Перш чым з прашчурамі спаткацца...

## ЛЯГЧЭЙ

Перамагае ў выніку давер.
На шчырасці трываліцца зямля.
Лягчэй казаць, што думаеш цяпер,
Чым тое, што прыдумаеш пасля...

## ПАЧАЛОСЯ

Пачаў аплік аблік.
Шукала вобла воблік.
Часаў калок кулік.
Валок валок
Воз воблак...

## НАД ПЕРАСТАЯЛЫМІ ВОДАМІ

Дрэвы голыя бавяцца зябкай размовай,
Ўспамінаючы лета спякотнае свята.
Над перастаялай вадой зімовай
Качка ўзлятае, як чмель,
Калмата.

## ЯК МНЕ?..

Не чапай змяю –
І яна не кране.
Ну а крыўду маю
Як не кратаць мне?..

## КАХАННЕ

Дзень у раніцу закахаўся,
Развярэдзіўся, раскалыхаўся.
Толькі раніца не чакае –
Пасміхаецца і ўцякае.
Дзень да вечара выглядае:
Дзе няўлоўніца маладая?

## ПРОСТА ЛЮДНАЯ...

Гэты свет –
Проста людная вуліца,
На якую выходзяць з хаты
Паказацца жабрак і багаты,
Покуль неба не перакуліцца...

## ГАСЦІНІЦА

Беларусь –
У цэнтры Еўропы гасцініца.
Дужа ў дзверы, заезнік,
Кулакамі не грукачы.
Хай сябе пачувае як дома
Кожны, хто спыніцца.
Толькі былі б ад гасцініцы
Ў гаспадара ключы.

## НАЛЕЖЫЦЬ

Абмяняюцца гарбамі, як скарбамі,
Прамяняюць на місу Месу балючую.
Будучыня належыць барбарам,
Бо барбары неўміручыя.

## БАСАНОЖ

А доля –
Пані не скупая,
З падумкай дзеліцца вярстой.
І басанож душа ступае
Па матчынай зямлі святой...

## АЗІРНУЛІСЯ...

Пагаманіць сышліся дрэвы ў сад.
І за гамонкай іх зіма заспела.
Аціхлі. Азірнуліся назад –
Навокал бела-бела...

## НА ВЫХАД...

Новы год! А мне чуваць:
– На выхад!
Затрымацца хочацца ў жыцці.
Крыўду крыг
Напомніў шклянак скрыгат.
Стыне снег, бялейшы ад куцці.

## НАМІ СТАЦЬ...

Не паміраюць толькі летуценні.
Сны, як снягі, находзяць, каб растаць.
Жывем зусім не мы, а нашы цені,
Каб у краіне ценяў намі стаць...

## ТУЖЫЦЬ...

Не збылося нікому жыццё пражыць,
Перабыць свой ратунак і стому.
Толькі смутак адзін застаецца тужыць,
Як сабака, што выгналі з дому...

## ТРЫСЦЕН

Дні з хаты спадзевак у небыццё
Выходзяць пакрыўджанымі сватамі.
Трысценам пры хаце трывае жыццё:
Чаканне, спатканне
І – развітанне.

## ЧЫТАЮЧЫ СУ ДУН-ПО

Гэта зорка дрыжыць за мяне.
І прыцьмелі, як зоркі, дні.
Дні мае, іх мой сум не кране,
На мяне глядзяць з вышыні.
Немагчыма ўцячы ад начы,
Ад сваёй начы. Хоць крычы.

## ЗБЯНТЭЖАНАСЦЬ

Бянтэжыцца цемра пустая,
Што змрок не яе сустракаў.
Снег
Ціха праз дах прарастае,
Нібы праз бязрукі рукаў...

***

Ад шугання іскраў і сцятасці вугалёў
І ў полымя перасыхае дыханне.
Каханне – гэта заземленая любоў,
А любоў – завоблачнае каханне.

## ХАЦЕЛА Б...

Ад усяго, што дзеецца ў жыцці,
Стаміўшыся і верачы ў падлескі,
Зямля хацела б лесам зарасці.
Ды лес сякуць –
Лятуць далёка трэскі...

***

Недатыкальны ў паганскай бажбе,
Укасцянелыя языкі агню
Лось нясе на пакатым ілбе –
Падпаліць цішыню.

## ЗАЖУРЫЛАСЯ...

Завушніцы белага рэха
Прымярае зіма-векавуха.
Зажурылася завіруха –
Кучаравая, як чарэмха...

## І ЎСЁ Ж...

Жывыя –
Мы прыгонныя ў жыцця.
І ўсё ж на Юр'еў дзень ці на Ярылаў
Прыгон наш адмяніць
Жадання й сілаў
Хапае толькі ў пана забыцця.

*19 верасня 1996 г.*

## СЦЯТАЕ ЦЯРПЕННЕ

Дрыжыць у ганка на сцягне
Прамень,
Што з ценем зрыфмаваны.
Лук данывае на сцяне,
Як той крумкач укрыжаваны.

## БЫЎ КАЛІСЬЦІ...

Глухому кажуху на вуха
Пра скруху шэпча завіруха.
Ды думае сваё кажух:
Быў і баран калісьці зух...

## НЕ БОЛЬШ...

Не больш, як цень мой худы,
На шалях жыцця я заважу.
І мой адыход туды,
Відаць,
Толькі сам і заўважу...

## ПАД ЗЯЛЁНУЮ РУКУ

Начытаўшыся соннікаў,
Сон-травой нашаптаных,
Луг
Выкідвае конікаў,
Як зялёных шайтанаў.

***

Нас забыццё запыніць на імгненне
У памяці халоднай, як зямля.
А нашае і ўмецтва, і няўменне
Лёс мусіць некаму аддаць пасля...

## АДНА

На прагалістай лесасецы
Яшчэ не заціх
Соснаў паваленых крык.
І на тое адна сасна
Застаецца,
Каб на ёй
Павесіўся маладзік.

## БЕЛЫЯ СЛЁЗЫ

На нічыйных гарадскіх дварах,
Быццам сны ў разбураным Сезаме,
Па сваіх былых гаспадарах
Вішні плачуць
Белымі слязамі...

## ЖУРБА

Над студняй застыў асвер
З вядром, надпітым журбою,
Нібыта пенсіянер,
Забыты самым сабою.

***

На дне душы,
На дне душы,
На дне душы знявечанай
Надзею не тушы.
Бяда –
Яна не вечная.
Яшчэ нагорнецца сляза,
Яшчэ не раз засвеціцца.
Засохлая лаза
Расой чакання свенціцца.

***

Мы кватаранты ці ў жыцця, ці ў смерці?
Мы дома ці ў зямлі, ці на зямлі?
Лёс нашыя сляды спяшае сцерці,
Каб мы сябе і ўспомніць не змаглі.

## ВЯСНОВЫ КЛОПАТ

Вясновы клопат у ракі.
Ва ўзмежкаў зелянеюць чолы.
Спрабуюць голас жаўрукі,
Ці перазяблыя анёлы...

***

Мы лічым, што праводзім час,
Хто похапкам,
А хто паволі.
А гэта час
Праводзіць нас,
Каб болей
Не сустрэць ніколі!

## МАЎЧАЦЬ...

Маўчаць крыжы,
Ці стомленыя цені
Крылатых душ,
Што змрок перамаглі
І ціха ў вечны вырай паляцелі,
Пакінуўшы спагаду на зямлі...

## ЛЮБІМ

Любіць час мінулы небыліцы й былі.
Любіць памяць рассцілаць журбы кілімы.
Рэўнасць той зямлі, дзе першы след згубілі,
Любім называць любоўю да радзімы...

## ПАЎТАРАЦЬ...

Лёс, як той паляўнічы,
Ахвярай не ўчуты,
Нам дае паўтарацца
У новым абліччы,
Каб наноў паўтараць пакуты.

## ДАЎНЯЕ

Луг вывернуў кажух
Сушыць пасля дажджу.
Апала неба хмаркай ускалмачанай.
Даўно яно было, а я дасюль гляджу
На свет
Праз прызбу хаты матчынай.

***

Лівень галін сняць асохлыя пні.
Снамі нябожчыкаў цішацца хаты.
Бедны запомніць багатыя дні.
Бедныя дні не забудзе багаты...

## ПА-СВОЙМУ

Кожны рады па-свойму жаданню свайму.
Човен верыць старому вяслу.
І сінічка ляціць,
Каб сказаць пра зіму,
Каб зімой нагадаць пра вясну...

## НЕ МАЕ

Калі агонь патух
І вугалёў даволі,
Свабодны толькі дух –
Душа не мае волі.

## ВОСЕНЬ

Восень – восань. Восы. Восы. Восы.
Восы зерня. Восы цёплых зор.
Стыне босы след. Жывуць дзівосы.
Хвост лісіны рыжы, як дакор...

## ЧАМУ?..

Адлега зацёклымі пальцамі
Ў шыбіну грукаецца па-сінічаму.
І падумалася цішыні,
Чаму
У далягляда павекі зліпаюцца?..

## POST SCRIPTUM

Абнашчымся апошняй журбой,
Запомніўшы рупнасці позірк савіны.
Калі што й мусім узяць з сабой –
Дык гэта нашы грахі й правіны.

## РУДЗІЗНА

Каняўё парудзела.
Асцяўё парадзела.
Дождж мяце барадою
Радабоцце рудое.
Ціха восень рудая
Рабацiннем рыдае.

## СУПЕРНІЦА

Гасподняй рукой
З невычэрпнай сяўні
Пасеянае ў бясконцасць, зярняце
Прарастае,
Каб ясніць святло дабрыні,
Суперніца смерці –
Маці.

## ХАЦЯ Б...

Калі мая трывога спала,
Калі калоссе налілося
Тугой?
Сказаць я не бяруся.
Як нарадзіцца не прыпала,
Хаця б памерці давялося
У беларускай Беларусі...

***

Каб вечнасці мецць клопат забывацца
І нас, і ўсё, што спарадзілі мы,
Ляноту нашую пільнуе праца,
Шчырэць ахвоціць зор дакор нямы.

## І ЦЯБЕ...

І цябе засяляе на схіле год
Ператомленая ахалода.
І з жыццём ты гуляеш,
Як з жабкаю кот –
І есці няўсмак, і пакінуць шкода...

## ЧАКАЮЦЬ...

І нашыя пражытыя гады,
Удзячныя сваім надзейным сховам,
Чакаюць нас –
Калі ў аблічч ы новым
Мы вернемся, забытыя, сюды...

## ПАВОЛІ...

У моры забыцця віроў даволі.
На сцежках ранішніх палын пасох.
І не чуваць, як цэдзіцца паволі
Праз пальцы Вечнасці
Людскі пясок...

*14 жніўня 2006 г.*

## ПАЧУЛАСЯ...

І мне пачулася:
«Не бойся
Піць гора з поўнага каўша.
Зірні ў самотныя нябёсы,
Каб усміхнулася душа».

І на зялёныя адхоны
Спадаў спакой
З блакітных стром.
І вечарэў пагляд Ягоны.
І заікаўся першы гром...

## ЗЯЛЁНАЯ ВАДА

Зялёная вада
Ад дрэў, ад цішыні,
Змаркочаная да
Спакойнай глыбіні.
Зялёная ад звад,
Што тояць берагі,
Ад небылосці, ад
Зялёнае тугі...

## НА ЎСЯКІ ВЫПАДАК

Пагадзіўся з усімі, каб толькі жыць,
Далёкі ад спрэчак і звадак.
А ўсё ж, як хвост авечы, дрыжыць
Са страху. На ўсякі выпадак.

## НЕ МАНІ...

Дарма самому сабе не мані,
Што ты да мулкага свету звык.
Бач,
Усплываюць з зямлі камяні,
Як успаміны пра ледавік...

## ХРОНАС

Гісторыя –
Ценькі гадзіннік пясочны:
Як ні перакульвай – пясок цячэ.
Як сочыцца час,
Хронас згорблены сочыць.
Пацалунак юдаў гарыць на шчацэ...

## НЕ ВЫПРАСТАЦЬ!

Гарбатага спіной
Выпроствае магіла.
Гарбатага душой –
Аніякая сіла!

## ПАДСПУДНАЕ

Вандроўнаму часу спіну балесна
Горбяць аблокаў летуценныя клумкі.
Каб з клетак мозгу выпусціць думкі,
У небе
Ад птушак зрабілася б цесна...

## БАЦЬКІ Й ДЗЕЦІ

Бацька – вечар,
Які праводзіць прывык
На спачынак думак аблокі.
Маці – раніца,
Дзе радасны крык
Даганяе свой плач далёкі...

## НЯЎСЦЕРП

А часу не цярпіцца як хутчэй
Украсці ў века маладосць
І прыгажосць у маладосці.
Ажно маланкі бліскаюць з вачэй.
Час, ён у гэтым свеце
Толькі госць.
Яму няўцям, што сам
Старэе ад зайздросці...

***

А ранняя вясна і ранняя зіма,
Світанне і змяркане між сабою
Падобныя, і розніцы няма
Спаміж жнівом гарачым і сяўбою...

## АДВОДЗІЦЬ...

Агню свайго першага дыму шкада.
Сябе даганяе сцяжына блукання.
Душа беларуса –
Вечная каня,
Якая адводзіць бяду ад гнязда...

## БЛАЖЫЦЬ...

Аблачыны – неадціснутыя сыры.
Досвітак імжыста шарэе.
Ад настрою сырога настрой сыры.
Яшчэ ледзь-ледзь – і душа адсырэе...

## КАБ БАЧЫЛІ!

За службу служаку
Адваляць падзяку,
Каб вочы зайздроснікаў бачылі:
Са скуры трывалай – ашыйнік сабаку,
Наручнікі – сябру сабачаму.

## ГАСНЕ...

Завязала восень-спарадзіха
Верабейкі шэры вузялок.
Позірк холаду адчуўшы,
Ціха
Гасне пасівелы васілёк...

## СТАРАЯ ХІТРАСЦЬ

Хітрасць чалавечая старая:
Ён аберуч пад сябе грабе,
На сябе ён зброю паднаўляе
І штодня ўцякае ад сябе.

## ЗАСТАНЕШСЯ...

Дбай пра бяду й пра радасць жартама́.
Ні сам сябе, ні цень свой не апудзіш.
Таго, што быў, што ёсць,
Цябе няма.
Ты застанешся толькі той, што будзеш.

*26 чэрвеня 1995 г.*

## ДУМАЮЦЬ...

Смяецца рэхам цішыня.
Рачулкі журацца прытокамі.
Маўчыць вірамі глыбіня.
Нябёсы думаюць аблокамі...

***

Думкаю празорыцца душа.
Думка заручаецца душою.
Яснасць, ахінуўшыся імжою,
П'е нагбом
У ісціны з каўша.

## АДЗІНЫ

Душа – адзіны храм, дзе Бог жыве.
Саборы ды бажніцы –
Дамавіны.
Перад душой пакаюцца правіны.
Сляза расою робіцца ў траве.

***

Лічыць вазы стагоддзяў
Зямны наш падворак.
А гэта ў нябёсах Звышні
Перабірае ружанец зорак.

## ЖАДАННЕ

Нябыт абыякава ўсё праглыне.
Я цешыцца
Марнай надзеяй гатовы,
Што нехта захоча
Сказаць пра мяне:
Ён быў на паслугах
У матчынай мовы.

***

На гару прабачэння ўзысці,
Каб даверыцца ўрэшце пакутам.
Самаўладная кара ў жыцці –
Быць да крэўнага слова прыкутым.

## ЯРМО

Не літасцю
Вяжа снапы вязьмо.
Не ласкай
Гнецца кашэль з лучыны.
Жаданае толькі адно ярмо –
Ярмо Айчыны...

## ЯК І...

Рахманых, як і га́рдых,
Бог карае.
Без дыму выстываюць каптуры.
Без роднай мовы
Людзі ў родным краі –
Як тыя кватаранты-немтуры...

***

Усіх трымае зямля вяльможная.
Усіх прымае зямля сырая.
І д'ябал ягоны кожнага
На вернасць Звышняму правярае.

## ЦІ ПАТРЭБЕН...

Ці патрэбен ты сам сабе,
Як спытацца ў сябе самога?
Як спытацца ў пеўня старога,
Ці даўно ён зерне дзяўбе?
Чалавек, як гузак на ілбе,
Нечакана ўскочыць, каб знікнуць.
Ад сябе хто зможа адвыкнуць,
Можа й будзе патрэбны сабе...

## ДАЗВОЛІЎ

Што ёсць жыццё?
Падзённасць ці мастацтва?
Хто пераможа – хітрасць ці наіў?
Дазволіў Усявышні запытацца,
А даць адказ усім забараніў.

***

*Ісікава Такубоку*

Без матчынай мовы
Мы ўсе бабылі.
Змяшаўся з людской гаманою на станцыі,
Каб толькі пачуць
Словы роднай зямлі
І немтуром не застацца ...

***

Сяўба дае задатак малацьбе.
Чаканнем і жыве зямля сырая.
І той, хто даў цябе і ўсё ў табе,
Усё ў цябе паціху забірае.

***

Каб род людскі ад руху не адвык,
Каб працаўнік не размінуўся з плёнам,
Задумаў Госпад вечны рухавік,
Які завецца клопатам надзённым.

## ЗА ЎСЁ...

За ўсё адказвае серабро –
Гаворыць Святое Пісанне.
Маўчыць серабро,
І трашчыць рабро,
І спяшаецца дагасанне...

## АСТРОГ

Жыццё – адчынены астрог,
Але не выйсці нам з астрога.
Ідзём сюды з усіх дарог.
Ключы ад волі ў Пана Бога...

## ВОГНІШЧА

Памяць – гэта вогнішча,
І языкі агню
Ухапіцца як далей стараюцца.
Вечарэе вогнішча.
І раніца
Ані паварушыць цішыню.
І чуваць,
Як у прычахлым прысаку
Недагаслыя іскрынкі пырскаюць...

*23 ліпеня 2006 г.*

***

Каб людскі не зводзіўся род,
Вечным семем засеяны свет гаротны.
І няма на зямлі сірот,
Бо на небе Бацька Бог
Несмяротны.

## ПАДУМАЙ...

Безагляднік,
Да ўсіх і да сябе глухі,
Запыніся,
Суцішся ў шалёным імпэце.
Як Бог не карае цябе за грахі,
Дык падумай,
Ці ёсць ты на гэтым свеце?..

***

Адбыўшы свае гады,
Апрача мітусні,
Не набудзем нічога.
Прагне душа цішыні,
Каб слухаць маўчанне Бога.

## ВІНОЙ

Час без перадыху
Косіць траву,
Выбіраючы трапяткую самую.
Бадай што на гэтым свеце жыву
Віной перад Богам
І перад Мамаю.

## АДКАЗ

І калі б запыталі мяне:
– А што ты з жыцця свайго
З усяго запомніў?
Адказаў бы я словам,
Сплеценым з промняў,
Словам – рэхам самое самоты –
МАМА.

# *Ноч мае форму яйка*

*Самым сабой застаецца святло –*
*І шчодрае, і скупое*

## ЁСЦЬ!

Чалавеча!
Тваё чало – веча
Думак,
Спадзеўных і сумных.
Тваё жыццё –
Памкненне,
Запыненае на імгненне.
Твой век забыўлівы,
Як і тваё найменне.
Сам ты – цень
Ад пылінкі знікнення.
Але
У сусветнай імгле
У самога сябе
Нехаджалы госць –
Ты ёсць!

## МАЛАДЗЕЕ...

У дрэва рэчак меней і меней галля.
У драме жыццёвай апошняя сумная дзея.
Старэюць народы,
Нелюдзее зямля.
Адно толькі
Слова Хрыста маладзее...

*1996*

## АНЁЛ, ЯКІ НА ЛЮТНІ ГРАЕ

Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае,
Калі забытыя сляды
Згадае сцежка маладая.

Калі гады, нібы дзяды,
На прызбу стомы сядуць з краю,
Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае.

Калі не позірку бяды,
А зноў душа паверыць раю,
Ён будзе мроіцца тады,
Анёл, які на лютні грае.

## СВЯТА СВЯТАЎ

Вялічка лагодаю ў свет ідзе,
Як свята святаў,
З яечкам чырвоным.
Цяплей валунам
І святой вадзе,
Лягчэй лагчынам,
Вальней адхонам.

Прымярае раніца андарак.
Небасхон паўтарыць
Асмялела крона.
Зямлю ачунялую мацае грак,
Каб Хрысту
Ступаць было несцюдзёна.

***

Толькі на гэтай зямлі
Радзіма тваіх вачэй.
Сваё жыццялюбства ўцвялі,
Каб тут затрымацца даўжэй.

Толькі на гэтай зямлі,
Як на святым куце,
Не толькі
Цень у быллі,
Але й душа расце...

***

Плыве сукрыста дым-пілігрым.
І комін, як дурань,
У неба лезе.
У белабокім садзе старым
Сінічкі купаюцца ў снезе.

Вятрэц абдзьмухвае
Кожны ствол,
Чапляючыся за сукі барадою.
Злятае з белым пылам на дол
Кары рабацінне рудое.

А недзе сябе ўспамінае Рым,
Парыж раскашуецца ў
Млявай кунезе.

У белабокім садзе старым
Сінічкі купаюцца ў снезе...

## ДЫ ХВАЛЯВАЛАСЯ...

Мелася ветру ліст напісаць
Вясна,
Абмакнуўшы ў блакіт сцяблінку,
Ды хвалявалася, як пачаць.
Аж пакуль яе пад руку
Не штурхнула лета.
І на аржаных лістках толькі й засталіся
Кляксы вясёлыя васількоў...

***

З неба жар заграбаць сваімі
Пальцамі акалелымі
Цягнецца сад стары.
Яблыкі адзалётнічалі
Пуцкалаватымі кавалерамі,
І вятры ў двары апусцелым –
Як сваты вясёлыя ў манастыры.
Вясёлка з возера павычэрпвала
Ваду гуллівую да вядзерца.
Кожны вуголь патушаны
Адсіпеў, як гусак.
Сутонне атавай яшчэ павячэрала.
Туманам чакаць выраю давядзецца,
Каб золатам браць
З ясакару
Ясак.

*7 кастрычніла 1995 г.*

## НІКОЛІ...

Думка голая, як дзіцятка,
Што якраз нарадзіцца паспела.
А якая будзе апратка –
Гэта клопат таго,
Хто ўмела
Ці няўмела яе ўзгадуе,
Ісцінай свой позірк уколе.
Думка мае душу маладую.
Думка не сівее ніколі.

## НЕЛЬГА...

Хрэснікі маланак утрапёных,
Думаюць захмарна валуны.
Згорбіліся спіны даўніны.
Першасэнс заблытаўся ў імёнах.

Зоры пазіраюць па-зямляцку,
Як на доле зябкавата снам.
Ані валунам, ні перунам
Нельга ісціну застаць знянацку.

## ВІР

Сляза па воку не заплача,
Пакуль вязуць мяхі на млын.
Як хваля –
Зменлівая ўдача,
І смутак –
Вечны, як палын.
На млын у мазалях дарога,
Што ў аратая даланя.
І зерне клопату людскога
На пыцель мелецца штодня.

## І ЎСЁ БЫЛО...

І дзень глядзеў на ноч,
І ноч на дзень глядзела
Высока недзе там, а на зямлі
Дзірава світка ў восені рудзела
І навальніцы басанож ішлі.
І не круцілася ляцець нікуды,
І не спяшалася нікуды йсці.
Гулі званоў далёкіх перагуды.
І ўсё было ў душы, як у жыцці...

## АГНЯТКА

А вецер аціх –
Ён агонь люляе.
Агнятка,
Як немаўлятка голае,
Смяецца,
І ўсмешка яшчэ нязлая.
І вырастае агнятка
Ў полымя.
А полымя ў гарачай кашулі,
Усхліпваючы ды стогнучы,
Бяжыць,
Баіцца, каб не распранулі
І зноў не паклалі
Ў калыску вогнішча...

## ПАЗЫКІ

Агонь у пажара пазычыць жару,
І снегу леташняга вясна
Пазычыць выветранаму абшару,
І крышку пры́цішку гамана
Ў цішыні пазычыць да ночы,
Пакуль адсыпаецца ноч-сава.
Званы засмяюцца зусім па-званочы.
І вечарніца ўсміхнецца знава.

***

Як і душы,
Наўколлю вечарова.
А над усім –
З каронай кручаных рагоў
Карова,
І над страхою
Задуменны дым...

*15 кастрычніла 1995 г.*

## ЭЦЮД

Як аленевы рожкі, галінкі ў пупышках,
Маладая трава тчэ зялёны кілім.
Аблачыны нясуць у празрыстых кілішках
Першы дождж, каб абнашчыцца ўсім.
Стала менш на вясну абяцаную – значыць,
Будзе зноўку душа, як закладніца зім,
Цеплыню па заможных завеях жабрачыць,
Каб убачыць зялёны кілім...

***

Спіць Дамініка.
І лялька
Просіцца з ложка далоў.
Ноч мае форму яйка,
Не прызнае вуглоў.

Ноч –
Тое яйка, з якога
Вылупіцца святло,
Зробіцца многа
З нічога,
Рэчку ўзгадуе вясло.

Дзедзіна песціць і грэе,
Туліць у ціхаце.
Спіць дамавік
І старэе,
Спіць Дамініка й
Расце.

## РАСЦЕ

Жыццё – надзейная рызыка.
У страха характар воўчы.
Гляджу,
Як у рыжага Рысіка
Дарослымі робяцца вочы.

Вачам па-кашэчы рагочацца,
Не зважаючы ні на кога.
А мне ў іх убачыць хочацца
На печы сябе малога...

*2004*

***

Ледзяную поўню ў вядры
Конаўкай з ручкай стылай
З радасцю пакрышыць
На крохкія маладзічкі й веташкі.
Гарбату на чабары
Заварыць
І на цёплым дымку варажыць,
Колькі яшчэ дазволена
І суцяшацца, й тужыць.
Лічачы ранішніх гурбаў
Згорбленыя стажкі, –
Добра!

*11 лістапада 1995 г.*

***

Заход счырванеў,
Як пячная цэгла.
Ускінуўшы хмарку на плечкі,
На ўзгорак
Рухавая лазенька ўзбегла,
Халадзёнкі
Зачарэпнуўшы з рэчкі...

*5 лістапада 1995 г.*

***

За якімі замор'ямі
Долю ні сватай,
На чужыне й аблокі
Цвярдымі крушнямі.

Неба роднае
Толькі над матчынай хатай.
Зоркі ў згодзе міргаюць
Вачыма скрушнымі.

*9 лістапада 1995 г.*

***

Паказвае восень свой нораў.
А ветру хоць галасі –
Спіна ад возера стыне.
У ноч зялёную бору
Ўцякаюць бярозаў лісіцы.
Толькі рудзеюць хвасты...

*12 кастрычніла 1995 г.*

## КАБ ПОТЫМ...

Спачатку старацца,
Адолеўшы зло,
Застацца самым сабою,
Каб потым
Не гэтак страшна было
Застацца з самым сабою.
Самым сабой застаецца святло,
І шчодрае, і скупое...

*13 жніўня 1996 г.*

## ТРОЙНЯ

Цвік.
Чалавек.
Прамень.
За горам, за морам, за лесам
Лёсам адным яны
Адшуканыя і ашуканыя.
Цвік
Заганяе ў сцяну малаток наўпрост
(На ўвесь анямелы цвіковы рост).
Чалавека
Ў зямлю заганяе жыццё
(Напаміну на забыццё).
Прамень
Заганяе ў заўтра стомлены дзень
(Каб не намагаўся ўбачыць свой цень).

Цвік гнецца.
Чалавек гарбаціцца.
Промень ніцее.

І ў кожнага непераможанага
Свой крыж надзеі
На целе...

***

Як памочнікі смерці, ў горадзе
З косамі йдуць дзяцюкі.
Аб'атавіць лугі й газоны.
Вецер лісце цюкуе
Ў цяжкія цюкі,
Халады нішчаць колер зялёны.

Смерць смялее,
Касу на плячы несучы,
На траву ці на снег не зважае.
Страшна на касачы
Накалоцца ўначы
Восені,
Бо гаспода чужая...

## НАПАМІНАЕ...

Сонца садзіцца –
Напамінае.
Ліст аблятае –
Напамінае.
Толькі таіцца
Хвіліна тая.
Нешта як быццам
Ёй замінае...

*11 кастрычніла 1996 г.*

## ХМАРНЫ НАСТРОЙ

Вечнасці ўлежна
Ў ціхасці вечара,
Вечару светла
Ад цьмяных агнёў.
Ходзіць Апошняга цень
Ці Прадцечавы?
Плача крумкач
Ці сцюдзёны анёл?

*2005*

## КАБ ПРЫНЯЎ...

Ранішняе вечарэе святло,
Каб разліцца імглою.
Яблык аб дол разбівае чало,
Каб зрабіцца зямлёю.

Рыба пад лёдам шукае тхло,
Каб глынуць паветра з марозам.
Чалавек пакідае зямное жытло,
Каб прыняў яго
Вечны Розум.

## УЗРОСТ ЦІШЫНІ

Усе свае семдзесят летаў і зімаў,
Каб жыць,
Прадрыжыць на ўзбалоцці асіна.
А дуб на выгодзе
У згодзе й лагодзе
Чужых і сваіх
Не заўважыць стагоддзяў.
Парой,
Не зганяючы госця з пляча,
Спытае
Пра ўзрост цішыні ў крумкача.

## ДАРАГІ...

Грошы – пыл.
Сіла – прах.
Слава – дым.
Пнецца кожны вар'ят
Узвялічвацца.
Гэты свет –
Гатэль дарагі, у якім
Трэба толькі жыццём
Разлічвацца...

*9 мая 2006 г.*

***

Падсуседзіўшы ў памяці
Вернасць і здраду,
Ператраціўшы дзён сваіх
Золата й медзь,
Праз згалелае голле
Аглухлага саду
Халадней
На азяблыя зоркі глядзець...

## НА РАДЗІМЕ

Ні дрэў,
Дзе ў гнёздах грэўся спеў,
Ні тых вятроў, ні той лагоды.
Таго ўсяго, што я заспеў, –
Пні ды намоклыя калоды.
Хапае воку парушын.
Усё ў прагалах
Ды ў прабелах.
Як ад веласіпедных шын,
І шоргат ад лістоў зрудзелых.

Бядзе аглухла ў лебядзе.
Спаконна.
Сконна.
Аднадзённа.
Як той нябожчык,
Час ідзе –
Сцюдзёна...

*19 кастрычніка 1995 г.*

## ПРОСІЦЬ

Крыху перадыху просіць праца,
І душа –
Спакою на хвіліну.
У дарогу, мусіць, час збірацца.
Келіх шкадавання нахіліла
Восень,
Ці, сказаць няўмольней,
Старасць.
Каб запомніў смак жыцця былога.
Хмарабровасць.
Вечаровасць.
Шарасць.
Смуткам узараная аблога.

## КЛОПАТ

Ішла вясна.
Ёй насустрач вайна.
Вайна і кажа:
– Ару й зімою,
Але няўсхожая семяна́.
Адна аблога
Ляжыць за мною.

А ў аратая бяда свая.
Глядзіць на хмарку
Над валатоўкай:
– Зямелька павінна
Раджаць, а я
Ў акопе ляжу з вінтоўкай.

## НЕ ДАЦЬ ДАРАСЦІ...

Вяртаюцца халады
Туды, адкуль калісьці
Дазволена было
Тваім гадáм прыйсці.
Разутая душа
Ідзе па жаўталісці,
Не даць каб дарасці
Журбе да старасці...

## АПОШНІ

Застаецца вучыцца ў звяроў,
У халоднай рыбы
Ды ў птушак,
Як любіць глыбіню віроў,
Як люляць цішыню бароў,
Вышыню шанаваць у душах.

Ад саміх сябе праз вякі
Мы ўцякалі з такім напорам –
Аж дзічыліся нас ваўкі,
Аж ад нас,
Першабытны такі,
Адцураўся апошні сорам.

## ЗІРНУЦЬ

За даляглядам ісці ды йсці,
Не перагнаўшы яго ніколі.
У забыцці ўсё, як і ў жыцці,
Сум доўжыцца й скача
Вавёркай у коле.

У коле вечнасці й забыцця.
А ў забыцця крыўдлівая памяць.
А далягляд, як тое дзіця,
Кашулю дня
Любіць змрокам запляміць...

## ЗДАЛЁК

Змрок
Гол, як абчасаны кол.
Здалёк
Апошні цень кульгае.
І яблык грукаецца ў дол,
Як з плахі
Галава глухая...

## НЯЙНАЧАЙ...

Гэта калі ці ніколі
Стаў я рабіцца
Быццам
Вецер у голым полі.

Каб да каго прыгарнуцца,
Каб да каго прыхіліцца.
Кажуць,
Што вецер плача.
Чутцы каб што памыліцца.

У вока ветру, няйначай,
Запала сухая йгліца...

*17 ліпеня 1995 г.*

## У НАЙМЕ

Гук ад рэха ці з гуку рэха,
Не задумваўся кат-скрыпач.
У катоўні скрыпкі пацеха,
Кожны гук даймае –
Хоць плач.

Гук да ляманту, да знямогі
Выцінаюць смычкоў бізуны.
Як бы меў быстрэйшыя ногі,
Збег бы гук у лясныя сны.

Гук у голага свету ў найме
Галасы раздае свае.
Гук заходзіцца, гук канае,
А здаецца,
Што ён пяе...

*23 мая 1996 г.*

## НЕ СПЯШАЕ

Час не спяшае ўвасобіцца ў рэчах,
Гуках і рухах істотаў,
Юных паглядах,
Змярканнях старэчых,
У пераспеласці сотаў.

Кожнае я –
Гэта час затрыманы,
Зніклівы а непаўторны.
Словы халодныя,
Быццам нарманы,
Шлях прызнаюць непратораны.

Сонны сучок
Паддаецца стамесцы.
Крышыцца глыбасць на порах.
Наймічкай часу
Рака застаецца
У безбераговых прасторах.

## СКНЯГА

Свет – той кірмаш,
Дзе купляе людзей
Шчасце, і гора,
І немач, і праца.
Толькі адна пазірае люцей
І не хвалюецца прытаргавацца.

І за цану, і за бесцань
Яна
Возьме агулам
І ў розніцу купіць.
І на базары ўжо іншым
Спаўна
Вечная скняга
За кожнага злупіць.

*1977*

***

Радзімай называецца дзірван,
Які цябе цямней
Сваім крылом акрые.
Ён, край бацькоў,
Як той разбіты збан.
Да скону дзён
Збірацьмеш
Чарапкі сырыя...

## У ДАЎЖНІКАХ

Ліхвярка-вечнасць
Жыццё пазычае
І падвышае хутчэй адсоткі.
Ледзь уначэе,
А ўжо залачае,
І падаюць дні,
Як з гнязда падлёткі.

Пабыўшы і на вятрах,
І ў зацішшы,
З вадою жывою
Шукаеш калодзеж.
Жыццём за жыццё
Даўгі не сплаціўшы,
У даўжніках
У нябыт адыходзіш...

## ТОЛЬКІ Ў ХАЦЕННІ

Гэта ўжо не мы, а нашы цені
Нешта робяць і жывуць за нас.
Мы жывыя
Толькі што ў хаценні
Даць дазвол,
Каб час ашукваў нас.
Час пытаць дазволу не жадае,
Ад нябыту тоячы ключы.
Жарабіца жарсці маладая
Мае сподзеў,
Цуглі грызучы...

***

Вятрэе неба,
Зябне дол,
І робіцца радня чужою.
І я адзін, як голы кол,
Што пахіліўся над мяжою.

Мяжой між тым,
Што ўжо было
І што яшчэ адбыцца можа.
Святло само пярэйдзе ў тло.
І сон падасца ў падарожжа.

Сыць выламіць рабро ў дзяжы.
Дапытлівасць папросіць есці.
Ужо я сам сабе чужы.
Жыву ці на зямлі,
Ці дзесьці...

*7 лістапада 1995 г.*

## ЦІ...

Вядома, што вочы – люстэрка душы.
Памрэ чалавек – засланяюць люстэрка.
І вочы, пакутнікі-спарышы,
Глядзяць на прысуд
І світальна, й памеркла.
Прысуд, што душы вынес
Дойлід вякоў,
Душы ранішняй, у часовай апратцы.
А зоркі – люстэрка
Ці пяткі цвікоў?
Каго ўкрыжавалі нябёсаў дарадцы?..

## ДЗЯКУЙ!

Дзякуй маім чытачам,
Якія мяне не чыталі.
Дзякуй іхным вачам,
Якія ад літар прысталі.

Дзякуй маім слухачам,
Якія мяне не чулі.
Сябе я не чую сам
Ва ўсеагульным гуле.

Я сам яшчэ не чытаў
Агульную кнігу лёсу,
Не стагаваў атаў
З няскошанага пракосу.

З жыццём іду на таргі,
Пакеплівае з мяне надзея.
Спяшаюся,
Пакуль у каргі
Да часу каса іржавее.

## СЛОВА КОЖНАЕ...

Слова кожнае мае свой смак –
Паспытаць бы яго хацелі
І жаўрук з нябеснай арцелі,
І прыручаны птах –
Вятрак.

Слова кожнае мае свой пах –
Пахне зорамі й лебядою.
Ператомленае хадою,
Галаву хавае ў снапах.

Слова кожнае мае свой шлях,
Каб прайсці яго абавязкова.

На губах успыхвае слова,
Каб пагаснуць яму на губах...

*1998*

## А ЗАЎТРА...

Стагуеш марную траву,
Сваё бярэш у сведкі
Слова:
– Дзень сённяшні перажыву,
А заўтра ўсё пачну нанова...

Але не ты яго, а ён
Цябе,
Твой дзень, перажывае.
Твой падлічыўшы ўшчэрб
І плён,
Дзень за цябе перажывае.
Дый, пахіліўшы галаву,
Казацімеш абавязкова:
– Дзень сённяшні перажыву,
А заўтра ўсё пачну нанова...

## УЗВОДЗЬМА!

Як бы пагрозна вятры ні гулі,
Звыклі не чуць іх
Спакойныя хмары.
Нетрывалае ўсё
На халоднай зямлі –
Узводзьма ў сэрцах
Госпаду храмы.

## НЯЎЖО...

З бацькоўскай хаты
Ад'язджаем кожны раз
З надзеяй зноў ступіць
На ціхі ганак.
Ды кепліва глядзіць
Аднекуль час –
Ён гаспадар
Хвілін тваіх чаканых.

Вось ён якраз
Вяртацца не прывык.
Паўсюдны,
А свайго не мае ценю.
Няўжо
Ў яго нябачнага трымцення
Няма сцяжын
Ні простых, ні крывых?..

*25 жніўня 2006 г.*

## НЕ ЗАЗЕЛЯНЕЮЦЬ...

Не стомяцца маладыя вякі
Трымаць нябыт
У жыцця ў палоне.
Ніколі не зазелянеюць цвікі,
Якія ўпіліся ў Хрыстовы далоні...

***

Зялёны ліст –
Як знак сустрэчы
Жыцця з жыццём,
Зямлі з цяплом.
І жоўты ліст –
Уздых старэчы,
Спатканне выраю з крылом.

Зялёны,
Громам бласлаўлёны,
Прашэпча ліўню:
Ліўма лі...
І жоўты адаб'е паклоны
І ціха скорыцца зямлі.

Вятроў заломы ды заклёны
Не развядуць сумежжа збег.
І жоўты ліст,
І ліст зялёны
Халодна прыме белы снег.

## ЖЫВІ!

У вечнасці след на ілбе
Ад пацалунка бяды.
З сабою нават сябе
Не забярэш туды.

Час –
Човен на быстрыні.
Намеры –
Салодкі дым.
Жыві ў сягонняшнім дні,
Каб заўтрашні
Стаў тваім.

*19 мая 2005 г.*

# *Каб на зямлі жыццю цяплей было*

*Пакуль баліць душа,*
*З надзеяй можа біцца сэрца*

***

Пусці ў душу Хрыста
Ці зябнуць, ці сагрэцца,
Як валачобніка пусці.
Хрысту самотна ўсіх пасці,
Чаўнарыць на чаўнах
На вераломнай рэчцы.

На рэчцы, што плыве
З Старога Запавету,
Не абмінаючы вякі,
Дзе ўлоў пільнуюць рыбакі,
Прыцёгшы невады
З населенага свету.

Прасі ў душу Хрыста
Як госця-нехаджанца,
Каб свята села на куце...
Субожыўшыся ў мілаце,
Свае далічыш дні,
Як пацеркі ружанца...

## ДОМ

Верш напісаць – нібы зрубіць ізруб,
Накрыць страху і намасціць падлогу.
Бярвенне трэба класці руб на руб.
Глядзець павінны вокны на дарогу.
А потым мусіць верш абжыць чытач,
Бо неабжыты дом – як пуня тая,
Якую можа ўпадабаць пугач.
А ў хату Бог, магчыма, завітае...

## АКРАЙЧЫК

Сп’янелы прыцемак хістаўся.
Хмыз ценяў
Трушчыў крык, як дзік.
І ад застолля дня застаўся
Акрайчык сонца –
Маладзік.

А там і дапілі, й даелі
Ўсё на пакацістым стале
Усе, наколькі духу мелі.
І падаліся прэч.
Але

Пакінулі, каб разгавецца,
Акрайчык
Цішыні начной
І хмарцы –
Збродлівай авечцы,
І туманам –
На сырадой...

## ІМКЛІВА

Не хапала абсягу чалавеку
Спрадвеку.
Неруш пушчы дрымотнай
Спляжыў на лесасеку,
Валуновыя глыбы
Клаў падмуркам сядзібы,
Збавіў лес ад звяроў,
Збавіў рэкі ад рыбы,

І ад быдла буйнога,
І ад птаства драбнога
Ён ачысціў зямлю,
Не пытаючы ў Бога.

І зямлю, дзе пустэчай
Стала шчодрая ніва,
Ад самога сябе
Ачышчае імкліва.

## НЕПРЫРУЧАНЫЯ

Певень загаласіў ад радасці,
Што не праспаў свой час.
Сабака заякатаў, заякаў,
Хвалячыся сваім слыхам.
Конь ажно разгубіўся,
Абнашчыўшыся іржаннем.

Гэта яны першыя цішыню абжывалі.
Ды іх выцесніў
З цішыні, асвойчанай імі,
Чалавек са сваімі жалезнымі
Сабакамі, пеўнямі, коньмі.
І цяпер у хвіліны рэдкія,
Пакуль спіць чалавек
Са сваімі ручнымі спадручнымі,
Раскашуюцца яны ў цішыні
Ды ўспамінаюць, як некалі
Гучалі іхныя галасы
Не-пры-ру-ча-ны-я...

*1997*

## ЗАВОЗ

*Генадзю Равінскаму*

У млыне з сілікатнай цэглы
Як апошняе вытрасаюць.
Іскры белыя выкрасаюць
З зерня пад маразок набеглы.

І нясуць у мяхі на падводах –
Так нясуць хіба сонных дзетак.
Сумнай пляшкі зялёны ветах
Затрымаў самагонны подых.

Гулка.
Пыльна.
Завозна.
Золка.
Млын жыцця –
Ён таксама тлумкі.
Забярэш свае му́кі клумкі,
Запыліўшы крыло анёлка.

Двор прапах, як млынар, мукою.
Смачна квокча страха-чубатка.
З белай лысінкай жарабятка
Сыціцца трасянкай мяккою.

*13 лістапада 1996 г.*

## ДОЎГА...

Доўга лістадзённікі вятроў
Перачытвае лагодны смутак.
Шмат вятрамі наламана дроў,
Досыць ветраных пачута чутак.
Восень ціха крадзе цені ў дрэў.
Прысмерк – як крыло сіваваронкі.
Смутак узгадаць не ўсё паспеў –
Шумна разлятаюцца старонкі...

## ЗДАРАЛАСЯ...

*Генадзю Бураўкіну*

А здаралася на Беларусі,
Малацілі сноп на абусе,
Блін пяклі на лязе сякеры,
Праснакі ў рыдля на далані,
Толькі не выракаліся веры
Ды крывіцкай сваёй радні.
Косамі да цвярдых мазалёў
І мурог, і сівец касілі,
І няпрошаных гіцалёў,
Бо чужой не кленчылі сіле.
Жарсць любіла каса-літоўка,
Што крамяная семнастоўка.
І панеў сабе ў Беларусі
Хлеб гасцям на бялёвым абрусе.

*12 мая 2005 г.*

## ЗАЙГРАЎ...

– Бог ягоны зайграў у дуду, –
Пра шчаслівага так казалі,
І ўяўлялі,
З нябеснае залі
Як мятлой вымятала бяду.

Бог іграў
І прытупваў нагой,
Ну, вядома ж, у хромавым боце.
А цыбаты бацян на балоце
Аж заходзіўся цёмнай тугой.

У майго без мяне хопіць спраў.
Хоць бы ў лапаць абутай нагою
Ён прытупваў,
Каб чуць мне такое:
– Бог ягоны ў жалейку зайграў...

## ПЕРШАСНЕЖЖА

Снег пайшоў і нават не зірнуў,
Як знянацку неба пастарэла.
Збег настрой у госці да галін
Па-зямляцку з ветрам папляткарыць.
Рэху мякка па лісці́ісці,
Па яшчэ дашчэнту неастылым.
Смеху з козыткай пабрацца час.
Па шчацэ ракі цячэ мітрэнга...

*15 кастрычніка 2002 г.*

## БАЦЬКА Й СЫНЫ

Двух варанят нёс воран на спіне.
І ў аднаго спытаўся на аблуду:
– Ці будзеш так і ў старасці мяне
Насіць?
І той пракумкаў:
– Тата, буду.
І воран скінуў варанятка з неба.
Перш чым адказваць,
Добра думаць трэба.

Тады ў другога запытаў:
– Скажы,
Сваіх сыноў
Мне ў час прыносіць будзеш?
– Вядома, тата,
Ты ж мне не чужы.
Ты ў іхных крылах
Вышыню абудзіш.

І воран пестуна далей панёс,
Каб з небам заручыць
Крылаты лёс...

## ЧУВАЦЬ...

А лета робіць выгляд,
Што нічога
Не здарылася,
Што няма бяды.
Шалее ярына,
Бяжыць дарога,
Хмялее сіла
Цёмнае вады.

Жарэбную чарнобыльскую хмару
Ажарабіцца асадзілі тут.
І ціхі кут
Прыняў чужую кару.
Каб спутаць жарабят,
Не хопіць пут.

Ад немых капытоў
Балюча долам,
Хоць туманом
Той боль перапаві.
Бадай што ў цішыні
Чуваць анёлам,
Як страх спалоханы
Іржэ ў крыві...

## БЫЦЬ!

*Ігару Сарокіну*

Быць Беларусам –
Гэта значыць
Свайго ні гуку не забыць,
Усё чужое перайначыць,
Каб Беларусі вечна быць!

Быць Беларусам –
Гэта значыць
Вясёла з сумнай долі кпіць,
Да Бога сцежку верай значыць,
Нагбом з карца надзеі піць.

Быць Беларусам –
Гэта значыць
За родны Край згараць на дым,
Па-беларуску чуць і бачыць
На гэтым свеце і на тым.

*19 верасня 1999 г.*

## АЛЕ...

А што яшчэ
Мяне трымае тут –
Сябры, ўспаміны
Ды бацькоўскі кут.

Але штогод
Сяброў радзей, радзей.
Сплываюць успаміны
Без надзей

У памяці трымацца
Да канца.
І хата да апошняга вянца
І глухне,
І паціху асядае.
Старэе ўсё.
Хіба што маладая
З нябытам заручоная туга.

... І нешта затрымалася
Чарга...

*9 жніўня 2006 г.*

***

Жабракі –
Тыя самыя птушкі,
Ды не каршакі, не крукі.
Пабірушкі, неперабірушкі –
Ўсё бяруць з чужое рукі.

Глянуць,
Як на сябе самога,
Кожны мусіць на жабрака.
Міласціна
Нам ідзе ад Бога,
Нас Гасподняя сыціць рука.

Мы без Боскай рукі
Бязрукія.
Нас Гасподняя рупнасць рухае.
Нас бядзіцьме адна трывога –
Быць няхіжымі птушкамі ў Бога.

## РАДЗІМАЛЮБ

*Памяці Эдварда Вайніловіча*

Сум
Сон-траву на чужыне скуб.
Бязлітасны кон
Нагрувашчваў хмары.
А ён, зацяты радзімалюб,
Спяшаўся ўзвесці
Госпаду храмы.

Тапталі ногі
Чужыя палі.
Вялі ў забыццё
Сцяжыны чужыя.
І подыхам ветру
З роднай зямлі
Душа багавейная даражыла.

І як ні шалеў
Разгуканы гнеў,
Як дух нячысты
Свет ні знявечваў, –
На балючай радзіме
Храм ацалеў,
Каб стацца верніку
Домам вечным...

*17 красавіка 2006 г.*

## ЗА ВЕРУ...

*Памяці Росіцкіх пакутнікаў*

Смерць павыкасіць хоча
Жывыя лугі.
Толькі ёй не спыніць
Плынь балючай атавы.
Росіца –
Пасівелых хмараў стагі.
Тут раса дастывае,
Як прысак крывавы.

Тут спаконнае ў неба
З дымамі пайшло.
Тут далоні свае
Сашчапіла знямога.
Тут насланага ліха
Смялела жазло.
Тут наелася полымя
Стогну людскога.

Мусяць пастыры душ
У зямным жыцці
Адпаведнымі быць
Святому даверу.
Каб на вогненную Галгофу
Рашуча ўзысці
І згарэць
Разам з вернікамі за веру...

*31 ліпеня 2006 г.*

## ТОЛЬКІ ЁН...

Кожны існы сам сабе чужы,
Покуль ён не дойдзе пазнавата
Да тае таемнае мяжы,
Дзе стаіць прыцішаная хата.

У якой абранніка даўно
Зачакалася паненка Доля,
Хмелячы цярплівае віно,
Дні блуканца кволячы ў прыполе.

У расхваляванай цішыні
Можа ўцяміць, ашукаўшы стому,
Што застаўся з усяе радні
Родны толькі ён сабе самому...

*24 жніўня 2006 г.*

## НЕ ЗНЕЛЮДЗЕЦЬ...

Не знелюбець сабе самому.
Ў людскім віры не знелюдзець.
Сваю спакойна несці несці стому
І мову зла не разумець.

Яшчэ пачуць,
Яшчэ пабачыць
Хоць нешта ў зманлівым жыцці.
І за дабро дабром аддзячыць.
І ціха-ціха адысці...

*16 ліпеня 2006 г.*

## КАСЦЕЛЬНЫ ЗВОН

*Шунічы Ямашыта*

Ад жаху пякельнага
У Нагасакі
Час аніяк
Не мог далічыцца дзён.
Разгублены задыяк
Свае пераблытаў знакі.
Апраменены небасхон
Сцяўся і анямеў.
Гэта Гасподні гнеў
Паўтарыў
Над знявераным светам
Касцельны звон,
Які адзін ацалеў
З усяго, што жыло і трывала
Тут.
Каб клікаць на Страшны Суд.
Каб нагадваць, што розум
Быць мусіць цвярозым.
Бо, з апрамецця пакліканы,
Атам
Робіцца катам
Заклятым....

*7 сакавіка 2006*

# СВЯТЛО ДАРЫЦЬ...

*Айцу Уладыславу Завальнюку*

Святар – аратáй,
Ён Хрыстовым словам
Арэ знявераных душ падзол.
Ён верны тым
Багавейным змовам,
Якія яднаюць высі і дол.

Дапамагаюць
Быць лепшым свету,
Адспрэчыць настойлівыя грахі,
Праменнем Вечнага Запавету
Ў давер скіраваць
Людскія шляхі.

Галосіць вясна
Перапёлкаю шэрай.
Світальная зорка,
Як свечка, гарыць.
Святарыць –
Значыць нашчыцца верай.
Святарыць –
Значыць святло дарыць...

*26 мая 2012 г.*

## АКРАГУКАННЕ

**Г**арыцца ціха вогнішчу былога.
**Е**сць крыўда ўпартасць, як іржа ланцуг.
**Н**е хочацца слязе ўзнікаць з нічога.
**А**д мітусні адпачывае рух.
**Д**а золку абышло зямлю здзіўленне.
**З**лічыць шляхі вятроў задумаў зрок.
**Ю**рыць спакусе ашукаць цярпенне.
**М**яняецца кіямі з ценем крок.
**А**тожылкам пашану ўзносяць кроны.
**Ц**ячэ і доле, і ў нябёсах час.
**У** даўжніках у сонца свет зялёны.
**Р**асце ў захмар'і ліўневы запас.
**У** радасці бяссонныя імёны...

*28 лютага 2013 г.*

## АДНО...

Я пачынаю разумець ваду,
Якой прабіцца хочацца з цямрэчы.
Я пачынаю разумець жуду,
Якой упалынеў настрой старэчы.

Я пачынаю разумець вясну,
Якой не зябка грэць сваю завею.
Я пачынаю разумець віну
Сваю.

Адно сябе не разумею...

*5 студзеня 2006 г.*

## ХРОСТ

У касцёле
Як не на ўсю Вушачу
Заходзіцца ад шчырага плачу
Толькі што акшчонае немаўляці.
Цяплей і ўтульней
Робіцца ў Божай хаце.
Падзяку Звышняму
І радасць пачатку
Жыццёвага падарожжа
Новы вернік пакуль што
Гэтак выказаць можа...

*14 жніўня 2006 г.*

## ІНШАПЛАНЕЦЯНІН

Я іншапланецянін –
З той планеты,
Дзе ўсё наскрозь
Крывіцкае было.
Дзе не таіў Пярун
Свае сакрэты,
Дзе называлася цяплом святло.

Дзе выграбалі з печы
Прысак зорны.
Карова цёпла дыхала ў хляве.
Дзе рух Сусвету
Паўтаралі жорны.
Пень свежы
Грэўся ў маладой траве.

Глыбей хавалася ў зямлю
Карэнне.
Біў човен лбом
Да іскраў у вачах.

Там помнілі
Пра першы дзень тварэння.
Плуг
Баразной яшчэ гарачай пах...

*17 чэрвеня 2006 г.*

***

Ёсць душа і ў вераб'я.
А душа, яна такая,
Што ў яе журба ўцякае
З маладога ручая.

Маладога ад вады,
Перакшчонай перунамі,
Дзе нервуюць невады
Вадзянік з зялёнай паннай.

Глушыць гул млыны віроў,
Змора змроку патакае.
І журба з душы ўцякае
Да зялёных вечароў.

## РОС...

Цень Волі
І ў пячоры на сцяне
Хацеў акрэсліцца й дрыжэў азябла.
Агонь няволі тлеў у зяпе д'ябла,
Гнеў ласкавеў яшчэ пры Перуне.

Цень Волі
Крылы птушак прымяраў,
Каб асланіць бег часу несупынны.
І горы гора прыгіналі спіны,
І хворы змрок пацíху паміраў.

Цень Волі днеў
І запрашаў святло
Даверыць людству
Позірк свой і подзіў.

Дзень Волі
Рос, як пасынак стагоддзяў,
Каб на зямлі жыццю
Цяплей было.

*2003*

## САЛАДЗЕЙ...

І зноў я на гады багаты.
Пра шлях той думаю радзей.
І камары ля роднай хаты
Кусаюць неяк саладзей...

*30 чэрвеня 2006 г.*

## ТУДЫ,

Дзе першы снег наўскач
Пабег па цішыні.
Туды, дзе першы смех, як снег,
Растаў ад дабрыні.
Туды, дзе грэюць халады
У гурбах сны вясны.
Туды, дзе першыя сляды
Дасюль ідуць адны...

*22 верасня 2006 г.*

## АД ЖУРАЎЛЯ ДА СІНІЦЫ

Жывем,
Правёўшы жураўля
Рудым,
А потым шэрым сумам.
Паціху белая зямля
І чарнаты падкіне думам.

А там
Чакаць павінны мы,
Калі мароз пачне вініцца,
Калі шкарлупіну зімы
Прадзюбне сонная сініца...

## НАДЗЕЮ МЕЦЬМЕ...

Дзеці –
І Гасподні дар, і кара
Ўсім бацькам за іхныя грахі.
Крылы адракліся ад Ікара.
Пасвіць цень прысталі пастухі.
Шчыры толькі плач і смех дзіцячы.
Чалавек –
Аб смерці напамін.
Над калыскаю анёл удачы
Мройна падсалоджвае палын.

Доля
Любіць затуліцца дзесьці,
Каб яе гукалі як радзей.
Покуль будуць нараджацца дзеці,
Бог надзею мецьме на людзей...

*27 лютага 2001 г.*

## ПАВАДЫ ВАДЫ

Павады вады.
Ад іх ніяк
Не ўцячы,
Як ад усмешкі лёсу.
Кожны з нас –
З нябеснай гліны гляк –
Быццам просам,
Поўніцца без просу
Тлуматой,
Без просу Ганчара,
Што ляпіў нас,
Паліваў палі́вай.
І прыходзіць смутная пара
Ростані з вадой немітуслівай.
Павады вады.
Вядуць яны
На клады
І на ваду жывую.
Звоняць затанулыя званы
З памяці азёр...
Я свой пачую...

## НАСУСТРАЧ...

Дзень ідзе насустрач начы.
Ноч спяшае насустрач дню.
Дзень стамляецца, вышыню несучы
На плячы.
Лёгка ноч нясе цішыню.
Дзень ідзе сам сабе чужы.
Ноч спяшае, пакуль імжа,
Сутыкнуцца з днём на мяжы.
Суткамі завецца мяжа.

## МЛЫН

Галавы заінелай прысталі жорны,
Прытупіліся памяці камяні.
Ачарсцвеў ужо
Бохан клопату чорны,
Хочацца праснака цішыні.
Як на кухан настрою
Натрэсці пытлю,
Шыю скруціў сабе
Рупнасці млён.

Пачынае здавацца,
Што жыў нібыта,
Што дазволіў
З сабой пазнаёміцца
Плён...

*2004*

## СУПАЧЫНУ НЯМА...

Восень смелая ў непаўторных,
Позняя ў несамавітых зіма,
Лета шчырае ў незабытных,
У адзіных вясна здагадлівая.
Час гады меле ўпрытайкі ў жорнах,
Млынару спачыну няма.
Мліва сее на частых сітах
Старасць
Ды на сябе паглядвае...

## МЯНЯЮЧЫ КІЙКІ

Збудзь маладзейшым збрую,
Як твой трыпутнік ссох.
Няхай душа вандруе
Па даўніх адрасох,
Няхай згадае сцежкі,
Разводзіцы, бруйкі.

Душа вандруе пешкі,
Мяняючы кійкі
З ядлоўцу, ды з ляшчыны,
Ды з дужака-дубка.
І ўзгор'і, і лашчыны,
Як з ціхага клубка,
Размотвае расстанне,
Каб сноў дзірван трываць.

Душа к вякам прыстане,
Прыстане вандраваць...

## А РАПТАМ...

Усё, што будзе, – перад вачыма,
А за плячыма ўсё, што было.
Жыццё ашчаднае палічыла,
Што й так багата табе дало.
А раптам гэтакае магчыма,
Каб замяніла цемру святло.
Усё, што будзе, каб за плячыма,
Перад вачыма – ўсё, што было...

## ПАЎТАРЭННЕ

Паўторыцца атожылкамі пень,
Ад дрэва цень
Дзень прынясе ў прыполе.
Дубцамі зробіцца
Густое голле.
Змяцецца ціхі венік на гален.

Гай скіне
Свой стаптаны пашлапень.
Задумаецца цішыня нямая,
Ці гэта пень атожылкі трымае,
А ці атожылкі трымаюць пень.

## НЕШТА ПТУШЫНАЕ...

Нешта птушынае мае душа –
Цягне штовесну да родных мясцінаў,
Дзе маладую самоту ўспамінаў
Грэе азяблы прамень ледзяша.

Незаручоная птушка сама
Ведае тыя дарогі,
Якія
Змерылі крыллі яе трапяткія
Ў край,
Дзе тугі па радзіме няма.

А на зямлі паланянку душу
Толькі
Туга па радзіме трымае.
Нешта мне шэпча
Трывога нямая.
Быццам не чую –
Сабе я хлушу...

*1998*

## ЗАСУМАВАЛА...

Былосць засумавала па радзіме,
Па той зямлі,
Што першаю была.
І плакала жніво слязьмі сухімі,
Хацеў пазычыць дзень
Журбе святла.

І незнаёма ўсё, і ўсё знаёма
І забыццю, і памяці было.
І прамянёў палючая салома
Спадала небасхілу на чало.

Каб чула ўдзячнасць незямныя крокі,
На момант мову адняло ў грамоў.
Цішэй плылі высокія аблокі.
І папрасілася душа дамоў...

***

Душа баліць
Зусім не так, як сэрца.
Той боль не ўтаймаваць нічым.
Няхай маўчым,
Няхай крычым –
Душу зняверыць боль-зняверца.

Той светлы боль
Нічым не ашукаць –
Ні шэптам, ані гаманою.
Той боль не тушыцца маною,
Бо ўмее полымем шугаць.

А ў полымі бязлітасна згарыць
На прысак марната любая.
Душы, што боль упадабае,
Захочацца загаварыць
Як на духу
З другой пакутацерпцай,
Зноў боль адчуць,
Нібы спярша...

Пакуль баліць душа,
З надзеяй
Можа біцца сэрца.

## ЖАЎРАНАК КАХАННЯ

*Акраверш*

**А**шукаўшы злыя халады,
**Л**аскаю чаканага світання
**А**бнадзеіць сэрца назаўжды
**С**онцакрылы жаўранак кахання.
**А**бляціць пажоўклы ліст журбы.
**К**олас шчырасці нальецца сілай.
**А**дляцець да зорнай варажбы
**Л**ёс дазволіць роспачы абнылай.
**О**дум ціха ўкленчыць вышыні
**Ў** неабвечарэлым парыванні.
**С**лова дападзе да глыбіні.
**К**ожны дзень багатым святам стане.
**А**дгукнецца жаўранак кахання
**Я**снавітай далечы жадання...

*15 лютага 2005 г.*

***

Усё жыццё, як дзень адзін, прайшло.
Усё, што мучыла і хвалявала,
Перагарэла, ўціхлася трывала.
З цямніцы цені выйшлі на святло.
Таіць свой позірк перастала зло.
Змяя спакусы прыхавала джала.
Старацца лёсу засталося мала.
І паскупела ў шчодрасці кубло.

Спагады палахлівыя галіны
Дрыжаць і ахінаюць цішыню.
Даўно паразумеліся правіны.
Смялее страх, як цёмнае пытанне.
Ды падстаўляе радасць даланю
Пад лівень сонечны на развітанне.

***

Руіны – напаміны даўніны,
З якой даўнеем яваю і снамі.
Руіны нас былых заўсёды з намі.
Маўчаць, аглухлыя ад гаманы.
Мы, і ў гурме забытыя, адны
Руінімся згарбела курганамі.
Начэюць нашы мроі груганамі,
Што прыляцелі з золкай стараны.

У крылаў забыцця хапае прагі.
У крылаў памяці слабее ўзмах.
Сябе ахвотна паўтараюць сагі.
Віною прысягае грэх нявінны.
Старэюць, гледзячы на новы гмах,
За вечнасць маладзейшыя руіны.

***

Не ад самоты пасівеў палын,
Яго сівое полымя спаліла.
Гаркоты неразведзеная сіла
Настоіць сум завоблачных далін.
Вяртае палыновы пах з чужын
На сцежку, што сляды хадзіць вучыла,
Дзе вербіна нагнулася пахіла,
Каб цень паслаць знямозе на спачын.

Сівеюць валуны і завірухі.
Сівеюць Млечны і нявечны шлях.
Сівыя крушні крушацца ад скрухі.
Міжволі далячынь гарчыць пакорай.
Абнашчаны ўсяго зямнога прах
Галінкай палыноваю бадзёрай.

***

Вярнуць у незабытае сябе,
Забыцца на трымценне, на пакуты.
Пазнаць нанова кожны гук пачуты.
І быць абдзеленым на той дзяльбе,
Дзе доля дзеліць зерне на сяўбе.
Глынуць саманадзеянай атруты.
Так захмялець, каб траўнем здаўся люты,
І недавер даверыць варажбе.

Але вяртанне кпіць з сябе самога.
Чаканне зачакалася дарма.
Сустрэць блуканца выбегла дарога,
Ды заблудзіла ў сне за небасхілам.
І ты адчуеш, што цябе няма
Там, дзе туман астыў салодкім пылам.

***

І на зямлю, і ў сціхлую душу
Прыходзяць халады гаспадарамі
Пацешыцца халоднымі дарамі,
Перахапіць дыханне скавышу.
Плач завірухі ў цішыні ўвушшу
Не моўкне роспачнымі вечарамі.
Азябшы, рэха крадзецца дварамі
Пакрыўдзіцца сабе, як спарышу.

Цяплей спяшацца думкам на радзіму.
Смялей на белы свет глядзець імгле.
Падперці неба не цярпіцца дыму.
І святы йдуць марознаю хадою.
І трызніць лугам сена на стале.
І пахне снег багатай Калядою.

***

Ікона ў хаце мела кут святы,
Была заступніцай і гаспадыняй.
Як выступаў зімой на сценах іней,
Кунежыла дыханнем мілаты.
Ад першай да апошняе вярсты
Вяла душу далінай і пустыняй.
Над дамавінай – ненажэрнай скрыняй –
Нябачна зводзіла малітве ксты.
І давялося адхіснуцца ценю.

Імгненне, што дазволена было
Убачыцца нясквапнаму натхненню,
Адбілася, нібы на плашчаніцы.
І глянула нястомнае святло,
Каб летуценне выбавіць з пляніцы.

***

Сказаць мне слоў апошніх не змагла.
Я не пачуў, што гаварылі вочы.
А ў мамы позірк быў такі сірочы.
І шыбы сталі з матавага шкла.
І хату ўсю завалакла імгла.
І толькі чуўся ў садзе гвалт сарочы.
Прыйшлі, як і суседкі, тыя ночы,
З якімі доўга гутарку вяла.

Была хвароба прыжывалкай ціхай,
А не было каму падаць вады.
Быў вецер злы, агонь у печы з пыхай.
Смялела немач, немата панела.
Як некалі сустрэнемся, тады
Перапытаю, што сказаць хацела.

***

Прыходзіла Вялічка на сяло
З чырвоным яйкам, з белатварым сырам.
І сцежку, паднядзеленую жвірам,
Світанне лугам за руку вяло.
Іграла сонца, ажывала тло.
Свянцонка пахла злагадаю, змірам.
І ўсім малечым вачанятам шчырым
Прысмакаў досыць на стале было.
Расло святло, надзея ўваскрасала.

З душы ўцякалі недавер і змрок.
І песняў валачобнікам хапала.
І сніўся падарожжу сон далёкі.
І адвячорак позніўся знарок.
Ішлі па небе продкі, як аблокі.

***

Стаў весялейшы і святлейшы хлеў –
Лысоня ацялілася. Як свята,
Падзею гэту святкавала хата.
Малодзіва гарачы снег бялеў.
Мароз і той змяніў на літасць гнеў.
Спяшала хлеб у печ садзіць лапата.
Бычок на свет глядзеў дзівакавата,
Ці з радасці, ці з роспачы мычэў.

І доўга ўсмешкі ўсцешныя не гаслі.
Чакала кошка Найда малака.
Вячэралі смачнейшым сенам яслі.
Цыбуля плакала асірацела.
Турботаў гаманкая талака
З гаспадарамі разам маладзела.

***

Радня – працяг твайго зямнога дня.
Маліся, каб не скора вечарэла,
Каб адзіноту крэўнасцю сагрэла,
Каб ля цябе не зябла дабрыня.
Ваўком завые злосці ваўчаня,
Зірне чужая зайздрасць анямела.
Каб дрэва радаводнае шумела,
Таіць карэнне мусіць глыбіня.

Рыдлёўка далакопава ў знямозе
Жвір сыпле раўнадушнай даланёй
На сон, што йдзе па незямной дарозе.
Трывожна кожнай верачы прыкмеце,
Расстаўшыся з апошняю раднёй,
Адчуеш, як сцюдзёна ў гэтым свеце.

***

Паэзія – хвароба ўсіх вякоў.
Паэзія – служанка й каралева.
Лірычных слёз рашучая залева
Астудзіць стому босых ступакоў.
Сцяжыны ўмуражэлыя радкоў
Бягуць пад засень ранішняга дрэва,
Дзе яблык падала Адаму Ева,
Дзе спяць сляды Пегасавых падкоў.

Што з вулічнай звязаўся, як вяльможа,
Паэт сябе й паэзію кляне,
Ды слабіну сваю не пераможа.
Ад славы камянеюць вершаробы.
Зірні наўкол – валун пры валуне.
Жыццё ад смутку гіне без хваробы.

***

І зразумееш на чужых вятрах,
Што толькі дома ты і быў адзіны.
Цяпер, як гук забытае лаціны,
Наводзіш на сябе самога страх.
Жывеш ужо ні дома, ні ў гасцях,
Узгадваючы родныя мясціны,
Адкуль прыходзяць чорныя вясціны.
Там засяляюць могілкі прасцяг.

Пра ўсё, што мелася ў жыцці адбыцца,
Лёс напісаў калісьці на пяску.
Даўно пісьмёны змыла навальніца.
Адзін туды зрабіўся шлях кароткі,
Дзе, на спачын прылёгшы неўзнаку,
Цябе цярплівыя чакаюць продкі.

***

Жыццё пылінку вечнасці сваёй
Пазычыць пад настрой, але адразу
Цярпець прымусіць крыўду і абразу,
Вярнуць пазыку хочучы з ліхвой.
Хвароба ходзіць лекаркай глухой,
Пра што ні запытай, не дасць адказу.
І ў злой залеве не знайшоўшы лазу,
Стаяцьмеш пад дзюраваю страхой.

Пакора працавітая, нямая
Спяшаецца ў гасподу небыцця.
У доўг зямля жывое ўсё трымае.
Трасецца над адсоткамі мяняла.
Нябожчыка хаваюць ад жыцця,
Каб больш яно свой доўг не спаганяла.

***

Былі сярпы вясёлыя ў жніва.
Як Млечны Шлях, іржысцілася ніва.
І туманоў старых начное сніва
Разгадвалася раніцай знава.
Хацела быць зялёнаю трава.
А быльнягова ўжо сівела грыва.
І перапёлку слухала раўніва
Жняя жыгучая, што крапіва.

Усмак нагасцяваўшыся ў прылецці,
Далёкае ад страт зямных і звад,
Глядзела неба, як жыруюць клецi.
Сноп, жніўнай песняю падперазаны,
І пузацеў, і вусацеў, як сват,
Ад рупатлівай ласкі і пашаны.

***

А мне й дагэтуль кожнаю зімой
Чуваць ахрыплы голас крыгалому,
Бо ён не хоча даручыць нікому
Вясціну, што настрой сагрэе мой.
Трашчыць сарока п’янаю кумой.
Праталінам таіць няўзмогу стому.
Сцяжынка сохне з гора, збегшы з дому,
Бяжыць і дзівіцца сабе самой.

Як хмары, крыгі крышацца сцюдзёна.
Як буталь, б’ецца крумкачовы крум.
У пеўня чуб, нібыта ў маладзёна.
Хутчэй разводдзю хочацца разліцца.
Плячмі здранцвелымі варушыць рум.
Рака зіму трымае, як капліца.

***

І ад сябе паціху адстаю,
Памалу смешным сам сабе раблюся.
Ды ад скаромнай подумкі ў спакусе
Яшчэ, як дол настылы, адтаю.
Мне маладую не дагнаць рую.
З самым сабой сагнацца не бяруся,
І з зайздрасцю пулятай не ў хаўрусе
Таймую неразборлівасць сваю.

Я адстаю, як адстае гадзіннік.
Мне цяжка быць самым сабой, былым.
Мой новы страх дрыжыць, як той асіннік.
Жарсць сватае маю́ світанак шэры.
Я ўжо цяпер як беспрытульны дым,
Перад якім пазачынялі дзверы.

***

Палае жарсцю стрыманы агмень.
Маўчыць лянота, ўцёкшы ад знямогі.
У шыбу б’ецца маладзік двухрогі –
Ён хоча свой сагрэць халодны цень.
Вітае цемру першую пламень.
Яна прысела ля агню з дарогі.
Ахвотна абабіўшы ўсе парогі,
Субожыўся і замаўкае дзень.

Спачыць каля бацькоўскага агменю
Душа аднойчы хоча як нідзе,
Удзячная свячэнню й прызначэнню.
І хата – маладая маладзіца –
За пазухай агмень схаваўшы, йдзе
За небасхіл спакою пакланіцца.

***

А тут набытае пакінем тут.
Там давядзецца ўсё пачаць нанова.
А ці спатрэбіцца там нават слова,
Каб абжываць незразумелы кут.
Глухога бытавання марны хлуд
Рос палынова, сціснуў валунова.
А там, відаць, няўлоўная выснова
Цяжэй гнясціме воблакам пакут.

Таму туды раней за нас матулі
Ідуць, каб зноў вучыць сваіх малых,
Каб там на іх нядобра не зірнулі.
Мы там прыдбаем звычкі незямныя,
Набудзем іншы зрок ды іншы слых,
Сябе забудзем, а душа заные.

***

Бацькоўскі стол у хаце гаспадар.
Сям'ю гуртуе ды гасцей частуе.
І, наліваючы сыту густую,
Салодзіць хмель, як шчодры вінадар.
Свой у святкоў і ў будняў каляндар,
І стол спагадай гонар іх ратуе.
Калі няўедна голад залютуе,
Аплаткай поўня ляжа на алтар.

Алтар стала, настольнікам заслáны,
У хаце, як у стомленай царкве,
Прыручаны набожна да пашаны.
Сядзіць тут, галаву падпёршы, доля.
І столь, як неба, над сталом плыве,
Пакуль галосіць і пяе застолле.

***

Зазелянелі даўнія лугі.
Конь засмяяўся смехам непадкутым.
Шлях развінуўся разарваным путам.
І араллёй паснедалі плугі.
Рака свае пазнала берагі.
Дуб ацалелы высіцца магутам.
Нядоўга йскрынцы рахавацца з трутам.
Марнее даль ад смагі і смугі.

Усё, што запавешчана вякамі,
Чакае спадкаемцу, каб яму
Зрабіліся чужынцы сваякамі
І крэўнікі халодна ачужэлі.
Сноп на таку не дзякуе вязьму.
Зярнятку цёпла ў спадчыннай пасцелі.

***

У блізкім небе спавядаўся дым.
Гады, як недасушаныя дровы,
Гарэлі, каб мякчэў агонь суровы.
І грэўся лёс пры вогнішчы рудым.
Мароз адно свой гонар цешыў тым,
Што зводзіліся цэлыя дубровы,
Каб чым было чарніць завеям бровы,
Раіцца іскрам – пчолам залатым.

Пусцеюць і дрывотні, і павеці.
Гамонку лісця ўспамінаюць пні.
Сцюдзёна ў хаце дзён і зябка ў свеце.
І мулка ў берагах прысталай плыні.
І ўсё душа чакае цеплыні.
І прысак, як сумёт, паціху стыне.

***

І яблыкамі б'е паклоны сад.
Сад у гадах, і з радасцю ратая
Скупой зямлі яе дары вяртае,
Кунегай зорак поўнячы пагляд.
Сад – як сям'я, дзе не бывае звад.
І толькі згода, шчырасцю святая,
Над душамі зялёнымі світае.
І на куце спакой сядзіць, як сват.

Сад, кшчоны скразнякамі й перунамі,
У лес, дзе ўся паганская радня,
Вяртаецца і снамі, і лістамі,
Што ўсім чытае яблынька лясная.
А ўночы вышыня, як птушаня,
На далані у саду засынае.

***

Да роднага парога на паклон
Ідуць усе парогі і сцяжыны.
Яны хутчэй спяшаюцца з чужыны,
Як у спякоту статак на паўдзён.
На ім добраславенне і заклён,
На ім сякеры след і след птушыны,
Цень ад даёнкі і ад дамавіны.
Яго пераступае звон і сон.

Не абмінае навіна благая –
Нібы нясе ў прыгоршчах вугалі.
Яму высокі ганак прысягае.
Сябе шукае згубленае ўчора.
І плечы разгарнуць няма калі.
Парог згарбеў ад радасці і гора.

***

Усё жыццё – туга па тым жыцці,
Якое пачыналася з калыскі,
Дзе космас быў, як курасаднік, блізкі,
Дзе льга было адказ на ўсё знайсці.
І на куце сядзелася куцці.
І смачна елася крупеня з міскі.
І цёплы дотык туманковай пыскі
Ішоў услед за ценем па лісці.

Смех недагнаных дзён гучыць далёка,
Як шаргунок вясельны пад дугой.
І першую слязу не помніць вока.
Адгадцы хочацца здзівіць загадку.
Жыццё з жыццём мяняецца тугой.
Душа чакае ўсё пачаць спачатку.

***

Як цёплы дождж ідзе па ярыне,
Тады здаецца, што хмурынкай стала
І мае ў небе клопату нямала,
Прыслужваючы маладой вясне.
Калі імгла лашчыны ахіне,
Здаецца, стала раніцай і дбала
Зноў завіхаецца, як і бывала,
Пакуль Купалка дрэмле ў баразне.

І не хапае голасу зязюлі.
І не хапае коласу святла.
І вушы слова добрага не чулі.
Прыгаслі вочы, як і дні, таксама.
І гэты свет у спадчыну дала
І закацілася, як сонца, Мама.

*1998*

***

Здасца хата ўбогая палацам,
Толькі дасць ступіць
На родны дол
Згадлівым заступцам і дарадцам
Сыну блуднаму
Святы анёл.
Колькі б доля пражы ні напрала,
Ў шлях апошні йдзеш
Гол як сакол.
Дзе б душа на свеце ні блукала –
Назіркам за ёй
Святы анёл.
Цяжка дагадзіць зямной лагодзе –
У выгоды рэдкі частакол.
Чалавек датуль
З жыццём у згодзе,
Покуль з ім
Яго святы анёл...

*23 жніўня 1998 г.*

***

Спартанцы збіраліся на вайну –
Вайстрылі мечы,
Прымервалі латы.
З усімі стаў у шарэнгу адну
Спартанец нягеглы,
Падслепаваты.
– Куды ты, нашто ты
Такі на вайне? –
Спытаўся нехта.

Нябога прызнаўся:
– Як іншай карысці няма –
Аб мяне
Варожы затупіцца меч
Прынамсі...
І ў дні,
Калі душы падпальвае змрок,
Калі цяжарнее
Жахам калоссе, –
Прымаюць смерць
І паэт, і прарок,
Каб меней у ворага куль засталося!

*27 верасня 1998 г.*

***

Усіх пакаранняў
Не злічаць вякі.
І людзі не злічаць самі,
Дзе грэх, як пух,
Дзе, як камень, цяжкі,
Дзе вязні з ціхімі галасамі.

П'яніць
Нявіннай віны віно.
Гняце немата
Стараны нелюдзімай.
Цяжэйшае ўсё ж
Пакаранне адно –
Пакаранне Радзімай...

*28 верасня 1998 г.*

***

Час знянацку змесціцца ў зярнятку
І засне ў застылай баразне,
Каб прачнуцца рунню па вясне,
Даганяць сябе
Пачаць спачатку.

Свету
Цесна думаць у зярнятку –
Ў вечнасці ў маленькім кулачку.
Ціха йскрыпка жаліцца смычку.
Хоча гук сябе
Пачуць спачатку.
Час аднойчы
Змесціцца ў зярнятку...

*27 снежня 1998 г.*

***

Чалавечае сэрца
Меншае за гняздо салаўя,
Яшчэ меншае сэрца настрою.
Ды ў іх,
Пачынаючы ад позірку і кап'я,
Нацэлена зброя
Усіх часін,
Усіх народаў.
І зброя заклёнаў і кпін
Да ўзнёслых одаў.

Ужо знішчаць, здаецца,
А сэрца б’ецца
Наўздрыж.
Як салаўіная песня
Аб крыж...

*4 студзеня 1999 г.*

***

Упала з неба хмурынка,
Як вейка.
Бо загадала душа на святло.
– Хрыстос уваскрос! –
Кажа ўсім салавейка.
Хрыстос уваскрос!
Вялічка прыйшло.

Маўчаў, чакаў,
Каб абнашчыцца спевам,
І дачакаўся святога дня.
Хрыстос уваскрос! –
Вольна птушкам і дрэвам.
Хрыстос уваскрос! –
Ажыла дабрыня.

Уваскрасае вера й надзея.
Святлее тварам
І думкамі лёс.
Смуга радзее, свет маладзее.
Хрыстос уваскрос!
Хрыстос уваскрос!

*11 красавіка 1999 г.*

***

Вось і першы дождж веснавы
Шэпча нешта нябеснае долу.
Я дажыў да зялёнай травы –
Дзякуй ахоўцу-анёлу!

І да жаўталісту цяпер,
І да белых зорак завеі
Я дажыць маю пэўны намер.
І намерам тым маладзею.

*30 траўня 1999 г.*

***

За каўнер небасхілу
Змрок сцюдзёна цячэ.
Рэшткі дня цэдзіць сад
Праз зялёнае сіта.
Маладая суседка
Ахрап'е сячэ.
Дыспут вечны сабакі
Вядуць дваравіта.

Цені прашчураў смутна
Снуюць нада мной.
Я вярнуўся ў сябе,
Маладога, былога.
І яшчэ год адзін
Павярнуўся спіной
Да мяне.
І пакарацела дарога...

*9 жніўня 1999*

***

Дзе яна, айчына душы?
Дзе яна, радзіма спакою?
Мы на гэтай зямлі прыбышы,
Што пайшлі за ракой гаманкою,

За ракою жыцця, што ўзяла
Свой пачатак ад Млечнага Шляху.
З тлену мы, а душа са святла.
І далучыцца цела да праху.

І застыгнуць грахоў ледзяшы
Пад нябеснай страхой некранута.
Дзе яна, айчына душы?
Не адкажа
Ні гнеў, ні пакута...

*1 лістапада 1999 г.*

***

І ўзрушана
Зямлю араў нарог,
Каб сеяў лёс
Журбу сваёй рукою.
І сейбіту
Спрыяў у працы Бог,
Журба ўзыходзіла
Каля дарог
Сцяна сцяною.

Мы не жывем –
Мы толькі жнем журбу,
Цапамі нашай памяці
Малоцім.
Зажураныя,
Ў неба шлем мальбу.
Мяхі журбы
Даем свайму гарбу
І час наш блоцім.

І кожны з нас
Журбу ў сабе нясе.
Дубам журба
Маланкай крышыць кроны.
І тоіцца
Журба ў жывой красе.
Журбою пахнуць
Словы нашы ўсе,
Наш хлеб надзённы.

*1 снежня 1999 г.*

***

У якой душы на куце,
А ў якой у парозе самым
Бог жыве.
І жыццё расце,
Заглушаючы цішу гамам.

Знадакучыць кватараваць
Богу ў цёмнай душы –
І пакіне
Халадэчу,
І вандраваць
Пойдзе Бог
Па людской даліне.

І пагрукаецца туды,
Дзе чакаюць Яго прыходу.
Дзе ўцалуюць тыя сляды,
Што ў душу прывялі лагоду.

*3 снежня 1999 г.*

***

На бацькоўшчыне
Ў даўнюю хату заходзь.
Вінавата сагніся
Ў малебным паклоне.
Тут цярпліва чакае
Тугая аброць,
Што каня нецярпення
Трымала ў палоне.

Пасядзі за сталом,
Дзе сядзелі Дзяды,
Дзе куцця пахла сенам
На тыя Каляды,

Што паглядам змушалі
Цяплець халады,
Маладзік малады
Пасвіў зорныя ляды.

Папрасі прабачэння
Ў забытай слязы,
Зразумей, што твае
Смеху варты турботы.
Тут чакаюць цябе
На куце абразы,
Цені ў стылых вуглах
І ў парозе – самота...

*5 красавіка 2000 г.*

***

На волю Бог адпусціць да пары.
Мудрэй, блазнуй,
Гавей ці разгаўляйся.
Пакуль растуць,
Нібы грыбы, сябры,
Над поўнай чаркай зману
Нахіляйся.

І думай,
Што сабе ты гаспадар,
Што ты не абавязаны нікому,
Што цемра не затушыць
Твой ліхтар,
Што адусюль ты вернешся дадому.

І будуць пры табе твае гады –
Павадыры твае і хадатаі.
І ты на ўсё забудзеш,
І тады
Бог пра сябе
Спакойна нагадае...

*30 чэрвеня 2000 г.*

***

Памкненне да творчасці –
Быццам замах
На права, якое належыць Творцу.
Задумацца трэба зямному дазорцу,
Страсаючы з позірку зорны прах.
Пакутамі выкупіць
Трэба дазвол,
Ды не на спаборніцтва –
На перайманне,
Каб цешыцца
Льга было ў самаспадмане,
Што гэта тваё ўсё –
І неба, і дол.

*2 жніўня 2000 г.*

***

Ані здзярэш, як з дрэва кару,
З сябе наканаваную ка́ру.
Падзякуй Звышняму Гаспадару
За тую іскрынку жывога пажару,
Што запалала ў табе агнём
І немай жарсці, й адчаю глухога.
Ідзі за лёсам,
Як цень за днём,
Каб не ўтравела
Сцежка да Бога!

*18 жніўня 2000 г.*

***

Дзякуй Табе, Гасподзь,
За акрайчык жыцця аржаны!
Бесклапотныя, мімаходзь
Яго даспытваюць сны.
Сам не заўважыў,
Калі
Я даласаваў бохан свой.
Доля мая,
Як з ускрайку зямлі,
На мяне пазірае савой.

Дарагі мне акрайчык мой,
Як апошняе ўсё на святле.
Перад незямною зімой
Бохан грэе ў Цябе на стале...

*30 верасня 2000 г.*

***

Мы – толькі цені ісціны,
Якую
Адчуць дазволіў
Звышні на імгненне.
Свой век па-свойму
Кожны адвякуе.
Жыццё пад небам –
Ценяў мільгаценне.

Ці мы жывем,
Ці толькі страх лагодзім,
Свой страх,
Што непазбежнаму слугуе?
Ці паміраем мы,
Ці адыходзім
З адной краіны ценяў
У другую?

*14 кастрычніка 2000 г.*

***

Затушыць дзікая трава
Пажар цнатлівы сціплых красак.
Заглушыць дзікая трава
Вясёлы смех калёраў лугу.
Задушыць дзікая трава
Усё, што дыхае на волі.
Ні развядзёнка, ні ўдава,
Яна згарае ў думках ласых.

Пустую галаву знава
Шаленіць ветру-валацугу.
Усё нябыцячы,
Ніколі
Не чэзне дзікая трава...

*21 кастрычніка 2000 г.*

***

Дзень пазыч жаўрукам,
Ноч аддай сваю совам.
Хай лянуецца доля,
Стараецца кат.
Затрымайся ў сабе
Ў гэтым свеце часовым,
Каб адчуць хоць на міг
Усявышні пагляд.

Не забудзься, што кожны
Твой крок на прыкмеце.
Множ дабро колькі моцы,
Не лічачы, множ.
Прышануй цішыню
Ў гэтым стомленым свеце,
Каб пачуць, як ступае
Гасподзь басанож.

З мора смутку свайго
Давярайся прылівам.
Будзе шлях твой з выгнання
Салодкім ад слёз.

Сам сябе пацярпі
Ў гэтым свеце цярплівым,
Каб у сэрцы тваім
Нарадзіўся Хрыстос.

*24 лістапада 2000 г.*

***

А не хапіла й дваццаці стагоддзяў,
Каб людства зразумела, для чаго
Гасподзь аднойчы
На зямлю прыходзіў,
На крыж паслаўшы
Першынца Свайго.

Саміх сябе пашматаваць гатовы,
Сабакамі зрабіўшыся,
Ваўкі.
І люталюды ў крылы
Рук Хрыстовых
Яшчэ ўганяюць кутыя цвікі.

І тым жыве душа,
Што верыць цуду.
Трымае кожнага ягоны кон:
Фаму – знявер'ем,
Здрадлівасцю – Юду.
Страх думае,
Што шчыры толькі ён...

*31 снежня 2000 г.*

***

Чарэпаў шчодра зерне
Бог з сяўні
І засяваў пустэльныя абсягі.
Рунелі мройна зоркі ў вышыні,
І доля клала неспакой на вагі.
І ўпала зерне на счарсцвелы дол,
І пачала смялець людская ніва.
І запыліў крыло сваё анёл
Аб тых,
Што зоркі пасвілі раўніва.

Пыл зорны днее, цьмее пыл людскі,
Правеяны кудлатымі вятрамі.
Зямельным, нам
Час не падасць рукі,
А зоркі –
Як у Бога за гарамі.

І зоркі, й мы
З адной сяўні, й адзін
Зярняты сейбіт высяваў шчымліва.
Каму застацца небу на ўспамін,
Каму ляцець,
Як пыл цяжкога мліва...

*4 лютага 2001 г.*

***

Я жыў, як мне дазволіў Бог,
І гэтак век свой дажываю.
У край бацькоў
З хвароб, з дарог
Вяртаўся,
Як да весніц раю.

Быў родным і няродным рай,
Быў ноччу дзень,
І вечар – раннем.
Ды Творцу я маліў:
Карай
Не развітаннем,
А вяртаннем.

Хоць лёс адвернецца спіной,
Яны не ў страх мне,
Страху крокі,
Пакуль жывыя нада мной,
Як думкі Госпада,
Аблокі...

*10 лютага 2001 г.*

***

Вяла да Бога сябе дарога
Праз завірухі, праз навальніцы.
Была адна, й не было нікога,
Хто б дапамог ёй не заблудзіцца.

Пытала долы – маўчалі долы,
Пытала зоркі – маўчалі зоркі.
Парой вясновай ручай вясёлы
Паказваў,
Як абмінаць пагоркі.

Ці дзён замала, ці іх замнога
Да дня апошняга –
Невядома.
З сабой пясчынку ўзяла дарога,
А з ёй у думках
Бывала дома.

Ад спёкі ў засень брала ляшчынка,
Раса дарогу паіла ўранні.
І не заўважыла,
Як пясчынка
Вырасла каменем на скрыжаванні.

На гэты камень
Босай нагою
Аднойчы Збаўца стаў,
І да скону
След незямным смуткам
Душы гоіць,
З палону змроку вяртае
Кону...

*10 сакавіка 2001 г.*

***

Апосталам балюча на зямлі.
Балюча й за бязмозглых, і за мудрых.
Як зняць з плячэй з бядою хатулі?
Хто лёс праспаў свой,
Як спытаць, чаму дрых?

Апосталам калюча на зямлі.
Калючы дрот, калючыя ратугі.
Пякучыя не стыгнуць мазалі.
Стаміўся сподзеў гнуць вясёлак дугі.

Шчырэлі чалавекі як маглі,
Нявечачы й нябёсы, й воды, й долы.
Апосталам самотна на зямлі,
І зябне іхны сум,
Як вецер, голы.

Гарыцца цёпла лёгкаму галлю.
Мядзведзь зняверу
Марна ў ноч рыкае.

Апосталы прыходзяць на зямлю,
Каб нагадаць паспець,
Што ўсіх чакае...

*10 чэрвеня 2001 г.*

***

Мы нясем свой крыж наканаваны.
Хто плячо падменіць,
Не чакаем.
Як ні душаць нас, мы не знікаем.
Шлях да волі
Не ў прысадах шаны.

Трэба –
Самі зробімся крыжамі,
Каб спачыў адчай на крыжавіне.
Слава, лёгкая на прыпаміне,
Расчытае нам наноў скрыжалі.

Там, дзе гай крыжоў пакарчаваны,
Ценям цесна на балючых лядах.
У нябёсах душаў і ў паглядах
Беларусь –
Наш крыж наканаваны...

*30 чэрвеня 2001 г.*

***

Перамога дабра над нязломістым злом –
Недасяжна жаданая перамога.
Ад узберагу,
Як ад настрою сырога,
Адпіхнецца Харон
Надламаным вяслом.

І дарогай бясследнай
У звыклым чаўне
Душы зніклыя павязе павініцца.
І найменні прасыплюцца
Ў Кона з правіцы,
І лявіца ад згубы святло захіне.

І за човен чарговы
Падзякуе Кон
І харомы Харону
З бярвення жывога
Прапануе зрубіць.
А ўдава Перамога
Хай чакае, што нейкі
Ды спраўдзіцца сон.

*8 траўня 2002 г.*

***

Перабірае лёс ружанец дзён,
За годам год цячэ
Праз пальцы лёсу.
Прах забірае марнату і плён.
Віна не падлягае перапросу.

Ці йдзем за кожным днём
Мы след у след,
Ці следам кожны дзень
Ідзе за намі, –
Нам не адкажа ані гэты свет,
Ні той, куды наведваемся снамі.

Цікуе за жыццём галодны страх.
Змяніць сваё мяно
Чакае мена.
Бясконцасці ружанец –
Млечны Шлях –
Перабірае Вечнасць задуменна...

*20 чэрвеня 2002 г.*

***

*Але сам Ісус не давяраўся ім,*
*бо ведаў усіх.*
*Дабравесце паводле*
*святога Яна [2:24]*

А табуны шануюць бізуны,
Ды не таму, што
Баяцца позірку свае віны
І, спіны згорбіўшы,
Шануюць муштру.

Юрма, як пыл, узносіцца сама.
Юрме дарма –
Прарок а ці Месія.
Няма прарокаў – клопатаў няма.
Юрма прыйсці
Месію не прасіла.

Спакой нябесны –
Вечны пілігрым.
Пасланаму часовы свет наведаць,

Лягчэй Месію несці крыж,
Нячым
Людскую шчырую няшчырасць
Ведаць.

*5 верасня 2002 г.*

***

Крыж – спынены вятрак
І ўсмешка руху,
Бо толькі ў руху
Рух жыве і ўсім
Дае жыццё,
Адвеяўшы на дым
Мітрэнгаў нашых марных пацяруху.

Крыж – скарчанелы птах
І ўзмах сумневу,
Які застыг, пачуўшы вышыню.
І рыжы жах
Сумеўся ўпершыню,
Не ведаючы, што параіць дрэву.

Крыж – гэта мы,
Што ўсё ўхапіць хацелі
І нецярпліва рукі развялі.
Але здранцвелі й ценямі ў быллі
Дрыжэцьмем
Над сваёй глухой пасцеллю.

*4 кастрычніка 2002 г.*

***

Многа жніва, а рупліўцаў мала.
Пасеянае відушчай рукой,
Зерне ў глухой араллі не спала.
Спяліў каласы
Святы неспакой.
Праца трываліць усё зямное.
Жаць нам і жаць
Светлую багадаць.
Нам не вятрыста
Ў Госпада за спіною.
Звышняму доўг,
Колькі жыць,
Не аддаць.

*7 кастрычніка 2002 г.*

***

Лёс вучыцца ў крамяных зор
На долы не глядзець звысоку.
Лес вучыцца ў рахманых гор
Трымаць нябёсы й не згінацца.
Не цёмна сонцаваму воку
У вочы сораму ўглядацца.
Сябе ўракаць нялёгка ўроку.
Прароку
Толькі Бог
Дарадца.

*9 кастрычніка 2002 г.*

***

І гэты свет аднойчы быў пачаты,
Каб той
Свой неспасціжны меў працяг.
І забыцця спагадлівыя шаты
Бяруць у засень
Наш кароткі шлях.

Той свет
Цікавіць нас на гэтым свеце.
А ці ўзгадаем
Гэты свет на тым?
Хто нас прывеціць –
Рай ці апрамецце?
Ці мы ўзгадаемся сабе самім?

Рыкае непамыснасці цяліца
На здратаванай пашы мітусні.
Апошнім з Панам Богам падзяліцца
Душа ляціць,
Забыўшы доле дні.

Не засыхае хмара дажджавая.
Трава жывая
Будзіць сон капца.
Апошняга нічога не бывае.
Жыццё і пачынаецца з канца.

*31 кастрычніка 2002 г.*

***

Да ўкрыжаванае бяды
Прыйсці
І ўкленчыць ніцачола.
Хмурыніста крыло анёла
Клады жагнае на Дзяды.

Як смех адчаю –
Век людскі.
Век памяці –
Як сон кароткі.
Збіраюцца маўкліва продкі
Свой лёс паслухаць гаваркі.

Я ціха пазнаю радню,
Хоць і не бачыў іх ніколі.
І мне іглінка вока коле,
Што маміну сасну сасню.

На ўсіх хапае цішыні,
У вечнасці свае хвіліны.
І вар'яцеюць вяршаліны,
Без памяці ўсыхаюць пні.

*2 лістапада 2002 г.*

***

Як абжываўся мой далёкі прашчур?
З вясновых сноў падмурак змураваў.
Паабчасаў праменне да жывіцы.
Сымшыў касмата воблакамі сцены.

Узняў з прыгорбленых вясёлак кроквы.
Дах бліскавіцамі нарашаціў.
Накрыў хаціну абніжэлым небам.
Абгарадзіў шырокі двор ракою.
Рака пабегла мора ўсхваляваць.
А прашчур стог спакою накасіў...
Пад стогам вочы звёў, ды цесляра
Спаконнаклопатны ўстуры́ў занятак –
Стругаць нязломістых крывічанятак
Не толькі для свайго двара...

*1 снежня 2002 г.*

***

Самую сябе пашкадуе жуда.
Успомняць, нашто яны дадзены, ксты.
Свой голас чуць знадакучыць ляманту.
Праз даліну Праведнага Суда
Нацягнены будуць два масты,
Адзін з жалеза,
Другі з пергаменту.

Накрэсляцца на пергаменту
Боскія сны,
Якімі дзяліўся Госпад з анёламі.
Жалезны мост выгарбяць перуны,
Каб здрадным слядам
Гарэць, як у полымі.

Памкнуцца на Храмавую гару наўпрост
Грэх жалезным,
Пергаментным мостам – бязгрэшша.
І не вытрымае жалезны мост –
І рэхам балючым рухне у бязрэшша.

Пергаментны мост –
Вясёлцы радня.
Раскашуючыся ў аблочыстым дыме,
Трывацьме да новага Суднага Дня
У Госпаднім леціхчы –
Ў Ерусаліме...

*4 студзеня 2003 г.*

***

*Каб вярнуць сэрцы бацькоў*
*дзецям...*
*Дабравесце паводле*
*святога Лукаша [1:17]*

З-пад сонца бацькоўскага сэрца,
З цямрэчы нябыту
На кірмаш мітусні і хлусні
Спяшаюцца дзеці даверліва.
На мяжы аблокаў і долу
Заплаціўшы цвярозую мыту,
Купляюць малечыя дні,
Галодныя а ненажэрныя.
І дні свае пачынаюць карміць,
Як саміх іх бацькі кармілі.

А сэрца бацькоўскае хмары бяды
Зацягваюць без сораму
І пра дазвол не пытаюцца.
Бацькоўскае сэрца шчыміць,
Змяркаецца ад бясследнай хады
У спадзеве да дзвярэй хораму,
Дзе замкнулася шчырасць дзяцей,
Ключы падабраць патайныя...

*5 лютага 2003 г.*

***

Жыць хоча боль,
Бо ім ўсё жыве.
Баліць пчале,
І каменю, і рэху.
Баліць красе й расе,
Касе й траве,
І рожкам козыткі,
І пяткам смеху.

Галосіць,
Каб сябе пачуць, імша.
Маўчыць,
Каб як расчуліць боль,
Трывога.
Боль будзе жыць,
Пакуль баліць душа
За неразумных нас
У Пана Бога.

*13 лютага 2003 г.*

***

Радзіма – дым ад вогнішча, якому
Дазволена ў Сусвеце падыміцца.
Яго кунежыць,
Прэч прагнаўшы стому,
Святая Мама –
Ў вечнай хаце жрыца.

Радзіма – смелая іскрынка жару,
Што грэе смутку ззяблыя далоні,
Каб даляглядзіцца шырэй абшару
І заставацца ў мройлівым палоне.

Радзіма – тая папялінка з прыску,
Што на чужыне залятае ў вока,
Каб як цяплей было свяціцца зблізку
Выгнанніцкай слязе
Сяўца й прарока.

Радзіма –
Дол і паднябессе тое,
Дзе ходзіць Слова Бога пехатою.

*16 лютага 2003 г.*

***

Чакае хатняя зямля.
Нудзьгуюць родныя мясціны,
Дзе волю
Бліскавіца ксціла
Ад вершаліны да камля.

Каб дрэва вольнасці расло,
Люляла на руках аблокі,
Каб чула Пана Бога крокі
Душы самотнае святло.

Не верачы будзённым снам,
Самім сабе ахвоча хлусім.
Куды вярнуцца ўрэшце мусім,
Душа напамінае нам...

*28 сакавіка 2003 г.*

***

Шаноўны спадару Лёсе,
Нікому ў жыцці яшчэ
Цябе абысці не ўдалося,
Пакуль несупыннасць цячэ
У жмені кашчавыя часу.
А час,
Каб зняволіць душу,
Настрою змяняе акрасу
І ўсмешку пустому каўшу,
З якога і поіць спадзеў,
Каб смагу прагнаць яму,
І раіць,
Каб спадзеў знаходзіў
Сам
Рэчку з найменнем *Чаму*...

*31 сакавіка 2003 г.*

## УЗРУШЭННЕ

### РЫМСКІ ДЫПЦІХ

*Яну Паўлу II*

I

***

Укленчыць і прыпасці да рукі,
Якая свет мудрэць добраслаўляе.
Адчуць, як ціхамірацца вякі,
Як у душы зняможанай світае.

Прыняць ружанец з дарчае рукі –
Замроеныя пацеркі Сусвету.
Пачуць сустрэчы голас трапяткі,
Ўваскрослы светла
Ў словах Запавету.

Сцяжынай з-пад ускрыленай рукі
Ісці, ані зважаючы на стому,
Да маладой нябеснае ракі,
Якая смутак і ўзнясе на строму.

Бо багавейна нагадалі ксты,
Што недасяжна блізкі Дух Святы.

***

Качае словы, быццам камяні,
А не таму, што падупаў гадамі.
Адзін ён чуе Голас вышыні
І думкі небакрылыя гайдае.

Ён бачыць нам нябачныя сляды.
Ён Голас слухае душою нашчай.
Уся зямля –
Суцэльныя клады,
А мы яе вялічым хатай нашай.

Ён нашыя адмольвае грахі
У Звышняга.
І воляй незямною
Зло хоча супыніць,
Ды люд глухі
І дзякуй не сказаў
Дагэтуль Ною.

Сагрэты сном сусветных завірух,
У ім з’аблічваецца Вышні Дух.

***

Калодзежы святла –
Як нашы вочы.
Калодзежы зняверанага тла
Глядзяць у глыбіню
І па-сірочы
Чакаюць абяцанага святла.
Яна халодная,
Зямля сырая, –
Надзейны схоў ад мітусні зямной.
У вечную ўсыпальню забірае
Труну душы,
Спавітую маной,
Спавітую наіўным спадзяваннем,

Што цень жывы
Свой цень перажыве.
Усе мы на зямлі самохаць вянем,
Зайздросцім вечна маладой траве.

Здаецца, нашы цені ўжо былі
У катакомбах – звілінах зямлі.

***

Крыж – вольны птах,
Застыглы на імгненне,
Каб пераняць разна́сцежанасць рук.
Цвікі напоўняць болем кожны рух.
Саломай пераломіцца праменне.

Паразумецца сподзеў і спакора
Паспеюць,
Быццам ядры спарыша.
І адляціць у немаведзь душа,
І захлыне мальбу людское гора.

І ў далеч павандруюць небасхілы,
І хмарамі прыкінуцца снягі,
І ад знячэўнай роспачы й тугі
У птаха ціха анямеюць крылы.

Каб забыццё не ведала мяжы,
Жагнаюць неба смутныя крыжы.

***

Сабе самому любіць сон прысніцца.
Не хочацца настрою быць старым.

Як воклічы,
Ўзляцелі камяніцы,
Нябёсы ў здзіве выдыхнулі:
– Рым!

Тут Вечнасць прыдрамала на хвіліну.
Ўсяму жывому трэба перадых.
Спакою цяжка вырвацца з нахлыну
Гадоў і парыванняў маладых.

Зялёным сном пазасыналі стоды.
І Тыбр прыручаны пазелянеў.
Наблізіцца да ранішняй лагоды
Не мае смеласці ўначэлы гнеў.

Ратунак нашых душ, як пілігрым,
Шляхамі выраяў імкнецца ў Рым.

***

Белакрылы анёл
І анёл чарнакрылы.
Белакрылая чайка
І чарнакрылы кажан.
Дні відушчым святлом
Маладзяць небасхілы.
Ночы змрокам сляпым
Смутак зводзяць у зман.

Ад святла аддзяліў
Усявышні цямрэчу,
Надзяліў мілатой
Нашых воч прамяні.

І спяшаецца час
З досвіткам на сустрэчу.
І хапае для зор
І для дум вышыні.

Белата з чарнатой
Узаемна жывыя.
Рэха збытлівых мрой
Б'ецца памяці ў скронь.
Завіруха рашучасці
Ўзрушана вые.
Чым чарнейшая ноч,
Тым зырчэйшы агонь.

Прагне ўсё, што расце,
Перш чым станецца тлом,
Як даўжэй быць аблашчаным
Ціхім святлом.

***

Памаўчаць са здарожаным смуткам разам
Ля ўсыпальні пакутніка Езафата,
Адчуваючы, што незавершаным сказам
Замаўкаць пачынае жыццёвае свята.
Так, жыццё – гэта свята
Здаровага цела
І душы несуцешнай дасконная праца.
Ты наважыўся жыць,
А жыццё праляцела,
Хоць запомніць сябе хочацца пастарацца.

Радасць мёртвая,
Толькі пакуты жывыя.
Вечнасць вечная
Толькі сваім нябытам.
Праплываюць высока аблокі сівыя –
Сны, саснёныя глыбіннадумным блакітам.
Толькі вера трываліць душу на пакуты.
Голас вернасці верыць,
Што будзе пачуты...

II

***

Высока ў небе слова – птушкам лёсу.
Глыбока ў моры слова – рыбам плёну.
Раздольна ў полі слова – ветру славы.
Прароча ў ночы слова – зоркам сноў.
Што не збылося, ўсё пераплялося.
А што збылося, шле хвалу палону,
Бо ў самаіснасці палон ласкавы.
Наноў пачнецца свет
Са слова *зноў*.

***

І неўміручы памірае,
Каб уваскрэснуць.
Жыццядар
Яму пялегваць давярае
Ў далонях
Зорнай жарсці жар.

І покуль жар незадзіманы
Сузорыцца,
Жывы жыве.
Гараць вякам Хрыстовы раны.
Студзіць іх
Сум здалёк плыве...

***

Крыж і якар
На сцяне ўсыпальні.
Прыляцелі душы на спачын.
Клопатаў зямных
Чаўны прысталі.
Толькі жалю жураўліны клін
У нябёсах зморaных курлыча.
А ў настылай цішыні дарма
Немата забыты голас кліча,
Бо не чуе ўжо сябе сама.

А пад сонцам
З мудрымі вякамі
Ані нагаворацца вятры.
І крыжы пасталі ветракамі.
Развінаюць крылы якары.

І крыжы, і якары на волі
Па сваіх памкненнях сваякі.

І згінаюцца рукою долі
Ў дрэва росту ломкія сукі...

***

*Канец такі ж небяспечны,*
*як і пачатак.*
*Ян Павел II*

Пачатак нецярплівы, трапяткі,
Яму хутчэй адбыцца нецярпіцца.
Крыніца, каб знямозе даць напіцца,
Спяшаецца прабіцца праз пяскі.
У дзюбах чорны сум нясуць крукі.
Жывіць сасну не томіцца жывіца.
Завязвае развага вузялкі.
Дым думае, як пад аблокі ўзвіцца.

Канец спакойны, хочацца яму
Перахітрыць няўмольную куму
І ля цяпельца кайнасці пагрэцца.
Час пасвіць незлічоных дзён гурму.
Няспыннасць, пэўна, ведае, чаму
Канцу з пачаткам новым не сустрэцца.

***

Як ішоў малады Хрыстос,
На зямлі ўсё жывое не спала.
Не спяшаўся здзейсніцца лёс,
Гамана цішэла падтала.

Як на Млечным Шляху,
Сляды
На знямелым пяску гарэлі.
Адступаліся халады –
І зямныя грахі старэлі.

Дзе ступаў –
Там святло расло.
Дзе стаяў –
Смялела лагода.
Усміхацца вучылася зло.
Быць шчаслівай хацела нагода.

На зямлю сышоў назаўжды,
Каб наблізіць вечныя далі.

І святыя Хрыстовы сляды
Душы верніцкія захавалі.

***

Адразу з Горада Вечнага ў горад спаконны,
Дзе цягнуцца ў неба сумныя гмахі соснаў,
Да цябе прыйшоў я з паклонам,
Мама.
Ва ўсіх урачыстых бажніцах
Маліў Усявышняга,
Каб душы тваёй паслаў супакой.
...Ты несла мяне да ксяндза,
Гнанага бязбожнай уладай.
Касцёлам трывожным было
Вушацкае наша неба.
І пасланы лёсам святар
Святлом Святога Крыжа
Багаславіў мяне на дарогу ў Рым.
... І вярнуўся я з пілігрымкі,
Каб падзякаваць, Мама, табе
І вушацкаму роднаму небу.

Словы, якія пачуў я
Ад Айца Святейшага ў Рыме,
Перакажу табе
Пры сустрэчы...

***

Можа, з Беларусі гусі шэрыя
Рым уратавалі.
І таму так
На змярканні потайна вячэрае
Лустай поўні
Пілігрымскі смутак.

І нашчадкі тых гусей далёкія
Ў вырай рупяцца
Над нашым краем.
Думкі звечарэлымі аблокамі
Ўслед плывуць.
Анёлы трызняць раем.

Тут спакоем сена сноў растрэсена.
Кнігаўка
Над кнігай лёсу плача.
– Рым! –
Рыпіць расчулена бярэзіна.
Шэпча стрыманы чарот:
– Ву – ша – ча...

*Рым – Вушача*
*Ліпень – жнівень 2004 г.*

# СУСТРЭНЬ ЯГО, БОЖА!

Бог стварыў чалавека па вобразу й
падабенстве Сваім, кожны вернік носіць
у сэрцы сваім Усявышняга.
Кожнаму Усятрымца ўсяго жывога й існага
бачыцца ва ўяве па-свайму.
Бог шматаблічны і вечны.
Госпад усіх нас любіць, усіх нас бароніць, усіх
нас церпіць. Але ў Яго ёсць і абраннікі, якім
дазволена набліжацца да сходцаў Нябеснага
Пасаду.
Нябёсы дазволілі мне, сціпламу ўніяту, бачыць і
чуць, сказаць словы падзякі аднаму з абраннікаў
Усявышняга ў Вечным Горадзе.
Ян Павал II быў незямным і зямным чалавекам,
асобай, якая боскім словам вызваляла душы
людскія з д’ябальскага палону ўсіх праяваў.
Дух трымаў яго, калі Папа Рымскі нёс крыж свой
пакорліва й непахісна.
У тыя святыя хвіліны, калі чуў я Папу, калі
перадаваў яму ягоны «Рымскі трыпціх» у сваім
перакладзе на матчыну мову, калі цалаваў ягоны
пярсцёнак, мне нясмела падалося, што бачу адно з
абліччаў Усявышняга. І рэшту веку свайго
жыціму тымі хвілінамі, якімі быў блізка каля
Яна Паўла II.
У смутныя дні развітання з Папам склаліся ў мяне
радкі, якія кладу ў абножжа дамавіны нябеснага
пасланніка.

## ВЯЛЬМУЕ БОГ...

*Памяці Яго Святасці Яна Паўла II*

Бог пасылае верных,
Каб яны
Пераканалі душы ласкай шчырай.
Мальбы недатыкальныя званы
Добраслаўляюць шлях у вечны вырай.

Бог давярае мужным
Весці люд
У непарушную Гасподу Веры.
Кут у Гасподзе вольны для пакут,
Засланы стол для Тайнае Вячэры.

Бог выбірае мудрых,
Каб вякам
Было з кім памаўчаць
І ўзважыць скруху.
І па жарсцве прыступна ступакам
Ступаць за далягляд,
Дзе светла духу.

Пасланнікі нябесныя,
Ад іх
Вядзе адлік бясконцасць маладая.
Вяльмуе Бог абраннікаў Сваіх.
Без іх
На сэрцы свету халадае...

*Вечная памяць Яну Паўлу II.*
*Сустрэнь яго, Божа!*

*4 красавіка 2005 г.*

## ЗБУДЗЬ...

Гісторыя –
Суровая ўдава –
І добрае забудзе, і благое.
Ў яе самой занята галава.
Маўклівасцю
Свае апёкі гоіць

Ад вогнішчаў,
Якія на зямлі
Разводзіць – каб сагрэцца –
Люд часовы.
Мільгаюць дні –
Вясёлыя чмялі.
Хмурэюць ночы –
Змораныя совы.

Як жаўталісце,
І пяшчота, й люць.
Жыццё –
Наканаваная паклажа.

Што маеш збыць –
На гэтым свеце збудзь.
Той свет не шмат
Гісторыі пакажа...

*14 кастрычніка 2006*

*

Пачынаецца дарога з парога.
Якую ні выбірай –
Усе дарогі вядуць да Бога.

*

У кожнага грахі свае,
Душа за цела не адказвае.
І нават вецер гнёзды ўе.

*

Зямля бацькоўская радасцю прывячае.
І, ўбачыўшы, як пастарэла радня,
Адчуеш, які ты стары – да адчаю.

*

Хлусня раскашуецца, як гаспадыня,
У цёплай хаце ў шумлівых шаўках.
А голая праўда на вуліцы стыне.

*

Нябёсы чуюць тугу калосся.
Сягоння – гэта згаданае ўчора,
Дзе ўсё, што мелася збыцца, збылося.

*

Жыццё – багажня, час – ручная кладзь.
Душа звыкаць да крыўды пачынае,
Але не звыкне крыўду даравацьь.

*

У сэрцы ці ўзімку, ці ўвесну
Богу й маці няцесна.

*

Арол застаецца арлом
І з адным крылом.

*

Могуць вы́мераць карані
Глыбіню цішыні.
Цішыня глыбіні
Можа выслухаць карані.

*

Кожны ўзводзіць
Сваю Вавілонскую вежу
Ў дакор бязмежжу.

*

Сваю праталіну знойдзе грак.
У ветра кожнага свой вятрак.

*

Юда атрымаць рады
Трыццаць срэбранікаў
Па курсе здрады.

*

Рака быцця ў небыццё ўцякае –
Ад жыцця ўцякае.

*

А ці смяюцца дзеці
Не ў гэтым свеце?

*

Бог задумаў птаства, відаць,
Каб пра неба душы нагадаць.

*

Няволя цвеліць ахвоту.
Цяжэй за ўсё трымаць у сабе
Злосць і пяшчоту.

*

Лужына – акіяну радня,
Ад якой адмовілася глыбіня.

*

Знелюбелая жонка – халодная печ.
Конь скапыціўся. А дровы у лесе...

*

Мулкая дужа
Клетка сям'і,
Збітая з рэбраў мужа.

*

Галінка трымае расу навісу –
Баіцца абразіць зямлёй красу.

*

У цемрыве гліны
Зялёна шумяць карані –
І шум на зямлі паўтараюць галіны.

*

На святыя Каляды
І ў зорак далёкіх
Цяплеюць пагляды.

*

Ён працінае за ўсё люцей –
Пасівелы боль за дзяцей.

*

Падвешвае лёс калыску бяссонную
Кожнаму
За цёплую зорку ягоную.

*

Маладыя толькі
Сонца й мама.
Радасць яшчэ маладая таксама.

*

Быццам чорнаму буслу,
Душы
Просіцца затаіцца ў глушы.

*

Думу не давярай суму.
І цішыні не мані.

*

Старасць – гэта калі
Чужыя ўсе на зямлі.

*

Слава – самы ружовы сон
Маладых, захмялелых дзён.

*

Вясёлая праца –
За вецер трымацца.

*

Улада –
Здрадлівая прынада.
Улада –
І д’ябальская прылада.

*

Жыццё –
Пазычаны ў вечнасці час
Для нас.

*

Сумленне, як ласку матчыну,
Не купіш і ў складчыну.

*

Слова – ўсяго аснова.
Душа крылатая ў слова.

*

Мама –
Пасярэдніца між Богам і сынам –
Дзеліцца небам і хлебам адзіным.

*

Растаюць паціху на дне душы
Крыўдаў калючыя ледзяшы.

*

Чалавекі як ліхтары –
Ў кожнага
Свечка душы ўнутры.

*

А ў каго запытацца наапаслед,
І чаго ты прыходзіў
На гэты свет?

*

Зямное жыццё – для душы астрог.
Панаваць над душой
Вольны толькі Бог.

*

Бог апошнім падзеліцца ў кожнай долі
І пра гэта не напомніць ніколі.

*

Ні ў зялёны гушчар, ні ў карчы
Ад самога сябе не ўцячы.

*

На юбілеі паслухай ва ўсёй пекнаце
Тое, што ўжо не пачуеш,
Лежачы на куце.

*

Ахвяру й ка́та прымае
Аднолькава
Памяць жывая.

*

У кожным
Адпаведна яго шчадраце
Бог расце.

*

Белую аблачынку вішні,
Здаецца, выдыхнуў Усявышні.

*

Дагэтуль сніцца начлег...
Хата маміна...
Падушка – як цёплы снег...

*

Не адкажа й залева,
Трымаецца дрэва за вецер
Ці вецер за дрэва.

*

Я да скону заручаны з той стараною,
Дзе мама, як зорка,
Стаіць нада мною...

*

Мая душа –
Ляўша.

*

Грошы і камень куюць,
І чалавека цкуюць.

*

У неба на высокім чале
Маршчынка Млечнага Шляху.

*

З аблачыны жыта нябёсам
Усміхаецца горка
Васілёк – залётная зорка.

*

Сподзеву няма ўжо на спатолю,
І жыццё трымаецца на болю.

*

Часам у недасяжным горы
І нізінам зайздросцяць горы.

*

Колькі важыць душа –
І зорка не ведае,
Якая трымае нябёсы ветлівыя.

*

І трасца
Ў гаспадарцы прыдасца.

*

Восеньскі ўзмежак сыры
Жагнаюць крылы сарочыя,
Каб вятры-сівяры яго не сурочылі.

*

Чалавек не памірае,
Зямныя адбыўшы дні, –
Ён вяртаецца да цішыні...

*

Лёс перапялёс.
І шчасце
Не аднае масці.

*

Бог чалавека стварыў,
Каб было,
На кім прымераць дабро і зло.

*

Смялее думка гарэзная,
Не шкадуючы галавы.
Дзяржава – машына жалезная,
А чалавек – ён жывы.

*

Гавеюць вернікі.
Жыруюць душы гіблыя.
Усё на гэтым свеце,
Як у Бібліі...

*

Ад смерці ратуйся,
Але рыхтуйся!

*

Хто зможа адказаць на пытанне:
Дзеці – незаслужаная ўзнагарода
Ці заслужанае пакаранне?

*

Мама! Я выйшаў з цябе, а пасля
Ты ўвайшла ў мяне, і жыцімеш,
Покуль носіць мяне зямля...

*

Так яшчэ да патопу сталася –
Чалавецтва імкнецца
Да старасці.

*

Хваля хвалі прыходзіць на змену,
Забываючыся на беразе пену...

*

Пра гэта самае
Каркае на суку варона:
Без грошай і ў спёку сцюдзёна...

*

А шчырая сціпласць
Жадае нямала:
Каб беглі дні, а здароўе стаяла.

*

Мы ўсе на гэтым свеце сваякі.
На тым усе – былыя землякі.

*

І гэта жыццё, і тое –
Дарога да Бога.
Па ёй ісціме душа пехатою.

*

Летуценіць світальная аблачынка,
Пакуль жывая,
Што Богу ў запазуху яна заплывае.

*

І думае мост,
Ці выцягваць з вады
Цыбатыя ногі, нязвыклыя да хады.

*

Сэнс Вечнае Кнігі
Да нас даходзіць тады,
Як ад нас адыходзяць нашы гады.

*

Пакуль сабе не хлушу
І на плячах нашу сваю галаву –
Жыву.

*

Не цеш сябе,
Што пратаптаў сцежку новаму дню, –
Ты патрывожыў проста абыякавую цішыню.

*

Жывучая дужа расада здрады,
Бо гатункуецца
На падваконнях улады.

*

Пад снегам цярпліва жыве
Зялёны сум па зялёнай траве...

*

І ў цямніцы ружа расцвітае,
Толькі ўсмешка ўжо ў яе
Не тая.

*

Думка просіцца ў ісціны на пастой,
Наблукаўшыся
Па сцежках вякоў сiратой.

*

У ветракоў спадзяванняў маіх
Абнылі крылы.
Ці гэта проста вецер заціх?

*

Маці не нараджаюцца, іх пасылае Бог
Кожнаму,
Каб чалавекам застацца змог.

*

Душу анёлакрылую
Бог табе напавер дае.
Не абцяжар, чалавеча, крылы ў яе.

*

Адкукуем сваё, а пасля
Што чакае нас –
Неба альбо зямля?

*

І стагуе бясконцасць
Стагоддзяў стагі,
Каб нябыт анямеў ад зялёнай тугі.

*

І турма
Не корміць дарма.

*

Жывеш не ты –
Жыве твая трывога.
Ты толькі выкнеш да сябе самога.

*

Свабода выбару –
Добраахвотная няволя.
Не мусіць болю адчуваць спатоля.

*

Жыць –
Значыць Богу аддаваць даўгі
За ўвесь свой род, пакутамі даўгі.

*

Твой кожны дзень,
Пражыты й непражыты,
Наперад ведалі легенды й міты.

*

Зямля – аралля і аблога.
Зямля – музей усяго былога.

*

Галава павінна ці хмялець, ці балець,
Каб гулкай не быць,
Як пустая клець.

*

Магчымасць ёсць
Пры любой уладзе
Праявіцца подласці й здрадзе.

*

Трывацьме на зямлі каменны век,
Пакуль на сэрцы
Камень носіць чалавек.

*

А час не затрымаць
Ні днямі, ні вякамі.
Бяжыць, спяшаецца – і не знікае...

*

Не перажывеш нікога злосцю.
Перамога чыніцца мілосцю.

*

Няўлоўны час у хвілі ці ў вякі
Загнаць імкнемся марна,
Дзівакі.

*

Хто кожны з нас –
Самазабойца ці ахвяра?
Жыццё нам – ласка боская ці кара?

*

А ўсё ж цікава:
Ад часу ўцякаем мы
Ці час ад нас уцякае?

*

Са страхавітай пашанай
Верыць натоўп
Ісціне ўкрыжаванай.

*

Довад адзін
І ў лісіцы, й вароны –
Вінаград зялёны...

*

Ясней па часе робіцца ўсім –
Сяброў у старасці, як валасоў:
Ці дужа рэдка, ці гола зусім...

*

У радасці бесклапотнай
Думка не ў галаве.
Журбой чалавек жыве...

*

Мы – толькі пыл на далані пустыні.
Здзьмухнецца пыл –
І даланя астыне...

*

Чалавеку ўявіць няўзмогу,
Як па дзецях баліць душа
Бацьку Богу.

*

У чыстым небе спаміж вершалінак
Павук шчырэе без адпачынку,
Каб выткаць хоць ценькую аблачынку.

*

На пагоду мак таўкуць камары.
А зоркі ўгары?

*

Гэты гром і ночы прысніцца.
А пакуль у капытковым слядку
Хай адстоіцца навальніца.

*

Мароз цвікі забівае без малатка.
Дарога санная грэецца ў лесе.
Змяняецца ўсмешка маладзіка.

*

Прачынаюся ў клопат.
Баліць галава.
Жыццё працягвае допыт.

*

Яшчэ шкадуе сон зярнят сяўніца.
А белую шкарлупіну зімы
Прадзёўбнула ссінелая сініца.

*

Босыя на снезе вароны.
Хоць ты кожную ў валёнкі абуй.
Аж самому ў ногі сцюдзёна.

*

Лілея на лісту, як на плыту.
Здаецца, што нахабнаю рукою
Касу ў вясёлкі зараз распляту.

*

Сакавік хварсіць белакутаса.
Хата маміна стаіць адна –
Толькі пад прыглядам Валапаса.

*

Апошні страх заікнецца смехам.
І ў поцьмах душы зварухнецца туга,
Як леташняя трава пад снегам.

*

І апошняе слова
Прыйдзе са мной развітацца
Аднойчы абавязкова.

*

Ноч у скрыню сырую кладзе сваю хусту.
Прачынаецца спахопліва раніца –
Цені пацягваюцца да хрусту.

*

Туман вечарніцу кволіць у рукаве,
Каштан высока трымае свечкі –
Пярсцёнак згубіла вясна ў траве.

*

Цыбата ў забытай хаце
Ісці па ўспамінах,
Як басанож па гаці...

*

Змрок, як цень распяты кажана,
Засаромеўся, абнылакрылы.
Густа дождж шуміць, як збажына.

*

І ліпень упрочкі збег.
Заснулую ноч халодзіць
Галодны сабачы смех.

*

Ніткай, трошкі таўсцейшай за гук,
Човен мой разам з возерам хоча
Прывязаць да хмурынкі павук.

*

Позна прыйшоў я сказаць прабач.
За сасной, недалёка ад мамы,
Селіцца на магільніку свежы плач.

*

За пазуху поўня лезе.
Журботна вачыма вясёлымі йсці
Птушынай сцяжынай па снезе.

*

Галодны досвітак снедае рэхам,
Пацягваючыся ў сне.
Бяздомны сабака грэецца брэхам.

*

Ад сябе ўцякаеш малады.
Потым даганяць сябе былога
Не стае ні часу, ні хады.

*

Вечар здзівіцца дойлідству выйшаў –
Забудавала Вушачу вясна
Белымі камяніцамі вішняў.

*

Ноч – пасланая Богам ісціца.
І пялёсткі сціснуў цюльпан,
Быццам ксты свае, каб пераксціцца.

*

Гэта ўсцешыць вока і Прароку:
Гронка бэзу, як грудка цнатлівая,
Вырываецца з кофтачкі змроку.

*

А геніяльнасць – проста такое
Незацуглянае самалюбства,
Якое не знойдзе спакою.

*

Дажджу зялёнаму хочацца ліцца –
Рассекла купчастую хмару лістоў
Бярэзіны белая бліскавіца.

*

Настрой, як кот па дрэве, ўгору лезе.
Вяртаюць першую зіму ў душу
Аўтографы варон на чыстым снезе.

*

Стыне гарачага лета след.
Зябкі, па-веснавому вясёлы,
З яблынь зімы аблятае цвет.

*

Голас хоча сцяць цесната.
І сціняецца між зямлёй і небам
Рэха, круглае, як сірата.

*

Са снежнага зерня рунее белы спакой.
І гэтак лагода нябесная блізка,
Што льга далягляд палашчыць рукой.

*

Толькі ў мамы
Самы суровы дакор
І пяшчотнейшы самы.

*

Над мапай шатрую далоні:
Беларусь – лісцінка кляновая,
Якую аб'елі суседскія коні...

*

Пакуль не наб'е сабе добры гуз,
Беларус не ўзгадае,
Што ён – беларус.

*

Як асмялець папрасіць у Госпада гліну,
Каб вылепіць з яе
Задуманую Айчыну?..

*

Старасць – гэта маладосць,
Якая сябе гукае.

*

Ма-ма –
У двух паўтораных гуках
Свет увесь у радасці й муках.

*

Душа вядзе за тыя небасхілы,
Дзе родныя аблокі і магілы.

*

Нада мною мама –
Верніца й дарадніца,
Шчырая, як сонца,
Чыстая, як раніца.

*

І сцяжыны сыноўняга лёсу
Ціха ў гэтым свеце пралеглі,
Як маміны чорныя косы.

*

Над бяссоннаю крыніцай
Ноч схілілася дрымотная.
Хмара ксціцца бліскавіцай.
Далеч моліцца грымотамі.

*

За якую правіну ці грэх
Рэха каецца, аж заікаецца,
Ў поле выбегшы
З-пад зялёных стрэх.

*

Задумаўшы ля перуна абвіцца,
Агністая сястра халоднай думкі,
Згарае нецярпліва бліскавіца.

*

Час – злодзей і скнара,
Крадзе ды хавае.
Мёртвая кара –
Адплата жывая.

*

У роднай хаце спаконна
Маці – другая жывая ікона.

*

Жыццё – гэта праца.
Не спі,
Калі хочаш тут затрымацца.

*

Родны кут на зямлі
Чалавеку даецца на тое,
Каб было куды крыўдзе ісці пехатою.

*

Сябе бараніць мове моцы стае,
Усё называе сваімі імёнамі.
Вынішчанцам няўзмогу
Закратаваць яе.

*

Усё, што дае, назад забірае.
Таму й маладзее зямля сырая.

*

Звышні дыктоўку гатовую
Ўсім адну і тую дыктуе.
Ды кожны па-свойму яе занатоўвае.

*

Шчырэюць галіны і карані,
Галеюць, карэюць,
Каб толькі скеміць,
Ці ў небе, ці ў доле дно глыбіні.

*

Чорт у коміне скажа,
Што белая сажа...

*

Парк – залапаная старонка
Ўсеагульнае кнігі лесу,
Пакрэсленая цэнзурай прагрэсу.

*

Яны – пастухі чалавечых сутак:
Уранні – радасць,
Увечары – смутак.

*

Не затрымліваецца на пагосце
Душа – залётная госця.

*

Каб бачылі нашыя душы далёка,
Над зямлёй незакатна ўзыходзіць
Вока Прарока.

*

Калі дазваляў Усявышні
Затрымацца на гэтым свеце,
Што меў на мэце?

*

Асцярожна, нібы ўпершыню,
Раніца, як сукенку,
Прымярае апошнюю цішыню...

*

Ад млявай асалоды стогнучы,
Язык на ветры
Сушыць вогнішча.

*

Усё разумна ў гэтым жыцці.
Стоячы ў рэчцы, не трэба думаць,
Як у рэчку зайсці.

*

Стары –
Тое ж дзіця,
Толькі прагнае да жыцця.

*

Глуха.
Цьмее звыкла смутак воўчы.
Завіруха выплакала вочы.

*

Чалавек летазлічэнне прыдумаў,
Каб загадваць,
Чый карацейшы век –
Ці свой, ці кумаў?

*

З жыцця былога,
Як з успаміну,
Да нябеснага Бацькі вяртацца
Сцюдзёна блуднаму сыну.

*

Жыццё –
Са смелым ваконцам церам –
Смяецца ў вочы бясконцым цемрам.

*

Вечная толькі вечнасць,
А рэшта –
Рэха, і цень, і пярэстае нешта...

*

Тут –
Гэта апошняя перамога
Спакойна глядзець на сябе старога.

*

Леў
За жытло не прымае хлеў.

*

Ціха ўкленчы нябёсам
Сваёю віной –
І душа расцвіце кветкаю незямной...

*

Разляцеліся прыцемна над гарою
Вароны – ачахлыя галавешкі
З вогнішча восеньскага настрою.

*

Прафесіяй рабіць не трэба злосць.
Прафесій іншых
Шмат на свеце ёсць.

*

І верабей чырыкае
Пра нешта сваё
Вялікае.

*

Ісціна не давярае папроку.
І прымае нашы аблічны жыццё,
Каб на сябе падзівіцца збоку.

*

Падумай, жывы смяротны,
Дзе ў цябе Бог жыве –
Ці ў сэрцы, ці ў галаве?

*

Чалавек – пясочны гадзіннік,
Які
Несупынна пераварочваюць вякі.

*

Ліхвярка-доля пазычае дні,
Каб потым
Ты ўсё вярнуў спаўна крывёй і потам.

*

Жыццё – гэта час на зборы ў дарогу.
Каму яго мала,
Каму замнога.

*

Не ўцячы жывому ад долі.
Жыццё, як і жытні хлеб,
Не прыядаецца аніколі.

*

Зразумець анікому няўзмогу,
У чыёй душы
Заціўшней Пану Богу.

*

Шчодрая рука
Толькі ў жабрака.

*

Журба не забывае
Родны край.
А весялосці й на чужыне рай.

*

Скажы мне, лёсе,
Колькі засталося?
Ці ж
І ты не ведаеш – і маўчыш?

*

І поўня пытання на ветах
Сышла ля знябойлівых меж:
Лямеш – гэта стомлены ветразь,
Ці ветразь – звяснелы лямеш?

*

Апякае за ўсё балючэй
Холад касмічны
Ачужэлых вачэй...

*

І лапаць
Хоча плакаць,
Але слязамі чыстымі.

*

Варона ў дасвецце валюхае.
Па снезе хвост валачэ,
Як шлейф.

*

Жыць – значыць
Не размінацца з жыццём
І ў цярплівага Бацькі Бога
Заставацца неразумным дзіцём.

*

На радзіме маленства
Ачужэлі долы і высі.
Знаёмыя дрэвы яшчэ засталіся.

*

І дзе б ні жыў –
Душа вядзе туды,
Дзе родныя нябёсы і клады.

*

Голы дождж
Не саромеецца начы –
Абы ўцячы.

*

Сам сябе даганяць спрабуе свет.
І, паўтораны ў сваіх нашчадках,
Чалавек самотны, як Сусвет.

*

Льга ашукаць любога,
Акрамя Бога.

*

І плача вада,
І смяецца вада.
Ні слёзаў, ні смеху
Сабе не шкада.

*

Усё якраз, як у першы раз
І ў апошні –
Сарока трашчыць,
Дождж ступае па пожні.

*

Уседазволенасці двайніца,
Ноч любіць цёмную глыбіню,
Але зірнуць на сябе баіцца...

*

Выгнанніку ў няспыннае дарозе
Прысняцца з незабытай стараны
Грак на раллі, сарока на бярозе.

*

Вецер нешта рабіне на вуха
Гэткае прашаптаў,
Аж зачырванелася маладзюсенькая...

*

Лятункі нізіць сонная аблога.
І ў небе зорыцца Птушыны Шлях,
Каб светла йсці было душы да Бога.

*

І як ні тапі –
Ўсплывае яна,
Сякера забойцы, з халоднага дна.

*

У Бога мёртвых няма,
Бо душа спаконна жывая.
А зямля для сябе турма.

*

Па сынах, што стаяць па шчасце ў чарзе,
Матчынай трывозе балюча,
Як слязе на лязе.

*

У халадоў мяняецца аблічча.
Сама ў сябе хаваецца зіма,
Пакуль яе ручай не заказыча.

*

Скон – нечаканы й чаканы плён.
Чалавек – гадзіннік, які не ведае,
На колькі Ўсявышнім заведзены ён.

*

– Віншую з жыццём! –
Павітаў мяне сябра стары.
І вочы падняў мой настрой угору,
І я забыўся, што йду з гары.

*

Прыгнаныя з прадоннай цішыні
Тугою валачомнай ці дакорам,
Сваё маленства помняць валуны.

*

Няўтульна думцы на чужых падворках.
Як досвітак па неачахлых вугалях,
Мой сум ступае па гарачых зорках.

*

Ранняму жаўранку не да сну.
За пазухаю ў ветра зацішна
Узрушанаму Перуну.

*

Зоркі робяць вечны Сусвет маладым.
Людзі – недагарэлыя галавешкі,
Ад якіх адракаецца нават дым.

*

Радасці ранішняе ваконца
На гэтым свеце аслепла –
Закацілася мама, як сонца.

*

Маміна слова, ласка твая без меж.
Толькі ты мяне на зямлі трымаеш
І да мамы мяне павядзеш...

*

Ціха з памяці адыходзяць імёны
Дрэў, птушак, сяброў.
Жоўтым робіцца колер зялёны...

*

На небе зоркі рая́цца і ра́яцца.
На гэтым свеце людзі чужыя.
Як родныя сёстры – Мама і Раніца.

*

Крыж – летуценны чалавек, які
Раскрыліў крылы, ды ўзляцець не можа.
Яго трымаюць на зямлі вякі.

*

Ні ў радасці, ні ў бядзе,
Ні на Страшным Судзе
Не адракуся ад Беларусі.

*

Я цяпер як апошні колас.
З самых родных яшчэ засталіся
Бацька Бог ды ад Мамы Голас.

*1996–2005*



*На аўдыенцыі ў Папы Рымскага Яна Паўла II*
*у Ватыкане*
*28 чэрвеня 2004 г.*

*Мне выпала адказнае шчасце пераклaсці на беларускую мову «Рымскі трыпціх» Яна Паўла II. Да 25-годдзя пантыфікату Папы стараннем Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы пераклад быў выдадзены невялікім накладам.*
*Клопатам Апостальскага візітатара для беларускіх грэка-каталікоў архімандрыта Сяргея Гаека мне падоліла зрабіць пілігрымку ў Вечны Горад, наведаць галоўныя базылікі, катакомбы, у якіх маліліся першыя хрысціяне, а таксама беларускую рэдакцыю Ватыканскага радыё.*
*28 чэрвеня 2004 г. напярэдадні свята апосталаў Пятра і Паўла Святы Айцец Ян Павел II прыняў нас на асабістай аўдыенцыі ў Ватыкане. Я перадаў Святому Айцу пераклад «Рымскага трыпціха» і прасіў у Папы Апостальскага блаславення для ўсіх прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, якія працуюць на развіццё беларускай хрысціянскай культуры, працуюць на адраджэнне Беларусі.*

*Святы Айцец пераклаў на мае рукі сваё блаславенне, прыняў пераклад і падараваў мне асвечаны ружанец. Варта было жыць, каб дапасці душой да незвычайнай паэзіі Яна Паўла II, бо гэта размова з Вечнасцю, са Словам, гэта прачытанне Вечнай Кнігі святой душой. Тое, што я адзін свой зямны дзень буду бачыць і чуць Святога Айца, і ў велікодным сне не марыў прысніць. А тут – гаварыць з Рымскім Папам Янам Паўлам II, цалаваць яго пярсцёнак.*
*Гэта дар Усявышняга.*
*Звяртаўся я да Папы па-беларуску. Ён добра разумеў нашую мову і нават загаварыў са мной на ёй. Апаматаўшыся ад шчасця, я не ведаў, чым маю аддзячыць Ягонай Святасці. Апостальскі візітатар для беларускіх грэка-каталікоў архімандрыт Сяргей Гаек параіў напісаць «Рымскі дыпціх». І я закончыў дыпціх у мамінай хаце ў Вушачы і даў яму назву «Узрушэнне».*

*Дзякуй Усявышняму!*



*Родныя далягляды*
*Прывецiць рады*



*Мама падаравала свет*
*І ў жыццё блаславіла.*
*1939 г.*



*І мала жыцця,*
*Каб аддзячыць маме*



*Маладыя*
*Толькі сонца і мама.*
*1965 г.*



*Касцёл ў сэрцы нельга зруйнаваць.*
*Каля Селішчанскага касцёла на Вушаччыне*



*Над святыняй адноўленай*
*Маладзеюць нябёсы.*
*Вушацкі касцёл св. Лаўрэна*



*Дужэюць пакаленні ў маленні*



*Маміна хата на ласку багата*



*Плячо Васіля Быкава*
*трымала небасхіл беларускага Я*




*З ксяндзом Уладыславам Завальнюком*
*і Алай Сакалоўскай ля Музея-сядзібы Васіля Быкава*
*ў в. Бычкі Вушацкага раёна Віцебскай вобласці*
*10 сакавіка 2005 г.*



*Ля гэтай сядзібы*
*Ў вёсцы Бычкі*
*З пашанай будуць спыняцца вякі*



*У кожным яблыку*
*Сонца ў маміным садзе*

# *На таку майго веку*

Помніць сябе пачынаю пад галасы жніўнае песні. Хутар Верасовачка. Песня тужлівая, здаецца, колецца неўсвядомленай яшчэ самотай, як іржэўе.

Заходзіць сонца. Мама кажа страшную казку.

Калі бацька прыходзіў з працы ці прыязджаў з руму, я любіў распеказаць яго, каб з запазухі выпаў ці абаранак, ці акрайчык, што перадаў зайчык.

Недалёка ад нашага хутара жыў Максім. У яго была дачка Маня. Мне яна прыносіла суніцы, забаўляла мяне. Тады я палюбіў слова «гарнушак». І, каб укласці мяне спаць, маме даводзілася спяваць песню з адным словам – «Маня, Маня, Маня».

Стрыглі мяне за некалькі начэй, сонага. Бо не даваўся, заходзіўся ад плачу. І мама і бацька не спалі, каб зрабіць адзін стрыг.

Пераезд у Вушачу помню дужа смутна. На кані паклажа і я. Чамусьці цяжка было перавезці з хутара ката. Яго, як ваўка таго, у лес, у хмыз цягнула.

У Вушачы, нешта ўроілася мне, сядзеў на бальшаку і еў кашу. Нейкая цётка папрасіла пакаштаваць, плакаў, не хацеў даць. Зверху мама дадала жалю розгай за скупасць.

Бацька мяне не біў. Толькі калі я пачынаў хадзіць на галаве, пытаўся: «А дзе мой чорненькі?» Гэта значыць, раменьчык. І гэтага запытання хапала.

Галоўная вуліца Вушачы была забудавана акуратнымі мураванкамі. Такія вуліцы захаваліся там-сям у мястэчках былой Заходняй Беларусі, у Балтыі. Ад іх веяла хатняй утульнасцю, спакоем, парадкам. Гэта пазней з'явіліся камунальныя, ці, як іх называлі, казённыя дамы, бо не свае. Халодныя.

У хаце насупраць нашай, цераз дарогу, жылі Ла́тышы. За Латышавай хатай было заліўное балотца. Нашае маленькае мора. У канцы балотца бацька майстраваў нешта накшталт застаўкі. Бегаў да яго. Бацька даваў мне капейкі, і я купляў нейкае ўзорчатае печыва. Пасля вайны я даведаўся, што гэта былі вафлі.

Пачыналася вайна. Савецкая ўлада ўцякала. Безуладдзе. Вусціш.

Чуў, як пошаптам мама з бацькам казалі: у ляску пры дарозе на Арэхаўна расстрэльвалі палякаў. Мужчын, жанчын, старых, дзяцей. (Гэта рука дапамогі прасавечаных братоў паняволеным братам Заходняй Беларусі. Ачышчалі турмы сталінскія малойчыкі).

Пачатак вайны запомніўся так. Наляцеў самалёт. Мы з бацькам беглі па жыце, жыта нават мяне не магло схаваць. Дабеглі да зямлянкі.

Партыйцы, уцякаючы, загадалі вывернуць у ямы ўчыненую рашчыну з хлебапякарні (каб ворагу не дастаўся хлеб!). Местачкоўцы, хто чым мог, чарэпалі, насілі дамоў. Пяклі. Хлеб еўся смачна, хоць і на зубах хрумсцеў пясок.

Пасля, калі гналі калону ваеннапалонных, кідалі і жанчыны, і мы, дзеці, гэтыя праснакі, як тыя, што елі яўрэі, выходзячы з егіпецкага палону.

Яўрэям нашывалі жоўтыя лапікі. Зганялі ў адно месца, агароджвалі дротам. Забаранялася яўрэям хадзіць па Вушачы. Калі па ходніку ішоў немец, яўрэй мусіў сысці на дарогу. Мама ішла са сваёй даўняй знаёмай. Тут патруль. Пытаецца ў яўрэйкі: «Юдэ?» Тая анямела. Мама кажа, што не. І хрысціцца. І за сябе, і за сяброўку. Хмару пранесла.

Немцы любілі дакладнасць. Гналі палонных і, колькі недалічыліся, столькі забралі ў Вушачы мужчын. Лагер быў у Лепелі. Вушацкія жанчыны, узяўшы апошняе з запасаў, ішлі па сваіх мужыкоў. Пільнавалі, калі адвернецца вартавы, тады хуценька выпіхвалі тутэйшага пад дрот. Жанчыны тут

жа давалі яму на рукі дзіця, яшчэ якія граблі, і жонка, так бы мовіць, ішла са сваім гаспадаром некуды ў поле на працу.

Дзве цагляныя будыніны школы былі каля нашае хаты. Немцы абклалі з усіх бакоў школу штабялямі дроў, каб лес бараніў ад ляснога войска, якое ўжо пачало набіраць сілу. Закідваліся з Масквы чэкісты, палітработнікі.

Пачаліся налёты партызан на Вушачу. Колькі разоў сцены нашае хаты прашывалі кулі.

Партызаны перамаглі. Немцы і паліцаі адступілі ў Лепель. Там быў умацаваны гарнізон.

З аэрадрома ў Вуле штодня налятаў самалёт і скідваў бомбы на Вушачу. Цэліў па царкве, а ўся Вушача якраз хавалася ў царкве.

...Пачыналася блакада. Узялі з сабой што можна было панесці, карову за рогі і рушылі з усімі пад Лявонаўскую пушчу. Блакада не ведала літасці ні да кога. Партызаны адыходзілі, пакідалі ўсіх – і старых, і малых.

У лесе быў згубіўся. Крычаў-крычаў: «Мама!» – нікога. Закрычаў: «Куліна!» Мама знайшлася.

З аўчаркамі выгналі нас у вёску Пліна. Пагналі назад у Вушачу.

З Вушачы пагналі нас у вёску Качаны. Пустыя хаты. Тыфус. Я захварэў. Мама баялася, што немцы агледзяць, могуць застрэліць. З Качаноў вярнуліся ў Вушачу.

Па начах усё гучней і гучней чулася кананада.

Аднойчы на шарэнніку, пасля густой стралянiны, настала такая цішыня, што чуваць было, як трава пад расой гнецца. Імгненне. Гулматораў. Танкі. Чые? Усе суцішыліся, стаіліся. І тут раптам чуем: «Мать-перемать». Нашы!

...Прыйшлі на галавешкі. На пагарэлішчы мама стаўляла хату. І колькі жыла мама, усё дарабляла хату. Для ўдавы ўсё было дарага і недаступна.

Першую сваю настаўніцу не магу ўспомніць добрым словам, як ні крыўдна. Крычала. Пускала ў ход рукі.

Затое прыйшла да нас другая – станістая, чарнавокая, з цяжкімі косамі Ефрасіння Міхайлаўна. Я быў закаханы ў яе. Стараўся з ўсяе сілы звярнуць на сябе ўвагу – круціўся, парушаў дысцыпліну.

А муж маёй любімай настаўніцы быў пазней дырэктарам школы. Ад яго я ўпершыню пачуў літаратурна правільную, пявучую, сакавітую беларускую мову. Алесь Антонавіч Карабань. Ён і з трыбуны падчас прастольных савецкіх святаў гаварыў па-беларуску. Я толькі чакаў, калі аб'вяваць: Алесь Антонавіч Карабань. Якраз Алесь. Дужа цёпла, дужа сардэчна гучала нават адно імя.

Мама дужа добра шыла. Прапаноўвалі ісці ў арцель. Не пайшла. Гаспадарка, хай і невялікая, патрабавала шмат увагі. Дый за сынам трэба было прыглядаць, каб ад рук не адбіўся. Калі яна спала, пачынаю ўспамінаць і не прыпомню. Да апошняга была мама ру́пніцай. Па-латышску rupnica – фабрыка, завод. Чаму латышскую мову згадаў? Бацька мамін быў латыш. Рыжанін Галвіньш – механік па млынах.

Мама чакала да канца дзён свайго Івана, бацьку майго. Пыталася ва ўсіх, ці бачылі, ці чулі, ці помняць партызана Івана Барадуліна. Адны казалі, што нібыта паранены сам сябе падарваў, другія, што загінуў у вёсцы Белае каля возера. Ні ліста ад жывога, ні пахавальнага ліста. А непахаванага чакаюць, пакуль жывуць.

І ў рэдкія светлыя часіны, і ў даўгія чорныя звярталася мама да Бога са шчырай малітвай. Як стаў сябе помніць, заўсёды ксціўся, паўтараў за мамай «Ойча наш». У хаце на куце жыў Бог. Усе святы шанаваліся, святкаваліся. Асабліва любіў я Каляды і Вялікадне, Вялічка.

У мяне быў свой інтарэс, каб не супалі праваслаўнае і каталіцкае Вялічка. Бо калі мяне трэба было хрысціць, ішла «культурная рэвалюцыя». Святарам падпальвалі бароды, трактарамі сцягвалі крыжы з храмаў, абразамі палілі печкі. Асабліва перажывала бабуля Малання (яна была ўніяткай),

што ўнук расце нехрысцем. Праездам быў ксёндз. Вырашылі ахрысціць хоць у ксяндза. Маткай хроснай была Феліцыя Антонаўна Міклашэўская, хросным бацькам – Качан. Потым, калі прыязджаў праваслаўны святар, бабуля хацела, каб перахрысцілі. Мама не згадзілася. Так і святкаваў я два Вялікадні.

Мама, што называецца, дыхала на мяне. Але не дазваляла, каб пайшоў паверх папараці. І рос я мамнікам. У нас пра малога, які дужа гнаўся за маці, казалі – мамнік.

Усё ад маці. Толькі з малаком маці перадаецца натуральная, родная мова. Парашковае малако – парашковая мова. Вера ў Бога – ад матчынай душы, малітва – з вуснаў маці.

...У школе былі настаўнікі розныя. Адны ведалі тое, што выкладалі, другія не ведалі. Адных мы любілі, другіх не любілі. Нямецкую мову мы вывучалі з трэцяга класа. Першая настаўніца няйначай па начах сама вучыла літары лацінкі, бо слова Deutsch чытала як деутш. На шчасце, неўзабаве прыйшла Пелагея Філімонаўна Харчанка, якая ў свой час скончыла гімназію.

Наш новы настаўнік, Канстанцін Паўлавіч Баразна, наладзіў выпуск школьнага літаратурнага альманаха «Першыя крокі». Мы з Алесем Лобкісам былі першымі паэтамі Вушацкай школы. У выпускным класе мы надрукавалі аж у «Віцебскім рабочым» допіс за двума подпісамі пра свята песні ў Вушачы. Абодва наважыліся паступаць ва ўніверсітэт. Аднакласнік даў мне нумар «Звязды», дзе аб'яўляўся прыём ва ўніверсітэт. У заяве сваёй напісаў я, каб дапусцілі мяне да ўступных экзаменаў на аддзяленне беларускай мовы і літаратуры або журналістыкі.

У касаваротцы мамінай работы, з драўляным чамаданчыкам рушыў я ў Мінск. У Мінску нідзе не чую беларускай мовы. Расійска-мінская трасянка ў лепшым выпадку. Я ашукаўся ў беларускасці Мінска і ўніверсітэта.

Здаў экзамены. Дома чакаў выкліку. Нешта затрымлівалася

паперка, ад якой шмат чаго залежала. Ужо хацелі забраць у салдаты. Бацькаў пляменнік Пятрок, былы партызан і салдат, угаварыў камісію ў ваенкамаце, каб пачакалі. І ўрэшце выклік прыйшоў. Я – студэнт універсітэта!

...Першая нарада маладых. Першая для мяне. Шчасліўчыкаў сабралі ў Саюзе пісьменнікаў. Чакаем, павінен прыехаць Якуб Колас. Але нешта жывы сапраўдны класік бавіцца. Прыязджае. Не дужа здаровы. Яго садзяць, каб не было скразнякоў. Фатаграфуемся на памяць. На адным з групавых здымкаў і мой нос недзе ў самым апошнім шэрагу.

У Доме творчасці ў Каралішчавічах нас вучылі, настаўлялі на дарогу сацыялістычнага рэалізму.

Перад тым як нашыя творы разбіралі афіцыйныя свяцілы, мы самі чыталі адзін аднаму свае вершы, знаёміліся, прывыкалі да саміх сябе ў новых абставінах. Неяк хутчэй за ўсё сышоўся я з універсітэцкімі паэтамі Генадзем Бураўкіным, Юрасём Свіркам. Усіх здзівіў сваёй адукаванасцю і разам з тым непасрэднасцю і шчырасцю Уладзімір Караткевіч.

Літаб'яднанне пры «Чырвонай змене» было тым асяродкам, які гуртаваў пачаткоўцаў. Тут вучыліся самі пісаць вершы і іншых вучылі. Літкансультантам пры «Чырвонцы» быў Іван Калеснік, ён жа фактычна быў і кіраўніком літаб'яднання. Гэта ад яго я атрымаў адказ, які падбадзёрыў мяне, зачапліў нейкую іскрынку надзеі.

Студэнтам прынялі мяне ў Саюз пісьменнікаў. Запомніўся дзень таму, што атрымаў двойку па спецпадрыхтоўцы, а ў абед прынялі ў Саюз.

Пасля ўніверсітэта я павіс паміж небам і зямлёй. У беларускіх часопісах і газетах былі месцы, але, як у анекдоце гаворыцца, у генералаў свае ўнукі. Выпадкова сустрэў мяне Уладзімір Мацвееў, які працаваў тады ў «Знамени юности», і пасватаў у газету «Советская Белоруссия». Рэдактар газеты Здаравенін быў тым расіянінам, што любіў і паважаў усё беларускае. Пры агульным манкурцкім духу беларусаў,

супрацоўнікаў рэдакцыі, Здаравенін казаў мне, каб я гаварыў па-беларуску, каб рыхтаваў штомесячна літаратурную старонку, дзе б змяшчаліся творы беларускіх аўтараў у перакладзе на рускую мову.

Ад імя здаравенінскай газеты ездзіў я ў Гродна да свайго земляка Васіля Быкава па апавяданне. Бачыў, як Васіль удзень ходзіць у рэдакцыю абласной газеты, а ўночы працуе. Ад ураджэнца вёскі Бычкі, што на Вушаччыне, чуў я тады, на пачатку 60-х гадоў, тое, пра што прывыкаюць не баяцца казаць сёння.

Працаваць у «Советской Белоруссии» давялося мне нядоўга.

Прынёс вершы ў часопіс «Беларусь». Заходзіць у кабінет невысокі ростам, нецярплівы, нервовы, крыху грэбліва-пыхлівы, з быстрымі цёмна-маладымі вачыма, з амаль жаночымі рысамі твару мужчына. Знаёмімся. Усевалад Краўчанка. Адразу сказаў, што яму патрэбны чалавек у рэдакцыю. І стаў я аж рэдактарам аддзела ў часопісе «Бярозка», вёў паэзію, прозу, спорт, шахматы, красворды, раздзел «Гэта ваша творчасць».

Працаваў трохі ў часопісе «Беларусь».

У «Полымі» пры Паўлу Кавалёве можна было працаваць. У аддзел паэзіі ён не ўмешваўся. Там упершыню даў я вершы Уладзіміра Лісіцына, Уладзіміра Някляева, Леаніда Дайнекі. Калі прысылаў падборку Аляксей Пысін, здаваў адразу ў нумар, нягледзечы на абавязковыя тады планы.

Выдавецкі лёс звёў мяне з Уладзімірам Міхайлавічам Шахаўцом, празаікам, паэтам, перакладчыкам, чалавекам унікальнай памяці і працаздольнасці. Працаваць пад ягоным кіраўніцтвам у выдавецтве «Мастацкая літаратура» было і павучальна, і прыемна.

Своеасаблівым відовішчам быў прыход кожнага аўтара ў выдавецтва. Само афармленне рукапісу. У Броўкі ў звышдабротных, спецыяльна зробленых папках з акуратнымі белымі завязачкамі. У Анатоля Вялюгіна надрукавана на лашчонай

паперы. Па-палеску надзвычай уважлівы да свае асобы быў Іван Мележ.

Сапраўдным святам быў любы прыход у выдавецтва Уладзіміра Караткевіча. Збягаліся паслухаць ягоныя распавяданні, неадрэдагаваныя жарты, неверагодныя выдумкі, на якія ён быў спец непераўзыдзены.

Мікола Ткачоў, а пасля Міхал Дубянецкі годна і рупліва дырэктаравалі ў выдавецтве, стараючыся хоць як вырвацца з-пад нядрэмнага кантролю ЦК.

На барацьбе з рознымі камітэтамі і ЦК (маскоўскім і мясцовым) і згарэў заўчасна Міхал Дубянецкі, адстойваючы праўду і беларускасць, адстойваючы, у прыватнасці, лепшых нашых пісьменнікаў, у першую чаргу Васіля Быкава.

...Успамінаць можна шмат чаго. Але большае забылася, а меншае засталося.

Большая частка жыцця пражыта. Засталася меншая. А над малым дзіцем болей дрыжаць. Але, як ні дрыжы, колькі Бог дасць яшчэ пражыць, столькі і пражывеш. Бог – бацька.

Пішу гэтыя радкі ў мамінай хаце 30 жніўня. Здаецца, у гэты ж дзень у 1954 годзе ехаў я ў Мінск па веды. І даведаўся, што толькі дома я дома.

На таку майго веку зярняты дзён былі добрыя. Самым чыстым зернем, самым адборным засталіся маміны словы. З іх хлеб для душы мае...

*1995*

Поўны варыянт успамінаў «На таку веку майго» гл. у IV томе Збору твораў Рыгора Барадуліна. Мн., 2002, с. 84–141.

## З БІЯГРАФІІ

*Рыгор, сын Іванаў, Барадулін нарадзіўся 24 лютага 1935 года на хутары Верасоўка на Вушаччыне (Віцебская вобласць).*

*Скончыў Вушацкую сярэднюю школу і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.*

*Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў, у выдавецтвах.*

*Выдаў звыш 100 зборнікаў лірыкі, гумару, вершаў для дзяцей, перакладаў, кніг эсэ і ўспамінаў і т. п.*

*Выдаў 26 зборнікаў паэзіі перакладаў з іншых моваў свету.*

*Перакладаў творы У. Шэкспіра, Мальера, Д. Байрана, А. Міцкевіча, Т. Шаўчэнкі, Р. Бёрнса, А. Рэмбо, Д. Кітса, Р. Кіплінга, Х. Хіменэса, Я. Райніса, С. Ясеніна і інш.*

*Рабіў пераклады паэзіі Усходу і Каўказа.*

*Творы Рыгора Барадуліна перакладаліся як не на 40 моваў свету.*

*Выйшла 25 зборнікаў паэзіі на замежных мовах.*

*Рыгор Барадулін – народны паэт Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы і прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра. Ганаровы доктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ганаровы грамадзянін Вушацкага раёна. Ганаровы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра.*

*У складзе ўрадавай дэлегацыі прымаў удзел у рабоце XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН (1984).*

*Узнагароджаны ордэнамі «Дружба народаў» і «Знак Пашаны», медалём Францішка Скарыны.*

*За пераклады з латышскай мовы ўзнагароджаны ордэнам Трох Зорак – найвышэйшай узнагародай Латвіі.*

*У выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў збор твораў паэта.*

*24 чэрвеня 2004 г. меў аўдыенцыю ў Папы Рымскага Яна Паўла II.*

*У 2006 г. за зборнік духоўнай паэзіі «Ксты» вылучаны на Нобелеўскую прэмію.*

# *Бібліяграфія Рыгора Барадуліна*

ЗБОРНІКІ ПАЭЗІІ

Маладзік над стэпам. Мн., 1959.
Рунець, красавацъ, налівацца! Мн., 1961.
Мех шэрых, мех белых. Мн., 1963.
Нагбом. Мн., 1963.
Дойны конь. Мн., 1965.
Красавік. Мн., 1965.
Неруш. Мн., 1966.
Адам і Ева. Мн., 1968.
Лінія перамены дат. Мн., 1969.
Экзамен. Мн., 1969.
Ай! Не буду! Не хачу! Мн., 1971.
Няўрокам кажучы... Мн., 1971.
Станцыя кальцавання. Мн., 1971.
Вяртанне ў першы снег. Мн., 1972.
Журавінка. Мн., 1973.
Рум. Мн., 1974.
Свята пчалы. Мн., 1975.
Суровая вымова. Мн., 1976.
Прынамсі... Мн., 1977.
Што было б тады б, калі б? Мн., 1977.
Абсяг. Мн., 1978.
Белая яблыня грому. Мн., 1979.
Вечалле. Мн., 1980.
Ці пазяхае бегемот? Мн., 1981.
Паэма прызнання. Мн., 1982.
Амплітуда смеласці. Мн., 1983.
Выбраныя творы: У 2 т. Мн., 1984.
Абразы без абразы. Мн., 1985.
Азбука не забаўка. Мн., 1985.
Індыкала-кудыкала. Мн., 1986.
Маўчанне Перуна. Мн., 1986.
Парастак радка, галінка верша: Артыкулы, эсэ. Мн., 1987.
Бервенізацыя. Мн., 1988.
Мудрэц са ступаю. Мн., 1988.
Вяртанне. Разам з В. Ждановічам. Мн., 1988.

Кобра ў торбе. Мн., 1989.
Самота паломніцтва. Мн., 1990.
Міласэрнасць плахі. Мн., 1992.
Трэба дома бываць часцей. Мн., 1993.
Азбука – вясёлы вулей. Мн., 1994.
Асобы рознай пробы. Мн., 1994.
Евангелле ад Мамы. Мн., 1995.
Аратай, які пасвіць аблокі: Эсэ і некананізаваныя ўспаміны. Мн., 1995.
Слаўлю чысты абрус. Мн., 1996.
Грышка, Мішка і Шчыпай ехалі на чоўне. Мн., 1996.
Здубавеццe. Мн., 1996.
Збор твораў: У 4 т. Мн., «Мастацкая літаратура»: т. I – 1996, т. II – 1998, т. III – 1999, т. IV – 2002.
Ішоў коця па канапе. Мн., 1997.
Як воўк калядаваў. Мн., 2000.
Лісты ў Хельсінкі. Мн., 2000.
Зорка спагады. Мн., 2000.
Босая зорка. Мн., 2001.
Калі рукаюцца душы: Паэзія з прозай. З Васілём Быкавым. Мн., 2003.
Дуліна ад Барадуліна. Радыё Свабодная Еўропа. Радыё Свабода, 2004.
Сама пайду дарогаю, голас пашлю дуброваю: Песні матчыны з Вушаччыны. Мн., 2005.
Ксты. Мн., 2005.
Ксты/Ksty. Мн., 2006.
Быць!/To Be! Мн., 2006.
Рымскі дыпціх. Полацк, 2006.
Руны Перуновы. Мн., 2006.
Ксты. Выданне другое, дапоўненае. Мн., 2006.
Ксты/Ksty. Выданне другое, дапоўненае. Мн., 2007.
Выбраныя творы. Беларускі кнігазбор. Мн., 2008.
Выпаў грук у грома з рук. Мн., 2009.
Навошта. Мн., 2009.
Ксты. Выданне трэцяе, дапоўненае. Мн., 2009.
Халодная памяць вады. Мн., 2010.
Перакуленае/Опрокинутое. М., 2010.
«Вяльмуе Бог абраннікаў сваіх». Полацк, 2011.
Толькі б яўрэі былі!.. Мн., 2011.
Anima. Мн., 2011.
Сябры. Мн., 2013.

ПЕРАКЛАДЫ ЗБОРНІКАЎ ІНШЫХ ПАЭТАЎ

Рэлес Р. Бяроза пад акном. З ідыш. Мн., 1961.
Райніс Я. Ветрык, вей. З латышскай мовы. Мн., 1965.
Мальцінскі Х. Вясёлыя вароты. З ідыш. Мн., 1972.
Лорка Гарсія Ф. Блакітны звон Гранады. Мн., 1975.
Ясенін С. Выбранае. З рускай мовы. З А. Куляшовым. Мн., 1976.
Лучук У. Возера бульдозера. З украінскай мовы. Мн., 1978.
Паптонеў С. Беларусь – белая балада. З балгарскай мовы. Мн., 1979.
Вазнясенскі А. Небам адзіным. З рускай мовы. Мн., 1980.
Драч І. Мелодыя каліны. З украінскай мовы. Мн., 1981.
Містраль Г. Ветраліст. З іспанскай мовы. Мн., 1984.
Бурсаў У. Слон купіў велавсіпед. З рускай мовы. Мн., 1984.
Шэрман К. Дождж у Каралішчавічах. Мн., 1984.
Кахаць – гэта значыць... Старонкі з паэзіі свету. Мн., 1986.
Слова пра паход Ігаравы. Пераклад. Мн., 1986.
Беларусь – маё слова і песня. Паэты свету пра Беларусь. Мн., 1988.
Слова пра паход Ігаравы. Пераклад. ЗША, 1988.
Шэрман К. Сны. З іспанскай мовы. Мн., 1989.
Шагал М. Паэзія. З ідыш. Мн., 1989.
Амар Хаям. Рубаі. З фарсі-кабулі. Мн., 1989.
Пастэрнак Б. Гарэла свечка. Выбраныя творы. З рускай мовы. Мн., 1990.
Сэсар Вальеха. Чорныя геральды. З іспанскай мовы. Мн., 1993.
Беларусь мяне збеларушвае. Словы любові. Паэты свету пра Беларусь. Мн., 1993.
Ганад Чарказян. Шамдзін. З курдскай мовы. Мн., 1998.
Крыстофер Леандоэр. Вершы для Эльзы. Са шведскай мовы. Мн., 1999.
Ганад Чарказян. Чаргаві. З курдскай мовы. Мн., 2001.
Ян Павел II. Рымскі трыпціх. З польскай мовы. Мн., 2003.
Зелімха Яндарбі. Сэрца майго святыня. З чачэнскай мовы. Вільня, 2005.
Ганад Чарказян. Зорная глыбіня. З курдскай мовы. Мн., 2005.
Гуканне паэзіі Усходу. З кітайскай, японскай, карэйскай, в'ietнамскай моў. Мн., 2007.

## ТВОРЫ РЫГОРА БАРАДУЛІНА НА ІНШЫХ МОВАХ

Siena laiks. На латышскай мове. Rīga, 1967.
Kas jõehobu naigutab? На эстонскай мове. Tallinn, 1976.
Свято бджоли. На ўкраінскай мове. Київ, 1978.
Gandras ant stogo. На літоўскай мове. Vilnius, 1981.
Small Anthology of the Poetry by Ryhor Baradulin/Transl. G. Wallace, V. Rich, W. May, P. Tempest. New York, 1984.
Ei buey negro de mis cuitas... На іспанскай мове. Мн., 1985.
Święto pszczoły. На польскай мове. Łódź, 1986.
Valoda. На латышскай мове. Rīga, 1987.
Järv silmapiiril. На эстонскай мове. Tallinn, 1988.
Трофейная тръба: Лірыка. На балгарскай мове. София, 1988.
Ситораи дидор. На таджыкскай мове. Душанбе, 1989.
Kiedy witają się dusze. Annus Albaruthenicus. Год беларускі 2005, рэд. С. Яновіч. Крынкі, 2005, с. 315—330. Пераклад на польскую мову Ч. Сенюха. Лісты 1—22.
Gdy witają się dusze. Poezija i proza. З Васілём Быкавым. На польскай мове. Пераклад Ч. Сенюха. Wrocław, 2006.
Žít! На чэшскай мове. Пераклад Ф. Сокалавай. Прадмова Вацлава Гавела. Praha, 2006.
Малітва ветру. На японскай мове. Пераклад Кашына Гоу. Іакагама, 2007.

## НА РУСКАЙ МОВЕ

Аист на крыше: Стихи. М., 1966.
Избранная лирика. М., 1969.
Раскидач: Весёлые стихи. Мн., 1969.
Баллада Брестской крепости. Мн., 1975.
Небо твоих очей: Стихи и поэма. М., 1976.
Озеро у горизонта: Стихи. М., 1979.
Праздник пчелы. М., 1980.
Поэма признания: Стихи и поэмы. Мн., 1982.
Каждый четвёртый. Стихи. М., 1984.
Избранное: Стихотворения. Поэмы. 1955—1983. М., 1985.
Кошки в лукошке: Весёлые стихи и сказки. Мн., 1985.
Белая яблоня грома: Стихи. М., 1989.

## ТВОРЫ РЫГОРА БАРАДУЛІНА ПЕРАКЛАДЗЕНЫ НА МОВЫ:

азербайджанскую
англійскую
армянскую
асецінскую
балгарскую
венгерскую
грузінскую
ідыш
іспанскую
казахскую
канада-мову
караціскую
кіргізскую
латышскую
літоўскую
малдаўскую
мангольскую
нямецкую
польскую
румынскую
рускую
славацкую
славенскую
таджыкскую
тамільскую
татарскую
туркменскую
удмурцкую
узбекскую
украінскую
французскую
харвацкую
хіндзі
цыганскую
чувашскую
чэшскую
эстонскую
японскую

## ЭПІСТАЛЯРЫЙ

Лісты да Васіля Быкава. У кн.: Дажыць да зялёнай травы... Львоў, 2008.

Паслаў бы табе душу... Ліставанне Рыгора Барадуліна з мамай (1954–1971). Мн., 2009.

ЗМЕСТ

АД УКЛАДАЛЬНІКАЎ ... 5
«Каб рунела душа» ... 5
«Одум ціха ўкленчыць вышыні
ў неабвечарэлым парыванні...» ... 10

28 чэрвеня 2004 года ... 14
Трыпціх Чырвонага касцёла ... 15

РУЖАНЕЦ ... 19

ТРЫКІРЫЙ ... 29

БЭТЛЕЕМАМ СТАНЕ СЭРЦА... ... 69
Бэтлеемам стане сэрца... ... 70
«Ён ступаў па маладой зямлі...» ... 70
Сцяна Плачу ... 71
Над Галілейскім морам ... 72
Ерусалім ... 73
«Страх свой не абтрасеш, як прах...» ... 74
«Прыгадваю гарыстыя Бычкі...» ... 74
Іярдан ... 75
«Камяняр крута камень куе...» ... 76
Святарнае святло ... 77
«Як у сцюдзёную раку,
памалу ў Біблію заходжу...» ... 82

ПСАЛЬМЫ ДАВІДАВЫ ... 83

ДВАНАЦЦАЦЬ БІБЛЕЙСКІХ БАЛАДАЎ ... 123

ПЕСНЯ НАД ПЕСНЯМІ САЛАМОНАВА ... 141

БОСАЯ ЗОРКА ... 159
«Гасподзь! Затрымацца дазволь...» ... 160
«Ойча праведны, памажы...» ... 160
«Божа, паспагадай усім...» ... 161
Год ці... ... 162
Раптам бы... ... 162

Дасвецце ... 163
Хто? ... 164
Варава ... 164
У Гефсіманскім садзе ... 165
Блаславёны спадман ... 166
Крывіцкае паданне ... 167
Як па сухому... ... 168
Маці Божая Будслаўская ... 169
Не тут ... 169
Перад выхадам з Егіпту ... 170
Сын нябёс ... 170
Няма калі ... 171
Да Маці Божай Чанстахоўскай ... 172
Кайна ўдзячны... ... 172
Як думка... ... 173
Чым далей ... 174
Дошка выратавання ... 175
Слава! ... 176
Малю ... 176
Кленчу ... 177
Зычэнні ... 178
Асланяе... ... 179
Мяно ... 179
«Дзякуй Госпаду за дазвол...» ... 180
Касцёл ... 181
Магчыма, пабачыць здолею... ... 182
Дарадца высокі ... 182
Уніяцкія абразы ... 183
Берасцейская вунія ... 184
Дарога ясная ... 184
Уніяцкае сэрца ... 185
«Унія – ў душы рунеюць зоры...» ... 186
«Перапляліся промні й вужы...» ... 186
Пачуй... ... 187
У чарзе ... 188
Памяці айца Яна Матусевіча ... 188
Ісціме... ... 189
Рызыкую ... 190
Маленне за Беларусь ... 191
«Святло ўзнялі...» ... 192

НА ЎСКРАЙКУ ВЕЧНАСЦІ ........................................ 193
З годнасцю........................................ 194
Тчэцца........................................ 195
Аддзяка ........................................ 196
«Лёс да кожнага прыходзіць босы ........................................ 196
Каб рунела душа........................................ 197
Яшчэ ніхто... ........................................ 198
Парушынка........................................ 198
Вешчае........................................ 199
Як сястру... ........................................ 200
Вочы........................................ 201
Каб не згас... ........................................ 201
«Богу ў вочы глядзець...» ........................................ 202
Даць вырасці... ........................................ 203
«Ад нас перахаваць дарогі...» ........................................ 204
Ведаў... ........................................ 204
Бо ёсць Прысуд... ........................................ 205
Паднявольніца ........................................ 206
Трымае........................................ 206
Птушкі ........................................ 207
Дазволіў........................................ 207
Аскепак ........................................ 208
Шляхам зерня ........................................ 208
Смак ........................................ 209
Пусці........................................ 210
«Я жыў...» ........................................ 210
Як той агонь... ........................................ 211
Усё жыццё ........................................ 212
Хоць ціха ........................................ 212
Не верыш ........................................ 213
«Глухою, неразбуджанаю пушчаю...» ........................................ 214
Позірк........................................ 214
Рабства ........................................ 215
Усё... ........................................ 216
З гліны ........................................ 217
Капліца ........................................ 217
Кон ........................................ 218
Кат ці ахвяра........................................ 219
Завознік ........................................ 219
«З гадамі...» ........................................ 220
Святасць ........................................ 221

Не ........ 221
Доўжыцца ........ 222
Каму належаць яблокі? ........ 222
На гарадскіх хутарах ........ 223
Ад каго? ........ 224
Холадна ........ 224
Крыгаслоў ........ 225
Пра што думае камень ........ 226
Самасуцеха ........ 227
Узаемнасць ........ 227
«Нагам вязка...» ........ 228
Была... ........ 228
На ручніках... ........ 229
Нябачны ........ 230
Невядома... ........ 231
Шчырэюць... ........ 232
Сівее... ........ 232
Прызімак ........ 232
Ворагі ........ 233
Апора ........ 234
Лётае... ........ 234
Не купіў яшчэ ........ 235
Перачытваю ........ 236
На ўскрайку Вечнасці ........ 237
Досыць! ........ 239
Няхай жа! ........ 240
«Ён цяжка нёс...» ........ 241
Адзін ........ 242
Salvāvi animam meam ........ 242
І наноў ........ 243
Прагнуць... ........ 243
Дзе можна... ........ 244
Прашэнне ........ 245
На дне прадоння ........ 246

З ЗАСТРЭШША МАМІНАЕ ХАТЫ ........ 247
Мы ўсе ........ 248
«Вушача – гэта той вушак...» ........ 249
Там ........ 249
Вялічка ........ 250
Да ўсходу сонца ........ 251

Мой род ... 252
На схіле ... 253
На Сёмуху ... 253
«З маленства ў наш сад...» ... 254
Што заблукала... ... 255
І нават у снах... ... 256
«Не апраўдаў тваіх надзей я...» ... 257
Плечны шлях ... 257
Божанька ... 258
«– Відаць, я з лёдам разам пайду...» ... 259
«Маме я не ўсё гаварыў...» ... 259
Чакае... ... 260
Напавер ... 260
«Над магілай мамінай гарыць...» ... 261
«Ад хутара майго каб след які...» ... 261
Нашча ... 262
Амаль ... 263
Табе ... 263
Высока ... 264
Сцеражы... ... 264
Халаднее... ... 265
Айчына думкі ... 266
Вушача перад сонечным зацьменнем ... 267
Вушацкія прысмеркі ... 267
Сустрэча ... 267
Краіна белых стрэх ... 268
Свяцейшая Панна ... 268
Прыхаджане ... 269
Пасмуткуем з табою ... 270
Фотаздымак ... 270
Сляды ... 271
«Як туман пасівелы...» ... 272
Задажджыла... ... 272
Меней... ... 273
Спачувае ... 273
Пакідае... ... 274
Калядны верш ... 274
Доля ... 275
Балада жвіру ... 276
Неба над мамінай хатай ... 278
Ствары! ... 278

Непрычаканы... 279
Абначавала 279
Напярэдадні 280
Душа сабралася дамоў 280
У вогнішчы дзён 281
Сурочаны... 282
Вяртаюцца... 282
Як жар... 283
Зноў 283
Не стае... 284
«Добра там...» 284
Каб паспеў... 285
«Глядзі, каб цень не перарос...» 285
Прыцемкавае 286
Душа вяртаецца дадому 287
Коця-браце 287
Перасяляюцца 288
Не на гэтым... 289
Як асот... 290
«Як і Бога...» 290
Як мама некалі... 291
Маркота 292
Прадай! 292
Беларусь – ты мой сон велікодны 293
Тым даўжэй... 294
Маме 294
Паклон 295
Хоць нешта... 295
«Усё паўтараецца на зямлі...» 296
«Нешта ў вырай, жаўранак, цябе...» 296
Жыву... 297
«Там мой цень, худы і малады...» 297
Туды вярнуцца... 298
Вечны 298
Святам свянцонае 299
Я покуль тут 300
Малітва матчына 301
Каб не ўкрыўдзіў... 302

НЯБЁСЫ ДУМАЮЦЬ АБЛОКАМІ 303

НОЧ МАЕ ФОРМУ ЯЙКА .......... 349
Ёсць! .......... 350
Маладзее... .......... 350
Анёл, які на лютне грае .......... 351
Свята святаў .......... 351
«Толькі на гэтай зямлі...» .......... 352
«Плыве сукрыста дым-пілігрым...» .......... 352
Ды хвалявалася .......... 353
«З неба жар заграбаць...» .......... 353
Ніколі... .......... 354
Нельга... .......... 354
Вір .......... 355
І ўсё было... .......... 355
Агнятка .......... 356
Пазыкі .......... 356
«Як і душы...» .......... 357
Эцюд .......... 357
«Спіць Дамініка...» .......... 357
Расце .......... 358
«Ледзяную поўню ў вядры...» .......... 359
«Заход счырванеў...» .......... 359
«За якімі замор'ямі...» .......... 359
«Паказвае восень свой нораў...» .......... 360
Каб потым... .......... 360
Тройня .......... 361
«Як памочнікі смерці, у горадзе ...» .......... 362
Напамінае... .......... 362
Хмарны настрой .......... 363
Каб прыняў... .......... 363
Узрост цішыні .......... 364
Дарагі .......... 364
«Падсуседзіўшы ў памяці...» .......... 365
На радзіме .......... 365
Просіць .......... 366
Клопат .......... 366
Не даць дарасці .......... 367
Апошні .......... 367
Зірнуць .......... 368
Здалёк .......... 368
Няйначай... .......... 368
У найме .......... 369

Не спяшае ........ 370
Скняга ........ 370
«Радзімай называецца дзірван...» ........ 371
У даўжніках ........ 371
Толькі ў хаценні ........ 372
«Вятрэе неба...» ........ 372
Ці ........ 373
Дзякуй! ........ 374
Слова кожнае ........ 374
А заўтра... ........ 375
Узводзьма! ........ 376
Няўжо... ........ 376
Не зазелянеюць ........ 377
«Зялёны ліст...» ........ 377
Жыві! ........ 378

КАБ НА ЗЯМЛІ ЖЫЦЦЮ ЦЯПЛЕЙ БЫЛО ........ 379
«Пусці ў душу Хрыста...» ........ 380
Дом ........ 380
Акрайчык ........ 381
Імкліва ........ 381
Непрыручаныя ........ 382
Завоз ........ 383
Доўга... ........ 384
Здаралася... ........ 384
Зайграў... ........ 385
Першаснежжа ........ 385
Бацька й сыны ........ 386
Чуваць... ........ 387
Але... ........ 388
Быць! ........ 388
«Жабракі – тыя самыя птушкі...» ........ 389
Радзімалюб ........ 390
За веру... ........ 391
Толькі ён... ........ 392
Не знелюдзець... ........ 392
Касцельны звон ........ 393
Святло дарыць ........ 394
Акрагуканне ........ 395
Адно... ........ 396
Хрост ........ 396

Іншапланецянін ... 397
«Ёсць душа і ў вераб'я...» ... 398
Рос... ... 398
Саладзей... ... 399
Туды, ... 399
Ад жураўля да сініцы ... 400
Надзею мецьме ... 400
Павады вады ... 401
Насустрач ... 402
Млын ... 402
Супачыну няма... ... 403
Мяняючы кійкі ... 403
А раптам... ... 404
Паўтарэнне ... 404
Нешта птушынае... ... 405
Засумавала ... 406
«Душа баліць...» ... 407
Жаўранак кахання ... 408

ПАЛЫНОВЫЯ САНЕТЫ ... 409

З ЛІСТОЎ ДА ВАСІЛЯ БЫКАВА ... 423

УКЛЕНЧЫЦЬ І ПРЫПАСЦІ ДА РУКІ... ... 455
Узрушэнне ... 456
Сустрэнь яго, Божа ... 466
Вяльмуе Бог ... 467
Збудзь... ... 468

АХВЯРЫНКІ ... 469

На таку майго веку ... 505

Бібліяграфія Рыгора Барадуліна ... 514

